# Маладосць

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

(708) ЛІСТАПАД, 2012

Выдаецца з 1953 года

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**

**11**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Выдавецкі дом «Звязда»**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:

*Таццяна ПРЫШЧЭПАВА*

# ПОДЫХ МАРОЗУ ПЕРШЫ



***Таццяна Прышчэпава нарадзілася 1 лютага 1989 года ў вёсцы Зарубы Дубровенскага раёна. Скончыла факультэт пачатковай адукацыі БДПУ (2011), цяпер — студэнтка магістратуры БДПУ. Настаўнічае ў пачатковай школе № 198 г. Мінска. Друкавалася ў газетах «Дняпроўская праўда», «Літаратура і мастацтва».***

* * *

Я цябе не чакала. Навошта прыйшоў
У мой дом незапрошаным госцем
Пасля белага снегу і шэрых дажджоў,
Што малебны пяюць на пагосце,

Пасля песень і казак, якія даўно
Адспявала з калыскаю маці?
Ты смяешся з мяне — увайшоў праз акно,
Можа, ты й гаспадарыш у хаце?!

Неўзабаве гарачае лета прайшло,
Лісце кружыцца ў восеньскім вальсе…
А ты помніш, як некалі госцем прыйшоў,
Я сказала табе: «Заставайся».

* * *

Вы да мяне ідзіце
Самай крутой дарогай,
Сцежкай па жоўтым жыце,
І не шкадуйце ногі.

Станьце маім паэтам
І закахайце ў вершы,
Мне падарыце летам
Подых марозу першы.

Будзьце маёй лянотай
І незагойнай ранай,
Самай высокай нотай,
Самым салодкім ранкам,

Ліце дажджом — вясёлка
Ўзыдзе да небакраю.
Ноччу, удзень, на золку
Ведайце — я чакаю.

* * *

Нябёсы свецяцца,
І ўжо не верыцца,
Што люты скончаны —
Салют вясне!

На дрэвах — коцікі,
Кідаеш дроцікі
Ты промнем сонечным
У сэрца мне.

Ад гэтых колкасцей
Няма нялоўкасці —
Шчымліва-горычна,
Як ад віна.

І так жа хораша,
Што нават хочацца
Калючых дроцікаў…
Ідзе вясна.

* * *

Ружовае неба ў ружовых аблоках,
Яны адлятаюць далёка-далёка,
Губляюцца ў соснах і ліпах цяністых
І шэпчуць «дабранач» маломy
дзяцінству.
Аблокі ружовыя — сонца заходзіць.
А мы апранаемся стыльна, па модзе,
А мы пачынаем начныя раманы:
Спатканні, расстанні, усмешкі,
падманы…
А мы забываем пра шчырыя песні,
На спеў ручаёў, крыгаход напрадвесні…
А наша дзяцінства — ў ружовых
аблоках,
Яны адлятаюць далёка-далёка…

* * *

Залатая лістота
Асыпаецца долу,
І пануе самота
Над паголеным полем,
І глядзіць з-пад аблокаў
Шэрань неба нямая,
Адлятае далёка
Жураўліная стая.

Хутка снегу віхуры
Заспяваюць над борам:
Я не стану панурай —
Я паеду за горад.

Хай ляцяць журавы —
Купім зімнія боты…
На шчацінне травы
Ападае лістота.

* * *

Я сёння ў вялікім плаванні —
А думала, будзе проста
Даплысці да Вашай гавані.
Я сёння ў нябёсах лётчыца —
Убачыць Вас з-пад аблокаў
Мне шчыра-шчымліва хочацца.
Я сёння вандрую сцежкамі —
Дарогай пайду любою
За Вашай адной усмешкаю.
Я сёння — за машыністамі:
Надзею вязу святую,
Што Ваша каханне выстаіць.

* * *

Устала ласкавае сонца з-за лесу,
Прачнуліся думкі палёў.
Раскрыла свае зоркі-вочкі пралеска,
Папіўшы вільготы дажджоў.

Па небе плылі пацалункаў аблокі
У сінь трапяткіх верасоў.
А водар пралескі, лагодны і лёгкі,
Атульваў сутокі шляхоў.

Усмешка ў блакітных пялёстках заззяла
Ад радасці новага дня...
І ўвесь белы свет ад нягод засланяла
Той кветкі жывой чысціня.

* * *

Нібы астравок невялічкі, далёкі
Прытулены ў сэрцы маім успамін.
Жыве там дзяцінства анёл шэравокі,
Смяецца ахоўнік дзіцячых краін.

Заўседы вясёлы, бо там, дзе усмешкі,
Дзе шчасце без меры, жыццё
без трывог,
Дзе густа зарослыя травамі сцежкі
Маіх невядомых забытых дарог.

Яны ўскаласяцца нябёс валькамі,
Іх снегам бялюткім не згубіць зіма.
Там іншыя дзеці падорацць іх маме,
А маме і радасці большай няма.

Тут іншыя дзеці вядуць карагоды,
Ды толькі я з імі цяпер не спяю
Тых песень хвалюючых, неверагодных,
Слязінак ад горычы не затаю.

Сцяжынкі-дарожкі, анёл шэравокі,
Скіруйце, прашу Вас, Вы шлях мой туды,
Дзе толькі дзіцячыя чуюцца крокі,
Дзе сыплюцца долу дубоў жалуды,

Дзе сонца ўсміхаецца жоўтай пяшчотай,
Дзе казкі чароўныя, слаўныя сны
Плывуць на аблоках з краіны самоты
У край васількова, краіну вясны.

Не, плакаць не трэба, мой любы
заступнік,
Хоць шлях і пралёг не ў твае гарады,
Хоць мне падымацца вышэй
па прыступках,
А з кожнай прыступкай мінаюць гады.

Гляджу — астравок невялічкі, далёкі,
І ў горад дзяцінства чужыя сляды.
Ты толькі вярніся, анёл шэравокі,
Бо мне больш не будзе дарогі туды.

*Зміцер БАЯРОВІЧ*

# МРОІ

## *Абразкі*

### Вальс

Раніцай пад маім акном танчыў дворнік. Я цікаваў за віхром лісця, што вырывалася з-пад яго падэшваў. Раз-два-тры, раз-два-тры… Калі раптам яго заўважалі людзі, дворнік быццам слупянеў. Хвіліну-другую чакаў, лаючыся пра сябе, а потым працягваў. І брудная вуліца зноў патанала ў чысціні ягонай душы.

### Муштук

Леанід Мендзялевіч кожную раніцу едзе на працу. Ён вучыць дзяцей выдуваць ноты: Леанід Мендзялевіч — трубач. Таму кожную раніцу апрануты, як аловак: проста.

У яго няма нават рознакаляровага шаліка, які, як правіла, павінен мецца ў кожнага творчага чалавека. Але гэта не бянтэжыць Леаніда Мендзялевіча — ён выпраўляецца на працу вучыць дзяцей.

Трубач мае гонар сёння граць у аркестры: ён раздрукаваў партытуры для ўсіх інструментаў, у тым ліку і падвясных талерак. Дома склеіў раздрукоўкі і падпісаў свой лісток: «1-я труба».

Леанід Мендзялевіч кожную раніцу выходзіць з метро ўпарань. Набывае «Кент» і 0,5 літра гарбузовага соку. Потым заходзіць у школу.

Там ён адмыкае свой кабінет, вешае паліто ў шафу, дастае трубу з чахла, прыкладвае яе да вуснаў.

…І адчувае, што на ёй няма муштука.

Леанід Мендзялевіч сёння ўпершыню за трыццаць гадоў забыў дома муштук. І так бывае…

### Мой рацыяналізм

Я знайду сабе ёмкую кабету. Так вырашыў. Буду працягваць пісаць вершы на балконе, а яна будзе гатаваць смачныя супы на кухні, выціраццa фартухом, глядзець «Дом-2» і наведваць сваіх дзяцей ад трэцяга шлюбу па святочных днях. Яна будзе класці тры лыжкі цукру ў гар-



***Зміцер Баяровіч нарадзіўся 14 кастрычніка 1990 года ў Мінску. Студэнт 5 курса Інстытута журналістыкі БДУ. Піша вершы з 16 гадоў, прозу — з 20. Лічыць, што жыццё пабудавана на кантрастах і крайнасцях, што ў дробязях — вялікае, у блізкім — далёкае, у прозе — вершы. Упэўнены, што сапраўдная творчасць можа існаваць толькі разам з каханнем.***

бату, прасаваць мае рэчы, пахнуць малаком ды капустай. А я нічога не буду рабіць. Адзінае што — пісаць вершы на балконе.

Ёмкай кабеце будуць патрэбны ад мяне сухія абяцанні. Ды раз на месяц пяціхвілінная блізкасць. Але ў мяне радыкуліт. Жанчына будзе добрай, як я. Таму мы не збіраемся доўга размаўляць.

Уласна, кабета будзе тлустай. Гэта ніякая не абраза. Я знайду сабе такую, якой не прыйдзе ў галаву крыўдзіцца на гэтае слова. Я ёй буду пакідаць грошы на аплату камунальных паслуг, часам абдымаць. Яна ж заўсёды пакладзе мне парасон у сумку, будзе трымаць язык за зубамі, ды выносіць смецце. Я ж — толькі пісаць вершы на балконе.

І мы будзем жыць разам шчасліва: адно без аднаго. А кахаць я буду Цябе.

### Кілім з аленем

Калі бачу кілім з аленем, то ўспамінаю аладкі. Бабуліны.

### Гісторыя аднаго расстання

Юнак з дзяўчынай у парку. Горача. Яна папіла з бутэлькі і аддае яму. Ён на яе:

— Авечка!

### Вайна

У маленькай бібліятэцы пачалася вайна. Варта мне было толькі прынесці кнігу.

Аддаў. Уладальніца скарбу сусветнай літаратуры, адарваўшыся ад Данцовай, зірнула на мяне:

— Уга! Цэлых восем месяцаў затрымкі! Дзе акуляры? Дзе мае акуляры?

На ўсялякі выпадак праверыла мяне па камп’ютары. Сышлося.

А потым з-за «Ціхага Дона» стаяла лаянка. З паліц сыпаўся пыл.

Нарэшце бібліятэкарка вымавіла:

— Вы больш не абслугоўваецеся бібліятэкай.

### Пачатак

Тата ў дзяцінстве будзіў мяне пацалункам. Чую праз сон пра парасон, пра першы снег, што трэба цёпла апрануцца, бо золка. У кватэры раніца. Прыглушаны голас маці з залы. Я яшчэ ляжу пад коўдрай, баючыся варухнуцца і расплюшчыць павекі. А бацька, пакінуўшы шчыліну ў дзвярах, ідзе на кухню.

Сёння мне ўсяго гэтага вельмі не хапае. Я помню казытанне татавых вусоў на маёй шчацэ, хоць час ужо і самому мець вусы.

### Абсалютнасць

Калі госці толькі-толькі выйшлі з кватэры, а іх гучны смех ужо знік, ты раптам апынаешся ў такой абсалютнай адзіноце, што чуеш, як пад столлю крычыць цішыня.

## Карта памяці

Фатограф, які за ўсё жыццё зрабіў мільёны кадраў, не мае ніводнага ўласнага ўспаміну. Бо ўсе яны — бацькі, арэлі, першае каханне, вяселле, сябры, праца, падарожжы… — засталіся на фотакартках.

## Гісторыя расстання

Калі дзяўчына хутка-хутка шукае ў вачах хлопца спадзеў (бы гумку для валасоў у зеўры сумкі), яго вочы для яе падобны да вялікага пакоя, які поўнасцю завалены рэчамі.

## Проста — кахаць

Даўка-цёплы лістапад і рудыя ружы. Твае дзве першыя літары імя (астатніх я не памятаю) для мяне, як сістэма каардынат. Мы ідзём у тэатр — будынак з чырвонай зоркай над дзвярыма. Ідзём з розных бакоў на нейкае высокае мастацтва — з нізкімі намерамі.

Абстрактна-прычынная сувязь сустрэчы мацнейшая за нашу з табой. Антрактны вечар, тактоўныя размовы, цікаўныя погляды. Ты — уся з сябе лэдзі. Далікатная і мілая, амаль Амалія. Трымаеш мяне за руку. Кожны вечар я з гэтай прычыны ўспамінаю пра цябе.

Ты працуеш мантажніцай каторы год. Варта толькі ўскінуць галаву — там ты. На вокнах хмарачосаў, разам з промнямі восеньскага свету і лёгкай павутай казычаш аблокі. І здавалася б, што з вышыні ты павінна бачыць усіх. Як анёл…

А ты проста кахаеш.

Марыя ПАЎЛОЎСКАЯ

# СПРАЎДЗІЦЦА ЗАЎТРА



***Марыя Паўлоўская нарадзілася 17 верасня 1989 года ў вёсцы Шацк Пухавіцкага раёна. Студэнтка філфака БДУ, некаторы час вучылася ў Польшчы (Кракаў, Варшава, Торунь — паланістыка). Друкавалася ў часопісе «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва». Фіналістка конкурсу «Купалаўскія вакацыі». Жыве ў Мінску, працуе ў прыватнай кнігарні.***

* * *

Ведаеш, ёсць такая хвіліна,
Якую пераржыць больш складана,
Чым усё жыццё
Год у год…
Тая хвіліна — гэта крок у Лету,
Тады думкі рассыпаюцца,
Як Валасы Веранікі.
У такую хвіліну не схаваешся
Ў натоўпе. Нават калі дождж.
Гэта хвіліна — дамоклаў меч над
Кожным.
У гэтую хвіліну выбіраеш:
Жыць альбо не…

**СУМНА**

Можа, гэта дождж, які стукаецца ў акно,
Але ніхто яму не адчыняе.
Можа, гэта аўтобус, які мінае
Прыпынак «Радзіма».
Можа, гэта людзі, якія не знаходзяць выйсця,
Хаця дзверы побач.
Можа, гэта апошняя цыгарэта ў кішэні,
Калі жаданне паліць не сціхае.
Можа, гэта ноч, якая нагадвае канец свету,
А ранак зноў дае надзею.
Можа, гэта проста каханне, якое не спраўдзілася
Учора, але мусіць спраўдзіцца заўтра.
Можа, гэта партрэт Бога, які намалявалі людзі,
Але ніхто перад ім не ўкленчыў.
Можа, гэта пытанне, якое не мае адказу,
Але павінна быць у сэрцы кожнага?
Сумна.
Можа, гэта і не сум, а стары ўспамін.
Яшчэ — гэта можа быць цішыня…

## АЎТАБІЯГРАФІЯ

маю дзве сям'і
але не маю дзе застацца нанач

прыняла два хросты
але не належу ні да адной царквы

маю два жыцці
адно — гэта сон
другое — гэта летуценні

маю двух прыяцеляў
адзін — гэта Бог
другі — гэта Д'ябал

маю двух каханкаў
адной з'яўляецца глупая дзяўчына
а другі — гэта ён
жанаты мужчына

маю дзве душы
але не маю ў сабе нічога святога

## ХВІЛІНА КАХАННЯ

на жаль
я ніколі не буду мець такой крэйдкі
каб намаляваць твой твар
у гэтую хвіліну кахання
але змагу намаляваць
твае вочы
цяпер
у колерах неба
ці сонца
у час задуменнасці
вер, я ствараю сабе цябе
у час кахання
каб забыцца на свет
дзеля чаго?
ніколі не знайду развязкі
гэтага пытання
бо кожную гадзіну
штосьці ў нас змяняецца
а хвіліна кахання
зноў
бясследна знікае

* * *

Я хацела, каб мяне забіла маланкаю
на лобным месцы,
дзе нікога якраз няма.
Мо тады, па дарозе да Феба,
назбірала б святога віна,
размяшала б грымотамі! Хмары…
Выпіла б я ўсё да дна
І, шчаслівая, танчыла б смела,
Бессаромна.
А ноччу з Маленькім Прынцам
Мы блукалі б да самай раніцы,
А пасля
Я стала б сузор'ем,
Каб мяне разглядаў тэлескоп,
Закаханыя каб шукалі
Працягі сваіх дарог.
Я хацела…

* * *

сядзем на прыступкі каля метро
нам не перашкодзяць песні
мясцовых «зорак» панку
нам галоўнае пачуць шоргат абутку
і перастаць спыняць час —
мы яго дастаткова згубілі
давай прыдумаем новыя мянушкі
як у якой-небудзь сур'ёзнай арганізацыі
і будзем саступаць месцы ў трамваях
прыйдзем да думкі: сэнсу больш у бессэнсоўнасці
толькі мы хутка расстанемся — мы па гараскопе
розныя людзі
таму хутка нам прыйдзецца ўставаць з прыступак
і ісці далей

*Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ*

# ПРАКЛЁН МІТРАПАЛІТА ФЕАФІЛА*

***Аповесць***

## Частка 2

## ЗОРЫ ЛЮТЫЯ

### 1

Не паспеў Янка выйсці на падворак, як яго дагнаў княжы служка Уладак.

— Твае сябры, пан Струга, спыніліся ў карчме «Разбіты кубак». Там жа і твой вазок.

— Дзе знаходзіцца гэта карчма?

— Адразу за варотамі, пан. Направа, ля ўвахода на рынячную плошчу. Там яшчэ над дзвярыма вісіць старая піўная бочка.

— Знайду, — Янка Струга зашпіліў футра, паправіў шаблю і працягнуў крыху старшаму за сябе юнаку на развітанне руку. — Шчаслівa заставацца.

— І табе шчаслівай дарогі, пан.

Вуліца сустрэла шляхціца калючым ветрам і яркім сонцам. Халоднае сонца сляпіла вочы, нахабны вецер спрабаваў прабіцца ў рукавы ці за каўнер, і Янку на імгненне падалося, што яны імкнуцца прагнаць яго з вуліцы, прымусіць схавацца пад дах, бліжэй да цяпла.

Карчму хлопец заўважыў здалёк. Нават, калі б і не заўважыў, — што зрабіць было вельмі цяжка, то пачуў бы, бо пустая старая бочка расхітвалася ветрам і з глухімі ўдарамі білася аб мур будыніны.

Пасля яркага сонца ў карчме падалося цёмна, бы ў дамавіне. Аднак паступова вочы прывычаіліся і Янка агледзеў вялікую залу, у якой стаялі тры доўгія сталы. Наведвальнікаў у гэты час было нямнога, таму хлопец адразу заўважыў сваіх сяброў, якія за дальнім сталом у адзіноце гулялі ў карты.

— А вось і Струга, — абыякава, без асаблівай радасці сустрэлі яны Янку. — Сядай, пачастуйся мясцовымі прысмакамі.

На стале стаяла пустая міса з-пад грэцкай кашы і два пузатыя збаны, адзін з якіх быў пусты.

Янка ўладкаваўся на лаве і з усмешкай, агледзеўшы стол, запытаўся:

— Пасціце, хлопцы? Тады чаму ж п’яце піва? А калі п’яце і не баіцеся граху, то чаму не замаўляеце мяса ці хаця б — рыбу?

— Кажа, што няма, — адзін са шляхціцаў кіўнуў на карчмара, які з абыякавым выглядам корпаўся ля печы. — Учора вячэралі пустой капустай, сягоння цэлы дзень давімся кашай.

— Струга скрыгатнуў зубамі, рашуча падняўся з лавы і накіраваўся да тоўстага карчмара. Той чуў гутарку хлопцаў, а таму з ляной усмешкай на тлустым твары чакаў падыходу правінцыйнага шляхціца. На ўсялякі выпадак ён кіўнуў аднаму са сваіх памочнікаў і той, прыхапіўшы вілы, стаў непадалёк ад свайго гаспадара.

* Заканчэнне. Пачатак у № 10, 2012 г.

Шляхціц наблізіўся. Яго позірк патыхаў шаленствам, вусны былі шчыльна, бы ад моцнага болю, сціснуты. Унутры карчмара затрымцела трывога, тоненькі званочак зазваніў у галаве і па целе разлілася халодная млявасць. Ён ужо быў гатовы выканаць любую просьбу гэтага юнака, аднак баяўся, што яго не зразумеюць памочнікі і заўтра, не, сягоння ж да вечара, уся Вільня будзе ведаць як яго, усемагутнага Федзьку Кукіша, па мянушцы «Кадушка», скарыў нейкі бязвусы юнак, скарыў без бойкі, адным толькі позіркам. А гэта ж бясслаўе і ганьба! Поўнае разарэнне. Такога Кукіш дапусціць не мог і таму злосна, з сапеннем апусціў валасатую руку на доўгае дзяржальна сякеры, якая тырчала ў шырокай калодзе ля печы.

— Падай нам варанага мяса, сыр, цыбулю і хлеб, — знешне спакойна, але з унутранай лютасцю прагаварыў шляхціц. — І яшчэ збан піва.

— А можа, вам кілбас сушаных з паляндвіцай падаць і віна заморскага? — халадзеючы ад сваіх жа слоў, запытаўся карчмар. — Яблычкаў мочаных ды гусака начыненага?

— Папрашу — падасі, — адказаў юнак і павярнуўся, каб ісці да стала.

— А вось гэта ты бачыў! — Фёдар схапіў шляхціца за плячо і паднёс да яго твару вялікі кукіш. — Не хочаш закусіць гэтым?

Не паспеў ён закончыць сваё пытанне, як ў святле ад полымя печы чырвонай стужкай мільгануў клінок і адсечаная далонь карчмара ўпала на брудную земляную падлогу.

— Калі няма іншага, то пойдзе і гэта, — у поўнай цішы прагаварыў юнак і паглядзеў на збялелага памочніка, які ўжо адкінуў убок вілы і спалохана вылупіў вочы на адсечаную частку рукі. На яго твары застыў жах.

Раптоўна дзікі роў напоўніў памяшканне. Федзька бухнуўся на калені, падхапіў сваю далонь, прыціснуў да грудзіны ды заенчыў. Праклёны, перамешаныя з выццём і лаянкай, абрынуліся на шляхціца, а той нават не звярнуў на гэта ўвагі. Сарваўшы з жэрдкі кавалак тканіны, ён кінуў яго разгубленаму памочніку:

— Перавяжы гаспадару рану, пакуль ён зусім не сышоў крывёй. А потым падай нам тое, што я замовіў.

— Навошта ты яго так? — спытаў адзін з сяброў Стругі, калі той зноў уладкаваўся за сталом. — Ці ж каштуе збан піва яго калецтва?

— Не люблю нахабнікаў і баязліўцаў з дзяцінства. А гэты яшчэ і хамам аказаўся — ён жа нас за людзей не лічыў.

— Усё роўна дарэмна ты яго так, Янка. Даў бы па мордзе — яму і хапіла б, а так яшчэ бяды не абярэшся! Войт*, кажуць, у Вільне люты.

Узрушаныя ўчынкам таварыша, шляхціцы без асаблівага апетыту і амаль моўчкі паабедалі, кінулі на стол па невялічкай срэбнай манеце, падхапілі свае клункі і накіраваліся да выхада. Недзе ў глыбіні карчмы падвываў яе гаспадар.

На падворку іх ужо чакалі. Дзясятак нямецкіх пехацінцаў з пікамі і ўдвая больш мяшчан, узброеных жэрдкамі і каламі, шчыльнай сцяной акружылі ўваходныя дзверы. Сярод іх мітусіўся перапалоханы слуга Кукіша і піскلявым голасам расказваў пра здарэнне. Натоўп гудзеў ад абурэння і хвалявання.

Убачыўшы столькі распаленых злосцю людзей, шляхціцы спыніліся, схапіліся за шаблі і крыху падаліся назад. Адзін пан Струга застаўся на месцы.

— Эй ты, — быццам і не было навокал іншых, гукнуў ён слугу. — Выведзі нашых коней.

З натоўпу выйшаў дзясятнік і паважна, бы качка, перавальваючыся на кароткіх нагах, накіраваўся да шляхціцаў.

— Здайце сваю зброю, панове, — нечакана густым голасам прабасіў ён і спыніўся ў чаканні. — За калецтва вольнага чалавека накладваецца віна пенежная*, таму вам неабходна прайсці ў ратушу.

Шляхціцы маўчалі.

Янка Струга, як і яго таварышы, крыху разгублены рашучасцю натоўпу, першым падышоў да дзясятніка. Але шаблю не здаў.

— Зойдзем у карчму, — прапанаваў ён каротканогаму.

Хутка немец, чырвоны, бы рак, зноў з'явіўся на падворку. Ён падняў руку, патрабуючы цішыні і, калі гул крыху сцішыўся, прабасіў:

— Усе разыходзьцеся! Не перашкаджайце пасланнікам караля выконваць сваю работу!

Магічныя словы пра каралеўскіх слуг адразу разбурылі натоўп. Людзі забыліся пра скалечанага карчмара, пра яго няшчасце, падхапілі сваю зброю і пачалі разыходзіцца. Падворак хутка апусцеў.

Перапалоханы памочнік карчмара адчыніў дзверы стайні.

— Забірайце, панове, сваіх коней, — ён быў сама ветлівасць. — З радасцю будзем чакаць вас у нашай карчме ў наступны раз.

Шляхціцы нічога яму не адказалі: ускінулі на коней сёдлы, падцягнулі папругі, ускочылі верхам і няспешна выехалі на вуліцу. І толькі, калі Вільня засталася за спінай, адзін з сяброў пацікавіўся ў Стругі:

— А пра якіх гэта каралеўскіх пасланнікаў гаварыў лівонец?

— Пра нас з вамі, — адказаў Янка і прышпорыў каня.

## 2

З Вільні ў Браслаў ужо не спяшаліся, аднак і часу не марнавалі. Калі мароз прабіраўся да цела, саскоквалі на дарогу і нейкі час беглі побач з канём, стаміўшыся — укульваліся ў вазок. «І як гэта мы ўсяго за чатыры дні з Браслава дабраліся да Вільні? — пытаўся сам ў сябе старшы са шляхціцаў Грышка з Круковічаў і з непаразуменнем паціскаў плячыма. — Калі б хто іншы расказаў — ні за што не паверыў бы!»

Зіма была сцюдзёнай, але маласнежнай. Месцамі, дзе дарога з рэчкі ці возера вырывалася на бераг, рудымі плямамі жаўцелі палосы неаснежанага іржышча, пакрыўджана гаманіў прыбярэжны лес.

— І як гэта мы ўчора тут ехалі? — паказваў на шкляную, празрыста-крохкую паверхню ракі Грышка і з непаразуменнем цокаў языком.

З-пад конскіх капытоў каштоўным каменнем разляталіся пырскі лёду. Рака пад ледзяным панцырам незадаволена гула. На беразе ля сівых кустоў чарнелі выцягнутыя з восені лодкі.

— Ну і дарожка! — не пераставаў дзівіцца старшы са шляхціцаў. — Па ёй і днём ехаць небяспечна, а ноччу — бр-р!

Не спяшаючыся, папераменна мяняючы конскае сядло на вазок і наадварот, ехаць было не так і холадна. Янка Струга рысіў на сваім жарабцы і гадаў пра тое, у які бок паверне яго жыццё са смерцю вялікай княжны.

Раней усё было звыкла і зразумела. Служба ў ахове пані Алены здавалася ганаровай і прыемнай, бо ахоўваў ён не толькі яе, але і сваіх родных. Ён ведаў, што начальнік варты вялікай княжны, саракапяцігадовы Міхал Прыгодзіч, летам збіраўся адысці ад службы і правесці апошнія гады ў сваім маёнтку. Меркавалася,

што пасада пана Міхала дастанецца яму і ён са сваёй Гэляй хутка атрымае ў якасці вясельнага падарунка ад пані Алены маёнтак на Браслаўшчыне. Усё было акрэслена і зразумела. А тут нечаканая смерць! І ляснулася служба з маёнткам! Усё прахам: і мары, і спадзяванні, і надзеі! Аднак большая крыўда была за жыццё вялікай княжны. Разумная, прыгожая, сціплая жанчына засталася незапатрабаванай ні дзяржавай, ні людзьмі. Памерла, як паміраюць звычайныя сялянкі ці мяшчанкі. Ды і то — тыя паміраюць больш шчаслівымі, — наколькі смерць можа быць шчаслівай, — бо адыходзяць у лепшае жыццё ў акружэнні сваіх дзяцей. А пані Алена! Ці знайшла яна сваё шчасце на гэтай зямлі? Маці распавядала, што вялікая княжна была вельмі шчаслівай у замужжы, што яна вельмі кахала свайго мужа Аляксандра і той не мог жыць без сваёй суджанай. Аднак колькі гэта працягвалася? Адзінаццаць гадоў! Усяго адзінаццаць гадоў шчасця на ўсё жыццё!

Яму было дзесяць, калі памёр князь Аляксандр. Янка з тых часоў памятаў толькі заплаканую маці, і ён, як адзіны мужчына ў сям'і, ніяк не мог разабрацца, хто крыўдзіць яе і чаму яна плача. Ён неаднойчы бачыў князя, маці казала, што той нават гуляў з ім, аднак цяпер зусім не памятаў абрысаў ягонага твару. Памятаў толькі, і то цьмяна, што ад Аляксандра заўсёды добра пахла, што ён меў моцныя рукі, заўсёды быў добрым і вясёлым. А, магчыма, гэта памяць так захавала вобраз бацькі, які загінуў на Вядрошы ад варожай стралы, баронячы сваю зямлю і сям'ю ад маскоўскай навалы!

Янка не памятаў і бацькі. Памяць толькі захавала, як ён суцяшаў маці пасля ягонай смерці, як супакойваў яе і лашчыўся, абяцаў, што больш ніхто і ніколі яе не пакрыўдзіць, што ён стане яе абаронцам. І пакуль яна, прыбітая горам, клапацілася пра маленькую Катрыну, Янка сталеў і развіваўся ў атачэнні ратнікаў Міхала Прыгодзіча. Ужо тады, у дзяцінстве, ён меў сваю шаблю, якую, з дазволу вялікай княжны, яму зрабіў дваровы каваль Кузьма. Узброены гэтай маленькай, бліскучай і тупой, бы жэрдка, жалезкай, Янка ўяўляў сябе сапраўдным абаронцам не толькі маці і сястры, але і самой вялікай княжны. Жанчыны яго хвалілі, былі ў захапленні ад яго выпраўкі, а яму хацелася плакаць, што няма вайны, што ніхто не пагражае яго родным і пані Алене. І, напэўна, тады, у дзяцінстве, калі яго душа без рэшты была захоплена шчымлівым пачуццём адказнасці за блізкіх яму людзей, ён канчаткова выбраў свой жыццёвы шлях, цвёрда і ўпэўнена стаў у яго каляіну, нікому не дазваляючы ў далейшым адштурхнуць яго ўбок, прымусіць спыніцца ці збочыць.

З узростам прыходзілі разважлівасць, удумлівасць, уменне хаваць свае думкі і стрымліваць пачуцці. Аднак усё ж у яго душы ўспыхвала непадуладнае яму полымя, якое вырывалася вонкі бессэнсоўнай лютасцю ды жорсткасцю. «Такім жа быў і твой бацька, — казаў тады пан Міхал. — Не мог ён абыякава прайсці побач з хамствам і баязліўствам, заўсёды лез у самае пекла, даражыў годнасцю шляхціца больш за ўласнае жыццё».

У шаснаццаць гадоў Янка ўжо трапна страляў, сам узводзіў самастрэл і мог з пяцідзесяці крокаў назаўсёды закрыць дзюбу вароне. А па валоданні шабляй у Прыгодзіча не было лепшага фехтавальшчыка, чым пан Струга. І хаця яму яшчэ не даводзілася забіваць людзей, яго не па-юнацку моцнай і жорсткай рукі баяліся многія. Менавіта ў гэтым узросце ён канчаткова адчуў, што з яго душы абсыпалася апошняе шалупінне юнацкага ўяўлення аб праўдзе і справядлівасці, зразумеў, што ў жыцці яны больш простыя і грубыя, што яны могуць быць розныя, і што толькі адна праўда для ўсіх агульная — гэта божая праўда.

У гэтым узросце Янка стаў мужчынам, ратнікам.

Маці часта расказвала сыну пра княжну і сваю сяброўку. Расказвала, што пасля смерці Аляксандра Алена збіралася вярнуцца назад у Маскву да свайго брата. Аднак

з Літвы яе не адпускаў сойм, бо яна хацела забраць з сабой падарункі мужа — шаснаццаць вялікіх куфраў з залатымі ўпрыгожаннямі і каштоўным каменнем, а ў Маскве брат не хацеў яе бачыць без гэтых скрыняў з золатам. Вось так і жыла яна — забытая і нікому не патрэбная, самая багатая ў Літве і Кароне, але без права распараджацца сваім багаццем.

Аднойчы, праўда, пра яе ўспомніў былы дарадца і паплечнік яе мужа князь Міхайла Глінскі. Адрынуты Жыгімонтам, падмануты і пакрыўджаны, тонкі знаўца законаў прыдворнага жыцця і палацавых інтрыг, пераможца татар і чалавек, пра якога просты народ складаў пры жыцці легенды, ён разам з братамі ў пачатку лютага пяцьсот восьмага года ўзняў мяцеж супраць караля. Тыя падзеі Янка крыху памятаў. Памятаў, як узмацнілі ахову княжны, як пільна сачылі за ўсімі яе размовамі і перамяшчэннямі, як яна лаялася на свайго канцлера Яна Сапегу за тое, што той дазваляе каралеўскім служкам праглядаць яе перапіску.

Абвясціўшы сваім дэвізам барацьбу супраць ляхаў за праваслаўе, князь Глінскі ў якасці сцяга збіраўся выкарыстаць нікому не патрэбную цяпер, але не забытую і яшчэ папулярную ў народзе княжну-ўдаву. Калі б гэта яму ўдалося — Літва выбухнула б. Але не паверылі праваслаўныя ліцвіны ў шчырасць заклікаў мяцежнага каталіка, не сталі пад яго сцягі, адмовіліся сячыся са сваімі суайчыннікамі. І маскавіты часова адступілі ад літоўскай мяжы, адышлі ў свой гушчар, а за імі, падціснуўшы хвасты і склаўшы лапкі, пацягнуліся Глінскія, Друцкія, Жыжэмскія, Азярэцкія ды іншыя. На гэты раз Жыгімонту ўдалося затушыць полымя смуты малой крывёй, ускласці нязначную чалавечую ахвяру на алтар перамогі...

Цяжкі то быў час для Літвы. Цяжкі і страшны.

«Жаласлівы чалавек Жыгімонт! — падвёў рысу пад сваімі думкамі-ўспамінамі малады Струга. — Я б усіх здраднікаў, ці хаця іх завадатараў, пасадзіў бы ў вязніцы. А самых нахабных — на палю ці на плаху!»

Калі дыск сонца, які Грышка параўноўваў з падсмажаным блінам, набліжаўся да заканчэння свайго дзённага шляху, шляхціцы спыніліся для адпачынку ў першым жа паселішчы. Не было ў ім карчмы — давіліся горкім чадам у сялянскай хаце.

На пяты дзень падарожжа за Відзамі* ўбачылі доўгі санны картэж. Да слыху шляхціцаў данесліся малітоўныя песні, і яны, бы па камандзе, спынілі коней, спешыліся. Калона рухалася павольна, і, калі яна наблізілася так, што сталі бачны твары людзей, шляхціцы збочылі з дарогі ў снег, апусціліся на калені.

— Уладыка Госпадзі Уседзяржацель, Ойча Госпада нашага Ісуса Хрыста, усім чалавекам Ты хочаш ўратавання і ў розум ісціны прывесці, не хочаш смерці грэшнаму, але ўразумення і жыцця яму... — шаптаў малітву Янка, апантана жагнаўся і захліпваўся буйнымі слязамі. — Прымі душу рабыні Тваёй Алены і супакой яе ў вечным прыстанку са святымі Тваімі, дабром Адзінароднага Сына Твайго, Госпада Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста, з імі ж блаславён будзь, з Прасвятым і Добрым і Жыватворным Тваім Духам, цяпер і прысна і на векі вякоў. Амінь.

Калі пахавальная калона праплыла міма, шляхціцы падняліся.

— Вы едзьце ў Браслаў, а я вас даганю, — Янка выцер рукавом твар і ўскочыў на каня. — Трэба пагутарыць з маці.

Шляхціцы з разуменнем заківалі галовамі, але ўскокваць у сёдлы не спяшаліся.

— Мы цябе тут пачакаем, — адказаў за ўсіх Грышка.

Струга спрачацца не стаў, удзячна махнуў рукой і лёгка крануў бакі свайго жарабца шпорамі.

Вазок з маці і сястрой Катрынай знаходзіўся амаль пасярэдзіне калоны. Побач з ім вёў свайго каня Янкаў саслужывец Юры. Убачыўшы сына, Ксенія сумна ўсміх-

нулася. «Ну як ты?» — запыталася ў яго вачыма. «Нармальна!» — таксама позіркам адказаў Янка. Потым ён саскочыў з каня і нейкі час ішоў побач з вазком. Большасць суправаджэння таксама рухалася пешшу. І спявалі. Жалобныя псалмы заглушалі наваколле, перашкаджалі размаўляць. Выбраўшы момант, калі песнапенне крыху прыціхла, юнак запытаў у маці, ці не заўважыла яна чаго-небудзь незвычайнага за апошнія дні.

— Незвычайнага? — перапытала Ксенія ў сына і, амаль не задумваючыся, адказала, — Абраз знік. Ні ў Гарадзішчы, ні ў царкве не знайшлі «Багародзіцы Адзігітрыі». Бы ў ваду кануў! Ты паглядзі, сынок, уважліва ў пакоях княжны, можа, знойдзеш, можа, згубілі ў мітусні, не заўважылі. Яшчэ з Масквы ён у яе... Падарунак маці! — Ксенія прыкрыла рукою твар і бязгучна заплакала.

— Пашукаю, мама, — паабяцаў хлопец, аднак маці, магчыма, і не пачула яго адказу, бо спевакі, перавёўшы дыханне, зацягнулі псалмы з новым імпэтам і новай сілай.

Янка спыніўся, пачакаў пакуль апошні вазок схаваецца за прыдарожным кустоўем, некалькі разоў пераважгнаўся, павольна падняўся ў сядло. «Вось якое яно, жыццё! Жывеш, хвалюешся за кожную дробязь, змагаешся за нейкую сваю праўду, кахаеш, пакутуеш, радуешся! А памрэш — і ўсё! Нікому твае хваляванні і пакуты становяцца не цікавымі. Ды і сам ты, мёртвы, нікому ўжо не цікавы! Чаму ж тады існуюць людзі добрыя і людзі злыя? Шчодрыя і сквапныя? Сумленныя і ашуканцы? Смелыя і здраднікі? Смерць жа ўсіх выраўноўвае! Туды, — шляхціц паглядзеў у глыбокі, зіхатлівы блакіт, — з сабой нічога не возьмеш».

Ад такіх думак настрой у хлопца пачаў рэзка псавацца. У душу распаленай парай папаўзла туга, стала горача, захацелася расшпіліць кунтуш, ахаладзіць цела і, каб неяк адцягнуць сваю ўвагу ад непрыемных думак, суцішыць унутраны боль, ён пусціў каня галопам і паімчаў даганяць сваіх сяброў. Па дарозе ён прагна хапаў ротам марознае паветра, быццам хацеў запоўніць ім сваю душу, ахалодзіць яе, каб не пакінуць у ёй месца ні болю, ні тузе, каб таварышы не ўбачылі яго пакут і перажыванняў.

А наваколле да самага неба было запоўнена жалобай па дачасна сканалай княжне. Падавалася, што і прамерзлая зямля жаласліва стогне, падпявае навакольным дрэвам, кустам, блакіту, што і сонца сарамліва схавала свой ззяючы твар за жалобнай хмаркай-сурвэткай, што ўсё жывое ў знак жалобы сцішылася.

## 3

У Браслаў прыбылі, калі апошнія прамяні сонца залацілі крыж на царкве святой Варвары, а прыдарожныя цені амаль зліваліся з паверхняй дарогі. Нешматлікія рыбакі стомленымі парамі павольна цягнуліся з возера, нязлосна лаючы сонечнае надвор’е, мароз і ўласную няўдачу. Смерць вялікай княжны іх зусім не хвалявала. Вось дрэнны клёў, і асабліва на закорніка — гэта была амаль трагедыя! Бо рыба ім давала і ежу ў час працяглага зімовага посту, і, няхай невялічкія, але грошы.

Ехаць ноччу ў Гарадзішча не было сэнсу, а таму спыніліся ля першай жа карчмы.

Карчма была невялікай, трохкамернай хатай з земляной падлогай і пад саламяным дахам. Тапілася яна па-чорнаму, а таму гасцей спачатку сустрэлі клубы едкага дыму і потым ўжо — карчмар. Гаспадар, невысокі, худы, з дробнымі рысамі твару мужычок аказаўся нечакана гаваркім і вясёлым чалавекам. Шляхціцаў ён сустрэў,

бы родных дзяцей і, не зважаючы на іх стомленасць, сыпаў і сыпаў словамі. Пакуль чатыры чалавекі распраналіся, мылі рукі і ўладкоўваліся за невялікім, чыстым сталом, яны даведаліся ўсе апошнія навіны, што адбыліся ў мястэчку і Браслаўскім павеце за апошні тыдзень.

Як высветлілася, марозную, але бясснежную зіму выпрасіў у Бога полацкі епіскап Яўфімій Акушка, каб перашкодзіць маскавітам ваяваць Полаччыну. Таксама шляхціцы даведаліся, што пан Сапега пад сваім замкам у Іказні выкапаў сажалку для рыбы, якую злучыў з возерам спецыяльнай пратокай, і цяпер заканчвае абкладваць яе дно і берагі дзікім каменнем і тоўстымі дошкамі.

— А пра смерць вялікай княжны, што людзі гавораць?

Пачуўшы пытанне, карчмар падавіўся словам, натужліва закашляўся, быццам костка рыбы засела ў яго горле.

— Пракляты чад, — растлумачыў ён свой кашаль гасцям. — Трэба шырэй адчыніць акенцы.

— Ну, а ўсё ж — што кажа народ пра смерць княжны Алены?

Мужычок, які да гэтага не змаўкаў, задумаўся. Яго невялічкі, дзіцячы тварык зморшчыўся ад напружання, калючыя цёмныя вочкі забегалі па шляхціцах, уважліва агледзелі іх кулакі, зброю.

— Ты што — не ведаеш пра каго мы пытаемся? — пацікавіўся Грышка і скрывіўся ў грэблівай усмешцы. — А, можа, табе дапамагчы ўспомніць, цюкнуць лёгенька пару разоў кулаком па галаве?

Апошняя прапанова не вельмі спадабалася карчмару. Ён зморшчыўся яшчэ больш і неахвотна наблізіўся да стала.

— Людзі кажуць, што яе... атруцілі, — па вялікім сакрэце прашаптаў ён і перажагнаўся на абраз. — Кажуць, што...

— Ну, — не вытрымаў Янка і схапіў спалатнелага чалавечка за грудкі.

— Кажуць, што гэта зрабілі людзі нашага вялікага князя па просьбе яго жонкі.

— Пані Барбары*? — хлопец адштурхнуў карчмара. — А яна тут з якога боку?

— Ну, з-за чаго бабы звычайна сварацца? — ажыўшы гаспадар паправіў кашулю і, бы малым, неразумным дзецям, усміхнуўся шляхціцам. — Зразумела, што зайздросціла яна прыгажосці пані Алены, зайздросціла яе сціпласці, пекнасці ды багаццю...

— За такія словы языкі вырываць трэба пляткарам, — прашыпеў Грышка з Круковічаў і гучна скрыгатнуў зубамі. — А ты, карчмар, калі не хочаш на шыбеніцу — маўчы, не кажы лішняга.

— Самі ж запыталіся...

— Усё роўна маўчы, — раззлаваны шляхціц выцер сліну з вуснаў і кіўнуў на стол, — лепш пітва падай, трэба памянуць добрага чалавека.

Карчмар жвава крутнуўся на адной назе і знік у запеччы, дзе хутка-хутка зашаптаўся з нябачным чалавекам. Праз імгненне ён з'явіўся адтуль з вялікім збанам, які беражліва паставіў на стол.

— Вось,— задаволены сабой, радасна, быццам аказаў шляхціцам неацэнную паслугу, выдыхнуў ён. — Амаль акавіта, на нашых брусніцах настоеная.

Пітво аказалася і сапраўды мяккім, але нечакана моцным. Маладыя шляхціцы не змаглі адолець нават палову збана, як збітыя з ног яе сілай, паваліліся на лавы.

— Ну вось, панове, — карчмар пачаў прыбіраць са стала посуд, — гэта вам не беднага Яшку трэсці за грудкі. Тут іншы спрыт і сіла патрэбны — мужчынскія, а не вашы, дзіцячыя.

## 4

Раніцай шляхціцы прачнуліся з моцным галаўным болем. Аднак паснедаўшы гарачай поліўкай і выпіўшы па добрым кубку капуснага соку, яны ажылі і ўжо весялей глядзелі і на маленькага карчмара, і на гэткую ж худую, але даўганосую карчмарку.

— А ў цябе ёсць дзеці? — пацікавіўся Грышка і, убачыўшы адмоўнае хітанне галавой, хмыкнуў. — Шкада, а то цікава было б на іх паглядзець.

Перш чым ехаць у Гарадзішча, Янка вырашыў наведаць манастыр святой Варвары, які туліўся на схіле Замкавай Гары і пагутарыць з яго ігуменняй.

У невялікай келлі ігуменні жаночага манастыра матушкі Анастасіі, абвешанай абразамі, было чыста і ўтульна. Памяшканне ярка асвятлялася шматлікімі лампадкамі і свечкамі, ад якіх патыхала цяплом, ладанам і духмяным воскам. Янка агледзеўся: на яго запытальна пазіралі лікі Ісуса, Багародзіцы, апосталаў. Ад іх строгіх і крыху сумных позіркаў халадком павеяла па спіне воя, стала ніякавата, трывожна і ён, не разумеючы навошта, яшчэ некалькі разоў апантана перажагнаўся.

— Што за патрэба прывяла ў нашу сціплую абіцель Янку Стругу? — запыталася высокая манашка, якая зайшла ў келлю амаль следам за шляхціцам.

Янка павярнуўся і схіліўся ў паклоне. Ён добра ведаў гэтую саракагадовую прыгожую жанчыну, так як і яна ведала яго, а таму не стаў шукаць нейкіх асаблівых слоў для тлумачэння сваёй прысутнасці і адразу запытаўся:

— Матушка Анастасія, ці не перадавала табе на захаванне вялікая княжна Алена свой абраз?

— Абраз Маці Божай Багародзіцы Адзігітрыі? — удакладніла манашка. — У нас нават ніколі гутаркі не было з пані Аленай на гэтую тэму. Гэта ж падарунак яе маці, напамін. — Ігумення нешта ўспомніла, павярнулася да абразоў і зашаптала малітву, — «...прымі душу рабыні Тваёй Алены і супакой яе ў вечным прыстанку..» — данеслася да слыху шляхціца.

Янка не перашкаджаў, сам шчыра прасіў Усявышняга пра ніспасланне памерлай прабачэння за яе магчымыя грахі і супакой яе душы, але, як толькі ігумення прагаварыла «Амінь» адразу ж пацікавіўся:

— А ты мне не раскажаш, матушка, што шукалі ў цябе служкі караля і як яны сябе называлі?

Жанчына здзіўлена паглядзела на юнака, хмыкнула:

— А табе навошта тое ведаць?

— Ды ёсць падазрэнне, што не ад караля то былі людзі, іншы манарх іх паслаў да цябе. Вось толькі навошта? Што яны шукалі? Абраз?

— Ды не, — згадваючы недалёкае мінулае, паціснула плячыма ігумення. — Абраз яны шукалі б у царкве ці келлях, а тут лазілі па падзямеллі, заглядвалі ў скрыні, бочкі, праступвалі сцены. І ўсё рабілі моўчкі.

— А як яны назваліся? Ці паказвалі якую граматку?

— Ты вось таксама распытваеш мяне, а граматкі ніякай не маеш, — упікнула хлопца манашка. — Так і тыя: старэйшы назваў сябе князем... а-а, забылася, — жанчына расчаравана махнула рукой і апусцілася на лаву.

— Рапалоўскі?

— Як? Рапалоўскі? Можа і Рапалоўскі, не памятаю. Сказаў, што па даручэнні вялікага князя і караля яны павінны агледзець нашы падвалы і падзямеллі, каб мы адкрылі ім усе куфры і скрыні, якія ёсць у манастыры.

— А ты, цётка Насця, спытала ў гэтых правяраючых дазвол мітрапаліта?

— А што мне хаваць? — пытаннем на пытанне адказала тая. — Хочаш — і ты можаш прайсціся па нашых сутарэннях, калі цябе цікавяць дохлыя мышы і горкі пыл.

— Мышы мяне не цікавяць, — усміхнуўся Янка. — Але ўспомні — колькі іх было і як яны выглядалі?

— Было чацвёра, а твараў іх я і не памятаю. Старэйшага крыху памятаю: шчарбаты, сівая барада, невялічкі шнар пад правым вокам, ад чаго ён падаецца крыху крываватым. І яшчэ — з роту смярдзіць, бы са сметніка.

— Ну вось, — зноў усміхнуўся Янка, — а кажаш, што нічога не памятаеш. Усё ж памятаеш! Дзякуй, матушка, дапамагла!

Шляхціц на развітанне адарыў разгубленую манашку сваёй белазубай усмешкай і хутка выйшаў. Ігумення таксама бязгучна засмяялася: «Як быў непаседлівым шалапутам, так ім і застаўся!»

А Струга спяшаўся да сяброў, каб хутчэй ехаць у Гарадзішча. Ён меў апісанне аднаго з падазроных і хацеў хутчэй запытацца пра яго ў пана Прыгодзіча. Не ўспомніць пан Міхал, запытацца ў Сапегі, тым больш, што ён, калі верыць расказу карчмара, яшчэ тут, будуе ў сваім замку сажалку.

## 5

Міхал Прыгодзіч, каранасты, бы дубовы камель і шыракатвары, сустрэў сваіх падначаленых ля варот Гарадзішча. Выгляд ён меў разгублены і нейкі пакамечаны, што для яго было зусім не звычайна. На здзіўлены позірк Янкі, махнуў рукой:

— Са смерцю вялікай княжны ўсё валіцца з рук, настрой настолькі паганы, што так і хочацца напіцца.

— Ну дык і напіўся б.

— Нап'ешся тут! Нядаўна памерла пані Алена, а заўчора знайшлі павешаным Серафіма.

— Кухмістра?

— Яго, гаротнага. Да таго ж, як сцвярджае твой цесць, ён не сам накінуў пятлю на галаву, а яму дапамаглі. І я твайму цесцю веру, бо ў кухара і твар раздзёрты, і на руках драпіны.

— А дзе ён цяпер?

— Серафім? Ляжыць у адрыне, бо не ведаюць, дзе і як яго хаваць, хто ён — самазабойца альбо забіты! А калі забіты, то кім і навошта? Каму перашкаджаў гэты стары? Што ён бачыў?

— Вось пра гэта мне з табой і трэба пагутарыць, пан Міхал.

— Пра Серафіма? — Прыгодзіч здзіўлена прымружыў вочы і насмешліва хмыкнуў.

— У тым ліку і пра Серафіма.

— Што ж, пойдзем да мяне, — не стаў задаваць лішніх пытанняў ратнік і першым накіраваўся да невялікай будыніны ў якой жыў у поўнай адзіноце.

Але не паспеў гаспадар выставіць на стол піва і прыкуску, як нехта затрос зачыненыя дзверы.

— Каго там прынесла! — вылаяўся пан Міхал і скінуў кручок.

У дзвярным праёме паказаўся Лаўрэн Ігнатовіч, цесць Янкі Стругі. Убачыўшы зяця, ён на імгненне сумеўся.

— А мы думалі, што ты застанешся ў Вільні, — разгублена прагаварыў ён, паставіў на лаву прынесены клунак і працягнуў Янку халодную руку.

— Толькі што вярнуўся, — радасна абняў цесця Ян. — Як там Гэля?

— Трымаецца. Першыя дні галасіла, а цяпер ужо крыху супакоілася. Я, праўда, яшчэ не расказваў ім з маці пра смерць вашага кухара, не хачу іх палохаць і хвалявацьь дарэмна. Аднак хутка самі даведаюцца — пра такія падзеі ў нас чуткі распаўзаюцца імгненна!

Пакуль зяць з цесцем абмяркоўвалі сямейныя праблемы, пан Міхал накрыў стол і запрасіў да яго сваіх гасцей.

Спачатку выпілі. Закусілі. Потым Янка, не паказваючы граматы, распавёў аб просьбе Мікалая Радзівіла правесці ў Гарадзішчы патаемнае расследаванне смерці пані Алены.

— Чаму папрасіў цябе? — запытаўся пан Міхал. — А не мяне ці Сапегу? Або сапраўды баіцца згубіць час і хоча правесці следства па гарачых слядах, або думае, што ты, малады і нявопытны, нічога тут не знойдзеш.

— Мне сказаў, што сам вымушаны быць на пахаванні, а пасвячаць іншых у гэтую далікатную справу — не хоча, баіцца агалоскі.

— Ну, калі гэта забойства, то розгалас будзе, ды яшчэ які! — гаспадар зноў напоўніў кубкі. — І забойства Серафіма, думаю, таксама неяк звязана са смерцю вялікай княжны.

— Толькі каму перашкаджаў стары кухар? І, калі яго забілі, то забойца недзе тут, у Гарадзішчы.

— Ці недзе побач, — удакладніў пан Лаўрэн.

Янка згодна кіўнуў цесцю і расказаў пра сваю нядаўнюю гутарку з ігуменняй жаночага манастыра. Падчас расказу Ігнатовіч некалькі разоў імкнуўся нешта сказаць, але стрымліваўся і, не паспеў яго зяць скончыць, як ён выгукнуў:

— Мне мае сяляне гаварылі, што нейкі незнаёмы баярын, шчарбаты і з падбітым правым вокам, тыдні два таму на возеры распытваў іх пра Інфлянты, пытаўся, ці маюць яны ў Гарадзішчы сяброў, ці паважаюць пані Алену. Называўся знаёмым вялікай княжны.

— Пані Алена пра Рапалоўскага ўспамінала і ты, Янка, пра яго запытаўся, — Прыгодзіч задумліва гладзіў кароткую бараду і нешта ўспамінаў. — Не, той не быў шчарбатым, не меў пад вокам шрама. Ды і забілі яго, здаецца, у Маскве. Чуў нешта такое.

— Можа, яшчэ каго ведаеш падобнага да гэтага незнаёмца? Успомні, пан Міхал!

— Не, не памятаю.

— А пра Багародзіцу Адзігітрыю ведаеш што-небудзь?

— Пра абраз вялікай княжны? — здзіўлены ратнік нават перастаў жаваць. — А ён тут пры чым?

— Не знайшлі яго ў спачывальні пані Алены, знік падарунак яе маці. Знік бясследна.

— Не мог ён знікнуць з палаца, — цвёрда прагаварыў пан Міхал. — Туды мелі доступ толькі некалькі чалавек: ты, твае маці з сястрой... — ратнік разгублена падняў вочы, — і ўсё!

— А слугі? — адазваўся Лаўрэн. — А ахова? Ты сам, пан Міхал, колькі разоў на дзень бываў у палатах княжны?

Аднак Прыгодзіч не звярнуў увагі на пытанні Ігнатовіча. Ён нейкі час уважліва глядзеў на Янку, потым страсянуў з сябе дурныя думкі і ніякавата пацiснуў плячыма:

— Забойца сярод нас, браткі. Тут, у Гарадзішчы.

— Калі ён тут, і мы яго знойдзем, — пан Лаўрэн сярдзіта засоп і сціснуў вялізныя кулакі, — то я сам, уласнымі рукамі скручу яму галаву.

Так і не прыйшоўшы да адзінай думкі, шляхціцы вырашылі яшчэ раз пагутарыць з удавой кухара і яго дачкой, а вечарам уважліва агледзець пакоі вялікай княжны.

Янка ж адправіўся ў Крывое Сяльцо, каб наведаць сваю маладую жонку.

## 6

Вечарам зноў сабраліся ў невялікім пакойчыку пана Прыгодзіча. На падворку пачынала падвываць мяцеліца і яе тонкі енк раздражняў туга нацятыя нервы шляхціцаў.

— Калі і былі якія сляды, то замяце іх гэтая злосная баба, — пан Лаўрэн кіўнуў на дзверы, за якімі чуўся непрыемны шоргат калючых крупінак завеі.

— Сляды трэба шукаць у палацы, — настойваў Прыгодзіч. — І я баюся, што мы іх тут ужо не знойдзем.

— А што расказала жонка Серафіма?

— Нічога яна не ведае або, калі і ведае, то баіцца гаварыць. Плача, матляе галавой: «Нічога, паночкі, не ведаю» і ўсё пытаецца, што ёй рабіць з целам мужа, што не па-хрысціянску трымаць нябожчыка не адпетым і не дазваляць яго хаваць на могілках. Ігнатовіч сумна уздыхнуў: — Дачка, праўда, успомніла, што тыдні два таму бацька вярнуўся з Браслава на лёгкім падпітку і перад сном прагаварыўся, што сустрэў у мястэчку свайго добрага знаёмага з якім і выпіў.

— Ну і што тут незвычайнага? — Янка здзіўлена ўзняў бровы. — А ты, бацька, з мястэчка заўсёды цвярозы вяртаешся?

— Я — гэта я, а вось кухар меў хворае сэрца і не піў нават піва.

— Цікава. А абраз Маці Божай не знайшлі ў пакоях княжны?

— Не знайшлі, бо яго там няма, — адказаў Прыгодзіч. — Няўжо з-за яго атруцілі такую прыгожую жанчыну?

— А парадак там навялі?

— Заўтра навядуць, — пан Міхал неахвотна падняўся з лавы, замяніў аплыўшыя свечкі. — Я распараджуся.

— Я думаю, што трэба забраць адтуль віно і кубак, з якога піла пані Алена.

— Вунь яны, — пан Міхал кіўнуў на куфар, на якім стаяў шкляны графін з цёмна-чырвоным віном і невялікі пазалочаны кубак. — Кубак быў пусты, а віна крыху залілі ў пашчу двароваму кату.

— Ну і што? Здох?

— Хто ж ад такога віна здыхае? — скрывіўся ва ўсмешцы гаспадар. — Спіць п’яны. Ды і я кубак выпіў і, як бачыш, жывы.

Янка абхапіў галаву рукамі і застагнаў:

— Ну як, як тады яе змаглі атруціць? Кубак чысты, віно не атручанае, чужыя людзі да яе не заходзілі? Як, пан Міхал? Скажы, ты ж разумны!

— Сама магла прыняць атруту?

— А абраз? А кухар?

— Ну тады атрымліваецца, што толькі твая маці з Катрынай маглі...

Дагаварыць Прыгодзіч не паспеў. Янка, збялелы, з перакошаным ад злосці тварам, змяёй перакінуўся праз стол і ўчапіўся ў горла свайму камандзіру. Пачалася валтузня і, калі б у яе не ўмяшаўся пан Лаўрэн, яна закончылася б чыёйсьці смерцю.

— Хопіць, панове, смерцяў, — з цяжкасцю адцягваў свайго гарачага зяця Ігнатовіч. — Так мы не знойдзем ні забойцу, ні рабаўніка. Памірыцеся, не вядзіце сябе, як п’яныя мужыкі.

Словы пана Лаўрэна некалькі ахаладзілі шляхціцаў. Яны яшчэ пэўны час пастаялі адзін насупраць другога з налітымі крывёй вачыма, паскрыгаталі зубамі, пасапелі, але, калі пан Міхал працягнуў руку ў знак прымірэння, Янка з ахвотай яе паціснуў.

— Ну вось і добра, — выгукнуў Ігнатовіч і выцягнуў са свайго клунка, які прывёз яшчэ днём, вялікую карчагу. — Цяпер канчаткова абтушым вуголле непаразумення і падумаем, што будзем рабіць заўтра.

Духмяны мёд і сапраўды некалькі падняў настрой шляхціцаў. Жыццё падалося не такім змрочным, а падзеі апошніх дзён не такімі ўжо складанымі. Нават завіруха паспакайнела і больш не перашкаджала гутарцы трох ратнікаў.

## 7

Наступным ранкам Янка разам з панам Міхалам накіраваліся ў бок Іказні. На возеры мяло. Марозны ўсходні вецер гнаў няведама адкуль сухія калючкі снегу, закручваў іх у шалёным танцы, кідаў у твары.

У Іказні панавала неразбярыха — Ян Сапега ад’язджаў у Вільню і яго слугі збіліся з ног, каб дагадзіць свайму пану. Сапега злаваўся. Убачыўшы ратнікаў нябожчыцы-княжны, ён насупіўся яшчэ больш і амаль злосна прасіпеў:

— Вам што трэба? Не бачыце хіба, што з’язджаю?

— Бачым, яснавяльможны пан, — ветла адказаў Прыгодзіч. — Таму і прыехалі праводзіць цябе і пажадаць добрага шляху!

— Ну-ну! — вяльможа недаверліва пакасіўся на шляхціцаў, прамармытаў нешта неразборлівае ў сваю сівую, ахайна падстрыжаную бараду і палез у крытыя санкі. — Калі так, то паехалі.

Першую вярсту ехалі моўчкі. Нешырокая дарога, што вяла з Іказні, хутка закончылася і княжы караван, не на многа карацейшы за жалобны, весялей зарыпеў кованымі палазамі па больш наезджаным гасцінцы. Янка некалькі разоў імкнуўся наблізіцца да княжага вазка, але пан Міхал адмоўна хітаў галавой: «Не спяшайся, хутка сам не вытрымае, пакліча».

І на самай справе — Сапега не вытрымаў невядомасці і за чарговым паваротам, калі на дарозе крыху паменела калдобін, над вазком паказалася яго высокая футравая шапка. Браслаўскі намеснік зноў уважліва, з падазрэннем агледзеў шляхціцаў, кінуў позірк на ўзбочыну: «Які чорт прынёс вас да мяне такім надвор’ем?» і паклікаў да сябе пана Прыгодзіча...

Пан Міхал паказаўся з княжага вазка перад самым Браславам, калі караван павольна з’ехаў на лёд Друйкі. Твар старога ратніка быў чырвоны і разгублены, вочы зіхацелі сінімі шкельцамі і Янку спачатку падалося, што Сапега проста пабіў яго камандзіра. Аднак хлопец адразу ж адрынуў гэтую думку, як недарэчную, бо ведаў, што пан Міхал нікому не даруе ганьбы. Вазок ужо схаваўся за рачным чаротам, а стары шляхціц стаяў, не збіраючыся садзіцца ў сядло. Урэшце Янка не вытрымаў:

— Што здарылася?

Прыгодзіч не спяшаўся з адказам. Ён павольна сеў на свайго жарабца і толькі потым азваўся:

— Паехалі да хаты, хлопец! — і першым павярнуў каня.

— Што сказаў Сапега? — не цярпелася Янку. — Сказаў ён што-небудзь новае, карыснае для нас?

— Сказаў, — загадкава ўсміхнуўся куткамі вуснаў пан Міхал. — І паслаў нас куды патрэбна, і новага сказаў, і карыснага, і небяспечнага.

— Ну, не цягні, пан Міхал, — узмаліўся юнак, — расказвай.

— Я ў яго толькі запытаўся пра шчарбатага і паведаміў пра смерць кухара ды пра знікненне абраза вялікай княжны. Пра нашы падазрэнні, што пані Алену атруцілі, я прамаўчаў. Аднак і гэтага хапіла, каб Сапега выбухнуў пракляццямі і, калі б я не спаслаўся на просьбу каралеўскага канцлера пана Радзівіла, ён бы, напэўна, захліпнуўся або слінай, або крывёй. Аднак гэта не галоўнае, гэта дробязі. Галоўнае тое, што ніякіх каралеўскіх людзей на Браслаўшчыне няма і не было. Акрамя гэтага — пра абраз Божай Маці ён нічога не ведае і сам быў вельмі здзіўлены яго знікненнем. А цяпер самае галоўнае, чым ён мяне ледзь не забіў — гэта тое, што з Вільні вялікая княжна прывезла сюды два куфры з золатам і каштоўным каменнем. Уяўляеш — дзве вялікія скрыні золата! За такія грошы маглі не тое што атруціць. За іх маглі і на кавалкі парэзаць, і спаліць, і скарміць рыбам, і шмат што зрабіць іншае — ніхто б і не даведаўся.

— Дзве скрыні золата! Навошта ёй тут былі грошы?

— Пра гэта і я пацікавіўся ў Сапегі.

— А ён?

— Паслаў мяне, — і, убачыўшы на твары суразмоўцы ўсмешку, дадаў, — і цябе таксама... Праўда потым прагаварыўся, што княжна на месцы Гарадзішча збіралася пабудаваць мураваны замак, а побач, на Лысай Гары, — мураваны жаночы манастыр.

— Што ж атрымліваецца: пані Алену атруцілі з-за грошай? А каму тады спатрэбіўся абраз?

— Я думаю пра іншае: дзве скрыні золата ў кішэнях не вынесеш, значыць іх вывезлі на конях. Але адкуль? Дзе яна захоўвала гэткае багацце?

— Можа тут, у Гарадзішчы?

— Можа, — пан Міхал няўпэўнена паціснуў плячыма, — але ж тут няма ні скляпенняў, ні падзямелляў.

— У жаночым манастыры, — выказаў здагадку Янка, аднак сам тут жа зразумеў усю дурноту.

Прыгодзіч, убачыўшы разгубленасць суразмоўцы, з усмешкай ляпнуў яго па плячы:

— Ну-ну, хлопец! Не апускай нос так нізка, тым больш, што я табе расказаў толькі пра новае і цікавае.

— А што ёсць яшчэ нешта?

— Я баюся, што звесткі пра золата Сапега нам сказаў спецыяльна, каб адпомсціць Мікалаю Радзівілу. Проста я ведаю, што свае каштоўнасці вялікая княжна трымала ў Віленскім кляштары бернардзінцаў, які размяшчаецца каля вялікакняжацкага млына на Віліі. Мне неаднойчы прыходзілася яе туды суправаджаць, і я добра ведаю кашталяна гэтага ордэна Яна Камароўскага. Яшчэ ў пяцьсот сёмым годзе пані Алена хацела выехаць у Маскву да свайго брата, аднак паны-рада забаранілі ёй забіраць з сабой каштоўнасці, а без іх яе адмаўляўся прымаць Васіль. Вось і сядзела яна ў Вільні, толькі час ад часу наведваючы свае маёнткі. А тут, напэўна, Радзівіл дазволіў ёй патаемна ад паноў вывезці частку каштоўнасцей. Для чаго? Не ведаю, можа, і для будаўніцтва замка, а можа... Але справа не ў гэтым. Справа ў тым, што золата мог украсці толькі той, хто пра яго ведаў. А пра яго ведалі толькі Радзівіл і Камароўскі.

— А Сапега?

— Сапега не ведаў, — упэўнена адказаў пан Міхал. — Пра яго ён даведаўся тут і, хутчэй за ўсё, ад вялікай княжны. І вось, каб абняславіць Мікалая Радзівіла ў вачах караля і паноў-рады, ён вырашыў выкарыстаць нас, нашымі рукамі накінуць пятлю на шыю ваяводы віленскага і канцлера Княства.

— Яны ж сябры?

— Сябры? — Прыгодзіч сумна ўсміхнуўся і падняў угору вочы. — Там, братка, сяброў няма. Там ёсць толькі ўласныя інтарэсы або інтарэсы роду... Вось і думай: хто хоча нашымі рукамі заграбаць вуголле — Радзівіл або Сапега! І ці не чакае нас у далейшым лёс Серафіма!

Янка, разгублены і збіты з панталыку разважаннямі пана Міхала, маўчаў. Ён успамінаў тое дзіцячае пачуццё ўзнёслай усёдазволенасці, якое адчуваў, калі такі вяльможны пан, як Радзівіл, даверыў яму, зялёнаму ваяру, правесці следства і нават уручыў індульгенцыю. Цяпер яму было сорамна. Але яшчэ больш ён шкадаваў, што адсек кісць карчмару. «Які ж я быў дурань! — не раз дакараў ён сябе дарогай. — Знайшоў перад кім паказваць свой спрыт і выключнасць!»

Маўчаў і Прыгодзіч. Мноства шалёных думак раілася ў яго галаве, аднак, як злавіць тую адзіную, патрэбную — ён не ведаў, а таму проста гойдаўся ў сядле і слухаў здзеклівы рогат мяцеліцы. Размова з Сапегам пасяліла ў яго сэрца трывогу, якой ён не зведваў нават перад пачаткам лютай сечы з татарамі. Трывога была няяснай, нябачнай, невядомай, і ад таго яшчэ больш пякучай. А калі чарговы парыў ветру дыхнуў яму ў твар дробным снежным пылам, шляхціцу з жахам падалося, што гэта сама смерць кранула яго белым крылом і вызначыла такім чынам яго будучыню. Раптоўна забалела сэрца, боль аддаўся ў левую руку, загуло ў галаве. «Чорт бы пабраў іхнія інтрыгі!» — невядома на каго вылаяўся шляхціц і выцер з твару кропелькі вады.

А мяцеліца ўсё больш разыходзілася, шалела. Ужо натужліва гуў лес, галодным ваўком выў вецер у чароце, белы пажар разгараўся над возерам. «Яшчэ цябе не хапала да поўнага шчасця», — падумаў пан Міхал пра завіруху і глыбей нацягнуў шапку.

У маўчанні заехалі на падворак Гарадзішча, паставілі ў стайню коней, усыпалі ім аўса. Клопат пра коней, рогат ветру і яго падвыванне за сценамі некалькі адсунулі ў бок думкі пра смерць княжны. Шляхціцы супакоіліся і ў прадчуванні абеду нават павесялелі. А таму сапраўдным набатам прагучала кароценькае паведамленне Грышкі з Круковічаў.

— Раніцай, яшчэ да мяцеліцы, сюды прыязджаў каралеўскі сакратар пан Старадубскі з рэвізіяй.

— Прычым тут каралеўскі сакратар да рэвізіі? — квола і без інтарэсу запытаўся пан Міхал і раптам збялеў: — Як ты яго назваў? Старадубскі? Гэта ж другая частка прозвішча Рапалоўскага — Сямён Рапалоўскі-Старадубскі. Грамату ты ў яго праверыў?

— Зразумела ж праверыў, — пакрыўджана падціснуў вусны Грышка. — І грамату, і подпіс пана Радзівіла, і пячатку. Ды ён тут нічога і не рабіў — прайшоўся па пакоях, паглядзеў падвал, пограб, пасмяяўся з заснежанага Серафіма і з’ехаў.

— Як ён выглядаў? І колькі іх было?

— Звычайны чалавек. Шрам вось тут пад вокам і вось гэтага зуба не хапае.

— На сабе не паказвай, — папярэдзіў ратніка пан Міхал і зноў паўтарыў пытанне:

— Колькі іх было і пра што яны размаўлялі?

— Было іх чацвёра. Рэвізор, вазніца і два ахоўнікі. А пра што размаўлялі? — Грышка скрывіў рот. — Ні пра што. Рэвізор пытаўся, дзе ў нас захоўваюцца куфры або скрыні, а астатнія маўчалі.

— Мовы нашай не ведаюць, таму і маўчалі, — выказаў здагадку Прыгодзіч. — А пан Лаўрэн ці заязджаў сягоння?

— Не, пана Ігнатовіча не было.

Пан Міхал паглядзеў на белае неба, на танец, у якім заходзіўся недалёкі лес, прыслухаўся да падвывання ветру.

— Сёння нікуды яны не дзенуцца, — прагаварыў ён задумліва і кіўнуў Янку, — пайшлі да мяне.

Пасля мяцеліцы ў невялікай хатцы Прыгодзіча панаваў сапраўдны рай — было ціха і цёпла. Гаспадар распрануўся і знік у клеці, адкуль хутка з'явіўся са збанам і ладным шматам сала. «Парэж», — папрасіў ён хлопца, а сам накіраваўся да печы, дзе вісела каса цыбулі. Хлеб ляжаў на стале пад вышытым ручніком.

— Люблю пасля марозу выпіць і закусіць салам з цыбуляй, — на хаду дзяліўся сваімі захапленнямі пан Міхал. Ён разліў па кубках светлы напой і легкадумна падміргнуў Янку:

— Давай, каб лепш думалася!

Пякучая вадкасць апаліла горла, потым распаленай ручаінай пацякла ў вантробы. Адразу ж стала хораша і ўтульна.

— Ну што — па другой?

— Давай потым, — разрываючы кавалак сала зубамі, папрасіў пан Струга. — Цяпер давай падумаем, што нам рабіць — дзень на зыходзе, а вынікаў ніякіх.

— Ну чаму ніякіх? — не пагадзіўся гаспадар. — Мы даведаліся пра каштоўнасці вялікай княжны, мы ведаем, што нехта спрабуе тузаць за ніткі, да якіх прымацаваны нашы жыцці. Урэшце мы ведаем, што ў нашу справу нейкім чынам замешаны Сямён Старадубскі і што ён пакуль не з'ехаў з Браслаўшчыны. Мы шмат ведаем, вось толькі што ёсць агульнага паміж знікненнем грошай і абраза Маці Божай, паміж смерцю бяскрыўднага кухара і ўваскрашэннем князя Сямёна? Чаму табе, чалавеку блізкаму да вялікай княжны даручыў следства віленскі ваявода, а не свайму даверанаму чалавеку? Знайсці б адказ на адно з гэтых пытанняў і, магчыма, мы ўхапіліся б за нітку, па якой разматалі б увесь клубок.

— А можа, нам праехацца па браслаўскіх корчмах, пашукаць там шчарбатага князя?

— Заўтра гэта і зробім, а сёння...

Што хацеў прапанаваць на вечар гаспадар, Янка зразумеў і без яго слоў, бо збан гарэлкі стаяў амаль не кранутым, а ўнутраная смага даймала пана Міхала з самай раніцы. Аднак не паспеў ён закончыць сваю прапанову, як у дзверы нягучна пагрукаліся. Прыгодзіч радасна ўсміхнуўся: «Лаўрэн» і накіраваўся да дзвярэй. Якое ж было яго здзіўленне, калі парог пераступіла жонка Серафіма. Апранута яна была ў ахайны кажух з-пад якога выбіваўся падол чорнага андарака*. Гэткай жа чорнай наміткай* была абвязана яе галава. Чырвоныя вочы жанчыны поўнілія слязьмі, вусны нервова трэсліся, яе ўсю калаціла.

Гаспадар спыніўся ў нерашучасці і запытальна ўтаропіўся на нечаканую госцю. Янка падняўся з лавы.

Першай загаварыла жонка нябожчыка.

— Ты, пан Міхал, распытваў мяне ўчора пра Серафіма і я ўсё, што ведала, табе расказала. Але сёння, калі я ўбачыла на двары князя Сямёна, успомніла, што тыдні тры таму мой муж, вярнуўшыся з мястэчка, прагаварыўся, што хутка мы разбага-

цеем і вернемся ў Масковію, і што дапаможа нам у гэтым Рапалоўскі. Я тады яшчэ падумала, што гэта жартуе так Серафімушка, бо княжна Алена некалі казала, быццам князю Сямёну адсеклі ў Маскве галаву. А тут гляджу — жывы і здаровы, ды яшчэ пеўнем па чужым падворку ходзіць...

— Атрымліваецца, што Серафім ведаў Рапалоўскага?

— Мы ж разам з ім у дзевяноста пятым з Масквы сюды прыехалі, а таму добра ведалі і князя Сямёна, і баярына Русалку, і яго жонку Мар'ю, і Марфу Андрэеўну, няньку вялікай княжны Алены Іванаўны.

— Што ты яшчэ хочаш нам сказаць?

— Дапамажыце пахаваць Серафіма на могілках, Бога за вас маліць буду!

— Ну хіба мы святары, жанчына?

— Але ж вы ведаеце, што гэта не ён наклаў на сябе рукі, што яго забілі.

— Хто яго забіў? Каму ён патрэбны?

— А можа, Міцька Заяц з Крывога Сяльца. З ім у майго мужа былі нейкія сакрэты.

— Міцька Заяц? Што ты яшчэ ведаеш пра гэтага Міцьку?

— Больш нічога. Ды я яго нават у вочы ніколі не бачыла. Так, неяк перад сном, даўно, яшчэ восенню, Серафім смяяўся, што гэты Міцька цэлы месяц карміў крымскімі ягадамі нейкую ўдаву ў Барунах, а згоды ад яе так і не дабіўся. Яшчэ смяяўся, што той крыўдаваў потым на яго.

— Што ж, жанчына. Мы падумаем, як дапамагчы твайму гору, а цяпер ідзі, не перашкаджай нам.

Выправіўшы ўдаву, пан Міхал развёў рукі:

— Вось табе і забойца Серафіма. А калі яму прыпячы пяткі распаленым жалезам, то ён прызнаецца і пра абраз, і пра золата з каменнем.

Гаспадар напоўніў кубкі, праглынуў сліну.

— Вып'ем за ўдачу, бо яе нам вельмі не стае.

— Давай, а потым з'ездзім у Крывое Сяльцо.

Пан Міхал згодна кіўнуў, кульнуў у рот кубак, смачна выдыхнуў. Янка зрабіў тое ж.

Пэўна, удача даўно чакала, каб за яе нехта напоўніў кубкі і з ахвотай выпіў, бо не паспелі шляхціцы апрануцца, як у дзверы зноў настойліва і гучна загрукалі.

— Адчыні, пан Міхал.

У дзвярах стаяў падначалены Прыгодзіча, які некалькі дзён таму разам з жалобным картэжам адправіўся ў Вільню.

— Што здарылася, Юры? Чаму ты не ў ахове вялікай княжны?

Шляхціц цяжка дыхаў. Ён ніяк не мог пракаўтнуць сліну, што запоўніла яго горла, таму пан Міхал наліў у кубак гарэлкі і падаў ратніку. Той выпіў, удзячна кіўнуў галавой.

— Мяне да цябе паслала пані Ксенія...

— Навошта ты мне?

— У дзень смерці пані Алены я стаяў на варце ля яе пакояў і чуў, як яна спрачалася з мясцовай шаптухай Лушкай наконт абраза Маці Божай. Пані Ксенія вырашыла, што табе гэта таксама трэба ведаць.

Прыгодзіч зняў шапку, усміхнуўся:

— Сядайце, панове, — і, калі ўсе ўладкаваліся на лавах, дадаў: — А цяпер, Юры, распавядзі, што ты там чуў пра абраз Багародзіцы Адзігітрыі.

Малады шляхціц скасіў вока на збан і пракаўтнуў сліну. Гаспадар заўважыў гэта, дастаў трэці кубак і разліў пітво. Выпілі без слоў, моўчкі.

— Ну што — пачынай, — звярнуўся да падначаленага пан Міхал.

— У той дзень я дзяжурыў ля пакояў княжны. Памятаю, як яна вярнулася з прагулкі — прыгожая такая, вясёлая і, я сказаў бы, што шчаслівая. Запыталася ў мяне пра справы, пра здароўе і знікла ў сваіх пакоях. Праз нейкі час у суправаджэнні Андрэя да яе з’явілася жонка Лукшы Лушка. Андрэй зайшоў да княжны, крыху пабыў у яе і праз некалькі імгненняў запрасіў туды шаптуху. Мне ж сказаў, што калі яна выйдзе, праводзіць яе на падворак. Спачатку у пакоях было ціха. Потым я пачуў голас Лушкі — яна пра нешта прасіла пані Алену і некалькі разоў успамінала абраз Божай Маці. Княжна смяялася і, вывеўшы шаптуху, паказала на мяне і сказала: «Хіба з такімі арламі мне можа што-небудзь пагражаць!» Тая ж адказала, што «табе, пані, усё жартачкі, а ў гэтыя дні сны бываюць праўдзівымі». Я праводзіў старую і забыўся пра тую гутарку. А калі пачуў, як пані Ксенія плакалася Янку, што не знайшлі абраз, расказаў ёй пра апошнюю сустрэчу княжны і Лушкі. Яна і адправіла мяне назад.

— Доўга ж ты дабіраўся, — не ўтрымаўся гаспадар. — Мог жа дагнаць Янку і расказаць усё яму.

— Я распавёў пані Ксеніі пра сустрэчу пані Алены і Лушкі не адразу пасля ад’езду Янкі, а крыху пазней, пад вечар, калі спыніліся ў Канавалах на начлег. А раніцай адразу і выехаў.

— Што ж, дзякуй, Юры, за службу, — Прыгодзіч наліў поўны кубак і працягнуў маладому шляхціцу. — На выпі і ідзі адпачываць.

Калі стомлены ганец выйшаў з хаты, пан Міхал цяжка ўздыхнуў:

— Вось як яно атрымліваецца, хлопец! Яшчэ раніцай ты скардзіўся, што няма за што зачапіцца, а цяпер толькі падазроных тры чалавекі.

— Міцька Заяц, Лушка... — а хто трэці?

— Андрэй з Вішняўца.

— Андрэй? А яму якая карысць ад смерці княжны?

— Такая ж як і Зайцу, і Лушцы — ніякай! Дробныя гэта людзі, не падыходзяць яны на ролю забойцаў княжны, аднак пагутарыць з імі трэба.

— Трэба, — пагадзіўся Янка і прапанаваў, — давай, пакуль не сцямнела, я паеду ў Крывое Сяльцо, а ты пагутарыш з шаптухай.

## 8

Раніца сустрэла пана Стругу вясёлай мяцеліцай. Завея круцілася ў ліхім танцы, падкідвала ўгору гурбы снегу, балюча секла ім па твары. За ноч мяккая белая коўдра накрыла наваколле, замяла дарогу, апранула ў шлюбнае адзенне прыдарожныя дрэвы. Толькі адны дубкі, якія раслі дзе-нідзе на ўскрайку лесу, не пагадзіліся мяняць свае рудыя кажухі і незадаволена шамацелі пакручаным лісцем.

Вецер гнаў ад возера белыя хвалі снегу, стагнаў ад злосці і напружанасці, закрываў белым снегавым пылам далягляд.

Ад Крывога Сяльца да Гарадзішча было недалёка, менш за палову мілі. Аднак Янка ехаў павольна, баючыся патрапіць у замеценую рыбацкую палонку і пераламаць каню ногі.

Калі юнак зайшоў да свайго старэйшага таварыша, той снедаў. Убачыўшы Янку, пан Міхал не здзівіўся, маўчком кіўнуў галавой у адказ на прывітанне і паказаў на місу з кашай.

— Толькі што ад стала, — падзякаваў за запрашэнне хлопец і пачаў распранацца.

— Чаму не прыязджае Лаўрэн? — запіваючы квасам ежу, запытаўся гаспадар. — Можа захварэў?

— Учора, як паехаў у мястэчка, так яшчэ і не вярнуўся.

Прыгодзіч з разуменнем кіўнуў галавой, дапіў квас, пацікавіўся:

— Ну што табе расказаў Заяц?

— Нічога важнага. Ніякіх спраў у яго з Серафімам не было: проста некалькі разоў ён перадаваў кухару рыбу, а той аддаваў яму або рэшткі віна са стала княжны, або крымскія ягады — вінаград.

— Навошта яму вінаград? — здзівіўся гаспадар.

— Частаваў заморскай ягадай сваю жанчыну з Баруноў.

— Я нешта такое і думаў, — пан Міхал падняўся, паставіў місы з недаедзенай ежай на прыпечак. — У мяне таксама нічога цікавага. Аказваецца, той ноччу прысніўся Лушцы дурны сон, быццам Серафім засек пеўня і пачаў яго смажыць на агні. Калі полымя пачало тухнуць, ён кінуўся за дрывамі, а іх няма, зніклі. Тады кухар, не доўга думаючы, схапіў абраз Багародзіцы, размахнуўся і ... Што было далей, шаптуха не бачыла, бо прачнулася ад жаху. Пайшла днём да пані Алены, але тая каталася з тваёй сястрой на санках... З княжной яна і сапраўды размаўляла пра абраз, папярэджвала, што на Гарадзішча насоўваецца нейкае вялікае гора і, што абраз Маці Божай трэба ратаваць... Як бачыш — нічога для нас новага і важнага. Таму паедзем, як учора і дамаўляліся, у мястэчка, пагутарым там з карчмарамі, са знаёмымі — магчыма, хто чым-небудзь і дапаможа.

Шляхціцы апрануліся і выйшлі на падворак. З наступленнем дня мяцеліца крыху супакоілася. Ужо не так, як раніцай, скуголіла ў застрэшшы, не так круціла белыя віхуры, не так секла па твары.

— Жыць можна, — бадзёра выгукнуў Прыгодзіч і першым па-маладзецку ўскочыў у сядло.

Мяккі снег, бы пух таполі, круціўся ў паветры, пырскаў з-пад конскіх капытоў, белымі хвалямі перакочваўся па лёдзе. Пасля двух месяцаў бясснежжа, воку было прыемна аглядаць святочную чысціню возера, упрыгожаную па берагах стромкімі зялёнымі ялінамі. І калі б не бакавы вецер, то падарожжа ў мястэчка прынесла б шляхціцам сапраўдную асалоду.

Раптам пан Міхал прытрымаў свайго жарабца і напружыўся. Трывога і насцярожанасць мільганулі ў яго вачах.

— Нехта скача насустрач, — паказаў ён рукой наперад, дзе цьмяна віднелася постаць адзінокага конніка. — Пачакаем.

Чакаць прыйшлося нядоўга. З-за снежнай заслоны хутка паказаўся напалову замецены Лаўрэн Ігнатовіч. Ён таксама заўважыў двух коннікаў, і, не чакаючы ад іх нічога добрага для сябе, ужо падрыхтаваўся да бойкі. Пазнаўшы пана Міхала і свайго зяця, ён з палёгкай засмяяўся:

— Думаў, што толькі адзін дурань ёсць у ваколіцах, які такім надвор'ем можа выехаць у дарогу. Аказваецца памыліўся — маюцца яшчэ дурнейшыя і гэта мяне радуе!

— Цябе шукаць ехалі, баяліся, што заблытаешся на возеры і патрапіш у Інфлянты.

— Ну добра, — першым здаўся Лаўрэн. — Куды шлях трымаеце?

Прыгодзіч у агульных рысах расказаў Ігнатовічу пра ход следства, пра планы на дзень.

— Нікуды ехаць не трэба. Я ведаю, дзе знаходзіцца наш шчарбаты незнаёмец. Таму паехалі хутчэй пад дах, бо прамёрз да касцей, а горла маё перасохла без кубка добрага пітва.

Назад імчалі галопам, весела, бо верылі, што хутка знойдуць разгадку.

У хатцы пана Міхала Лаўрэн адразу ж накіраваўся да стала, адным духам уліў у сябе два кубкі гарэлкі, напоўніў трэці. Вочы яго хітра заблішчэлі, вусны расцягнула спагадлівая ўсмешка.

— Кажаце, што Міцьку Зайца западозрылі? Думаеце, што гэта ён душагуб, што гэта ён забіў спачатку княжну, а потым Серафіма? Што гэта ён выкраў абраз, прадаў яго, а грошы прапіў? Ай, малайцы!..

— У княжны было з сабой шмат грошай, пан Ігнатовіч. Два велізарных куфры каштоўных камянёў і золата. Два куфры! Уяўляеш? — перапыніў Лаўрэна Прыгодзіч.

— Ну і дзе яны?

Гаспадар развёў рукамі:

— Зніклі. Каб іх вывезці, патрэбны санкі і непрыкметна гэтага не зробіш.

— Вось халера, — вылаяўся Ігнатовіч і кульнуў у рот трэці кубак гарэлкі. — А я ўжо думаў, што славіў пана Бога за бараду.

— А што ты, бацька, казаў пра шчарбатага? — запытаўся Янка.

— Дык вось, — Лаўрэн паглядзеў на збан з гарэлкай, аднак налiваць не стаў, стрымаўся. — Учора я паехаў у мястэчка, каб дамовіцца з бацюшкам Антоніем наконт пахавання Серафіма і, каб пагутарыць са сваімі сябрамі пра незнаёмцаў. З бацюшкам я дамовіўся хутка, бо мы даўно ведаем адзін аднаго, а вось з сябрамі... Адны з'ехалі ў Вільню з жалобным абозам, другія — з абозам пана Сапегі, трэція такім надвор'ем сядзяць па хатах і жлукцяць піва — ледзьве знайшоў трох-чатырох чалавек, каб пасядзець і пагутарыць...

— І выпіць, — не стрымаўся Струга.

— І выпіць, — Лаўрэн строга паглядзеў на зяця. — Без добрай чаркі словы храснуць у горле, думкі блытаюцца ў цвярозай галаве, сэрца не адчувае прыгажосці і велічнасці праўдзівага слова. Аднак, хлопец, не перабівай мяне, не ўмешвайся без патрэбы ў размову старэйшых... Дык вось, шмат цікавага я даведаўся з расказаў сяброў, яшчэ больш забыўся. А тое, што распавёў Лук'ян з Мілюн, раскажу і вам. З тыдзень таму быў у яго па справах стрыечны брат з Дзергава — гэта невялічкая вёска на самай мяжы з Інфлянтамі, па той бок нашага возера. Пасядзелі, пагутарылі, і той яму паведаміў, што непадалёк ад яго вёскі, у лесе, размясцілася з паўсотні ратнікаў. Быццам, каб весці віжаванне і пераймаць кантрабандыстаў. Аднак на віжаванне ездзіць толькі іх старэйшы і то чамусьці ў бок мястэчка. Ратнікі нейкія дзіўныя — сядзяць ля кастроў, вараць і ядуць каніну, ціха спяваюць нудныя песні. І старэйшы іх дзіўны — з самай раніцы садзіцца ў свой вазок і знікае на цэлы дзень недзе на азёрах. Аднак самае цікавае тут тое, што старэйшы шчарбаты і крыху прысвіствае, калі размаўляе.

— Думаеш наш?

— Упэўнены. Вось толькі не магу зразумець, чаму яны размясціліся ў гушчары на самай мяжы з Інфлянтамі і хто яны такія?! І яшчэ — адкуль яны так добра ведаюць нашы азёры? Тут жа заблудзіць можа нават мясцовы!

— Трэба ехаць у гэтае Дзергава і там на месцы вызначаць, хто гэта і што ім тут трэба!

— А калі там і сапраўды пост пастаўлены, каб пераймаць кантрабанду? — пачасаў галаву Лаўрэн і не ўтрымаўся, напоўніў свой кубак. — Калі гэта каралеўскія людзі, якія выконваюць нейкую сакрэтную справу? Што тады?

— Трэба праверыць іх, але зрабіць гэта непрыкметна, без падазрэнняў. Прыйдзецца табе, пан Лаўрэн, праехацца там з Янкам, паглядзець сваім спрактыкаваным вокам хто гэта. А потым вырашым, што з імі рабіць.

— А яшчэ лепш зрабіць так: збіраем шляхту, чалавек з дваццаць, бяром тваіх, пан Міхал, і выступаем да Дзергава. Калі там нашы — пасядзім, вып’ем, калі ж маскавіты — пасячом.

— Нельга нам збіраць шляхту, Лаўрэн. Не трэба нам агалоскі.

— Ну, а як тады? Іх жа там з паўсотні, а ў цябе колькі — дзесяць, пятнаццаць?

— Чатырнаццаць са мной і Янкам. Ты — пятнаццаты.

— Вось халера! — Ігнатовіч задумліва глядзеў на кубак. Раптоўна яго твар пасвятлеў: — А я сялян з дзясятак вазьму. Тых, хто ўмее страляць з лука. Таго ж Міцьку Зайца. Братоў Дубінаў можна запрасіць — яны не будуць задаваць лішніх пытанняў, нікому нічога не раскажуць, а сячыся будуць за дзесяцярых.

— Што ж, так і зробім, — пагадзіўся Прыгодзіч. — Ты, Лаўрэн, прысылай сюды сваіх сялян, хай і Дубіны едуць, а потым наведай з Янкам Дзергава. Далёка яно адсюль?

— Мілі з дзве будзе, — задумаўся Ігнатовіч. — А можа і больш!

— Сёння паспеем?

Лаўрэн у сумненні пахітаў галавой:

— Калі дапаможа Бог і не перашкодзіць завіруха.

— Што ж — тады за справу, — пан Міхал узняў свой кубак, — і за поспех!

## 9

Пакуль Лаўрэн Ігнатовіч збіраў сялян, якія ўмелі валодаць зброяй і тлумачыў ім, што яны павінны ўзяць з сабой, Янка наведаў суседняе паселішча братоў Якава і Цімафея Дубінаў.

Які ўжо раз, сустракаючыся з гэтымі асілкамі, Янка зведваў невытлумачальнае пачуццё захаплення. І Якаў, і Цімафей былі яшчэ маладымі і нежанатымі. Высокага росту, шырокія і магутныя, з грубымі рысамі твару, яны нагадвалі лясных волатаў, якіх высекла Прырода з суцэльнага дубовага камля. Іх доўгія валасы смалянымі пасмамі спадалі на магутныя плечы. На шырокіх, абветраных тварах свяціліся хітрасцю глыбока пасаджаныя вочы.

Убачыўшы Стругу, браты ўзрадаваліся, адразу ж запрасілі да стала, налілі кубак нейкай цягучай вадкасці.

— Частуйся, — падаў Янку кубак Цімафей, — брага добрая, толькі што выхадзілася.

Юнак зрабіў некалькі глыткоў, зморшчыўся.

— Моцная, халера, — пахваліў ён зеленаваты напой і яшчэ раз прыклаўся да глінянага кубка. — Аднак, хлопцы, мне няма часу ў вас затрымлівацца. Іншы раз з задавальненнем, а цяпер — спяшаюся.

— А ў чым справа? — браты адразу зразумелі, што не дзеля прагулкі ў такое надвор’е ратнік Прыгодзіча заблукаў у іх гушчар.

— На тым баку возера з’явіліся нейкія ліхія людзі і пан Прыгодзіч збірае атрад, каб праверыць, хто яны такія.

— А спажыва там будзе?

— Зразумела, — Янка да радасці братоў дапіў брагу. — Пан Міхал запрашае і вас.

— Што ж, калі запрашае пан Міхал, то будзем.

Янка растлумачыў, што выпраўляцца збіраюцца недзе абедам, а таму яны могуць не спяшацца.

— Будзем, — запэўніў юнака Цімафей і працягнуў яму яшчэ адзін кубак брагі.

У Крывым Сяльцы Лаўрэн ужо чакаў зяця. Убачыўшы яго расчырванелы твар, ён прынюхаўся.

— Цімох сваёй брагай пачаставаў, — прагаварыў ён са спачуваннем. — І з чаго яны яе робяць? Добра, сядай вось на свежага каня і паехалі.

— А з жонкай развітацца?

— Што з ёй развітвацца, калі вечарам сустрэнешся! Паехалі — час прыспешвае, ды і завіруха, халера на яе, не супакойваецца.

Спрачацца з цесцем Янка не стаў: ускочыў у сядло і паімчаў услед за Лаўрэнам.

Выехаўшы на азёрную роўнядзь, хлопец міжволі прыжмурыў вочы — паўсюдна, куды ні кінь вокам, калыхалася чароўная белая прастора і прыгажосць. На бясконцым возеры казачным морам бушаваў і іскрыўся лёгкі снег. Пушыстыя яго хвалі каціліся адна за адной, месцамі зліваліся ў адзінае цэлае і тады, у шалёным экстазе, віхром узвіваліся ў малочнае неба і губляліся там, каб праз нейкі час апусціцца на зямлю суцішанымі і задаволенымі зорачкамі-сняжынкамі. Хутка і бераг патануў у белых карунках легкакрылых сняжынак. Навокал панавала белая, ззяючая прастора. «Як толькі цесць арыентуецца ў такіх умовах? — Янка рысіў за Лаўрэнам, баючыся адстаць і згубіцца ў акаляючым яго хараstве. — Тут жа на сажань нічога не бачна!»

Праз нейкі час выбраліся на бераг і з вярсту ехалі лясной дарогай. Потым зноў пад конскімі капытамі зазвінеў лёд возера.

— Воласа, — нягучна крыкнуў Лаўрэн. — Палову шляху ўжо праехалі.

Мінулі возера. Потым рысілі па лёдзе вузкай лясной рачулкі. Потым зноў возера і зноў рачулка.

— Як ты іх знаходзіш у такім снегападзе? Ні халеры не бачна?

— Пажывеш тут з маё — будзеш з закрытымі вачыма ведаць наваколле. Праз гэтыя месцы мы не аднойчы хадзілі ў Інфлянты рабаваць нямецкіх рыцараў.

— Дык у цябе ж мяжа побач, а Дубіны наогул не ведаюць, дзе жывуць — у Літве ці Інфлянтах!

— Воўк ля сваёй нары авечак не дзярэ.

Урэшце пад’ехалі да берага. Лаўрэн агледзеўся, быццам сярод аднолькава пушыстых елак шукаў знаёмую, задаволена крэкнуў: «Недзе тут!» і накіраваў каня прама ў лес. Рухаліся асцярожна, прыслухоўваючыся і прынюхваючыся.

Лагер незнаёмцаў не адчулі, а пачулі — пасярод невялікай палянкі ў чаканні ад’езду стаяла санная калона. Конныя ратнікі, узброеныя толькі шаблямі, з нецярпеннем пазіралі, як некалькі чалавек збіраюць і складваюць на санкі шацёр. Незнаёмцы і не збіраліся хоць неяк хаваць сваю прысутнасць — весела рагаталі, брудна мацюкаліся.

Лаўрэн нейкі час прыслухоўваўся да крыкаў, што даносіліся з палянкі, аднак хутка махнуў рукой:

— Маскавіты, гаргочуць па-свайму, нічога не зразумець! Адно бачна — збіраюцца пакінуць Браслаўшчыну.

— Пакуль мы паклічам нашых, пакуль вернемся — ад іх і слядоў не застанецца. Усё замяце чортава завіруха! — у адчаі скрыгатнуў зубамі Янка. — Што будзем рабіць, бацька?

— Думаю.

Цесць думаў нядоўга.

— Прыйдзецца табе, сынок, заставацца тут, назіраць за імі, а калі яны паедуць — рухацца следам і пакідаць на дрэвах насечкі. А я мігам — у Гарадзішча галопам і сюды прыганю нашых. Таму не сумуй — я хутка вярнуся.

— Не марнуй тады час, а то неўзабаве сцямнее і ты разам з канём можаш пайсці на вячэру ваўкам.

Лаўрэн усміхнуўся: «Зубы зламаюць!» — адвёў каня і ўскочыў у сядло.

А маскавіты працягвалі весяліцца. Кпіны на незнаёмай мове і лаянка доўгі час віселі над палянкай. Урэшце, загрузіўшы доўгія жэрдкі, абоз крануўся. Янка адзначыў, што незнаёмцаў нямнога: два дзясяткі коннікаў, з дзясятак драбаў і два дзясяткі возчыкаў. «Пэўна, разлічвалі адсюль нешта каштоўнае вывезці, а вывозяць жэрдкі. Няўжо ў Масковіі няма свайго лесу, або з паршывай авечкі хоць поўсці клок?» І ўсё ж маскавіты баяліся пераследу, бо да апошніх санак, каб замесці сляды, прывязалі некалькі густых яловых галін.

Янка рухаўся следам і на добра прыкметных дрэвах рабіў шабляй насечкі, адзначаючы шлях руху абозу. «А калі тыя выедуць на возера, як памеціць іх шлях?» — палыхнула ў галаве раптоўная думка. Аднак хутка хлопец вырашыў і яе — насек галля і прывязаў яго да сядла. «Буду ім адзначаць іх рух па лёдзе. Лаўрэн здагадаецца». Маскавіты ехалі без прыпынкаў і толькі, калі ў паветры пачало прыкметна шарэць, яны спынілі коней.

Спыніўся і Янка. Прывязаў каня, асцярожна наблізіўся да месца супынку незнаёмцаў. — Малайцы, — пахваліў ён іх, назіраючы, як тыя спрытна і ўмела з прывезеных жэрдак змайстравалі загон для коней і шалашы для сябе. — Бачна, што не першы раз робіце далёкія пераходы.

Маскавіты збіраліся на начлег, расклалі вогнішчы, павесілі казаны. «Нешта нідзе не бачна вашага галавы, — Янка пільна ўзіраўся ў людзей, што корпаліся ля пабудоў ці кастроў. — Хаця не, вунь той падыходзіць пад апісанне». Хлопец прыгледзеўся да мажнага чалавека ў простым кафтане з-пад крысаў якога чырванелі баярскія боты. «Ну нічога, хутка ты раскажаш, навошта і да каго прыязджаў у Літву», — запэўніў Янка незнаёмца і асцярожна накіраваўся на пагорак, дзе пакінуў каня.

Там яго ўжо чакалі.

## 10

Лаўрэн з болем у сэрцы і трывогай пакідаў у адзіноце свайго зяця. «Крый Божа што-небудзь з ім здарыцца — мяне ж разарвуць на часткі і жонка, і дачка. Ды я і сам такога гора не перанясу», — пульсавала ў яго галаве. А таму ён без жалю гнаў свайго жарабца, без жалю драў яго бакі шпорамі: «Давай, Каршун, адпачнеш дома! Патрывай крышачку!» І конь разумеў свайго гаспадара.

Праляцелі адно невялічкае лясное возера, другое, паднялі снежны пыл з рачнога лёду, напалохалі грукатам капытоў зайцоў у прыбярэжным лесе, выскачылі на Снуда. «Хутка будзем дома, патрывай яшчэ крышачку!»

Вароты гарадзішча былі адчынены, бо вартавы даўно пачуў шалёны перастук конскіх капытоў.

Лаўрэн саскочыў з каня, перадаў лейцы першаму ж сустрэчнаму ратніку: «Накрый і павадзі, пакуль супакоіцца» і кінуўся да Прыгодзіча.

— Там маскавіты, — непаслухмяным языком падаў ён голас. — З’язджаюць.

— Ад нас далёка не з’едуць, — прабасіў Цімафей Дубіна і працягнуў Лаўрэну кубак брагі. — На, папраў здароўе.

Кісла-горкі напой і сапраўды супакоіў грукат сэрца, якое зусім нядаўна разрывала грудзі. Лаўрэн з асалодай асушыў кубак і працягнуў яго Дубіне:

— Налі яшчэ.

Той са смехам падняў з санак велізарны гляк:

— Спадабалася? Мая брага, як жывая вада — і мёртвага на ногі паставіць.

Лаўрэн удзячна кіўнуў:

— Асабліва гаючы ў яе пах.

Шляхціцы засмяяліся.

Не паспеў Ігнатовіч выцерці з вусоў пену гаючага напою, як атрад рушыў да возера. Лаўрэн ускочыў у сядло іншага каня і паімчаў наперад. Побач з ім ззялі сваімі панцырамі браты Дубіны.

На палянцы, дзе нядаўна размяшчаўся лагер маскавітаў, было чыста і пуста. Завея засыпала свежым снегам нават месцы, дзе нядаўна палыхалі кастры, і цяпер палянка свяцілася роўнай святочнай белізной.

— Ну і дзе масквіты? — расчаравана прабасіў Цімафей. — Дзе мая здабыча?

— Вунь туды яны паехалі, — паказаў на свежую насечку Лаўрэн. — Трэба спяшацца.

Ігнатовіч вырваўся наперад.

Рухаліся ўпэўнена і хутка, бо найбольш прыкметныя дрэвы бялелі насечкамі, якія былі бачны здалёк. След ад абозу даўно замяло, але на невялікіх лясных азёрах ён быў пазначаны лапнікам. «Малайчына, Янка. Здагадаўся!»

Пачало шарэць.

— Можа, збіліся? — трывожна запытаўся Прыгодзіч. — Штосьці доўга маскавіты не робяць прывалу.

Падняліся на невялікі пагорак, пачалі спуск.

— Стой! — Лаўрэн замахаў рукой і кіўнуў у нізінку, дзе праз дрэвы прабівалася святло некалькіх жоўтых плямак. — Здаецца, дагналі!

Спусціўшыся крыху ніжэй, шляхціцы ўбачылі Янкавага каня, які з асалодаю абгрызаў кару з маладзенькіх асінак.

— Пашукаем Стругу, — прапанаваў Прыгодзіч і саскочыў з сядла. — Толькі ціха і асцярожна.

Аднак Янка ўжо сам падымаўся на пагорак. Выглядаў ён засяроджаным і ўстрывожаным. Пачуўшы шорах, схапіўся за шаблю, але пазнаў сяброў.

— Ну, што там у іх? — першым не ўтрымаўся Лаўрэн і кіўнуў у бок нізінкі.

— Да начлегу рыхтуюцца.

— А шчарбаты ёсць з імі?

— Там, — упэўнена адказаў Янка. Калі ж Прыгодзіч усім загадаў заставацца на месцы, а сам з Юрыем пачаў спускацца ўніз, ён шэпатам запытаўся ў цесця: — Можа, ёсць што-небудзь паесці?

Лаўрэн нават разгубіўся ад такога пытання. Ён спяшаўся хутчэй прывесці атрад, не пакінуць Янку аднаго на ноч у лесе, а вось пра ежу, пра тое, што хлопец цэлы дзень галодны, неяк і не падумаў. Таму Лаўрэн у адказ толькі пацiснуў плячыма і штурхнуў у бок Дубіну.

— У цябе часам няма з сабой кавалка хлеба? — запытаўся ён у асілка. — А то ў гэтай мітусні забыўся, што Янка галодны.

— Які ж гэта ратнік ідзе ў паход без шматка сала! — падміргнуў Янку Цімафей і выцягнуў з клунка кубак. — Трымай. — За кубкам з’явіліся біклажка, добры кус сала і кавалак хлеба. — Штосьці і я прагаладаўся, — шэпатам прабасіў Дубіна, наліваючы ў кубак брагу.

Аднак, не паспелі шляхціцы падсілкавацца, як на пагорак падняўся пан Міхал. Ён падазрона панюхаў паветра, пакруціў галавой і нягучна загаварыў:

— Сярод іх ратнікаў, напэўна, чалавек трыццаць, астатнія — возчыкі. Нават варту не выставілі. Таму прапаную такі план, — пан Міхал знайшоў не вытаптаны ўчастак снегу, выцягнуў шаблю. — Вось тут яны, — ён начарціў круг. — Сялян дзелім на дзве часткі і яны адсюль і адсюль абстрэльваюць лагер. Я са сваім ратнікамі б'ю па цэнтры, а ты, пан Лаўрэн з панамі Дубінамі, адсякаеш маскавітаў ад коней. Думаю, што доўгай сечы яны не вытрымаюць і хутка разбягуцца. Пачнём па маёй камандзе... І яшчэ, хлопцы! Іх галаву трэба захапіць у палон жыўцом.

Ніхто спрачацца з панам Міхалам не стаў. Толькі Цімафей Дубіна штурхнуў свайго брата ў бок і вышчарыў буйныя зубы:

— Коней будзем бараніць, Яшка.

Пакуль займалі пазіцыі, азіралі мясцовасць, добра сцямнела. Тут у нізінцы было ціха і нават утульна. Мяцеліца, пэўна, за дзень ужо стамілася распяваць свае заліхвацкія песні і з апошніх высілкаў асыпала ратнікаў толькі лёгкім снегавым пушком. У далёкім небе заззялі зоры. Іх халоднае святло кідала на белае снегавое пакрыва няясныя, мёртвыя цені, больш падобныя да пачварных лясных прывідаў ці душаў грэшнікаў і ад гэтага зоры здаваліся асабліва ледзянымі і непрыемнымі.

Маскавіты купкамі сядзелі ля кастроў. Адны з іх смажылі каніну, другія чакалі, калі даспее каша, трэція або спявалі свае нудныя, жаласлівыя песні, або ўспаміналі вартасці пакінутых у Маскве жонак і каханак. Ніхто з іх не глядзеў па баках, ніхто не чакаў небяспекі.

Раптам зусім побач завыў воўк. Жудасцю скавала сэрцы маскавітаў. Яны на імгненне струпянелі, забыліся пра зброю. І ў той жа момант з розных месцаў на іх пасыпаліся стрэлы, а за імі, быццам з-пад снегу, выраслі людскія постаці. «Бі! Сячы!» — ліцвінскім баявым воклічам напоўнілася паляна. Некаторыя аматары смажанай каніны пападалі на снег побач з кастрамі, іншыя схапіліся за зброю, але большасць кінулася да коней. Аднак і там іх сустрэў рой стрэл, а тых, каму пашанцавала застацца жывымі, перахапілі шляхціцы. Паўсюдна гучалі крыкі адчаю і страху. «Ратуй нас, Усявышні! Ратуй нас, Алах!» — павісла над палянай. Паступова звон сталі заціх, а крыкі і праклянцці імкліва расцякліся па лесе. А яшчэ праз нейкі час яны наогул зніклі.

Перамога была поўнай.

Цімох з братам яшчэ пакрычалі наўздагон уцекачам, ад душы паўлюлюкалі і накіраваліся да загарадкі выбіраць сабе заслужаныя трафеі.

Сяляне з Крывога Сяльца прайшліся па лагеры, палюбаваліся на сваю работу, а потым павярнуліся і пайшлі да сваіх коней.

А Прыгодзіч разам з Янкам і Лаўрэнам мітусліва абшуквалі вазы. Занятак непрыгожы і непрыемны, тым больш, што ні на адным з іх не было ні скрынь, ні куфраў. Толькі на некаторых сіратліва ляжалі некалькі худых мяшкоў з крупамі, сухарамі ды сухой рыбай.

— Тут грошай няма, — боль і расчараванне гучалі ў словах пана Міхала. — Не бачна і абраза.

— Можа, і маскавітаў мы пасеклі дарэмна? — пытанне Лаўрэна было поўнае жаху.

— Трэба дапытаць жывых.

Шукаць палонных не спатрэбілася — з дзясятак іх спалохана таптаўся ля аднаго з кастроў пад аховай маладых шляхціцаў. З першага погляду бачылася, што гэта

няшчасныя возчыкі, якія баяліся згубіць сваіх коней і якія вырашылі прасіць літасці ў пераможцаў.

— Дзе ваш старэйшы? — наляцеў на маскоўскіх сялян Ігнатовіч.

Аднак тыя спалохана збіліся ў купку і з непаразуменнем заматлялі барадамі.

— Супакойся, пан Лаўрэн. Хіба ты не бачыш, што яны не разумеюць.

Прыгодзіч наблізіўся да палонных і паўтарыў пытанне па-маскавіцку. Тыя заварушыліся, пачалі дружна адказваць ды паказваць рукой у цемру.

— Забілі яго, кажуць, — павярнуўся да сяброў расчараваны пан Міхал. — Кажуць, ляжыць недзе там пад дрэвам, прабіты стрэламі.

Лаўрэн з Янкам кінуліся ва ўказаным накірунку і сапраўды ўбачылі пад тоўстай сасной маскавіта, з грудзіны і жывата якога тырчала апярэнне стрэл.

— Халера, — вылаяўся Лаўрэн і спыніўся ў нерашучасці.

— А можа, гэта не той, — з надзеяй выгукнуў Янка і нахіліўся над няшчасным. — А ты ведаеш, бацька, ён яшчэ жывы.

Маскавіт адкрыў вочы, агледзеў сваіх ворагаў, вымучана ўсміхнуўся:

— Усё ж такі Радзівіл усіх нас перайграў, — струменьчык крыві паказаўся з кутка яго рота. — І вялікага князя Васіля, і сваіх паноў-раду, і караля! — Убачыўшы Прыгодзіча, ён маргнуў вачыма ў знак прывітання, — Мы з табой, пан Міхал, былі толькі лялькамі ў гульні нашых уладароў. Маўклівымі, бяспраўнымі лялькамі...

— Дзе абраз Маці Божай?— не стаў слухаць перадсмяротную споведзь паміраючага пан Міхал.

— У маім клунку, — Рапалоўскі скасіў вочы ў бок, дзе ляжаў яго клунак. Янка тут жа падхапіў яго, раскрыў, задаволена засмяяўся і прыпаў вуснамі да халодных кіпарысавых дошак*.

— А дзе грошы і каштоўнасці вялікай княжны?

— Не было грошай, пан Міхал, і каштоўнасцей не было... На жаль, я зразумеў гэта вельмі позна.

— Хто ж тады і як атруціў пані Алену? І галоўнае — навошта?

Рапалоўскі маўчаў. Цяжкае, перарывістае яго дыханне суправаджалася моцнымі хрыпамі і бульканнем. Было зразумела, што той доўга не працягне.

— Аблегчы душу, князь Сямён. Навошта табе такі грэх на тым свеце?

— Ці пападу я туды, Міхал? Мой шлях не на неба, а пад зямлю, у пекла.

— Хто ведае сваю будучыню? Магчыма, не так усё і страшна!

— Добра, я ўсё раскажу, што ведаю, — прахрыпеў маскавіт. — Толькі і ты паабяцай, што пахаваеш мяне і маіх сяброў па-хрысціянскаму звычаю, не пакінеш нас ваўкам у лесе.

— Даю слова шляхціца.

— Слухай і не перабівай, бо мне ўжо мала засталося... Пасля смерці вашага князя Аляксандра лёс вялікай княжны Алены быў прадвызначаны. Яна была асуджана на смерць і ты, Міхал, не горш за мяне гэта ведаеш ды разумееш. Як не могуць дзве ваўчыцы ўжыцца ў адной нары, так і дзве вялікія княжны не могуць існаваць у адной дзяржаве. І тое, чыя рука нанесла ёй смяротны ўдар — гэта не істотна, бо яе смерць была аднолькава патрэбна і Маскве, і Кракаву. Скажу адразу — яе забілі мы па загадзе яе брата, вялікага князя маскоўскага Васіля Іванавіча. Пачатак жа яе смерці быў закладзены ў далёкім чатырыста дзевяноста трэцім годзе, калі ваш Аляксандр вырашыў ажаніцца. Ужо тады яе бацька Іван Васільевіч вырашыў ахвяраваць дачкой, каб потым, пасля яе смерці, мець падставы для захопу Літвы, як вотчыны сваёй дачкі.

Ты, магчыма, ведаеш, што ў дзевяноста восьмым годзе князь Іван перадаў трон свайму пятнаццацігадоваму ўнуку Дзмітрыю. Аднак хутка перадумаў і памяняў сваё рашэнне на карысць Васіля. Тых жа, хто быў супраць парушэння дзедаўскіх абрадаў, ён або пакараў смерцю, або саслаў у ссылку. Так майго сябра Івана Патрыкеева з сынам Васілём пастрыг у манахі, а мяне дык наогул збіраўся пазбавіць галавы. Дзякуй Міхайлу і Пятру Плашчэевым — заступіліся, выратавалі ад ганебнай смерці. А каб пацешыць чэрнь, на Маскве-рацэ заместа маёй галавы адсеклі галаву нейкаму вязню-душагубу. Мяне ж вялікі князь патаемна саслаў са сваіх вачэй у ссылку і забыўся. Зусім забыўся, бы і не было на свеце Сёмкі Рапалоўскага!...

Жыў я ў сваім гарадку і часта думаў, што лепш бы ён тады пазбавіў мяне жывата, чым расцягнуў гэтую пакуту на гады. У пяцьсот пятым годзе памёр князь Іван. Стаў вялікім князем яго сын Васіль. А я ўсё гібеў у глушы. Але ўрэшце ўспомнілі і пра мяне.

Два месяцы таму, адвячоркам прылятае да мяне ганец ад вялікага князя і перадае грамату, што князь Васіль апалу з мяне здымае і неадкладна запрашае да сябе. Як я, стары дурань, абрадаваўся гэтаму запрашэнню! Імчаў у Маскву, бы на крылах! Думаў, міласць і ласку мне вялікі князь акажа, прабачыць, наблізіць да сябе, а ў знак прымірэння дасць вёсачку, а то і дзве. Стары доўбня!

Вялікі князь прыняў мяне позна вечарам, амаль ноччу. Адно тое, што прымаў ён мяне патаемна, павінна было насцярожыць. Аднак я спадзяваўся на яго ласку, а таму не звярнуў увагі на такую дробязь. «Хочаш паслужыць Масковіі і заслужыць дараванне? — адразу ж запытаўся ён у мяне. — Калі хочаш, то паедзеш у Літву, калі не хочаш — пойдзеш на плаху, але на гэты раз па-сапраўднаму!» Ці ж быў у мяне выбар?

— Што ты павінен быў зрабіць у Літве?

— Яшчэ князь Іван прыставіў да Алены свайго вернага сабаку — кухара Серафіма. Той меў спецыяльны наказ — у выпадку неабходнасці атруціць Алену. Думалі прыцягнуць да гэтай справы і дваровую дзеўку Ксенію, малочную сястру Алены, аднак тая хутка выкруцілася з-пад княжага ўплыву, а калі выйшла замуж за русіна, то і наогул стала небяспечнай...

Мінулым летам князь Васіль перадаў сястры патаемнае пасланне, каб яна са сваім скарбам перабралася на Браслаўшчыну, бліжэй да мяжы. А мяне паслаў, каб я адсюль забраў і вывез каштоўнасці і абраз Багародзіцы. Пра Алену павінен быў паклапаціцца Серафім. Бо яшчэ мне вялікі князь сказаў, што мёртвая сястра для яго больш карысная, чым жывая... — Запомні, Прыгодзіч, і панам сваім скажы, і служкам, што вы ніколі не перастанеце ваяваць з Масковіяй. Або яна вам зламае хрыбціну, або вы ёй канчаткова звернеце шыю — іншага не дадзена. Бо там людзі ўслаўляюць не Хрыста з айцом і Духам святым, а ідала ў вобразе вялікага князя, і пакуль у Масковіі не згаснуць лютыя зоры ідалапаклонства, датуль не закончыцца праліванца кроў чалавечая, як наша — маскоўская, так і ваша — русінская...

— Мы гэта ведаем і без тваіх слоў. Лепш скажы, адкуль ты ведаў, што скарб вялікай княжны тут? Можа, яго Алена не прывезла?

— Быў тут. Серафім чуў, як тыдні тры таму княжна размаўляла пра яго з вашым канцлерам Радзівілам і нейкім ксяндзом... Я абшукаў жаночы манастыр, царкву, мужчынскі манастыр, я агледзеў Гарадзішча, а куфраў з самацветным каменнем так і не знайшоў. Куды яно дзелася, дзе схавана?... Скажы, Міхал, задаволь перад смерцю маю цікаўнасць!

— Не ведаю, Сямён Іванавіч, — шчыра прызнаўся Прыгодзіч і прысеў на кукішкі побач з нябогам. — Самі губляемся ў здагадках. Вось ты мне скажы, як Серафім атруціў Алену і за што вы яго забілі?

— Атруціў ён яе проста — капнуў у ейны кубак атруту, а потым наліў туды віна. А забіў яго Сава са злосці, што мы нідзе не змаглі знайсці золата. Ударыў пару разоў, той і сканаў, небарака, — сэрца не вытрымала.

— А абраз вам навошта?

— Вялікі князь загадаў яго прывезці як напамін пра маці... — апошнія словы Рапалоўскі ўжо не прагаварыў, а прахрыпеў, выплюнуў разам з крывёй. Ён яшчэ хацеў нешта сказаць, аднак кроў запоўніла горла, палілася з роту, вушэй. Рапалоўскі некалькі разоў драпнуў нагамі снег і заціх.

— Ну вось мы і ведаем амаль усё, — з сумам прагаварыў Лаўрэн, нахіліўся і закрыў павекі нябожчыка.

— Не ведаем толькі куды падзеліся два куфры з каштоўнасцямі вялікай княжны.

— І хутчэй за ўсё ніколі пра гэта не даведаемся.

## 11

Вялікаму маскоўскаму князю не спалася. Цяжкія, бы налітыя свінцом, думы нахлынулі на Васіля, ушчэнт разбілі крохкі сон, выцеснілі яго з галавы. Князь падняўся, сеў на край ложка, растапыранай далонню пачасаў грудзіну.

— Адчыні акенца, — упэўнены, што яго пачуюць, нягучна вымавіў у цемнату спачывальні.

Ля дзвярэй пачулася шавяленне і невысокі юнак, сонна пазяхаючы, падняўся з разасланага аўчыннага кажуха. Ён дробнымі крокамі наблізіўся да гаспадара і ўтаропіўся на яго з ліслівай гатоўнасцю выканаць любое даручэнне.

— Акно адчыні, няма чым дыхаць, — паўтарыў Васіль.

Служка хуценька падняўся па лесвіцы, пакрахтаў і асцярожна адштурхнуў свінцовую раму. У спачывальню хлынула халоднае паветра. Вялікі князь падцягнуў босыя ногі, з асалодай зарыўся пад тоўстую, яшчэ цёплую коўдру.

— Зачыняй, — махнуў ён рукой і паспрабаваў ямчэй уладкавацца на падушцы.

Аднак сон усё роўна не ішоў, а думы, бы крыважэрныя павукі, з новай сілай навалiліся на яго змучаную істоту. Ды калі б гэта былі думы прыемныя. Не, цяжкія думы распіралі галаву вялікага князя, жудасныя ўспаміны-відовішчы ценямі мінулага праносіліся перад яго вачыма. «Напэўна, гэта нябожчык-бацька нечым незадаволены, — з непрыязнасцю падумаў ён пра свайго бацьку Івана, гадавіну смерці якога адзначалі зусім нядаўна. — Чым жа не дагадзіў я табе там, на небе? А можа, ты не на небе, можа!.. — халодная ручаіна поту гадзюкай папаўзла па спіне, здагадка чарвяком пратачылася ў сэрца, сціснула яго балючымі ўспамінамі кастрычніка адна тысяча пяцьсот пятага года.

Цяжка і доўга паміраў у той год вялікі князь Іван Васільевіч. То губляў памяць, то раптоўна пачынаў трызніць і праз галашэнне прасіць прабачэння ў нейкага Феафіла, то доўга і нерухома ўзіраўся ў нябачную пляму на столі. Аднак часцей ён злосна скрыгатаў зубамі і зыходзіў жоўтай пенай. У такія імгненні Іванаў духоўнік Мітрафан падаў на калені і апантана шаптаў малітвы, а мітрапаліт Сіман з крывой, пагардлівай усмешкай на худым аскетычным твары глядзеў на паміраючага — нешта ведалі яны такое, што не дадавала павагі вялікаму князю.

У рэдкія імгненні прасвятлення Іван маліўся і неяк са спачуваннем глядзеў на свайго старэйшага сына. Няўтульна было Васілю ад гэтага позірку, аднак ён не адводзіў вачэй і таксама ўзіраўся ў бацькавы вочы. І што ён там бачыў? Шкадаванне

пра тысячы загубленых чалавечых жыццяў? Раскаянне пра зняслаўленую ім хрысціянскую веру? Спачуванне сваім дзецям, якіх бязлітасна раскідаў па асобных невялічкіх удзелах? Не. Там свяціўся і віраваў толькі дзікі, жывёльны жах. «Што ж ты ўтварыў пры жыцці такое, што цябе не хоча браць на неба Усявышні? Што ты там бачыш? Чаго так баішся?»

Васіль гнаў ад сябе тыя ўспаміны, але тыя настойліва і нахабна лезлі ў галаву, раздзіралі яе пякучым болем. Ад гэтага галава падавалася непамерна вялікай і цяжкай, быццам яе прыціскала да падушкі не бяссонніца, а нейкая незразумелая сіла, што атручанай парай зыходзіла з цемнаты і начной цішыні. Ад таго і думкі яго былі цяжкія, хваравітыя, атручаныя гэтай парай. Яны не супакойвалі, не ўсыплялі, а толькі будзілі і раздражнялі нежаданыя ўспаміны.

Цела Івана Васільевіча паклалі ў царкве Міхаіла Архангела.

Ізноў памяць выцягнула аднекуль з небыцця нежывыя, белыя плямы прэсных баярскіх твараў, іх гутаркі пра паўсядзённае. І ніводны з іх не ўспомніў добрым словам свайго нядаўняга гасудара, не назваў ніводнай яго справы боскай ці справядлівай, не прачытаў малітвы пра выратаванне ягонай душы. Нават браты, якія ўсё ж прыехалі на пахаванне бацькі, стаялі абыякавыя і адчужаныя, з непрыхаваным нецярпеннем пазіралі на мітрапаліта Сімана, які вёў засупакойную службу. Адзін толькі духоўнік Івана ціха плакаў у цёмным царкоўным закуточку.

Ад дзвярэй данеслася ціхае фырканне. Васіль прыслухаўся. «Вось каму няма клопату! Вось хто можа спаць днямі і ні пра што не думаць! Так, як і Саламея».

Успамін пра жонку адцягнуў увагу ад нябожчыка-бацькі, аднак не прынёс палёгкі. Наадварот, думкі клубком ліпкіх і слізкіх гадаў з новай сілай заварушыліся ў галаве, быццам даўно чакалі напаміну пра Саламею.

Васіль спаў у асобнай спачывальні не таму, што разлюбіў жонку, а таму, што даўно не мог ноччу ахалодзіць яе распаленае цела, а потым раніцай не мог бачыць яе мокрага твару, не мог чуць яе ўсхліпванняў. Некалі было ў яго з Саламеяй каханне, патаемныя і такія салодкія пацалункі, жаданне. Былі сустрэчы, напоўненыя спякотнымі ласкамі і пяшчотнымі словамі. А потым былі агледзіны, калі ён з палутары тысячы баярскіх дачок, кожную з якіх уважліва агледзелі бабкі-павітухі, выбраў сабе ў жонкі дачку бязроднага двараніна Юркі Сабурава. Усё было! А цяпер знікла, растварылася, бы ранішні туман. І ён, вялікі князь Васіль Іванавіч, добра ведаў, што прычына, якая залівала слязамі яго сямейны агмень, хаваецца ў ім самім і называецца бясплоддзе. Колькі разоў ён патаемна ад жонкі ездзіў на багамоллі ў далёкія манастыры, колькі знахарак апытаў пра лячэнне гэтай бессаромнай хваробы, колькі разоў правяраў сваю мужчынскую сілу на дваровых дзеўках і дочках баярскіх! І ўсё дарэмна. Ніхто не абнадзеіў яго добрымі словамі, ні ў чыім улонні не прыжылося семя вялікага князя.

Васіль пашкадаваў, што перакінуў думкі з бацькі на жонку. Ён зноў падняўся ў ложку, паправіў на грудзях крыжык і ўтаропіў свой палыхаючы позірк на кут, дзе трапяткімі залатымі плямамі міргалі лампадкі.

— О, Госпадзі! — прагучаў у цішы спачывальні ягоны стогн. — Чым грэшны я перад табой? Чаму ты караеш мяне за грахі бацькі? Не абыдзі мяне ласкай сваёй, суцеш мяне і маю жонку Саламею, дай мне сына, а дзяржаве — наступніка!...

Яму б упасці на калені, прайсці ў лахманах да Наўгародскай Сафіі, зрабіць багаты фундуш манастыру! І маліцца! Маліцца! Маліцца! Маліць Бога пра заспакаенне грэшнай душы бацькавай і аб прабачэнні яго цёмных спраў. Пакаяцца і тварыць у далейшым толькі дабро... А так, седзячы ў ложку! Так не пазбавішся старадаўняга праклёну, не заслужыш Божае ласкі!

— ...Ну чаму толькі за тое, што я прадаўжальнік роду князёў маскоўскіх, ты пазбаўляеш мяне шчасця бацькоўства? Чым я горшы за Юрыя ці Сямёна, за таго ж... — слова захрасла ў горле князя. Хацеў сказаць «Дзмітрыя», але своечасова ўспомніў, што таго тры гады таму па яго ж загадзе задушылі ў маскоўскай вязніцы. — Так трэба было, Госпадзі! — які ўжо раз паспрабаваў ён апраўдацца перад Богам і які ўжо раз зразумеў сваю дурноту. Бог лепш за яго ведаў сапраўдную прычыну смерці Дзмітрыя.

Нагам стала холадна. Васіль зноў залез пад коўдру і з сумам пaглядзеў на слюдзяное акенца, за якім яркім святлом зыходзіў месяц. «Хутка ўставаць, — усплыла абыякавая думка. — Прымаць паслоў з Казані, Лівоніі, Крыма... Нешта з Літвы доўга нічога не чуваць? Чаму маўчыць князь Рапалоўскі? Калі прыбілі там дурня старога, то і дзякуй Богу — мне менш будзе работы. Абы золата і абраз прывезлі... Не падвёў бы толькі Серафім... А Савушка потым падчысціць сляды — ён гэта любіць і ўмее рабіць... Эх, справы нашы цяжкія! Хто ж гэта паверыць, што вялікі князь нават ноччу думае пра сваю дзяржаву і дабрабыт падданых!»

Думкі супакоіліся, зноў звярнуліся ў клубкі, пацяклі плаўна, павольна. Сонная стома пачала ахутваць галаву, наліла свінцом вейкі. «Ну і дзякуй Богу!» — адчуўшы, што засынае, прашаптаў Васіль. Ён яшчэ ўспомніў разгублены шчарбаты твар князя Сямёна, павольна падняўся і праплыў перад вачыма даўно забыты вобраз сястры Алены, мільгануў акрываўлены бацька. І раптоўна ўсе гэтыя думкі адціснула мноства залатых манет і каштоўнага камення, якія са звонам пасыпаліся аднекуль з неба прама на яго, абвалаклі цела і душу мяккім цяплом, заказыталі ногі. Ён пaглядзеў уніз і аслупянеў — каштоўнасці ператвараліся ў кроў, якой станавілася ўсё больш і больш. «Ну чаму?» — яшчэ паспеў падумаць вялікі князь маскоўскі і з гэтай грымасай непаразумення праваліўся ў соннае небыццё.

Над Масковіяй праплываў другі месяц адна тысяча пяцьсот трынаццатага года.

## 12

Рапалоўскага, як і іншых маскавітаў, пахавалі наступным днём на сялянскіх могілках Брылеўшчыны. Пахавалі ціха, у адной яме.

Кожны атрымаў па сваіх заслугах. Палонных адправілі. Сваім сялянам Лаўрэн паабяцаў выставіць тры вялікія глякі брагі, якую збіраўся купіць у братоў Дубін. Дубіны былі задаволены канямі, па пары якіх выбралі з маскоўскага табунка. Ахова Гарадзішча была ўпэўнена, што разагнала шайку бандытаў.

Усе здаволіліся, хаця і не ведалі праўды. Не ведалі праўды і паны Міхал з Лаўрэнам. Збіраючы пана Стругу ў Вільню, яны губляліся ў здагадках, што і як неабходна паведаміць канцлеру Радзівілу пра смерць вялікай княжны.

— Раскажу ўсё, як было на самай справе, — гарачыўся Янка. — Урэшце, не мы атруцілі пані Алену, не мы скралі абраз і каштоўнасці. Чаго нам баяцца?

— Не скажы, хлопец! Тое, што ведаем мы, не павінен ведаць ніхто. І Радзівіл, калі толькі западозрыць, што ты пра нешта здагадваешся, знойдзе спосаб, каб пазбавіцца ад цябе.

— Чаму толькі ад мяне?

— І ад нас таксама, — з сумнай усмешкай заспакоіў зяця пан Лаўрэн. — Таму памятай — ад тваіх слоў залежаць жыцці тваіх сяброў і родных. Ты думаеш, што Радзівіл ці Сапега не ведалі пра Рапалоўскага? Выдатна ведалі! Я ўпэўнены, што яны не толькі першымі чыталі лісты Васіля сваёй сястры, але і выпраўлялі іх... Вось

чаму праўда, якую мы ведаем, нідзе не павінна ўсплысці, а павінна сысці ў магілу разам з намі. Запомні гэта, Янка.

— А абраз! Як растлумачыць, што яго не знайшлі ў дзень смерці пані Алены?

— Так і раскажы: дурная баба напалохала княжну сваім сном і тая схавала абраз... пад пярыну. Там мы яго і знайшлі.

— А словы Сапегі пра золата?

— Пра іх маўчы. Пра золата і пра каменне — маўчы. Ці было яно і куды дзелася, калі было — мы можам толькі здагадвацца. Хутчэй за ўсё было, але яго забралі Радзівіл і кашталян ордэна францысканцаў Ян Камароўскі, калі ў пачатку студзеня нечакана завіталі ў госці да княжны. А можа, яно яшчэ недзе тут, на Браслаўшчыне...

— Ва ўсялякім выпадку для пані Алены мы зрабілі ўсё, што было ў нашых сілах, — заключыў Лаўрэн. — Для паноў жа Сапегі і Радзівіла мы рабіць нічога не будзем. Няхай плятуць свае інтрыгі праз іншых і ў іншых месцах.

— Правільна, Лаўрэн, — Прыгодзіч удзячна кіўнуў сябру. — Жыць лёгка, калі за цябе нехта тузае нітку, калі за цябе думаюць і рашаюць, калі твае грахі прабачае і бярэ на сябе нехта іншы. Але гэта жыццё нават не для быдла, а для чарвяка. Сапраўдны шляхціц ніколі не пагодзіцца на такое жыццё, а таму ты маеш рацыю — няхай пан Мікалай шукае для сябе лялек у іншым месцы.

Янка Струга выехаў у Вільню тым жа днём, не адкладваючы.

Ён паспеў перадаць абраз Багародзіцы Адзігітрыі, які памясцілі над скляпеннем вялікай княжны Алены ў Віленскім Прачысценскім саборы.

Мікалай Радзівіл амаль не дапытваў юнака. Пацікавіўся толькі, што думаюць людзі пра смерць вялікай княжны і ці даведаўся ён, хто і якія куфры шукаў у жаночым манастыры. Янка адказаў, цвёрда гледзячы ў вочы вяльможы, што простыя людзі, асабліва праваслаўныя, вельмі шкадуюць пані Алену, глыбока смуткуюць. А пра куфры ён нічога не даведваўся, бо нават ігумення манастыра забылася пра той выпадак, а шукаць тое, чаго не было і няма, ён не стаў.

Канцлер згоднаківаў галавой, але не вельмі ўслухоўваўся ў словы пана Стругі. Ён сачыў за яго мімікай, пільна ўзіраўся ў яго вочы, імкнучыся ў іх прачытаць патаемныя думкі маладога шляхціца, здагадацца, што на самай справе ён ведае, пра што маўчыць, што хавае за сваёй ветлівасцю і пачцівасцю. Аднак вочы таго свяціліся толькі шчырасцю і юнацкім задорам.

— Што ж, ты разумны хлопец, а мне такія вельмі патрэбны, — князь Радзівіл дастаў з куфра цяжкі мяшэчак з грашыма і працягнуў яго юнаку. — Пераходзь да мяне на службу, не пашкадуеш.

— Я ратнік, пан, і маё прызначэнне бараніць вялікага князя і сваю зямлю ў адкрытай сечы.

Радзівіл крыва ўсміхнуўся, але спрачацца не стаў. Кіўнуў сівой галавой і цвёрдымі крокамі накіраваўся па сваіх справах. Пра Янку ён адразу ж забыўся.

Маці з Катрынай яшчэ былі ў Вільні, а таму рэшту дня хлопец правёў з роднымі.

На Браслаўшчыну ён выехаў ранкам наступнага дня. Аднак спачатку вырашыў наведаць карчму «Разбіты кубак».

На падворку яго сустрэў слуга Фёдара Кукіша. Пазнаўшы шляхціца, ён разгубіўся, збялеў, рукі яго затрэсліся.

— У нас, пан, няма свабодных пакояў, — папярэдзіў ён нечаканага госця і сціснуўся ў чаканні адказу.

— Пакой мне не патрэбны і каня ў стайню не стаў, — Янка не звярнуў увагі на страх слугі. — Я хутка вярнуся.

Ён падхапіў свой клунак і ўпэўнена накіраваўся да ўваходных дзвярэй. У карчме пан Струга, не звяртаючы ўвагі на здзіўленыя позіркі некалькіх наведвальнікаў, адразу ж накіраваўся да Федзькі Кукіша. Спалатнелы карчмар нерухома стаяў ля печы і з жахам у вачах сачыў за набліжэннем госця. І толькі, калі шляхціц схіліўся перад ім у паклоне і шчыра папрасіў у яго прабачэння, ён ажыў, паружавеў, ніякавата заўсміхаўся. А пасля таго, як той выпіў з ім міравую і аддаў княжыя грошы — наогул стаў ледзь ці не сябрам...

Спусціўшыся на лёд Віліі, Янка Струга азірнуўся: на старажытны горад апускалася марозная імжа. Паветра, прамерзлае да шкляной крохкасці, зіхацела самацветамі, шапацела калючым снегам, звінела і спявала сумным напевам. «Бо-о-о-м», — разрываючы застылую імжу, раптам скалыхнуў марознае наваколле працяглы гул звона Прачысценскага сабора. «Б-о-м, б-о-м, б-о-м!» — амаль тут жа весела адазваўся звон кафедральнага касцёла святога Станіслава.

На футра шляхціца з нябеснага блакіту апусцілася некалькі прыгажунь-сняжынак і сэрца яго затрымцела нечаканымі радасцю і шчасцем. Ён саскочыў з каня і схіліўся ў паклоне царкве і касцёлу, зашаптаў словы малітвы, некалькі разоў апантана перажагнаўся. Потым, прасветлены і шчаслівы, ускочыў на жарабца і крануў яго бакі шпорамі.

Пачынаўся новы дзень.

## ЭПІЛОГ

А ў Браславе да гэтага часу жыве паданне, што ў мінулым стагоддзі нейкаму шукальніку скарбаў пашанцавала і ён усё ж знайшоў уваход у патаемнае падзямелле пад Замкавай гарой. Там ён убачыў дзве вялікія скрыні, напоўненыя золатам і самацветным каменнем. Аднак не змог нават наблізіцца да каштоўнасцей, бо іх вартавалі два велізарныя сабакі, а над імі парыла здань вялікай княжны.

Шукальнік ледзь выйшаў на паверхню, а калі выйшаў і ўбачыў сонечнае святло, ён спачатку згубіў мову, а праз нейкі час — розум.

## КАМЕНТАРЫІ

**Войт** — кіраўнік адміністрацыі ў горадзе ці вёсцы. У дзяржаўных гарадах прызначаўся вялікім князем з заможных феадалаў або мяшчан.

**Віна пенежная** — грашовая пеня на карысць вялікага князя за калецтва вольнага чалавека.

**Відзы, Іказнь, Баруны, Крывое Сяльцо** — вёскі ў Браслаўскім раёне.

**Барбара Заполія** — першая жонка Жыгімонта І (1512 г.). Памерла падчас родаў. Пакінула двух дачок — Ядвігу і Ганну.

**Андарак** (панёва) — жаночае адзенне ад пояса да долу з шарсцяной саматканай тканіны, якую называлі сукня.

**Намітка** — жаночы галаўны ўбор.

**Абраз Маці Божай Багародзіцы Адзігітрыі** — адна з хрысціянскіх святынь Беларусі. Паводле падання намаляваны евангелістам Лукой на чатырох дошках: сярэднія зроблены з кіпарысу, крайнія — з бярозы. У час І сусветнай вайны выкрадзены з Віленскага Прачысценскага сабора расійскімі салдатамі і вывезены ў Расію. Далейшы яго лёс невядомы.

*Віктар ШНІП*

# СВЯТЛОМ НАПАЎНЯЮЦЦА ДУШЫ



***Віктар Шніп нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працуе галоўным рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура». Аўтар зборнікаў паэзіі «Гронка святла», «Пошук радасці», «Шляхам ветру», «Горад утопія» і іншых.***

* * *

У кнігах нашых вечнасці дыханне,
У кнігах нашых нашае святло,
І кожны дзень у небыццё не кане,
Яднаючы, што будзе і было,
Ён будзе ў кнігах, як у Храмах нашых,
Куды ідзём і будзем мы ісці.
Нас будзе ведаць свет па тым, што скажам
І зробім мы у нашым у жыцці
Для роднай Беларусі, каб квітнела
І вечна беларускаю была,
І з кожнай кнігі ў вочы нам глядзела
Крыніцаю Любові і Святла…

У кнігах нашых нашае дыханне,
У кнігах нашых нашае святло,
Што золатам нашчадкам нашым стане,
Яднаючы, што будзе і было…

**ЛЮДМІЛЕ**

Ты вучылася ў літінстытуце
І любіла гуляць пад дажджом,
І ты ведала ўсё, што тут будзе,
Нават тое, калі мы памром.

І была ты прыгожай, як рыфма
У санеце, які я стварыў.
А санет быў пра мора і рыфы,
І туман, праз які човен плыў

Да цябе адзінокай, як востраў,
Пра які аніхто тут не знаў.
І самота мая была вострай,
Нібы шкло з вакон, што разбіваў

Я ў дамах, дзе смяяліся людзі
З тых, хто любіць гуляць пад дажджом
І ўсё ведае, нават што будзе,
Калі мы з адзіноты памром…

Ты была, і ты ёсць, і ты будзеш,
Так, як будуць дажджы і снягі,
І вучыцца у літінстытуце
Будзе нехта, самотны, другі…

* * *

Святлом напаўняюцца душы
Ад Вашай вясновай душы,
І кволы становіцца дужым,
І зорак начныя дажджы
Сусвет асвятляюць да донца,
З якога ўздымаецца сонца
Вялікаю кветкай для Вас,
Дзе Вера, Любоў і наш час
З'яднаны ў адно назаўсёды,
Каб сумных выводзіць з самоты,
Нібыта з палону начнога
Па сцежцы анёльскай да Бога,
Што ў Вашай душы, як у Храме,
Дзе вечна малітва аб маме
Гучыць, ні на міг не сціхае,
Бо кожная мама — святая,
І ўсё ад яе ў гэтым свеце:
Айчына, і мова, і квецень
У лузе, у полі, у садзе,
І ў кожным шчаслівым паглядзе,
Якім асвятляюцца душы
Ад Вашай вясновай душы,
Дзе неба, як божая ружа,
У вочах слязінай дрыжыць,
Душу асвятляе да донца,
З якой уздымаецца сонца…

* * *

Ты глядзіш на дарогу, якая
У пяску, быццам бы залатая,
І па ёй ты ідзеш да царквы,
Шапку зняўшы з сівой галавы,
І, здаецца табе, што ты вечны,
Як нябёсы, дзе Шлях ноччу Млечны,
Як дарога ў вадзе залатая,
Над якою анёлак лятае
Матыльком адзінокім, як ты,
І ў цябе быў твой час залаты,
Але ён, як лісцё, абляцеў
З тваіх дзён, нібы з восеньскіх дрэў,
І таго цяпер часу няма,
І наперадзе смерць і зіма,
Да якіх ты ідзеш праз царкву,
Шапку зняўшы, нібы галаву…

## БАЦЬКА Ў ГОРАДЗЕ

У чорнай гарбаце, нібыта ўначы,
Ты бачыш дарогу ў свае Пугачы.
Там хата пустая, там змрочна і тло,
І ўсё ўжо, здаецца, пражыта, сышло,
І ў горадзе ты, як у панскай турме,
Глядзіш праз вакно, дзе не бачна ў зіме
Нічога знаёмага сэрцу твайму.
І ты ўжо не любіш сябе і зіму
За тое, што ўжо ўсё пражыта, сышло.
І ў чорнай гарбаце, як цукар, святло
Знікае паціху, зусім растае,
І ты мне гаворыш пра думы свае,
І слухаю я тваю споведзь і сны,
І хочаш яшчэ ты дажыць да вясны,
Бо ў чорнай гарбаце, нібыта ўначы,
Ты бачыш дарогу ў свае Пугачы…

* * *

Загусцее туман, і закончыцца лета,
З неба зорка зляціць, нібы смерць
з пісталета,
І растане ў тумане, нібыта ў вадзе,
Па якой толькі Бог, як па сушы, ідзе,
І ты будзеш глядзець у згусцелы туман
І што ўбачыш — усё будзе проста
спадман,
Пра які аніколі не будзеш ты знаць,
Бо не будзе каму пра яго тут сказаць,
Бо закончыцца лета, нібыта жыццё,
І, як плямы крыві, на дарогах лісцё
Будзе доўга чырвонае ў пыле ляжаць…

* * *

Не патрэбна нікуды спяшацца,
Бо і так час ляціць, як страла
У прасторы, дзе ўсё, як са шкла
Разбіваецца і разбівацца
Будзе вечна цяпер і заўсёды.
І глядзіш ты на свет, як на шкло,
Праз якое праходзіць святло
Адзіноты людской і самоты.
І ты шэпчаш малітву да Бога,
І не просіш у Бога нічога,
Бо і так час ляціць, як страла
У прасторы, дзе ўсё, як са шкла…

* * *

У рыб праразаюцца крылы,
І рыбы лятуць над зямлёй
І пэцкаюць нам небасхілы
Сваёю халоднай крывёй,
Разбіўшыся, нібы аб шыбы,
Аб неба, дзе сон і зіма.
І падаюць мёртвыя рыбы,
Як зоркі, якіх больш няма
У свеце, дзе па-над зямлёю
Мы хочам таксама лятаць,
Як рыбы з халоднай крывёю,
Каб раптам з гарачаю стаць…

* * *

Ужо даўно стаміўся ты чакаць
Вясну, якая недзе за гарамі.
Там на гарах яшчэ снягі ляжаць,
Як дні, што не пражыты намі.

Хоць сонца свеціць, ды не грэе нас,
І грэешся ты думкамі аб леце,
І ў думках прысяшаеш зімны час,
Хоць час і так ляціць, нібыта вецер.

Не кожны дачакаецца вясны,
Не кожнаму вясна падорыць сваты,
Хоць снег растане, як дурныя сны,
Растане лёд, нібы на вокнах краты.

І будзе зноў вясна, а потым лета
І знікне сум, а потым сумна стане,
І вершы загусцеюцца ў паэта,
Нібы віно, забытае ў стакане…

* * *

У апалым лісці спіць агонь веснавы,
Што, праспаўшы зіму,
стане дымам травы,
Па якім я пайду, быццам бы паплыву,
У нязведаны свет, у старую царкву,
На якой, як мячы, іржавеюць крыжы,
Бо штодзённа то снег, то туман,
то дажджы,
Без якіх гэты свет быў бы сумны,
як тло,
І якога б без нас ні на міг не было
У апалым лісці, дзе агонь веснавы,
Што, праспаўшы зіму,
стане дымам травы…

*Адам ГЛОБУС*

# САШ

## *Словы пра таварыша майго, школьнага настаўніка біялогіі — Аляксандра КАРПЕЙЧЫКА*



***Адам Глобус нарадзіўся 29 верасня 1958 года ў Дзяржынску. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Аўтар некалькіх паэтычных і празаічных кніжак. Пасля доўгай працы ў літаратуры вярнуўся ў жывапіс, графіку.***

### Вестка

Памёр мой таварыш — Карпейчык. Сумную навіну паведаміў мне па тэлефоне мастак Грышкевіч, спаслаўшыся на настаўніцу, якая працавала ў школе разам з Карпейчыкам.

### Час

Саш! Так я да яго звяртаўся. Нехта называў яго Аляксандрам Казіміравічам. Хтосьці — Карпейчыкам, Казіміравічам, Батанікам, Біёлагам, Географам, Саняй… Вучні ў школе навыдумлялі яму мянушак: Чэрап, Пятка, Фантамас… Для мяне — Саш. Раптам ён спыніўся, застыў, стаў у вялікім часе, пра які Магамет сказаў: «Час стаіць, вы рухаецеся!» Тромб. Інсульт. Саш знерухомеў, а мы — жывыя — плывём далей. Заўтра паеду ў Чыжоўку на пахаванне Сашы, на вуліцу Чырвонаслабадскую, у дом дзевяць, корпус адзін, у кватэру сто восемдзесят сем. Развітанне адбудзецца а першай гадзіне дня. Развітаюся. Я толькі чуў, што мой таварыш Саш спыніўся. Заўтра… Саш! Заўтра…

### Рашэнне

Мы — я і Саш — курым на пляцы Перамогі. Мы заўжды выкурвалі па цыгарэце перад развітаннем. Спецыяльна закурвалі, каб пастаяць і сказаць адзін аднаму самае істотнае. «Мне цяжка прымаць рашэнні…» — пачынае ён. «Ты хутка прымаеш рашэнне, хутка пачынаеш дзейнічаць. Калі ты бачыш сваю памылку, то выпраўляеш яе і дзейнічаеш далей. А я доўга разважаю, доўга ўзважваю разнастайныя «за» і «супраць». Рашэнне задачы адкладаецца і не прымаецца своечасова. Я пакутую праз нерашучасць…» — «Ты, Саш, асцярожны і ўраўнаважаны чалавек, а я імпульсіўны, неабачлівы… І невядома, каму з нас горш, а каму лепш». Мы выкідаем у сметніцу загашаныя недапалкі і разыходзімся.

## Сяброўства

«Не ўмею сябраваць. Не разумею сяброўства. Ад слова “друг” патыхае ненатуральнасцю…» — кажа Саш. А я згадваю іншую нашую размову, калі Сцяпан не падаў мне рукі. Мне столькі розных людзей не падавалі рукі, а потым выбачаліся і зноўку падавалі, што я перастаў пераймацца з-за нейкага аднаго няспраўджанага поціску. Саш заперажываў замест мяне і за мяне: «Гэта ж сур’ёзная знявага. Ты яму працягнуў руку, а ён сваю руку схаваў у кішэнь. Ён цябе зняважыў!» — «Не заганяйся, Саш! Сягоння ў Сцяпана кепскі настрой, заўтра настрой зменіцца, і ён першы падасць мне руку». — «Ты не павінен больш з ім вітацца. Ты не мусіш яму дараваць такую знявагу. Ён жа табе абавязаны за ўсё, што ў яго ёсць. Ты яго ўладкоўваў на працу. Ты даваў яму зарабіць. Ты дапамог яму купіць кватэру. Ты яму дапамагаў?» — «Дапамагаў». — «А ён схаваў руку ў кішэнь…» — «Саш, забудзься пра дурня…» — «Не магу, не разумею… Ты можаш растлумачыць, чаму ён не падаў табе рукі?» — «Магу, але ты ўсё адно скажаш, што нас не разумееш». — «Растлумач так, каб я зразумеў!» — «Сцяпан паспрабаваў парушыць іерархію, якая склалася ў кнігавытворчых і кнігагандлёвых структурах. Ён паспрабаваў, але ў яго нічога не атрымалася. Ён раззлаваўся на мяне і на сябе. Праз пэўны час, ён асэнсуе памылкі, і нашы ўзаемаадносіны выправяцца…» Узаемаадносіны нашыя і сапраўды выправіліся, але Саш нас так і не зразумеў. Я з Сашам, калі быць дакладным у словах, не сябраваў і не дружыў, мы былі таварышамі.

## Дысцыпліна

«Саш, скажы, як настаўнік настаўніку, пра дысцыпліну ў класе. Рознае ж здараецца. Як ты супакойваеш вучняў?» — «У мяне ў кабінеце біялогіі ёсць акварыум. Калі ўшчынаецца шум, я падыходжу да акварыума. Паварочваюся да класа спінаю. Насыпаю рыбам корм. Стаю. Доўга стаю. Стаю так, пакуль клас не суцішыцца. Клас замірае. Здаецца, што нават чуваць, як акварыумныя рыбкі ядуць корм...» — «Жорсткі прыём». — «Ты разумееш, што прыём жорсткі. Яны ж не здагадваюцца, наколькі гэта жорсткі прыём». — «Ты спытаў, я адказаў».

## Горад

Саш любіў Мінск. Я не ведаў чалавека, які б любіў Мінск больш за яго. Ён любаваўся Мінскам, ведаў, якой парою і куды трэба пайсці, каб налюбавацца сваім горадам напоўніцу. Ён ведаў: калі ў Мінску закрасуе першы белы бэз ці першая ліпа; з якой кропкі трэба паглядзець на Дом афіцэраў каб раскрылася ўся манументальная веліч гэтага даволі змрочнага будынка; у які летні вечар лепей любавацца выспаю на Свіслачы. Ён паказваў мне свой Мінск і прапаноўваў: намалюй такі краявід ці напішы апавяданне пра гэтае месца. Нешта-нейкае, з прапанаванага Сашам, я маляваў і апісваў. Ягоныя падказкі заўжды былі (Я ўсё ніяк не магу прызвычаіцца да гэтага «былі»…) цікавымі і нечаканымі. Як жа я мог раней не заўважаць светланоснасці нашага Опернага тэатра? Як я мог не пацікавіцца паганскімі камянямі? Свае здзіўленні я спрабаваў напісаць і намаляваць. Саш абураўся: «Ты ўсё сапсаваў! Узяў і сапсаваў!» Я бараніўся: «Сам пішы і малюй!» — «Я — настаўнік, а не літаратар…» Нашы сваркі, часам, былі жорсткія, мы лаяліся адзін на аднага мацюкамі. Нас ніхто не чуў! Нашы праўдзівыя зносіны былі таемнымі і таямнічымі. У вялікіх кампаніях мы не закраналі важных тэм, а гаварылі пра нашых людзей, пра наш горад.

### Адсутнасць пярэдняга зуба

Тыповае абагульняе людзей, а характэрнае іх адасоблівае. Мяне цікавяць характары, бо яны здзіўляюць, яны вылучаюцца, яны запамінаюцца. Дзякуючы характарам, адбываюцца зрухі, змены, ператварэнні. Грамадства задавальняецца тыповым, стабільным, абагульненым. Грамадству патрэбна жалезная плынь тыповага, а не зыркае полымя харызматычнай асобы. Грамадству патрабуюцца пасады, прызначэнні, агульныя адзнакі. Вылучанасць яскравага характару асуджаецца грамадствам. Каб зацяніць характар, грамадства ідзе на падробку, падмяняе характар лялькай. Выкарыстоўваючы кіно і тэлебачанне, грамадства стварае тып, а не вобраз. Прыклад: яно фінансуе кіно пра настаўніка. Замест сапраўднага настаўніка з характэрнай і запамінальнай знешнасцю, на экранах з'яўляецца саладжавы тварык акцёра, які робіць выгляд, што ён добры, разумны і запатрабаваны настаўнік. Некаторыя супрацоўнікі навучальных устаноў пачынаюць пераймаць манеры акцёра. Сапраўднаму настаўніку вельмі цяжка працаваць ва ўмовах такой вялікай хлусні. Але ў сапраўднага настаўніка ёсць характар. Я добра ведаў настаўніка Карпейчыка, у якога выпаў пярэдні зуб, і ён свядома выкарыстоўваў гэткую дэталь знешнасці, каб падкрэсліць сваю адметнасць. Я лічыў, што адсутнасць пярэдняга зуба ў школьнага настаўніка занадта выразная дэталь, што гэта — гратэскны перабор выразнасці. Таму ў маім кашальку ляжала візітоўка стаматалагічнай паліклінікі, якую я збіраўся аддаць Карпейчыку з абяцаннем аплаціць паслугі дантыста. Ці прыняў бы ён такі падарунак? Пасля сыходу Карпейчыка, пытанне засталося без адказу. Я збіраўся настойваць на падарунку, як ён настойваў на тым, каб я прыняў кнігі лірыкі з ягонай бібліятэкі. Я падарунак прыняў, больш за тое, зрабіў спіс кніжак, якіх у мяне не хапае ў падоранай серыі. Той спіс я паклаў у кашалёк побач з візітоўкаю дантыста, бо Саша Карпейчык абяцаў прынесці кнігі па гэтым спісе. Спіс кароткі: дэ Камоэнс, Цютчаў, Нэзвал, Петэфі, Украінка. Сягоння я дастаў са свайго кашалька візітоўку дантыста, бо Саша адасобіўся ад мяне назаўжды, пакінуўшы толькі ўспаміны пра свой адметны характар.

### Змрочнасць

Апошнія месяцы, нават год, у Сашы быў змрочны настрой. Таму мяне не здзівіў пераказ Алега ягонай апошняй гутаркі з Сашам… «З'ездзіў на могілкі да бацькоў. Пастаяў над магіламі таты і мамы. Там так ціха і добра, што мне ажно захацелася легчы на зямлю…» — гэта апошняе, што Алег пачуў у кавярні «Акварыум» ад Сашы, за некалькі дзён да ягонай смерці.

### Чытанне

Ён быў чытачом. Уважлівым і вельмі дасціпным. Я не сустракаў чалавека, які б прачытаў больш за яго. Ад мяне ён увесь час нечага патрабаваў, як чытач. «Напішы пра мінскія вуліцы!» — «Я не люблю назвы мінскіх вуліц. Уласна вуліцу можа і люблю, а назоў у яе, на мой густ, антыпаэтычны... Як пра яе напісаць?» — «Напішы кнігу мінскіх апавяданняў! Напішы пра наш горад». Ён прачытвае некалькі часопісных публікацый і кажа: «Кепска! Вось у Бабеля "Адзескія апавяданні" атрымаліся,

а ў цябе пра Мінск не атрымліваецца...» Мы сварымся, потым мірымся. Дакладней, мы робім выгляд, што сварымся, і робім выгляд, што мірымся. У нас нармальныя ўзаемаадносіны чытача і літаратара. Ён кажа, што я не Дзёблін, а я і сам ведаю, што я не Дзёблін і раман «Аляксандр пляц» пісаць не збіраюся. Раней ён чытаў кнігі, апошнім часам — газеты і часопісы. А ў адну з апошніх нашых сустрэч ён раптам спахмурнеў і сказаў: «Я ўсё жыццё чытаў. Я прачытаў безліч усяго, а цяпер стаю і думаю, што я дарма гэта рабіў, я дарэмна змарнаваў процьму часу на чытанне!» Я не паверыў, што Саша Карпейчык можа адмовіцца ад свайго найулюбёнага занятку — чытання. Ён адмовіўся. Я страціў аднаго з найлепшых сваіх чытачоў. Дзіўна, што ён паспеў пры жыцці мне пра гэта сказаць. Мы стаялі на беразе Свіслачы, і ён сказаў, што больш не будзе чытаць.

## Танцы

За келіхам каньяку ў кавярні «Акварыум» матэматык Пятраеў распавёў мне пра тое, што ў дзяцінстве Саша Карпейчык займаўся бальнымі танцамі ў палацы школьнікаў. Ён займаўся танцамі якраз у той час, калі я ў тым жа палацы вучыўся маляваць і скакаць на батуце. Мяне гэты факт біяграфіі Карпейчыка зацікавіў, бо слаба верылася ў тое, што Саш мог танцаваць у белай саколцы і кароткіх майтках. Я добра памятаў тых танцораў, сваіх раўналеткаў. Яны ўсе былі вытанчаныя падзявоцку, выглядалі легкадумнымі ў сваіх чэшках на падэшве з ласінай скуры. Я папрасіў Саша патлумачыць мне такую метамарфозу. Як хлопец з заводскай ускраіны, пацан з пралетарскай сям'і мог патрапіць у залу для бальных танцаў? «Мама вельмі хацела, каб я хадзіў у палац і танцаваў. Яна прывезла мяне ў цэнтр, завяла ў палац і запісала на бальныя танцы. Купіла чэшкі, саколку і чорныя майткі. Маму не хацелася расчароўваць. Я схадзіў пару разоў на заняткі, каб пераканацца, што ўсё гэта мне страшэнна не падабаецца. Мне там было гідка. Я пачаў ілгаць — казаў маме, што хаджу ў палац, а сам гуляў у горадзе. Мусіць, тады я і палюбіў Мінск, ягоныя вуліцы, дождж, рэчку Свіслач пад дажджом, цемнаватыя кніжныя крамы…» Гэта я зразумеў, бо сам з дзяцінства прагульваў заняткі ў школе і бадзяўся па Мінску. А вось тое, што Саш ні разу ў жыцці не ўзяў у паліклініцы бюлетэнь, і за дваццаць два гады працы школьным настаўнікаў не прапусціў аніводнага ўрока, я зразумець не змог.

## Пахаванне

Каб не Юра Хацкевіч, я б і не развітаўся з Сашам. Юра сказаў, што трэба ехаць раней, не ў гадзіну, калі прыйдуць усе, а зранку, каб без мітусні сказаць апошнія словы. Машына была Хацкевічава, таму спрачацца не выпадала. У Чыжоўцы мы заблукалі. Разы тры пыталіся дарогі. Нарэшце, мы заехалі ў двор, поўны школьнікаў з кветкамі. Людзей было шмат. Знаёмы настаўнік, сказаў, што труну вынясуць не ў гадзіну, як планавалі раней, а ў адзінаццаць. Было халодна і змрочна. Стаяць пад сіберным ветрам рабілася небяспечна. Асабліва гняло тое, што і дзеці стаяць без шапак. З пад'езднай цемры выплыў праваслаўны крыж, за ім неслі вечку труны абабітую цёмна-вішнёвай тканінаю. Не ведаю, як хто, а я да апошняга імгнення не верыў, што Саш памёр. Не верыў, ажно пакуль не пабачыў труну. Нябожчык быў прыбраны ў чорны гарнітур. На шыю яму павязалі гальштук… Саш так не любіў гальштукі!

Ён іх прынцыпова не купляў і не насіў. А тут сіні гальштук! Недарэчнасць! Я глядзеў на гальштук, каб не глядзець на бяскроўны твар. Дактары рабілі ўскрыццё чэрапа, таму на галаве нябожчыка застаўся вялікі неахайны шнар. Таму і твар моцна змяніўся, але гэта быў усё яшчэ Саша Карпейчык. Труну паставілі на табурэты, каб мы маглі развітацца. Я падышоў, нахіліўся і сказаў: «Бывай. Бывай, Саш…» Класці кветкі ў труну не стаў, бо людзей было так многа, і кветак было так шмат, што класці іх у труну было няварта. Дырэктар школы спытаўся, ці паеду я на могілкі і ці скажу там слова. Я прызнаўся, што сіл ехаць на могілкі ў мяне няма, а словы я напішу. Настаўніца Люда папрасіла мяне напісаць пра таварыша добра. Я аддаў ёй кветкі, каб паклала пад крыж.

## Чыстая бялізна

Здаралася, што я не бачыўся з Сашам па некалькі тыдняў. Ці то я некуды з’язджаў, ці то ў школе пачыналіся канікулы, і тады настаўнік Саш выпраўляўся ў вандроўку. Аднойчы, ён патлумачыў сваю тыднёвую адсутнасць тым, што пахаваў бацьку. Я выказаў спачуванні. Саш замовіў гарэлкі, выпіў і спытаў: «Ён будзе да мяне прыходзіць?» — «Напэўна». — «І як мне з ім сябе паводзіць? Можаш не адказваць, але я спытаю. Як ты сябе паводзіш, калі бачыш нябожчыка тату?» — «Паводжу сябе так, нібыта ён жывы. Калі ён паводзіць сябе, як жывы, дык і я раблю адпаведны крок». — «Мне страшна! А табе? Хіба табе не страшна?» — «Горш, калі з’яўляецца чужы нябожчык. Тата — свой». Гэтая даўняя размова ўсплыла ў памяці, калі мне сказалі, што Саш, перасцілаючы свой ложак, перасцілаў чыстай бялізнай і ложкі бацькоў нябожчыкаў.

## Прысутнасць з адсутнасцю

Ён памёр, і яго стала многа для мяне. Здавалася б… Здаецца, што ён стаіць на гастраномным ганку і курыць моцную цыгарэту. Адварочваюся і бачу, як ён у сваім плашчыку спускаецца ў падземны пераход. Я сустракаю яго ў букіністах, у кавярнях, у тэатральных фае, у музейных калідорах… Самае цяжкае: бачыць яго ў сябе дома, ён стаіць каля кніжнай шафы і кажа: «Тут няма выпадковых кніжак». — «Можаш узяць сабе любую кнігу. Можаш выбраць і ўзяць. Саш, вазьмі кнігу. Любую…» Ён не адказвае. Калі Саш апошні раз заходзіў да мяне ў госці, ён так і стаяў каля кніжнай шафы, так і адмаўляўся ад кніжкі. Тады ён адмовіўся і ад вячэры. Я еў, а ён сядзеў за сталом і маўчаў. Нават ад гарэлкі ён адмовіўся. Пагадзіўся выпіць кубак гарбаты. Адпіў адзін глыток, дзеля прыстойнасці. Я запрасіў Саша ў госці, бо Алег сказаў, што з ім творыцца нешта кепскае, ён не хоча ісці дамоў, не хоча есці, не хоча піць. Раней мы пілі, мы прыходзілі да мяне і пілі абсент. Свядомасць мянялася, лямпачкі ператвараліся ў бенгальскія агні. Мы весяліліся, знаходзілі дзявуль і весяліліся да самай раніцы. Мы адвесяліліся? Мне хацелася спытаць у Саша. Не спытаў, бо ведаў ягоны адказ. Апошнія месяцы ў маёй рэальнасці было зусім мала Саша. Смерць мяняе ўсё! Любіў гаварыць Саш. Яна змяніла… Цяпер яго многа. І гэта, канешне, зменіцца. Але цяпер яго шмат, усё яшчэ шмат. Мне трэба схадзіць у царкву. Ёсць моманты, калі нават такому анархісту, як я, трэба пастаяць у царве адну хвіліну.

## Рамантыка

У ім праяўлялася рамантычная жудасць жыцця. Ён быў захоплены лірыкаю апантаных і праклятых паэтаў. У найпростых рэчых ён, часам, вышукваў містыку — сувязі ўсяго з усім. Аднойчы, убачыўшы мяне з жанчынаю, праз дзень ён пачаў нагаворваць на яе: «Вядзьмарка! Кажу табе: яна — вульгарная вядзьмарка! Прылепіцца да цябе і будзе высмоктваць па кропельцы твой талент. Будзе ілгаць, будзе лашчыцца і хлусіць, будзе замінаць табе сур’ёзна працаваць! Пабачыш, яна будзе шкодзіць. Пачне лезці ў тваю літаратуру. Што ты з ёй тады зробіш?» — «Заступлю за рысу! Накрэслю рыску на пяску і пераступлю праз яе. Зраблю адзін крок, павярнуся і вытру рысу. Яна не будзе ведаць пра рысу. Не здагадаецца дзе і калі я адмежаваўся ад яе. І месца тое ніколі не знойдзе, каб пераскочыць рысу і зноўку апынуцца поруч са мной!» — «Ты не баішся займацца такімі рэчамі?» — «А ты?» — «Баюся!» — «А я не баюся!» — «Жартуеш?» Тады было прасцей, бо я выпіваў. Можна было замест адказу напоўніць чаркі і глынуць гарэлкі. Алкаголь дае права не адказваць на цяжкія пытанні.

## Воцат

Ёсць аматары лічыць калорыі ў харчах. Таму на паліцах кнігарняў вышнураваліся томікі з назваю «Лічыльнік калорый». Можаш набыць папяровы «лічыльнік» і даведацца пра колькасць калорый у сваім сняданку. Забаўка як забаўка, гульня як гульня, прынамсі, да таго моманту, пакуль яна не ператвараецца ў абсурд. Калі навукоўцы паспрабавалі вылічыць адзіны прадукт харчавання, каларыйнасць якога дазволіла б пражыць чалавеку цэлы год, у іх атрымалася прыбліза семдзесят літраў воцату. Пасля такога навуковага адкрыцця можна з лёгкім сэрцам закрыць тэму каларыйнасці. Я так і зрабіў, пасмяяўшыся, бо звесці свой кулінарны рацыён да аднаго воцату не захацеў, зразумела. Але тэма воцату выплыла зноўку, калі я пабачыў, як Саш прынюхваецца да кнігі ў букіністычнай краме. «Не пахне!» — сказаў ён і вярнуў кнігу на паліцу. «Чым яна павінна пахнуць?» — «Воцатам!» — «Чаму?» — «У Мінску ёсць калекцыянер, які збірае кнігі пра д’ябла. Асобнікі з ягонай бібіятэкі пахнуць воцатам…» Такая дэталь мяне зацікавіла, я спытаў у Саша пра імя калекцыянера, але ён не захацеў раскрываць таямніцы. Калекцыянеры — людзі скрытныя. Настойваць не мела сэнсу. Захоча сказаць — скажа, не захоча — застанецца з таямніцаю сам-насам. Зразумела, што збіральнікі кніжак імкнуцца зрабіць сваю калекцыю непаўторнай і адметнай. Раней ці пазней, яны прыходзяць да высновы, што самыя рэдкія, а таму і самыя каштоўныя выданні знітаваны з д’яблам, бо кніжкі пра яго вынішчаліся ва ўсе часы, ва ўсіх дзяржавах і пры ўсіх уладах. Выхваляцца кнігазборам пра д’ябла разумны чалавек не стане, а нават выпадкова прагаварыўшыся пра сваё захапленне, пастараецца адрачыся ад уласных слоў. Таму і Саш праз некалькі месяцаў спакойна сказаў мне, што пра кнігі з пахам воцату ён мне нічога не гаварыў. Маўляў, я выдумляю абы-што, начытаўшыся Пшыбышэўскага. Сапраўды, я чытаў «Сінагогу сатаны» Станіслава Пшыбышэўскага, перакладзеную з нямецкай мовы на расейскую Кайранскім. Чытаў, бо менавіта яе і абнюхваў Саш перад тым, як параіць мне набыць і прачытаць кнігу. Чытаючы Пшыбышэўскага, я падумаў, што кнігі пра д’ябла і мусяць пахнуць воцатам, бо кнігі пра Хрыста павінны пахнуць віном.

## Стаўленні

«Смерць змяняе ўсё!» — любіў паўтараць Саш. Ягоная смерць змяніла стаўленне да яго асобы. Адны паставіліся да яе, як да вялікай страты, іншыя не сталі перажываць. Здавалася б, знаёмыя, з кім Саш сядзеў за адным сталом, з кім ён размаўляў пра смак свежых шакаладных цукерак і жартаваў пра водар брэндзі бутэляванага ў Бабруйску, з кім гутарыў на патаемныя тэмы сучаснай палітыкі, мусілі замаркоціцца. Мусілі, яле я пачуў іншае…

Культуролаг Х-р, разглядаючы дыяментавае пабліскванне гарэлкі ў стаграмовай чарцы, сказаў так: «Я хацеў, каб ён здох! Ён здох! Утварылася пустата. Думалася, калі ён здохне, мне стане лягчэй, а лягчэй не стала!»

Антыквар Я-н, сёрбнуўшы кавы з вяршкамі, прагаварыў: «Ён памёр ад незапатрабаванасці. Ён пакутаваў ад свайго розуму. У грамадстве ён займаў не сваё месца. З ягоным інтэлектам, ён павінен быў займаць высокую пасаду, а ён кожную раніцу ўставаў і ехаў у простую школу. Памятаеш нашую апошнюю размову з ім? Ён тады пытаўся пра запатрабаванасць. І толькі ты сказаў, што цалкам запатрабаваны, усе астатнія былі незадаволены сваім месцам у жыцці. Незапатрабаванасць — прычына ягонай смерці!»

Будаўнік Ю-а, надкусіўшы піражнае «ласунак», паспрабаваў мяне суцешыць: «Не перажывай. Ён ставіўся да цябе не так добра, як ты думаеш. За апошні месяц, ён усім, каго бачыў, казаў, што ты пішаш дрэнь. Не пераймайся. Канешне, ягоная смерць у нейкай ступені — нечаканасць, бо ён ведаў сябе да малекулы. Ён вылічваў, што і калі трэба есці, як і колькі трэба піць. Сёння ён мог дазволіць толькі сто грамаў вермута, бо Сірыус заняў нейкае там месца, а заўтра можна і каньяку папіць. Такое веданне самога сябе, напэўна, шкоднае. Бо яно перайшло ў расчараванне сабою і абыякавасць да жыцця. Змрочнасць ахапіла Карпейчыка пасля смерці ягонага таварыша Кастуся Канановіча. Сашка зрабіўся палахлівым, прымхлівым, загаворваў пра Калі-югу, пра заняпад маральнасці, пра эпоху цемры, пра тое, што Канановіча прыбралі… Шыза! А ты не перажывай…»

Паліграфіст А-г, гледзячы на няспынную плынь мінакоў на праспекце, сказаў: «Я вачыма шукаю ў натоўпе ягоную кепку. Усё яшчэ шукаю ягоную кепку. Заходжу ў кавярню і шукаю вачыма ягоную лысіну. Я ніколі не задумваўся, а хто ён для мяне. Мы былі сябрамі, напэўна мы былі сябрамі… Усё! Трэба пачынаць яго забываць. Яго тут больш не будзе, ніколі. Трэба забыць».

Лодачнік К-р, зазірнуўшы мне ў вочы, прамовіў: «Навіною пра смерць Карпейчыка ты сапсаваў мне раніцу. Не! Ты сапсаваў мне панядзелак. Не! Ты сапсаваў мне ўвесь тыдзень!»

Банкір В-я быў нечакана шматслоўным: «Жыццё — дрэнь! Што такое сорак дзевяць гадоў для чалавека? Імгненне. Сашка пражыў адно імгненне. Нам дадзена адно імгненне. Мы толькі паспяваем пакаштаваць гэтае жыццё. Пакаштаваў? І давай, ідзі ў зямлю! Дрэнь — нашае жыццё. А, калі яно — дрэнь, дык якога чорта я буду за яго перажываць? Нашто перажываць, калі заўтра ўсё адно ў зямлю? Нават, калі б нам з табою далі не сорак дзевяць, як Карпейчыку, а дзвесце гадоў? Што б змянілася? Нічога! Пакаштаваў салодкага, ням-ням-ням і няма цябе. Таму я куплю кветак, сустрэнуся з жанчынай, схаджу з ёй у рэстаранчык. Калі ўсё складзецца добра, дык я з ёй і прачнуся ў сваім ложку».

Дальнабойшчык В-ра выцер слязу, што выкацілася з пачырванелага вока, і спытаў у мяне: «Грошы на пахаванне збіралі?» — «Ня ведаю». — «Хто Сашку хавае?» — «Мусіць, школа. А можа, брат... Пэўна, брат».

## Саш і крымінальнае апавяданне

Даўно збіраўся напісаць тузін дэтэктыўных навел пра Беларусь. У нашай літаратуры не хапала прыватнага дэтэктыва, які б жыў у Мінску на пляцы Перамогі, які б меў кабінет у вежы над хлебнай крамаю «Каравай», які б знаходзіў і караў злачынцаў не таму, што яму плоцяць за гэта грошы, а з-за свайго прыроднага паклікання змагацца са злом. Шматкроць я абмяркоўваў гэтую сваю ідэю з сябрамі, у тым ліку гаварыў пра яе і з Сашам. На ўзроўні ідэі яму падабаўся такі праект. Я са Сцяпанам распачаў працу. Мы напісалі шэсць навел, прыдумалі сабе новы псеўданім і разнеслі творы па рэдакцыях. Першая сварка з Сашам адбылася з-за псеўданіма. Яму не спадабаўся наш «Раман Борнік». «Пад такім псеўданімам можна друкаваць яўрэйскія показкі, а не апавяданні пра Мінск!» — здзекліва кідаў Саш. «Каб вы чыталі працы пра паходжанне яўрэйскіх прозвішчаў у Беларусі, вы б ніколі не паставілі пад сваімі творамі прозвішча Бортнік!» Мы адно пасміхаліся з ягонай зацятасці і агрэсіі. «Я на вас спадзяюся, а вы творыце абы-што!» Выказванні ў наш бок рабіліся ўсё больш нахабнымі і абразлівымі. Мы вырашылі адказаць Аляксандру Карпейчыку. Мы ўзялі здарэнне, пра якое нам распавёў у кавярні «Акварыум» Алег, і напісалі крымінальнае апавяданне, дзе ахвяраю быў настаўнік біялогіі Казімір.

Апавяданне надрукавалі ў БС. Саш пакрыўдзіўся. Ён прылюдна пытаўся ў мяне: «У цябе грошы скончыліся? Не? Тады якога чорта ты пішаш дрэнь? І чаму дзяржаўная газета такую дрэнь друкуе? Мы ў школе стварылі музей. Прыйдзі да нас у школу і напішы пра наш музей. Напішы пра светлае і чыстае, напішы пра добрае...» Саш пачынаў сварку, а я адказваў. Наша сварка нечакана памяняла памер, бо ў рэдакцыю і розныя іншыя інстанцыі пасыпаліся лісты абураных чытачоў і чытачак. «Ну што прыкрылі ваш крымінальны праект?» — саркастычна пытаў Саш. «Прыпынілі. Часова. Хваля неадыкватту спадзе, і мы яго адновім…» Мае спадзевы на хуткае прымірэнне з Сашам не спраўдзіліся. За дваццаць гадоў нашых узаемаадносін мы столькі спрачаліся, сварыліся і мірыліся, што я і думаць не думаў, што лёс нам выпадзе разысціся ў сварцы. Вярнуцца ў мінулае і нешта там змяніць немагчыма, але ад псеўданіма, які так раздражняў Казіміравіча, мы са Сцяпанам вырашылі адмовіцца. Апавяданні пра прыватнага дэтэктыва Глеба Стральцова мы цяпер будзем падпісваць «Адам Глобус і Уладзімір Сцяпан», а ўсю кнігу крымінальных апавяданняў прысвецім Аляксандру Карпейчыку.

«Трывала і доўга стаіць толькі тое, пад што кроў пацякла!» — любіў паўтараць Саш. І я пра гэта памятаю заўжды.

## Саш і гісторыя

Гісторыю трэба расказваць ад пачатку і да канца, інакш расповед не мае сэнсу. Калі табе падасца, што ты выгаварыўся і слоў больш няма, варта паглядзець на свайго героя зноў, каб спраўдзіць завершанасць расказанага. Так я зрабіў са словамі пра школьнага настаўніка біялогіі Аляксандра Казіміравіча Карпейчыка, якога называю Саш. І ўбачыў я раніцу… Быў вечар са звонам чарак, з жартамі і з колцамі тытунёвага дыму ў вясновым паветры. Была ноч з нечаканым падарожжам на край горада, ноч з бутэлькаю каньяку, ноч з агаленымі спінамі вясёлых жанчын. І была раніца. Быў канец траўня. Плыў лёгкі туман. Горад яшчэ не прачнуўся. Сонца яшчэ не ўзышло. Мы — я і Саш — ішлі ў незашпіленых пінжаках па пустым праспекце. «Хораша!» — сказаў тады Саша. Праз два крокі ўзышло сонца, і горад прачнуўся.

*Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ*

# УЦЁКІ АД СМУТКУ



***Маргарыта Латышкевіч нарадзілася 19 студзеня 1989 года ў Брэсце. Цяпер жыве ў Мінску. Магістр філалогіі, працуе ў вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору пры філалагічным факультэце БДУ. Друкавалася ў часопісах «Бярозка», «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва». Аўтар паэтычнай кнігі «Пульс навальніц».***

* * *

Сонечныя зайцы? Ну не!
Для мяне лепей — сонцавы коцікі,
З капялюшыкамі і боцікамі.
Але гэта — адно для мяне.
Крышталёвы пантофлік? Ну не!
Я люблю звычайныя кеды,
А таму так прыемна ведаць:
Казка тая — не пра мяне.
Разумееце,
Ў зручным абутку
Надта добра ўцякаць ад смутку…

* * *

Чалавечае мора —
Горад.
Дробных вуліц малыя плыні,
Старых паркаў і сквераў пустыні,
А праспекты і магістралі —
Быццам волгі або дунаі.
І я — кропля,
І ты — таксама.
Успамінаю радкі Хаяма:
*«Дробным кроплям вядзе акіян улік,*
*З парушынак складаецца мацярык.*
*Твой прыход і сыход не маюць значэння —*
*Быццам муха ў акно заляцела на міг».*
Кроплі мы —
Ў чалавечым моры.
Але разам чамусьці —
Горад.

* * *

Над самымі дахамі —
Галубы
Балбочуць і ахаюць.
Ім абы
Пад гэткім сіверам

Не спікіраваць
І своечасова
Са штопару выйсці.
Яны адмыслова
Валодаюць тактыкай
І сочаць за практыкай,
Шукаючы выйсце.
Над самымі дахамі —
У іх канферэнцыі.
З кожнай вуліцы — па дэлегацыі.
А мы з катом
Назіраем адно,
Сімпатызуючы розным
Фракцыям.

* * *

Калісь, калі свет быў цалкам зялёны,
Сінь вымяралі крыламі драконы.
Драпежныя змеяў крывавыя пашчы
Іх подых агністы, распалены лашчыў.
І марыў ваяр, песнямі захаплёны,
Каб толькі ўвязацца ў бойку з драконам.
Мінулі часы — і, на нашае шчасце,
З’явіліся іншыя ў свеце напасці:
Наркотыкі, СНІД, тэлерэклама
Ды інтэрнэт, атручаны спамам.
Героіка знікла. Тужліва і пуста
Свеціцца ў небе месяца луста.
І сумна, што жыць давядзецца да скону
У свеце, дзе нават няма драконаў.

* * *

Быў дождж. Быў бэз. І май зялёны
Сам падступіў да акаёмаў.
На шэрым небе арыгамі
Дажджы імклівыя складалі
З аблокаў.
І навідавоку
Да самай тройчы сіняй далі —
Быў дождж. І з хмараў — арыгамі.

**БЭЗ**

Дзень сырым дажджом аглушаны.
Дробным срэбрам сыпле спрэс,
Дыяментамі нязмушана
Упрыгожваючы бэз.

А апошні, трохі стомлены,
Фіялетавы, як змрок,
Выпешчаны сонца промнямі,
Голаў нахіліў набок.

Задуменны і засмучаны,
Бэз цікуе, як за шклом,
З цёплым полымем заручаны,
Свеціць чалавечы дом.

* * *

А дзень — сышоў.
Разбіты небасхіл
На шэры горад
Шэры дождж праліў,
І той кашчавым пальцам
Б’ецца ў шкло.
Паснуць бы,
Каб ад сэрца адлягло…
Меч — ваярам,
Карона — каралям,
Агонь у кузні — майстрам кавалям;
Спачынак — стомленым:
Раскіне сон
Над ложкам
Каляровы парасон —
І знікне дождж,
І знікне вечны шум,
І цішыня агорне ўсю душу.

* * *

Вуліцы часам здаюцца вужакамі.
Яны, абдымаючы сэрца Горада,
Паўзуць на сустрэчу з месірам Воландам
І світай ягонай — чорнымі фракамі.
Вуліцы ўмеюць сычэць па-змяінаму —
Тады, канечне, як ім захочацца,
Калі ліхтары пад цемраю скурчацца
Ці нават звычайнаю тлумнай гадзінаю.
Па вуліцах гэтых кашэчымі лапамі
Мякка ступае пяшчотны вечар
І мінакоў абдымае за плечы,
А некаторых па спіне драпае.
А калі іх папрасіць ласкава,
Вуліцы могуць расказваць казкі,
Смачнейшыя ад афрыканскай кавы,
Прычым проста так, за «калі ласка».

*Юры СТАНКЕВІЧ*

# ШАЛ

## *Аповесць*

> ***«...табакерку расчыні,***
> ***і на чорціка зірні.***
> ***ён зусім маленькі, ціхі.***
> ***ад яго не будзе ліха...»***
>
> «вясёлы пікнічок».
> вершаскладанкі



**Юры Станкевіч нарадзіўся 21 студзеня 1945 года ў Барысаве. Скончыў БДУ, факультэт журналістыкі. Працаваў карэспандэнтам Барысаўскага раённага радыёвяшчання, у рэдакцыі часопісаў «Маладосць» і «Крыніца». Выдаў некалькі кніг прозы, аўтар шматлікіх п’ес. Працуе ў жанры кіно і драматургіі. Ад прапановы вярнуць у аповесць «Шал» прапісныя літары адмовіўся. Пазіцыя асобы!**

### 1

адзін адносна малады чалавек на прозвішча андруш валовіч апоўдні з’явіўся на плошчы правінцыйнага горада сярэдніх памераў. ён зверыўся з гадзіннікам і з пачуццём узрастаючага дыскамфорту агледзеўся навокал. да сустрэчы з заказчыкам заставалася каля дзесяці хвілін. валовіч не збіраўся чакаць яго больш за дамоўлены час. а пакуль тое — «прабіў» людзей вакол сябе. і нядобра задумаўся.

чалавек на прозвішча андруш валовіч адчувальна пацярпеў к сярэдзіне свайго жыцця. трэцеразрадная пасрэдніцкая фірма па транспарціроўцы лесу, у якой ён працаваў за адсутнасцю ў раённым цэнтры лепшага, узнялася на добрыя грошы. але, як часта бывае ў такіх выпадках, камусьці варта чакаць горшага. што і адбылося з валовічам. успомнілі раптам, быццам ужо колькі год ён з’яўляўся чальцом незарэгістраванай суполкі, якая нейкім чынам звязана з «зялёнымі». а «зялёныя» калісьці выступілі супраць масавай высечкі лесу. магчыма, гэта паўплывала на падзеі. а магчыма, камусьці спатрэбілася яго сціплая пасада. валовіч колькі год таму скончыў тэхналагічны інстытут. але вартага месца ў жыцці яму не знаходзілася.

дык вось. некалькі тыдняў назад яго з падкрэсленай ветлівасцю папрасілі напісаць заяву пра звальненне па асабістым жаданні. як з ім няшчыра падзяліўся інфармацыяй дырэктар — даволі малады, паспяховы бізнесовец, але падлаваты па натуры — маўляў, перадусім да яго завіталі двое «адтуль». быццам яны зрабілі «прад’яву»: альбо працаваць далей без нядобранадзейнага ў поглядах валовіча, альбо ў фірме пачнуцца праблемы.

гэта магло быць праўдай. а магло — і не. валовіч уважліва тады выслухаў і папрасіў чысты аркуш. упар-

ціцца не было сэнсу. бо калі ў доме заводзяцца гніль і клапы з тараканамі — яго варта спаліць. ці ўзарваць. але такая тэорыя не праходзіла. а ў занядбанай кватэры чакала яго штодня жонка аня з дзесяцігадовай дачкой. сям'ю трэба было карміць. так здарылася, што валовіч пасля некалькіх беспаспяховых спроб знайсці працу стаў «выканаўцам». і справа, як лічыў валовіч, тут была не ў сусветным эканамічным крызісе. яна гняздзілася, напухала гноем глыбей. «выканаўца» — між тым, азначала чалавека, які згодны быў брацца амаль за любую працу. у тым ліку і разавую. ехаць на заробкі далёка не выпадала. часам людзі за межамі ціха знікалі. быццам іх і не было. і ніхто іх не шукаў. валовіч пра тое ведаў.

дык вось. валовіч меў далёка за трыццаць год. гэта быў даволі моцнага целаскладу, але хударлявы мужчына. з еўрапейскімі рысамі твару. светлыя, колеру саломы, валасы на галаве пачыналі ўжо сівець. але лоб удала гарманіраваў з падбародкам. і толькі шэрыя, празрыстыя вочы раз-пораз цямнелі, калі ён быў чымсьці незадаволены альбо проста злаваў.

вось і цяпер, калі б у яго спыталі, а ён шчыра адказаў, то, пэўна, здзівіліся. бо пачулі б, што ён, як ніхто іншы, ненавідзеў свой родны горад. і, за рэдкім выключэннем, амаль усё, што ў ім існавала, рухалася і жыло. валовіч меркаваў іншым разам, быццам мае на тое своеасаблівую рацыю і права. але пра свае пачуцці лічыў за лепшае маўчаць.

гарадская плошча ў старой частцы горада была невялікая, бо ў новай частцы існавала яшчэ адна плошча. з гіганцкім бронзавым помнікам. на ёй праводзіліся парады і маніфестацыі. валовіч у думках неяк здзівіўся: з'яўляецца маральна здаровым суседні народ ці не? бо ў цэнтры краіны ўжо амаль дзевяноста гадоў ляжыць насычаны бальзамам і антыгнілевымі растворамі, даўно спруцянелы правадыр. які пры жыцці знішчыў мільёны сваіх жа суграмадзян. пытанне заставалася без адказу.

дык вось на плошчы, куды прыйшоў валовіч, было ў гэты час амаль бязлюдна. пасярэдзіне яе цяжка грувасціўся храм. які належаў праваслаўнай царкве. колькі год таму храм нечакана трэснуў на некалькі частак. і цяпер вакол яго вяла завіхаліся рамонтнікі. перад храмам бязглузда месціўся помнік князю. быццам заснавальніку горада. павеў, так бы мовіць, новага часу. ліцвінскі князь з XI стагоддзя быў чамусьці выяўлены ці то знарок, ці то па неадукаванасці, у выглядзе маскавіцкага ваяра XVII стагоддзя. у загнутых угору ардынскіх чаравіках, падперазаным хламідай. і з сімвалічным мячом-крыжом у руцэ. ззаду яго постаці выглядаў анёл з тварам трансвестыта. і крыжаваў плошчу трыма пальцамі, намякаючы на пасляраскольнае хрысціянства. хоць у свой час, меркаваў валовіч, сапраўдны князь быў паганцам. і, пэўна, насіў еўрапейскія боты. галава псеўдакнязя выглядала занадта малой. а рукі — вялікімі. насупраць ад помніка стаяў былы заезны дом, альбо карчма. цагляны будынак зроблены на стагоддзі яе былым уладальнікам шаем мазо. даўно ён пакінуў гэты свет. але ахвяраваў новай уладзе цяперашні гарадскі вузел сувязі. ззаду ад князя плошчу аблямоўваў прамакутнік кінатэатра. у ім цяпер знайшлі прытулак дробныя прыхадні-дзялкі. аднекуль здалёк. тут, у былым кінатэатры, яны ўсталявалі гульнявыя аўтаматы. на большае ў іх, пэўна, не хапала вынаходлівасці. пажадлівыя іх тварыкі раз-пораз з'яўляліся ў дзвярах кінабудынка. і нешта ліхаманкава нагаворвалі ў мабільныя тэлефоны. на тварыках гэтых увішных гаспадароў лёгка чытаўся непрыхаваны намер — узбагацець за адну ноч.

на лаўках узбоч плошчы сядзела некалькі парачак з бутэлькамі піва. яны бесперапынна палілі. часам моцна прысмоктваючыся адно да аднаго вуснамі. сядзелі і нейкія з выгляду дэграданты. рукі ў іх трэсліся, калі яны разлівалі таннае

віно ў адзіную пластыкавую шклянку. па-гаспадарску размясціліся ў зацененым месцы купкі жаўтаскурых. і якіясьці ўсходнікі з крыклівымі, мурзатымі дзецьмі. дзеці калі-нікалі ўскарасквалiся на падмурак помніка. да азіяцкіх ботаў псеўдакнязя. акупанта, — злосна думаў валовіч. і адтуль пераможна вішчалі і гергеталі па-свойму. яшчэ далей месціўся рынак, на які ўвесь час заходзілі і выходзілі тлустыя бабы.

сонца, між тым, пераходзіла ў зеніт. і спёка ўзмацнілася. мухі апантана гудзелі вакол. асабліва шмат іх лётала над шлюмперамі-дэградантамі. якія на іх аніяк не зважалі.

у чалавека на прозвішча андруш валовіч раптам з'явілася пачуццё, што за ім сочаць. пачуццё мела невыразнае адценне. але валовіч звярнуў на гэта ўвагу. падсвядомасць, лічыў ён, нас не падманвае. сачыць маглі хіба што з адной з машын, бо некалькі іх прыбартавалася ля вузла сувязі. у адной, са спушчаным шклом кабіны, сядзелі двое: мужчына і жанчына. валовіч не мог вызначыць іх узрост. але тыя назіралі за ім. валовіч зірнуў на гадзіннік. плюс-мінус пяць хвілін. болей не чакаць. такое было ў яго правіла. ён падняўся з лаўкі і адразу дзверы кабіны расчыніліся. і з машыны вылез мажны чалавек. ён узняў руку ўгору. і валовіч здагадаўся, што гэта заказчык. валовіч зноў сеў на лаўку. заказчык вызначыў яго і, пэўна, сачыў, каб скласці адпаведнае меркаванне. да таго ж, доўгі час плавала ў сеціве portfolio. якое колькі дзён таму беспрацоўны андруш валовіч размясціў у выглядзе разгорнутай аб'явы. заказчык падышоў. гэта быў даволі моцнага складу чалавек. у дарагім спартыўным касцюме. плябейскі твар яго ільсніўся ад поту. заказчык перакінуў ключы ад запальвання з правай рукі ў левую. і пасля хвіліннай паўзы працягнуў яе валовічу. далей паміж імі пачаўся наступны дыялог:

— дык гэта вы — выканаўца? — спытаў заказчык.

валовіч кіўнуў у адказ.

— у сваім блогу вы абмовіліся неяк, што ведаеце айца віталя, экзарсіста з карэлічаў?

— магчыма і так, — сказаў валовіч. ён злёгку здзівіўся.

— мяне завуць кірыла. кірыла віж.

— вам пасуе, — вырвалася ў валовіча. і ён дадаў: — вы сачылі за мной. хто з вамі ў машыне?

заказчык сеў на лаўку побач. яго бледная, незагарэлая лысіна матава блішчэла.

— у мяне да вас далікатная справа.

— «мачылава» не прапаноўваць, — праз кароткую паўзу папярэдзіў валовіч. — і давайце адразу па тэме.

— згода. у мяне ў машыне дачка. яе зваць канстанцыя. прасцей — каня. ёй дваццаць сем гадоў. яна не замужам. вучылася ў тэатральна-мастацкай акадэміі. але не скончыла. часам яна бывае не зусім здаровая, скажам так. лячылася ў псіхіятрычнай лякарні. амаль месяц. мы — я і мая сям'я — хочам, каб яна наведала экзарсіста. айца віталя ў карэлічах. ведаю, што ён там практыкуе ў мясцовым прыходзе. нам яго параілі дасведчаныя людзі.

— і што з таго? — спытаў валовіч.

— з вашага блога я вычытаў, што вы цікавіцеся парапсіхалогіяй. да таго ж, вынікала, быццам знаёмыя з айцом віталем.

— я не лекар, а ўсяго толькі выканаўца.

заказчык віж кіўнуў, але стаяў на сваім:

— да святара чарга, бо хворых усё больш. гэта нават дзіўна. я б хацеў, каб вы праводзілі дачку ў карэлічы. і каб там яе прыняў экзарсіст віталь. пасля таго

даставілі дамоў. за адпаведнае ўзнагароджанне. памеры якога мы вызначым. я не бедны.

— чаму вы самі не адвезяце? — спытаў валовіч.

— яна не жадае ехаць са мной ці з кім-небудзь са сваякоў. можа, саромеецца. з чужым ёй больш спрыяльна. так яна сама вырашыла. зрэшты, яна адэкватная. ну, хіба што часам здараюцца адхіленні. неспадзяваныя, так бы мовіць.

— ёй ставілі дыягназ? — пацікавіўся валовіч.

— так. эмдэпэ. але, але. яны там часта перабольшваюць. па ўсім — звычайная эпілепсія.

валовіч падумаў крыху:

— усё-такі, чаму вы звярнуліся менавіта да мяне? — зноў пацікавіўся ён.

— скажу прама. бо ведаю, за што вас выціснулі з фірмы. вы не злодзей. не махляр. не падманшчык. значыць, мы можам прыйсці да згоды. і, галоўнае, вы знаёмы з айцом віталем.

— так, мы разам вучыліся ў школе, — пацвердзіў валовіч. — але гэта ў наш час амаль нічога не вырашае.

заказчык кірыла віж згодна кіўнуў:

— мяркую, мы паразумеемся.

— вы самі — лічыце вашу дачку канстанцыю апантанай? — спытаў андруш валовіч.

— я... не ведаю. але хіба д’ябальская сутнасць не можа ўвайсці ў чалавека? у кожнага з нас?

валовіч выслухаў. а потым заўважыў:

— цалкам верагодна, што вы чыталі, альбо даведаліся на словах гісторыю яе хваробы. як яна, прыкладам, паводзіла сябе ў апошні час? у лякарні?

зрэдку адмахваючыся ад мух, чалавек на прозвішча кірыла віж папрасіў трымаць размову ў тайне. а потым пачаў расказваць. справа ў тым, гаварыў ён, што дачка канстанцыя расла нармальнай, як усе дзеці. але толькі гадоў да дваццаці. потым у яе з’явіўся ўнутраны, так бы мовіць, суразмоўца. далей болей. яна часам пачынала размаўляць з намі. але быццам з чужога голасу. а потым... і той суразмоўца калі-нікалі пачаў гаварыць. так. так. яна мусіла кінуць вучобу. неяк рэзала сабе скуру на жываце, аднойчы — вены. хоць, па праўдзе, у лякарні ёй стала лепей. па выпісцы яна нават завяршыла перадапошні курс. пакуль усё не пачалося зноў. лекар казаў, што шанц ёсць. але малы. яшчэ казаў — яна там выявіла дзіўную хітрасць і вынаходлівасць. аднойчы сцягнула ў медсястры дакументы. пасведчанне. пропуск. набыць халат ёй было зусім проста. яна ўцякла ў горад. дакументы медсястры так і прапалі. цяпер, пакуль яна яшчэ ў здавальняючым стане...

— ну што за мутняк ты вярзеш? га, папуня? — раптам спытаў за спінай дзявочы голас.

абодва суразмоўцы азірнуліся. валовіч адзначыў, што кірыла віж быццам спалохаўся. бо нават уздрыгнуў. у кроку ад валовіча стаяла і ўсміхалася маладая жанчына. высокая. дзесьці каля ста васьмідзесяці, прыкінуў валовіч. твар тонкіх рысаў. прыгожая. стрыжка — па сучаснай модзе. вочы — зялёныя.

— пра якія дакументы ты ўспамінаеш, папуня? каму яны трэба? а які стан мой — то мая справа. вось я цяпер і вырашу. паеду з ім, — яна кіўнула на валовіча, — ці — не.

і яна зноў белазуба ўсміхнулася. гледзячы на таго ва ўпор. андруш валовіч узняўся з лаўкі.

— а я яшчэ не даваў згоды, — сказаў ён, па магчымасці, ветліва.

— мяне завуць канстанцыя. можна каня. націск на «а».

— каня — па-нашаму кнігаўка, — машынальна вырвалася ў валовіча, — птушка такая.

— люблю птушак, — сказала канстанцыя віж, — бо яны — вольныя.

андруш валовіч назваў сваё імя. у думках ён прыгадаў пра тое, што дзяўчына здольна падкрадацца так незаўважна. нібы здань. але ў той жа час адзначыў, што рашэнне ў ім выспела. бо выбіраць яму не выпадала. заставалася дамовіцца пра цану за паслугу. тэрміны. транспарт. іншыя дробязі, якія маглі быць важнымі. нават вельмі. але, як пашанцуе.

дзяўчына працягнула яму далонь.

— я ведаю, пра што вы падумалі, — сказала яна. і дадала праз паўзу: — мы едзем. разам. няхай так.

канстанцыя віж стаяла перад ім, залітая сонцам з галавы да ледзь крываватых ног. апошняе ёй нават пасавала. лёгкая сукенка адкрывала загарэлыя плечы. позірк зялёных вачэй быў спакойны. мухі ігнаравалі яе — заўважыў пра сябе валовіч.

— яшчэ не ўсё вырашана, — сказаў ён, больш звяртаючыся да кірылы віжа.

але адказала дзяўчына:

— вырашайце без мяне. я пакуль пашпацырую побач. не скупіся, папуля, а то перадумаю. ха-ха.

кірыла віж выцер успацелы твар насоўкай. плябейская яго знешнасць магла падманваць — так меркаваў андруш валовіч. безумоўна, той быў па-свойму вынаходлівы і разліковы. правінцыйны дзялок, якога закранула даволі складаная праблема. без праблем — не бывае.

— я «прабіў» тэлефон айца віталя, — паведаміў віж. — гэта было складана. вельмі. але я яму не тэлефанаваў. пакінуў тое для вас. па выніку — я заплачу вам утрая. ад таго, што вы скажаце.

айца віталя андруш валовіч памятаў са школы. той быў даволі спакойны. нават ціхі і непрыкметны. скончыў будаўнічы каледж у сталіцы. валовіч тады часта ездзіў з ім у цягніку. абодва жылі ў інтэрнатах. пераўтварэнне з ім было нечаканасцю для многіх. і для валовіча таксама. але, меркаваў ён, такое часта здараецца. асабліва ў неспакойны час.

валовіч ведаў, што выгнаннем так званых д’ябальскіх сутнасцей традыцыйна займаецца царква. і не толькі хрысціянская. гэта робяць святары, мулы, жрацы, равіны, сярэднеазіяцкія шаманы. часта — паспяхова. урэшце, ён меў на тое і сваю асабістую думку. бо лічыў сябе дастатковым матэрыялістам. нават эмпірыкам.

ужо назаўтра валовіч дазваніўся да адрасата. ён коратка абмаляваў сітуацыю. спачатку — пра сябе. потым — пра дзяўчыну. паведаміў і пра яе верагодны дыягназ, пастаўлены ў псіхіятрычнай лякарні. гаварыў без маны. айцец віталь у сваю чаргу быў шчыры.

— да мяне едзе шмат хворых, — паведаміў ён. — не ўсе з іх апантаныя. але значная большасць — менавіта такія. бывае, што сілы маёй недастаткова, каб даць рады д’ябальскай сутнасці. якая авалодвае душой няшчаснага. Але раз-пораз вынік бывае пазітыўны. заўтра ў мяне перабор. а вось праз дзень буду чакаць. і буду рады цябе пабачыць, дружа.

пасля чаго валовічу заставалася паведаміць пра размову заказчыку віжу. і папрасіць таго падрыхтаваць да дарогі дачку канстанцыю.

сам ён узяў з сабой у рыбацкую сумку толькі самае неабходнае. апрануўся прасцей. бо, хто ведае, як будзе паводзіць сябе дзяўчына. калі ў яе эпілепсія, то прыступ магчымы. у любы час. дня і ночы. і ў гэты час ён павінен быць падрыхтаваны. бо адказвае і за тую няшчасную каню. хоць на першы погляд яна такой не выглядае.

— едзем паслязаўтра, — канчаткова ўдакладніў ён з заказчыкам. і папрасіў адвесці іх абодвух раніцай на вакзал. пасля чаго яны нейкі час дамаўляліся па дэталях.

## 2

апакаліпсіс, — меркаваў валовіч, — рухаючыся ў чарзе па білеты, — можа быць зусім ціхі. без анёлаў. трубных гукаў. цмокаў і драконаў. прыкладам, канец свету ў адной асобна ўзятай хаце, дзе дэгенерат і псіхапат гвалціць сваё дзіцяня. інцэст. ці канец свету ў адной вёсцы, напрыклад. ці ў абласным горадзе альбо краіне. колькасць псіхапатаў узрасла ў дваццаць пяць разоў. нядаўна пра гэта валовіч выпадкова пачуў па радыё. і цяпер ён раптам успомніў лічбу. а прычыны? — думаў ён. — у чым яны? у чарнобылі? вядома — не зусім. у геннамадыфікаванай ежы? малаверагодна. але ўплыў ёсць у свабодзе поглядаў? так. гэта ўжо цяплей. адзіны садамісцкі фільм, пэўна, наплодзіць столькі секс-вар'ятаў. што імі можна загрузіць цэлы караван «караблёў ёлупаў». і лепш за ўсё — утапіць іх потым дзе-небудзь пасярод ціхага акіяна. які ўсё роўна ўжо амаль мёртвы. ад колькасці пустой пластыкавай тары, зубных шчотак, нафты. ва ўседазволенасці любых поглядаў? амаль горача. але, навошта тады розум? і само жыццё. хіба чалавек — памылка? пісьменніка з сусветным імем залічваюць да псіхічнахворых. і топяць яго кнігі ў моры. гэта нармальна? і чаму ўтрымліваць напаўгнілы труп дзесяцігоддзямі — нармальна? а народу застаецца выплачваць у выглядзе падаткаў астранамічныя сумы. на тое ж утрыманне трупа. не, — меркаваў ён, — нішто ў прыродзе не статычна.

раз-пораз валовіч кідаў насцярожаны позірк на канстанцыю віж. дзяўчына стаяла ў баку ля табло. выгляд у яе быў даволі вялы. ціхая, быццам стомленая. і што за д'ябал дрэмле ў гэтым прывабным целе? — згадваў ён, — і ці д'ябал увогуле?

валовіч, як і многія інтраверты, не выносіў чэргаў. якія толькі думкі не прыходзяць у галаву ў гэты час, — меркаваў ён. і не толькі ў чэргах. але і ў крэсле дантыста. у цырульні. за сталом у час вяселля. на гарадскім пляжы. перад экранам тэлевізара. дзе з раніцы да позняй ночы танчаць дураплясы, завываючы папсу. на грамадскіх маніфестацыях. юбілейных парадах. у лазні. у кабінеце муніцыпальнага чыноўніка. на вакзале. як цяпер.

урэшце ён прасунуў грошы ў акенца касы. і ўзяў два білета да карэлічаў. але з перасадкай у сталіцы на іншую электрычку. а калі выкараскаўся з чаргі, то канстанцыі віж не было. ну і справы, — падумаў ён. валовіч агледзеўся навокал. летняя раніца дыхала цяплом. сонца ўзыходзіла. самыя розныя людзі віравалі вакол яго на пероне. валовіч зазірнуў у буфет. потым пастаяў ля туалетаў. да цягніка заставаліся лічаныя хвіліны. і ён вылаяўся амаль ўголас. пасля чаго скіраваў у занядбаны скверык, дзе ля засмечаных лавак варушыліся цьмяныя постаці. бразгалі ў пакетах пустыя бутэлькі. купка дрэнна апранутых жанчын нешта дзяліла, нервова азіраючыся па баках. на іх тварах чыталася пустата.

— ціха сонейка ўстае, — пачуў андруш валовіч шэпт у патыліцу. — спаць кузуркам не дае...

ён рэзка азірнуўся. дзяўчына на прозвішча канстанцыя віж усміхалася яму з-за спіны. побач з ёй упэўнена глядзеў на яго заплыўшымі вочкамі даволі малады хлопец. у брудным спартыўным касцюме. сліна сцякала ў яго з вугла рота тонкай пісягай на няголены падбародак. азіяцкі скуласты твар не меў аніякага выразу.

— а гэта — марык, — ужо ў поўны голас сказала канстанцыя, — мясцовы факер. — і дадала, па-змоўніцку: — ён хоча са мной ажаніцца. праўда, марык?

хлопец у адказ плямкнуў губатым ротам:

— я б не супраць. — і спытаў, звяртаючыся ўжо да валовіча: — а ты хто?

— конь у паліто, — звыкла адказаў валовіч. каб адвязацца. і ўзяў дзяўчыну за руку. — гумар разумею, але нам на цягнік, — дадаў ён.

дзяўчына згодна кіўнула і хіхікнула:

— бывай, марык!

але хлопец нечакана заўпарціўся. яго тупы твар сказіла зласлівая грымаса. вочы закаціліся ўгору. ён схапіў валовіча за крысо вятроўкі.

— да ты чё?

і пачаў застрашваць. саўгануў рукой у кішэню.

— пысу папішу. парву цябе!

на што валовіч коратка і не вельмі моцна торкнуў таму кулаком у падбародак. марык рохкнуў па-свінячы. і паваліўся за куст. і больш не падняўся. ляжаў ціха. жанчыны дзялілі бутэльку піва. і амаль не звярнулі на гэта ўвагі.

цягнік якраз падышоў. абодва рушылі на перон. валовіч прапусціў канстанцыю наперад. і ўвайшоў у вагон следам. няблага пачалося, змрочна думаў ён. вось толькі, як яно скончыцца? і адзначыў, што настрой і паводзіны дзяўчыны неяк імкліва змяніліся. не ў лепшы бок. ва ўсялякім разе такая гуллівасць не да месца.

у вагоне было шмат людзей. заходзілі яшчэ. нягледзячы на сонечнае надвор'е, вокны былі зачынены. і ў спёку так будуць ехаць, — меркаваў валовіч. і адчыніў са свайго боку. падзьмула свежым паветрам.

— паслухай, канстанцыя, — па магчымасці ветліва сказаў ён, — «прыколаў» больш не трэба. напрыколваешся па прыездзе. з айцом віталем на пару.

дзяўчына нібы страпянулася. цень трывогі прабег па яе твары. але праз хвіліну да яе зноў вярнуўся ранейшы стан. быццам лёгкага сцёбу.

— а які ён, айцец віталь? сталага веку? малады? прыгожы? а барада ў яго ёсць? люблю, каб з барадой.

валовіч адказаў у яе манеры.

— высокі, чарнабровы. выліты бюль-бюль-аглы.

— хто, хто?

— спявак быў такі. дурапляс.

— ты жартуеш, андруш? о-о, як добра! расказаў бы мне пра святара. больш падрабязна. а то я пачынаю, да слова, трымцець. баюся яго. больш за «дурку»...

апошнія словы яна вымавіла ў поўны голас. наўмысна. нягледзячы на тое, што месцы на лаўках побач ужо даўно занялі. і з затоенай цікавасцю прыслухоўваліся. злева ад валовіча сядзеў надзьмуты зморшчаны чалавечак. сталага веку. каля сваіх ног ён паставіў плоскую драўляную скрыню. з расадай. за ім размясцілася жанчына. з густа падведзенымі бровамі чорнага колеру. у руках яна трымала слоік. запоўнены амаль да краёў зямлёй. — едуць на лецішчы, — адзначыў пра сябе валовіч. усё гэта машынальна. яшчэ насупраць, справа ад канстанцыі, сеў малады вайсковец. у званні маёра. ён зняў з галавы фуражку з высокай тульяй. і адразу пераўтварыўся ў

стомленага камандзіровачнага. а каб зняць з яго і кіцель з пагонамі — то ў звычайнага вясковага цесляра. — мільганула ў галаве валовіча. на другой лаўцы сядзела некалькі рабочых. якія адразу пачалі гуляць у карты.

цягнік тарганууся. дзверы зачыніліся. потым расчыніліся і адразу зноў зачыніліся. вакзал паплыў назад.

— раскажу пасля, — асцярожна паабяцаў валовіч, — як прыедзем. а лепш няхай сам табе раскажа. ён, мяркую, валодае словам па-майстэрску. бо такая ў яго служба.

канстанцыя віж незадаволена пакрывіла вусны.

— няўжо ты настолькі наіўны. быццам думаеш, што кожнае слова належыць разумець літаральна?

і звярнулася да жанчыны. з ненатуральнымі чорнымі бровамі:

— а што гэта вы везяце ў слоіку? можа, чарвячкоў?

жанчына захвалявалася.

— а як вы здагадаліся? яны ж у зямлю пазаточваліся. іх і не бачна зусім.

канстанцыя ўсміхнулася. даволі саркастычна.

— я шмат пра што здагадваюся. а навошта вам чарвякі? вы з іх настой зробіце? каб вылечыць катаракту?

жанчына стрымана не згадзілася.

— я вязу іх у кампост. бо ў горадзе ім дрэнна.

канстанцыя красамоўна памаўчала з паўхвіліны і звярнулася да маёра.

— а што вы на гэта скажаце таварыш швейк?

маёр разгублена ўсміхнуўся. і апеляваў да валовіча.

— вясёлая дзяўчына. хіба я падобны да швейка?

валовіч крануў руку канстанцыі.

— паводзь сябе прыстойна.

ён адчуваў няёмкасць. нават збянтэжанасць. бо не ўхваляў тых людзей, што імкнуліся звярнуць на сябе ўвагу. эпатажных. крыклівых. мітуслівых. скандальных. апошнім часам такіх большала. з кожным днём. яны віравалі на вуліцах. плошчах. туляліся па піўных барах. сумнеўных начных клубах. вішчалі з раніцы да вечара на тэлеэкранах. высвятлялі свае, вартыя жалю, адносіны ў крамах. цесных кватэрах з тараканамі. у чэргах. у цягніках, як цяпер, — падумалася яму. але цяпер адбывалася іншае. бо на волю выпаўзала нешта сціснутае ў спружыну. нібы ў пакутуючых на хваробу дэ ля турэта. калі пацыент у прысутнасці лекара стрымліваецца з ўсіх сіл. а як той зачыняе на сабой дзверы, то ўслед яму гучаць праклёны. самая брудная лаянка. быццам праз гаць раптоўна прарываецца гразевая плынь са смеццем. пустымі пластыкавымі бутэлькамі. гноем. але чаго яму саромецца? ён вязе не зусім здаровага чалавека. выконвае заданне. урэшце, толькі б не нарвацца на горшае. «кідалава», прыкладам. бо ў яго сям’я. якая без яго дапамогі апынецца ў галечы.

але канстанцыя віж не згадзілася.

— браня крапка. і танкі нашы хуткія, — адказала яна на заўвагу маёра. — пара збірацца ў лютасны паход? — і дадала. з робленай прыязнасцю: — я жартую. не садзіцеся на крыўду. а можна памераць ваш галаўны ўбор?

маёр падумаў, узяў фуражку і падняўся з месца.

— мне хутка выходзіць. — сказаў ён і пайшоў да выхада з вагона.

канстанцыя віж скрушна ўздыхнула.

— хэх-х, шкада. такі бравы маёр. я б за яго замуж пайшла, а не за марыка, — і спытала ўжо ў валовіча: — навошта ты яго забіў?

і дадала, звярнуўшыся да надзьмутага чалавечка. з расадай у скрыні:

— ён забіў марыка, — паказаўшы на валовіча.

чалавечак адкрыў рот. вочы яго зрабіліся ненатуральна вытрашчаныя. ён быў у нерашучасці, што адказаць. і, па ўсёй бачнасці, адчуваў вялікую нязручнасць.

— не ведаю ніякага марыка, — урэшце адказаў ён.

і, пэўна, у знак пратэсту, зморшчыўся яшчэ больш. а потым заплюшчыў вочы. і адкінуў галаву з адкрытым ротам на спінку сядзення.

— супакойся, канстанцыя, — сказаў валовіч. і палез у сваю сумку. — хочаш пачытаць? — і выцягнуў з сумкі кніжку. у даволі пацёртай мяккай вокладцы.

— заваляпася ад некага. я чытаю часам. у аўтобусе. па дарозе на возера. што трапіцца. табе наўрад ці падыдзе. менавіта гэтая. але адхіліся.

дзяўчына на прозвішча канстанцыя віж асцярожна ўзяла кніжку. двума пальцамі. быццам гадзілася. і прачытала назву: «абстрагаванне ў жывёл», — і сказала раўнадушна: — што толькі не чытаюць, — але адразу пацікавілася, — а пра птушак тут ёсць?

пасля чаго пачала гучна чытаць. раскрыўшы наўздагад:

— «іншым разам прыводзяць меркаванні, што, чым жывёла бліжэй да чалавека, тым яна агідней. два шымпанзэ здзекаваліся з птушанят. адзін шымпанзэ раскідваў ежу, запрашаючы птушанят наблізіцца да яго, а ў гэты час другі адразу біў іх дротам, які да таго хаваў за спінай. птушаняты ўцякалі, але неўзабаве дазвалялі заманіць сябе зноў, і былі пабітыя. тут дакладна бачная камбінацыя тыпаў паводзін, якія лічацца выключна чалавечымі: кааперацыя, планаванне паслядоўнасці будучых дзеянняў, падман і жорсткасць...» — і пракаментавала:

— бедныя птушаняты. але трапна заўважана. цікавае, урэшце, чытво. га, андруш? ты тут пра ўсё прачытаў?

валовіч думаў пра іншае. пра тое, напрыклад, што ён увязаўся ў рызыкоўную справу. што прадугледзець яе ход немагчыма. але грошы. невялікі задатак ён атрымаў. і амаль усё пакінуў жонцы.

— яшчэ не паспеў, — адказаў ён.

канстанцыя перагарнула старонку.

— тут яшчэ больш цікава. вось паслухай: «...галовы і тулавы членістаногіх могуць нейкі час жыць асобна. самка багамола ў адказ на заляцанне іншым разам у літаральным сэнсе пазбаўляе свайго сексуальнага партнёра галавы. у чалавека такія паводзіны лічыліся б асацыяльнымі, але ў насякомых яны — звычайная рэч. пазбаўленне мозга здымае сексуальныя забароны і вымушае тое, што засталося ад самца да спароўвання. пасля гэтага самка завяршае ўрачыстасць трапезай у адзіночку...»

дзяўчына ажывілася яшчэ больш. яе голас безумоўна дасягаў слыху чалавечка з расадай. і тых, хто сядзеў праз праход. але той па-ранейшаму рабіў выгляд недатычнасці. да ўсяго, што робіцца вакол яго.

валовіч больш маўчаў. але зрэдку ўстаўляў кароткія словы-каментарыі. якія ні пра што не сведчылі. душэўны цяжар пакрысе авалодваў ім. апошнім часам гэта адбывалася ўсё часцей.

канстанцыя нейкі час чытала. а потым адкінула кніжку ў бок. і сказала, быццам правакуючы валовіча:

— гэта якраз для мяне. потым дачытаю, а пакуль, бадай, перасяду да іх, — і кіўнула ў бок карцёжнікаў на суседняй лаўцы. — перакінуся ў дурня. з азвярэлымі пралетарамі.

але валовіч рашуча перакрыў ёй шлях.
— не варта.
ён паклаў кніжку ў сумку і раптам убачыў у бакавой кішэні маток тоўстай рыбацкай лёскі. цьмяная думка мільганула ў яго галаве.
— тады я проста прагуляюся, — заўпарцілася канстанцыя. вочы яе заблішчэлі. прыгожы рот кранала раз-пораз змоўніцкая ўсмешка.
— а я не дазваляю, — забараніў валовіч. — урэшце, я за цябе ў адказе.
але канстанцыя не згадзілася:
— а калі мне трэба. прыкладам, у прыбіральню?
на што валовіч дастаў лёску. зрабіў зашмаргу. і накінуў на руку дзяўчыны. другі канец ён наматаў сабе на далонь.
— будзе трэба — праводжу. куды скажаш.
канстанцыя нечакана пацішэла.
— а нішто сабе. я цяпер — як рыбіна. секс-рыбіна? секс-рабыня? вось не думала, што ў цябе гэткае распаленае ўяўленне, таварыш выканаўца. звязаць ахвяру лёскай. зацягнуць на якую будоўлю. ха-ха.
валовіч прамаўчаў.
— дарэчы, перад кім у адказе, — працягвала яна. — што яшчэ за высокі пафас?
валовіч патлумачыў:
— ну, перад тваім бацькам. перад маці.
на што дзяўчына зняважліва пакрывіла рот.
— ён мне не бацька. папік. ну, айчым. а маці — так. ёй да мяне — як да якой кузуркі. у яе — пасада ў муніцыпалітэце. свая крама. бізнес-сцерва.
і кіўнула ў бок зморшчанага чалавечка:
— упэўнена, што ён не спіць. шыфруецца. а сам слухае, пра што мы гаворым. але навошта яму ведаць пра мяне ўсялякія дэталі? тым больш, што я, — яна ўзяла руку валовіча і, па-змоўніцку падміргнуўшы, прыклала да жывата, — не адна. там нехта ёсць. ты што-небудзь адчуваеш? якую-небудзь аўру? шчыльнасць з прыкметамі клейкасці?
на што валовіч ужо не здзівіўся. а толькі пацікавіўся:
— можа, ты цяжарная?
але канстанцыя расчаравана ўздыхнула, — у тым і справа. што — не.
валовіч убраў руку.
нейкі час канстанцыя зноў пільна вывучала постаць чалавечка з расадай. які па-ранейшаму сядзеў, заплюшчыўшы вочы. і з раскрытым ротам. а потым гучна спытала валовіча:
— у цябе муха ёсць? можа, зловіш? — і паказала на супрацьлеглае акно, у шкле якога гудзелі некалькі тлустых асобін.
чорт бы цябе прабраў, — хацеў вылаяцца валовіч. але стрымаўся. і па магчымасці, ветліва пацікавіўся:
— навошта табе?
канстанцыя, як і раней, па-змоўніцку ўсміхнулася. і сказала, кіўнуўшы на чалавечка з расадай. які прытвараўся, што спіць:
— хачу кінуць яму ў рот. па-мойму, гэта выдатны спосаб будзіць людзей. і лепш — жывую.
чалавечак моўчкі і палахліва падняўся з лаўкі. забраў скрыню з расадай. рукі яго трэсліся. і пайшоў у другі канец вагона.
канстанцыя ўздыхнула з палёгкай і нахілілася да валовіча. у прорэзі сукенкі ён

убачыў яе невялікія, пругкія грудзі. незагарэлыя. станіка на іх не было. адчуў дотык і пах яе валасоў.

— вось мы і адны. адносна, канешне. а шкада. цябе павінны любіць жанчыны. ты мне даруй за ўсё. я ж не супраць цябе. і ты мне — па душы. у табе нейкі правільны стрыжань.

цягнік рухаўся і часта спыняўся. пагруквалі колы на рэльсах. у канцы вагона плакала, не сунімалася немаўля. прайшоў разносчык газет. потым нейкія ўвішныя гандляры. з асадкамі. нажнічкамі. і іншай дробяззю. нямыя з фотаздымкамі раскладу руху. прабеглі мурзатыя дзеці. нехта ўключыў магнітафон. загучала папса.

— раскажы мне пра сябе, — працягнула размову канстанцыя віж. — ты хто, адкуль, што хочаш.

валовіч насцярожана выслухаў яе пытанні.

— цяпер я — выканаўца, — сказаў ён. — не больш. што з таго, калі я пачну расказваць табе ману?

дзяўчына згадзілася:

— няхай. з большага — я і так ведаю. папік расказаў. і спытала:

— мы, урэшце, прыедзем калі-небудзь?

валовіч супакоіў.

— бачыш, ужо прыгарад. праз пяць хвілін — вакзал. там мы перасядзем на іншы цягнік.

**3**

сталічны чыгуначны вакзал няспынна гудзеў. шмат людзей, нібы жамяра, раіліся навокал. у броўнаўскім руху. пад нарастаючай спёкай частка іх хавалася пад навесамі. і ў самім будынку. іншыя імкліва кудысьці беглі. цягнулі сумкі. заплечнікі. валізкі.

канстанцыя зноў нібы абвяла. яна спакойна рухалася ўслед.

валовіч хацеў было адвязаць лёску. але перадумаў. урэшце, ніхто не зважаў. да таго ж, яна, лёска, была амаль нябачная. да электрычкі на карэлічы заставалася хвілін дваццаць. і валовіч нават прапанаваў выпіць у кафетэрыі кавы. на гэтую прапанову дзяўчына згадзілася. і яны з’елі па бутэрбродзе. і запілі кавай з малаком. з пластыкавых шклянак. стоячы за столікамі. па-англійску.

таксама спакойна яны пераселі. іншая электрычка была перапоўнена. але ім яшчэ засталіся два месцы. ля самага выхада ў тамбур. валовіч нават абрадаваўся. што іх лаўка дзвюхмесная. і ніхто не сядзіць насупраць. але ўсе вокны ў вагоне былі зачынены. а тое побач, якое ён паспрабаваў адчыніць, — заблакіравана. пах танных дэзадарантаў і поту нерваваў. і выклікаў агіду. валовіч ведаў, што летам амаль паўсюдна адключалі гарачую ваду. таму многія не мыліся. яму было непамысна. але ён трываў. вось толькі дзяўчына, думаў ён. бо, як упэўніўся раней, яе настрой можа змяніцца. прычым імгненна. з усімі наступствамі. кірыла віж — яе айчым — казаў пра эпілепсію. што, калі сапраўды наступіць прыпадак? што робяць у такім разе? але, на яго погляд, гэта не эпілепсія. валовіч хацеў нават ціхенька спытаць у канстанцыі. пра тое, ці былі ў яе прыступы падучай раней. але стрымаўся.

за акном пачаўся лес. ён перамяжоўваўся палянамі. жоўтымі ад дзьмухаўцоў. па-ранейшаму ніхто не адчыняў вокнаў. і такі народ, — здзіўляўся ў думках валовіч, — хоча лепшага? а ці хоча ён нешта ўвогуле? калі б хто-небудзь захацеў, да слова, высекчы ўсе лясы. атруціць рэкі. пастраляць жывёл. пусціць іх у ежу. і птушак таксама. а потым узарваць тут ядзерную бомбу. — ніхто б не быў супраць.

але неўзабаве яго змрочныя думкі перапыніліся.

— паслухай, андруш, — сказала канстанцыя. — у цябе ёсць расклад?

валовіч пашукаў у кішэні, і знайшоў.

— ёсць. вось, азнаёмся. калі табе цікава.

канстанцыя забрала расклад. і пачала яго вывучаць. якраз у гэты момант засігналіў надалоннік. тэлефанаваў заказчык. кірыла віж пацікавіўся ў валовіча пра тое, як рухаюцца справы. валовіч коратка адказаў. паведаміўшы, што яны хутка прыедуць. і дадаў, каб заказчык выходзіў на сувязь часцей. — яшчэ хацеў сказаць вам раней, — паведаміў той, — каб захоўвалі ўвесь час пільнасць. бо ў кані бываюць неадэкватныя намеры. На гэта валовіч адказаў, што, бадай, усё ідзе па плане. нармалёва. пасля чаго іх размова перапынілася.

канстанцыя раптам пачала нервавацца.

— я задыхаюся, — сказала яна. — тут пахне цвіллю, тухлым мясам, гноем.

валовіч падумаў і прапанаваў:

— пойдзем у іншы вагон. ці пабудзем у тамбуры.

але яна не згадзілася.

— паслухай, — працягвала далей канстанцыя, — на гэтай лініі электрычкі ходзяць праз трыццаць-сорак хвілін. наша — дальняя. таму тут столькі людзей. калі мы выйдзем на прыпынку, прыкладам, на наступным? тут лес, чыстае паветра. мы пачакаем, пакуль прыйдзе чарговы цягнік. інакш я закрычу.

валовіч падумаў і згадзіўся.

— а што ты закрычыш?

канстанцыя перакінула сваю сумачку цераз аголенае загарэлае плячо.

— што ты — нацуга. маньяк. што трымаеш мяне на шворцы. што забіў марыка.

валовіч засмяяўся. але даволі стрымана і нявесела.

— а я марыка не біў. — сказаў ён на выхадзе з вагона. — пэўна, той даўно аджыў.

станцыя, на якой яны сышлі, так і называлася. «лясная». урэшце, гэта быў невялічкі цагляны будынак. пад павеццю. брудна-шэрага колеру. зеўрала акенца касы. драўляная лаўка ўяўляла сабой хіба што жалезны каркас. валовіч зверыўся з гадзіннікам. і абодва рушылі па сцяжынцы. у бок лесу.

— паслухай, андруш, — скоса зірнула на яго дзяўчына, — ты мне ўжо нібы родны. я, бадай, нават пайшла б за цябе. ха-ха. калі ты не супраць. ну не за марыка ж мне выходзіць. а маёр знік.

затоеная ўсмешка выбівалася наверх. з яе зялёных вачэй. гарэзлівасцю і яшчэ нечым. чым? — спытаў сябе валовіч, але адказу не было.

— дзякуй за давер, — сказаў ён. — мне б хацелася, каб у цябе ўсё было пуцём. і сватоў я б да цябе заслаў. але ж я жанаты.

яны раптам апынуліся на залітай сонцам палянцы. навокал стаяла цішыня.

— ты б шворку адвязаў, — папрасіла канстанцыя і спытала:

— твая жонка ведае, куды і з кім ты паехаў?

— не, — адказаў валовіч і дадаў:

— ніхто не ведае. акрамя твайго. бацькі.

на што дзяўчына зняважліва чмыхнула.

— ён мне — папік. ты што — запамятаваў? а увогуле — яны разам з маці зламалі мне жыццё. ненавіджу.

яна забрала ў валовіча вятроўку. пасцяліла ў траву. і села. ногі яе агаліліся з-пад сукенкі. потым скінула басаножкі.

валовіч падумаў і адвязаў лёску. прысеў побач. зняў красоўкі. і агледзеўся. а потым пачаў слухаць. але, акрамя ледзь чутнага шуму ў верхалінах дрэў, нічога не

пачуў. урэшце, ён любіў слухаць, як шуміць лес. але цяпер адчуваў выразны дысананс. трывога, — падумаў ён. — чаму — невядома.

— праз трыццаць хвілін нам вяртацца, — сказаў ён.

і адразу да яго дайшло, што яшчэ ён адчувае. акрамя пачуцця трывогі. цялесную цягу да гэтай дзяўчыны. так. нібы часцінка сонечнай спёкі прабегла паміж імі. у яго галаве прамільгнула неакрэсленая думка, што ён — толькі выканаўца. і што варта засяродзіцца на сваім заданні. але праз якую хвіліну тая думка сышла. растаяла ў сонечнай гарачыні. быццам ніколі і не ўзнікала.

— часу нам хопіць, спадзяюся, — сказала канстанцыя. голас у яе стаў хрыплы. а позірк зялёных вачэй пацямнеў.

— вазьмі мяне. на памяць. хутчэй.

і яна пачала расшпільваць на ім кашулю. потым адкінулася на спіну і выгнулася дугой. падклаўшы пад галаву сваю лёгкую скураную сумку.

— хутчэй.

калі яны сцішыліся. канстанцыя шэптам сказала:

— не глядзі. паляжы так.

ён адчуў рух яе рук. расслабленнасць цалкам авалодала ім. яна нешта шукала ў сваёй сумачцы. расплюшчыў вочы і ўзняў галаў. што і выратавала яго. бо ўдар вострa заточанага вязальнага прутка не трапіў у сонечную артэрыю. а слізнуў, падрапаўшы скуру, па шыі. валовіч перахапіў яе рукі, зведаўшы моцны супраціў, быццам косці і мышцы гэтых рук былі з жалеза. а суставы небывала гнуткія і пругкія. пачуццё нечаканай небяспекі надало яму сіл. валовіч пераціснуў ёй локцем шыю. і яна нешта крыкнула іншым голасам. а потым захрыпела, забілася пад ім. і ён вырваў з яе рукі бліскучы на сонцы пруток. і выкінуў прэч. а пасля адпусціў яе. імкліва апрануўся. і дастаў з сумкі лёску. зрабіў пятлю. і, як і раней, накінуў ёй на кісць рукі. дзяўчына ляжала на траве. яна цяжка дыхала. а мутны позірк вачэй быў скіраваны ў вышыню. нягледзячы на сонечныя промні, што джалілі ёй амаль у твар.

— збірайся. і хутчэй. бо нам пара, — урэшце спакойна сказаў валовіч. бо ўспомніў ранейшую перасцярогу яе айчыма. і ўвогуле зразумеў. што калі якая злосць і была ў ім, то выхаду ёй даваць не варта.

яна моўчкі апранулася. і яны таксама моўчкі пайшлі назад. на станцыю. і толькі, калі яе нязграбны будынак узнік перад вачыма, валовіч спытаў:

— хіба я жадаю табе благога? ты ж магла забіць мяне.

на што канстанцыя віж адказала. з усмешкай, скоса зірнуўшы на яго.

— а ты ўспомні пра самку багамола. звычайныя асацыяльныя паводзіны. забудзь, праехалі...

і валовіч зноў замаўчаў. сапраўды, што тут весці допыт, — меркаваў ён. — хіба гэта дапаможа?

яны падышлі да прыстанку. і на даляглядзе паказалася электрычка. яна была напаўпустая.

## 4

валовіч шмат гадоў не бачыў айца віталя. і таму міжволі адзначыў, наколькі той змяніўся. святар і раней быў высакарослы. а цяпер да таго росту ў ім набралася мажнасці. з’явілася ўнутраная ўпэўненасць. якую можна было адчуць адразу. квадратны ад кароткай бародкі твар яго вылучаў стрыманую сілу. цёмныя валасы гладка зачэсаны назад. а нізкі, шырокі лоб гаварыў пра упартасць. і настойлівасць у дасягненні мэты.

валовіч больш падрабязна давёў яму пра сябе. пра сваё заданне. расказаў пра дзяўчыну тое, што ведаў, абмінуўшы выпадак у лесе. увесь гэты час канстанцыя віж сядзела за дзвярыма. і хоць валовіч адвязаў лёску-шворку, ён быў упэўнены. што яна нікуды не ўцячэ. у прыёмнай, калі гэтак можна было назваць невялікі пакойчык пры храме, чакалі розныя людзі. усе да святара. айцец віталь, між тым, уважліва выслухаў яго. сказаў, што пагаворыць з ім пра ўсё астатняе пазней. калі яны разам паабедаюць. а пакуль тое, запрасіў да сябе дзяўчыну.

валовіч адчыніў дзверы і зрабіў ёй знак. каб увайшла.

дзяўчына на прозвішча канстанцыя віж неяк бокам праслізнула ў расчыненыя валовічам дзверы. спачатку прасунуўшы сваю прыгожую галаву, — як змяя, — падумаў валовіч. вочы яе , ён адзначыў, гарэлі нязвыклым дзіўнаватым агнём. яна спынілася перад айцом віталем. высокая, стройная. нейкі час яны вывучальна глядзелі адно на аднаго. святар — добразычлівa. дзяўчына — з выклікам. уся, быццам напружаная.

— ку-ку, святарушка, — урэшце па-блюзнерску перарвала паўзу дзяўчына.

— і табе таго ж, — непарушна азваўся айцец віталь.

— адтэлебаціўся, зайчык? — пакрывіла яна ў яхіднай усмешцы свой ярка напамажаны рот.

— а ты не журыся, любушка.

але дзяўчына не сунімалася:

— дык смачна ясі, салодка спіш, а чарачку бярэш? а як у цябе накшталт дзевак буйнацелых? сірэн салодкагалосых? дураплясачак розных?

айцец віталь усміхнуўся. як і раней, добразычліва:

— а вось пойдзем са мной у храм намолены. там і пагаворым пра усё.

— а можа, тут паборамся? — спытала канстанцыя нязвыклым голасам.

— навошта нам бароцца? тым больш — тут? там-та лепей. там у мяне і спецыяльны малітоўнік асвечаны. у некалькіх храмах. з яго я табе і пачытаю.

— а калі я — не хацу. а как захацу, так і вскацу. ха-ха.

айцец віталь зразумела схіліў голаў.

— бачу, фёдара міхайлавіча чыталі. з яго цытуеш. а, між іншым, веруючы быў чалавек. дый захочаш, анягож. цікаўнасць твая і пераможа. а я памагу. — і святар раптам схапіў яе за руку.

— пайшлі, любушка. і андруша, які цябе сюды прывёз, з сабой забяром. няхай пабачыць, пачуе. не дарма ж вы сюды ехалі. так?

дзверы невялікай царквы былі адчынены. некалькі старых сталага веку трымалі запаленыя свечкі. і ўтаропіліся на тых, хто ўвайшоў. айцец віталь, не адпускаючы рукі дзяўчыны, перакрыжаваў сябе перад іконай. старыя, пэўна, ужо ведалі, што адбудзецца. і паслухмяна пацягнуліся да выхада. святар даў андрушу валовічу ключ. і папрасіў таго зачыніць храм. знутры, часова. валовіч пайшоў і зрабіў, як было сказана.

— і што з таго? — пачуў ён, між тым, голас дзяўчыны. — што вы мне дэманструеце? а мне пляваць! так, пляваць!

на што айцец віталь паднёс ёй крыж усутыч. да твару. але канстанцыя адхілілася.

— ды я не жадаю! вашых малітваў і вашага лекавання! — выкрыкнула яна нізкім голасам.

айцец віталь скіраваў валовіча ўбок. за нешта падобнае да шырмы.

— лепш табе не глядзець. дый і мне так лепей, — дадаў ён.

валовіч паслухмяна адышоў. але слухаць не пакідаў.

ён чуў спачатку, як святар пачаў чытаць з малітоўніка заклінанні. усё больш узвышаючы і ўзмацняючы голас. само заклінанне складалася з дзвюх частак: па латыні і на старажытнаславянскай мове. так вызначыў пра сябе валовіч. але дзяўчына раз-пораз перапыняла таго няўцямнымі выкрыкамі. пагрозамі. праклёнамі. заклінальнік рабіў кароткую перадышку. і пачынаў усё наноў. так прайшло з паўгадзіны.

— і-і-і! — раптам закрычала дзяўчына. і пачала рвацца з рук. але святар затрымаў. і сам узвысіў голас.

— імя! — крычаў ён.

— гавары, як цябе зваць! імя!

— а я не скажу! не скажу! пайшоў ты на...

— пайшоў!

— пайшоў!

— пайшоў!

на што айцец віталь зноў пачаў чытаць заклінанні. усё больш занудліва. прама ёй у вушы. і зноў пытаўся:

— імя! гавары, як цябе зваць! імя!

валовіч спачатку не зразумеў. пра якое імя дапытваўся айцец віталь. хіба ён не ведаў, як зваць дзяўчыну? але потым да яго дайшло. заклінальнік хацеў даведацца імя той д'ябальскай сутнасці, якая апанавала няшчасную:

— выходзь! — крычаў айцец віталь. — гавары імя! выходзь!

дзяўчына выгіналася перад ім. брэтэлькі летняй сукенкі саскочылі з яе плеч. агаліліся грудзі. але чорную скураную сумку яна не кідала.

— а ты збегай у ге-пе-у! няхай табе там скажуць! — здзекліва выкрыквала яна ў адказ. — «канторы», пэўна ж, служыш? што, адняло мову? а як жа таямніца споведзі? адразу бяжыш з дакладам?

— не бегаў і бегаць не збіраюся, — адказваў на гэты чарговы і злосны выказ святар. і зноў пачынаў сваю нудную адчытку. якую кожны раз заканчваў адным:

— імя! гавары імя! выходзь!

пасля чаго канстанцыя пачала біцца у руках. вырывацца і выкручвацца з такой сілай. што валовіч паспяшаўся на дапамогу. звыкла знайшоў у кішэні лёску. і накінуў пятлю на рукі пакутніцы. пасля чаго тая пачала выкрыкваць пагрозы. быццам, не сваім голасам. спачатку ў адрас святара:

— каб ты спрах! — вішчала яна. — каб твае дзеці спруцянелі! ужо я гэтаму паспрыяю! атрымаеш сваё, сабака!

а потым і на адруша валовіча:

— а цябе, палюбоўнічка, згнаю ў «дурцы»! так і ведай!

але айцец віталь непахісна вёў рэй. а пасля кароткай перадышкі зноў пачаў свае занудлівыя заклінанні. ад усяго гэтага валовіч дужа стамляўся. ён рушыў да дзвярэй і выйшаў вонкі. сонца ўжо перайшло зеніт. валовіч зірнуў на гадзіннік. і ўпэўніўся, што з таго моманту, як ён абудзіўся, прабегла парадкам часу. ён прысеў на прыступкі царкоўнага ганка. і думаў пра тое, што святар верагодна дапаможа няшчаснай. і што праца экзарсіста звышцяжкая. не для простага чалавека. магчыма, для адзінак. бо надта вялікае псіхічнае напружанне. і ўспомніў, што азіяцкія шаманы ў такіх выпадках звяртаюцца па дапамогу да прысутных. тыя актыўна ўдзельнічаюць у выгнанні. паўтараюць хорам кожнае слова. якое агучвае шаман. кожную покіўку. рух. але ж айцец віталь — адзін. адзінокі змагар з сатанінскай сілай. «каб распазнаць духа цемры — трэба самому быць светлым». словы старажытнага святога ўсплылі ў яго памяці. успомніўся валовічу і айцец віталь у далёкім ужо мінулым. што быў ён заў-

сёды роўны з усімі. незаўважны. сумленны. ніколі не рабіў благога. і, што дзіўна, прыгадаў валовіч, таго пазбягалі крыўдзіць. пэўна, адчувалі яго ўнутранае святло. нават самыя зласлівыя. подлыя. жорсткія. валовіч вярнуўся назад.

голас айца віталя адразу ўварваўся яму ў вушы:

— не даждь места лукавому демону обладать мною насильством смертного сего телеси… изыди, изыди…

тут айцец віталь зрабіў чарговую кароткую перадышку. знакам паклікаў валовіча. і папрасіў таго знайсці і прынесці яму які-небудзь звычайны камень. з тых, прыкладна, з якіх выкладваюць брукаванку. і валовіч неўзабаве прынёс такі камень: гладкі, шэрага колеру. з чорнымі ўкрапінамі. айцец віталь адабральна кіўнуў. і абмацаў камень з усіх бакоў. пасля чаго паклаў яго побач. і сказаў валовічу. што патлумачыць пра ўсё гэта пасля.

канстанцыя сядзела перад ім. на твары яе блукала з’едлівая ўсмешка. зрэнкі вачэй ненатуральна расшырыліся. і з’ехалі кудысьці ўгору. голас быў незнаёмы.

— сюды. ці як? — і яна паказала на камень.

а святар пацвердзіў:

— тут будзе дом твой. выходзь.

але пакутніца не згадзілася:

— а мне і так добра. ха-ха. пайшоў ты...

на што айцец віталь зноў пачаў чытаць з малітоўніка. знарок, як адзначыў валовіч, адно і тое ж. нудным, уедлівым голасам. і няшчасная захвалявалася. усё больш і больш. і раптам ненатуральна выгнулася і з’ехала на падлогу. пасля чаго пачала біцца ў канвульсіях. валовіч небеспадстаўна вырашыў. што ў яе пачаўся прыступ падучай. але ён мог і памыляцца. яна зноў нешта выкрыквала. збольшага пагрозы. брудную лаянку.

— імя! — крычаў ёй у вушы святар. — гавары імя!

— изыди!

— изыди!

— изыди!

і тут яна быццам зламалася. дакладней, тое нешта, што сядзела ў ёй. альбо ў яе мазгах, — меркаваў валовіч. дапамагаючы святару ўтрымліваць напаўаголеную апантаную. складзена, як мадэль, — падумаў ён.

— скажу, скажу. на вуха, каб ён не пачуў, — вымавіла яна.

апошняе, як зразумеў валовіч, тычылася яго. пасля чаго айцец віталь нахіліўся да яе твару. і яна нешта прашаптала яму. валовіч не пачуў што. і зноў пачала звівацца і выкручвацца. быццам на самай справе нешта нябачнае выходзіла з яе.

— изыди! — паўтараў, загадваў айцец віталь. і паднёс да яе твару камень. які раней знайшоў на падворку валовіч.

— изыди!

— изыди!

— изыди!

## 5

пасля таго, як дзяўчыну пакінулі адну ў бакавушцы. дзе яна дзіўным чынам хутка заснула. айцец віталь аб’явіў тым, хто ўпарта чакаў яго, што прыме іх заўтра. бо цяпер не ў стане. і сапраўды, адзначыў валовіч, святар быў знясілены.

у сябе дома, калі абодва памылі рукі і твары. айцец віталь параіў зрабіць гэта неакладна. бо вада ачышчае і змывае ўсё д’ябальскае. ён пазнаёміў андруша валовіча з жонкай. а таксама з дзецьмі: хлопчыкам і дзяўчынкай. папрасіў пакарміць госця ў сваім кабінецiку. дзе за сталом у іх адбылася гутарка.

пачалася яна з таго. што валовіч пацікавіўся пра вынік. дзяўчына вернецца здаровай? ці, наадварот, так і застанецца пры сваёй апантанасці? на гэта айцец віталь адказаў. што ў станоўчым выніку ён не ўпэўнены. і што цалкам верагодна, яе давядзецца прывозіць зноў. калі, вядома, у яе будзе на тое згода.

— д’ябал аказаўся такі моцны? — спытаў валовіч і дадаў, што ён асабіста лічыць такія хваробы праявамі шызафрэніі. бо свет шызафрэніі — шырокі. як пра гэта трапна калісьці заўважыў вядомы навуковец ясперс. бо ніхто і, пэўна, сам айцец віталь не бачыў на вочы тых д’яблаў. якіх часам выкурвае з апантаных. а ён, валовіч, заўсёды трымаўся матэрыялістычных поглядаў. і мозг чалавека — найбольш загадкавае, што ёсць у свеце.

— па-першае, — адказаў на гэта святар, — мяркую, што самы дробны д’ябал ведае найбольш, чым усё чалавецтва разам. так. мы не бачым, але я і тыя, хто ідзе маім шляхам, адчуваюць тую д’ябальскую сутнасць. яе моц. нават простым дотыкам рук. і, дзякуючы непахіснасці нашай веры. гэтая сутнасць выкрутлівая і хітрая, як чарвяк. яна можа быць у вобласці жывата. але тут жа перасунуцца. перабегчы ў вобласць сэрца ці галавы. мая задача, калі адбываецца кантакт, даведацца пра яе імя. гэта галоўнае на першым этапе. калі я бачу, што імя спрацоўвае, то іду далей. бо, пакуль я не ведаю імя, мне яе не выкурыць. даведацца пра імя — значыць авалодаць воляй. той д’ябальскай сутнасці. выгнанне можа быць хуткім. а можа і вельмі працяглым. шмат гадзін запар. калі яна, сутнасць, пачынае выходзіць з цела, я адчуваю рукамі. нейкае падабенства шара: пругкага. шчыльнага. нябачнага. бязважкага. д’яблы дзеляцца на рангі. па сваёй сіле. тыя, хто найбольш моцныя. сыходзяць у нікуды. іх трэба затрымаць. і загнаць у іншае. лепей — у які-небудзь матэрыяльны прадмет: камень. мінерал. ні ў якім разе ў зброю. і паставіць «замок» божым словам. вось чаму я прасіў прынесці мне камень. вядома, тая д’ябальская сутнасць больш ахвотна перасялілася б у жывёлу. кураня. сабаку. свінню. але мне шкада жывёл. д’ябал павінен засмактацца ў камень. пад маім прымусам. каб ён не здолеў выйсці адтуль, я стаўлю «замок». ёсць адпаведная малітва. але і гэта не ўсё. камень з д’ябальскай сутнасцю варта ўтапіць у балоце. каб яго ніхто не знайшоў. і не выпусціў нячысціка. бо ёсць людзі, якія адчуваюць такія камяні. магчыма, яны таксама апантаныя. бо сказана ў новым запавеце: — «калі нячысты дух выйдзе з чалавека, то ходзіць па бязводных месцах, шукаючы спакою. і не знаходзіць. тады кажа: “вярнуся я ў дом мой, адкуль я выйшаў”. тады ідзе і бярэ з сабой сем іншых духаў. злейшых за сябе, і, увайшоўшы, жывуць там. і бывае для чалавека таго — апошняе горш за першае...»

валовіч абдумаў пачутае і заўважыў:

— калі ёй, нашай апантанай, ставілі дыягназ эмдэпэ. альбо, як кажа яе айчым, эпілепсія. то, ці значыць гэта, што эпілептыкі носяць у сабе д’яблаў? а некаторыя геніяльныя пісьменнікі? палкаводцы? навукоўцы? а прадбачанне, якое іх азарала? хіба не празорца наш дастаеўскі. якога вы ўспаміналі? і які хварэў на эпілепсію?

на што айцец віталь адказаў:

— заўважу, што ў эпілептыкаў перад прыступам і за яго час. калі-нікалі назіраецца дзіўны феномен прадбачання. так, ты маеш рацыю. аднойчы мне паказалі чалавека. які падчас чэмпіянату свету па футболе зрабіў у букмекераў стаўку на адзін долар. на выніկі дзесяці матчаў. каэфіцыент склаў чатырыста дзесяць тысяч семсот сорак шэсць. і выйгрыш атрымаўся каля трохсот тысяч долараў. ён угадаў пераможцаў. і лік усіх дзесяці сустрэч. я зацікавіўся. гэты чалавек пакутаваў на эпілепсію. хоць з іншага боку тут прысутнічала выпадковасць. але нікчэмна малая.

мяркую — справа ва ўсё тым жа. гэта д’ябальская сіла. але, не думаю, што яна існуе ва ўсіх хворых на эпілепсію.

але валовіч не згадзіўся.

— магчыма, справа глыбей, — патлумачыў ён сваю думку.

— магчыма, наш свет настолькі неверагодны, што мы гэтага нават не можам сабе ўявіць. я маю на ўвазе яго пабудову. можа, тыя сутнасці — проста збой у праграме. адна матрыца накладваецца на іншую. дзесьці ў рэальным свеце. дзе працуюць якія-небудзь працэсары. а геніяльнасць — тонкая мяжа. палоска, якая аддзяляе звышчалавека ад сапраўднага хворага. ад дэбіла. крэтына. ідыёта. і гэта таксама збой у праграме. ну, прыкладам, хіба можна лічыць апантанай д’яблам дзяўчыну. якая без адпаведнага навучання можа размаўляць на ста дваццаці мовах? ва ўсім іншым — яна нармальная. нават звычайная. збой. ойча, пэўна, павінен ведаць і пра старажытнага паслушніка мікіту. які ніколі не чытаў кніг, бо не валодаў граматай. але раптам пачаў цытаваць стары запавет. старонку за старонкай. наўрад ці д’ябал чытаў бы запавет. ад слова да слова. пэўна, гэта не па сілах ніводнаму з іх.

айцец віталь памаўчаў, а потым спытаў:

— а які рэальны свет ты маеш на ўвазе?

— магчыма, той, — адказаў на пытанне валовіч, — які ты лічыш боскім. але тут узнікае шмат пытанняў. чаму наш тутэйшы свет такі недасканалы? чаму ў ім столькі маньякаў. злодзеяў. забойцаў. псіхапатаў. урэшце, войнаў. галамораў. якой-небудзь іншай ідыёцкай «класавай барацьбы»? чаму гінуць лясы? рэкі? моры? чаму на месцы хлебных палеткаў вырошчваецца опіумны мак? чаму пануе ўсё дробнае. вартае жалю. вычварэнскае? хіба гэта такая боская задума?

і здзівіўся адказу святара.

— бамбіць усе плантацыі, бо дэмакратыя — гэта таксама хаос. вынішчаць злодзеяў. маньякаў. забойцаў. педафілаў.

— а як з геямі, — нявесела ўсміхнуўся валовіч. — іх жа цяпер ледзь не на руках носяць?

на што айцец віталь змрочна заўважыў:

— успомні пра садом і гамору. адказ — у боскім слове. а я — радыкал. таму і сяджу тут. у дробным прыходзе.

— значыць, — падвёў вынік валовіч, — сатанінскія сілы па-ранейшаму пануюць? і не дазваляюць ні бамбіць сябе. ні караць. ні судзіць. дык, чый гэта тады свет? няўвязка тут, ойча.

але айцец віталь рашуча абверг суразмоўцу.

— справа, на мой погляд, у тым, што наш свет перанаселены дэманамі і нельга верыць, што навука і рэлігія пачалі сутыкацца. у адзінай кропцы. гэта не так. я не веру ў тое, што навука павялічыць тэрмін жыцця. вылечыць хваробы. «зменшыць» адлегласці паміж людзьмі. з дапамогай сусветнага сеціва. і мабільных тэлефонаў. і дасць рады шматлікім заганам нашага розуму. хіба, не так званы прагрэс знічшае цівілізацыю? у першую чаргу? навука — сляпая і беспаспяховая. бо не вытрымала спакусаў славы. палітыкі. грошай. шмат д’ябальскіх сутнасцей, якія засялілі наш свет у апошнія гады, — былі выпешчаны навукоўцамі. і лепей чалавеку ведаць хіба што адно: боскае слова. і трымацца веры. бо пошукі нечага іншага — бессэнсоўныя. і не скончацца дабром. вера — гэта і ёсць паходня ў свеце, заселеным дэманамі.

на што валовіч тактоўна даводзіў:

— хрысціянства, магчыма, вычарпала сябе. як сусветная метафізічная мутацыя. хіба не сведкай таму — аднаполыя шлюбы? маўклівыя іх адабрэнні з боку касцёлаў. пратэстанцкіх цэркваў? а выпадкі вычварэнстваў у храмах? а множанне сектаў? можа, гэта і ёсць пачатак канца?

пасля чаго яны нейкі час маўчалі. а потым зноў гаварылі. іншым разам — горача і рэзка. і кожны знаходзіў усё больш доказаў. сваім думкам. але час ішоў. і валовіч пачаў збірацца. пайшоў і разбудзіў дзяўчыну. ад ежы тая адразу адмовілася. нават з агідай. але выпіла шмат вады. была вялая і пакорлівая. валовіч патэлефанаваў кірылу віжу. і сказаў што ўвечары яны вернуцца. а на пытанне пра вынік — не адказаў нічога.

айцец віталь зноў прапанаваў ім застацца. гаварыў, што паглядзіць на дзяўчыну раніцай. магчыма ёй зноў спатрэбіцца дапамога. валовіч адвёў яго ў бок. і спытаў:

— хіба ў цябе няма ўпэўненасці? у выніку?

на што святар патлумачыў:

— выпадак цяжкі. іншую сатанінскую сілу вельмі складана выгнаць і перасяліць. я рабіў усё, што мог.

валовіч кіўнуў. ён выцягнуў з сумкі канверт. і працягнуў суразмоўцу.

— гэта табе ад заказчыка. прасіў перадаць. што і раблю.

святар адмоўна пахітаў галавой.

— па-першае, я пакуль не ўпэўнены ў выніку. па-другое, грошы я не вазьму. няхай заказчык вышле праз пошту. пазней. калі палічыць патрэбным. на мясцовы дзіцячы садок. калі яму так карціць.

валовіч толькі пацiснуў плячыма. і праз кароткую паўзу спытаў:

— ну, а імя? ты даведаўся імя апанаваццеля?

і айцец віталь сцвярджальна кіўнуў:

— так. гэта «бесавіца». сутнасць асацыіруе сябе з жанчынай. адпаведнае і імя. жаночае. яна назвала праз сябе. нават прозвішча самае звычайнае.

валовіч спытаў:

— і што гэта за імя? як яно гучыць?

— цяпер не варта. ёсць свае прычыны. тое імя можа быць і хлуслівым. Адзінае, як я магу задаволіць тваю цікаўнасць — гэта напісаць імя і прозвішча на паперцы. а пачытаеш усё пасля. як вернешся. згода?

і валовіч згадзіўся. а паперку схаваў у кішэню. урэшце, гэта і няважна, — думаў ён. — што яму з таго імя? а праз некалькі хвілін увогуле запамятаваў пра сваю цікаўнасць і паперку.

святар айцец віталь падвёз абодвух сваіх візіцёраў да прыстанку. ехалі на яго танным аўто. старым. але дагледжаным. канстанцыя вяла драмала. валовіч хацеў працягнуць былую размову са святаром. але той гутарку не падтрымаў. і валовіч адразу зразумеў чаму. справа была ў дзяўчыне.

на станцыі валовіч купіў білеты. і развітаўся з айцом віталем. пад канец толькі не ўтрымаўся: спытаў у таго, ці задаволены ён сваім становішчам? тут, у правінцыйным гарадку. лічы, пасёлку. і святар адказаў яму. што нават не варта спакушаць сябе падобнымі думкамі. а прымаць жыццё такім. якое яно ёсць. кароткім варушэннем арганічнай субстанцыі. адпаведна боскай задумцы. бо памятайма пра час страшнага суда. магчыма, нават той суд даўно пачаўся. але ніхто гэтага не ведае. і ніхто тое не агучыць. але прыкметы таго бачныя на кожным кроку. і першая з іх — шал.

## 6

калі страшны суд, пра які казаў айцец віталь, даўно пачаўся. і на якім павінны раскрыцца таямніцы чалавечых душ. то менавіта чалавечыя душы прымуць на сябе першы ўдар. — меркаваў валовіч. — што і назіраецца ў сучасны момант. і справа, верагодна, нават не ў тым, што гінуць лясы і рэкі. моры і акіяны. і кіты тысячамі выкідваюцца на берагі. а птушкі захлынаюцца ў нафце. а ў тым, што незаўважна

з'явілася агульнае непаразуменне. бабілон. сапраўды, калі багі захацелі б пакараць сваіх малпачак. якія выйшлі з-пад кантролю. то ў першую чаргу пазбавілі б іх розуму. што і адбываецца. валовіч раптам прыгадаў пра тое, як шмат апантаных бачыў на вуліцах. у сціснутых кватэрах з тараканамі. ва ўстановах. на святах дураплясаў. на тэлеэкранах. і адагнаў непажаданую тугу. але, каб не было няправільнага, то як бы вызначылі тое, што правільна, падумаў ён.

цягнік, між тым, крануўся. адзінокая постаць айца віталя сплыла назад. яшчэ нейкі час валовіч бачыў яго праз шкло.

у вагоне электрычкі з карэлічаў было шмат людзей. але месцы валовічу і яго падапечнай знайшліся. у самай сярэдзіне. у канцы вагона ігралі на гітары. гікалі і падсвіствалі. некалькі маладых на падпітку. былі сярод іх і дзяўчаты. апранутыя як прастытуткі. яны часам пускаліся ў скокі. валовіч паспрабаваў адчыніць акно. але атлусцелыя кабеты за спінай адразу ўшчалі лямант. канстанцыя па-ранейшаму была вялая. яна схіліла галаў валовічу на плячо. ён вырашыў, што дзяўчына заснула. быццам і не было ранейшых усплёскаў істэрычнай зласлівасці. нават спробы забіць яго.

але жанчынам мы даруем амаль усё, — меркаваў валовіч. — яны маюць усё большы ўплыў у старым свеце. жывуць даўжэй за нас. выхоўваюць дзяцей так, як ім хочацца. іх усёдазволенасць разбурыла не адну дзяржаву.

валовіч, урэшце, прымусіў сябе адчуваць душэўную раўнавагу. і нават спакой. такое ў яго аказалася заданне. нічога дзіўнага. праз некалькі гадзін ён вернецца дадому. толькі здасць канстанцыю яе айчыму. і атрымае грошы. што дазволіць яму нейкі час знаходзіцца на плаву жыцця. магчыма, ён знойдзе сабе якую працу. потым. а можа і ў хуткім часе. як пашанцуе.

у вагон зайшлі кантралёры. у летняй форме чыгуначнікаў. і пачалі правяраць білеты. валовіч паказаў ім свае. іх прабілі кампосцерам. кантралёры пайшлі далей. і спыніліся перад купкай жаўтаскурых жанчын. у адказ на тое, каб прад'явіць квіткі, тыя запелі па-свойму. песня была доўгая. кантралёры чакалі. у іх быў дурнаваты выгляд. урэшце, яны пайшлі. так і не даўшы жанчынам рады. але тут жа накінуліся на хлопца. безбілетніка. хутчэй за ўсё — студэнта, — меркаваў валовіч. пачалі выпісваць яму штраф. вакол ажывіліся. прагна сачылі.

канстанцыя па-ранейшаму драмала. праўда, калі ён у чарговы раз кінуў на яе вокам, то злавіў на сабе яе імгненны позірк. але вырашыў, што памыляецца. бо вочы ў яе былі зноў заплюшчаныя. а на твары — спакой. тым не менш, выцягнуў з кішэні лёску. і накінуў адну пятлю на кісць рукі дзяўчыны. вельмі асцярожна. а другую — сабе.

у праходах пачалі бегаць мурзатыя і нахабныя дзеці.

— грошай, дай! — крычалі яны то аднаму, то другому пасажыру. і некаторыя давалі. дробныя паперкі. потым у вагон уціснуліся двое маладых і мажных мужчын з дурнаватымі тварамі. у аднаго ў руках быў гармонік. другі трымаў у руцэ невялікі бубен са званочкамі. а ў другой руцэ — фанерную скрыню са шчылінай пасярэдзіне. туды, як здагадаўся валовіч, пэўна, павінны былі кідаць грошы. Яны зайгралі на гармоні. і пачалі адбіваць рытм на бубне. а потым заспявалі па-расейску. слоў валовіч не падзяляў. бо яны адскоквалі ад свядомасці. і раствараліся ў пустаце.

— тирлитирлитирлили, тюрлирлениайлюли…

і, не спяшаючыся, рушылі па праходзе. падсоўваючы пасажырам скрыню са шчылінай. зрэдку ім туды таксама кідалі дробныя паперкі. яны параўняліся з месцам, дзе сядзелі валовіч і яго падапечная. і раптам дзяўчына абудзілася і ўхапіла аднаго з музыкаў за рукаў кашулі. той з гатоўнасцю спыніўся. нават пакінуў трэсці бубнам.

— можа, грошай пазычыш беднай жанчыне? — спытала яна. даволі ласкава.

таўсматы музыка сумеўся. навокал адразу сцішыліся і пачалі прыслухоўвацца.

— ты такі тупы? — зноў пацікавілася дзяўчына. і засунула руку ў скрыню. — інвалідзік? у калгасе цяжка працаваць?

бубнач вырваў скрыню ў яе з рук. бабы за спінай у валовіча ажывіліся. і падтакнулі:

— і праўда. такія маладыя. здаровыя. акурат кабаны. а яны па вагонах жабруюць.

музыкі памкнуліся рухацца далей. але канстанцыя не адпускала рукаў.

— чуеш ты, бюль-бюль-аглы, — спытала яна бубнача: — а хто з вас муж, а хто — жонка? вы ж, спадзяюся, традыцыйнай арыентацыі?

замінаючы канфлікт, валовіч улез у непажаданую гутарку. адчапіў руку дзяўчыны. ад бубнача. і прапанаваў першае, што прыйшло ў галаву:

— вы б спелі што-небудзь па-нашаму. не на чужой мове. збацаеце?

жанчына ў капялюшыку, якая сядзела насупраць, ля самага праходу, раптам абурылася:

— а чіво гэта для вас чужое?

спытала яна. з ноткамі істэрыі.

— чім вам наш рускій язык не нравітца?

бубнач з гарманістам зрушылі з месца. і пасунуліся далей. канстанцыя сказала ім услед.

— пакуль, педыкі! заходзьце яшчэ!

між тым бабы за спінай у валовіча не сунімаліся.

— ды якая розніца. — якая мова? мову ім давай! а што мне з той мовы? мовай не пад'ясі.

на што канстанцыя пакпіла па-езуіцку:

— мова — не вош. адразу не заб'ёш...

але яе не зразумелі. з розных бакоў пасыпаліся рэплікі. баба сталага веку, што сядзела праз праход, выкрыкнула:

— нацыяналісты! усё дашчэнту давялі!

на што ёй ва ўнісон за спінай азвалася яшчэ адна:

— да гарбач, сволач, разваліў!

валовіч звыкла адчуў, як вяртаецца туга. яму нават нясцерпна захацелася апынуцца ў цішыні. у сваёй, няхай і занядбанай, кватэрцы. у душэўным спакоі.

— ці спыніцца, урэшце, гэта рохканне? мову то хоць не чапайце. — сказаў ён. быццам нягучна. сам сабе. але ў паўзе яго нечакана пачулі. пасыпаліся заўвагі. іншыя даволі зласлівыя.

— хто как хаціт. тот так і гаварыт.

— жыць не дают. разумнікі.

— нацугі.

канстанцыя нібы ўзляцела:

— спыніцеся! — закрычала яна ўслед музыкам. якія ўжо выходзілі з вагона. — я ўспомніла! хачу песню! вось гэту:

— остановите музыку! скажу вам я! скажу вам я! с другим танцует девушка моя!

жанчына ў капялюшыку падтрымала:

— правільна! я ж помню. это бюль-бюль-оглы! харошая песня!

яе перабілі бабы за спінай у валовіча:

— эта не бюль-бюль-оглы. эта магомаев пел. муслім.

у размову нервова ўмяшалася яшчэ адна. праз праход:
— не муслім. вы няправільна гаворыце.
бабы абурыліся:
— чіво эта неправільна? так, хто эта пел?
тая, што сядзела праз праход, узвілася з месца.
— эта тыніс мягге пел! надо знать!
навокал загаманілі:
— какой ішчо мяге? эта не наш!
канстанцыя была ў захапленні:
— куды? куды вы цягу далі? — закрычала яна ў спіны музыкам. — мы хацім гэту песню!
але двое з гармонікам і бубнам ужо таропка выйшлі. у суседні вагон.
у канцы яго, за спінай, зноў зацвэнькалі на гітары. пачалі гікаць. затанчылі. але неўзабаве кінулі. ад неспакойнай суполкі аддзяліўся адзін. і няцвёрдай хадой скіраваў да валовіча. утаропіўшыся ў яго позіркам выцвілых. свіных вочак. з даўгімі, сальнымі валасамі. кірпаты нос быццам нешта вынюхваў.
канстанцыя між тым трыумфавала.
— правільна! і я люблю гэту песню! і нягучна запела. нізкім, не сваім голасам:
— тирлитирлитирлили, тюрлирлениайлюли…
і нечакана дадала. на вуха валовічу:
— а вось і марык ідзе. двайнік. клон. ха-ха.
хлопец пасвідраваў вачыма валовічаў твар. яго слінявы рот нядобра перакрывіла. на спалох бярэ, — вяла падумаў валовіч. — хоча вэрхалу. і хоча быць пабітым. комплекс наздрова. з гогалеўскай паэмы.
— а чё ты выламваешся, га? чё, па-нармальнаму гаварыць не можаш? — з націскам спытаў маладзён.
валовіч адцапіў лёску са сваёй рукі.
— а, ты менавіта да мяне? з базарам? — спытаў ён маладзёна. — і дадаў амаль лагодна: — дык я з табой свінню не пасвіў.
на што канстанцыя радасна зашаптала. вочы яе блішчэлі:
— свінню не пас. свінапас!
і сказала ўжо ўголас:
— а вось і «паганяла» — сві-на-пас!
маладзён пасунуўся на валовіча. намагаючыся ўхапіць рукастай даланёй. на гэта валовіч падняўся з месца і ўдарыў таго хукам злева. прыцэльна. у падбародак. і не спудлаваў. маладзён пачаў асядаць. на жанчыну ў капялюшыку. тая ўзвыла з перапуду. да маладзёна ўжо беглі. на дапамогу. замахалі рукамі. перашкаджаючы адно аднаму.
нехта заверашчаў:
— міліцыю! міліцыю выклікайце!
на сігнальную кнопку з адпаведнай шыльдай ужо торкалі пальцам.
над гэтым вэрхалам лунаў радасны голас канстанцыі віж.
— астанавіце музыку! скажу вам я!
урэшце ў вагон увайшоў міліцыянт. а за ім — другі: абодва — маладыя. вузкаплечыя. але яшчэ без прыкметных жыватоў. у аднаго з іх з-пад брыля фуражкі выторкваўся чуб. зусім, як у казакоў. перыяду імперыі, — падумаў валовіч. чубаты быў шараговец. а яго напарнік — з сяржанцкімі нашыўкамі.
— гэта ў вас тут бойка? што здарылася? — запытаўся сяржант.

яму адразу пачалі паказваць на сярэдзіну вагона. дзе яшчэ валтузіліся вакол валовіча. шараговец насунуў на чуб фуражку. і адхінуў тых, хто яму перашкаджаў.

— так. хто «цярпіла»? — спытаў ён. і паправіўся: — хто пацярпелы?

адразу загаманілі атлусцелыя жанчыны. за спінай у валовіча. узбуджана паказвалі на яго пальцамі. даводзілі, што менавіта ён усчаў бойку. — нацыяналіст. — даносілі яны. — руская мова яму не падабаецца. — такія і бомбы падкладаюць.

канстанцыя ўзняла руку. як вучаніца ў школе.

— я — пацярпелая. — кіўнула на п’яных маладзёнаў: — і вось яны. і яны, — паказаўшы на жанчын.

сяржант неахвотна ўзначаліў дазнанне. спытаў, агледзеўшы валовіча:

— і гэта ўсё ён?

канстанцыя віж скрушна кіўнула галавой. у знак згоды. і патлумачыла:

— я — патранажная медсястра. з псіхіятрычнай лякарні. куды яго, — яна паказала на валовіча, — мне трэба даставіць ужо сёння. як вы разумееце, ён не надта адэкватны. але цалкам транспартабельны. ён спачатку быў згодны ехаць на месяца лячэння. але зцяпер заўпарціўся. звязаў мяне лёскай. вось зірніце. ён жа здаровы мужык.

сяржант ссунуў фуражку на патыліцу.

— у вас ёсць дакументы? — спытаў ён у канстанцыі. — пакажыце. калі ласка.

валовіч на ўсё гэта ўсміхнуўся.

— не давайце ёй веры. яна жартуе. гэта я вязу яе ад экзарсіста.

шараговец красамоўна зірнуў на сяржанта.

— ад каго? — пацікавіўся ён спачувальна. і забраў з рук канстанцыі паперкі і пасведчанне. сяржант пераняў іх. і пачаў чытаць:

— так. сарока лада міхайлаўна. медсястра. рэспубліканская псіхіятрычная клініка.

валовіч перапыніў яго.

— ды не яна гэта. давайце разбяромся. бачыце — яна прыхварэла. я вязу яе дамоў.

сяржант прысеў насупраць. яму з гэтай нагоды вызваліла месца жанчына ў капялюшыку.

— эйш, нацуга праклят予. дык яшчэ і псіх. — пракаментавала тая ў адрас валовіча. — а з выгляду — прыстойны. адразу і не разгледзіш.

валовіч ужо з цяжкасцю стрымліваўся.

— выйшла бы ты прэч, клімактэрычка, — сказаў ён. але яшчэ даволі спакойна.

жанчына адразу завішчала. замахнулася на валовіча сумкай.

— забярыце яго! мы тут усе ў сведкі пойдзем!

сяржант вытрымаў невялікую паўзу. і звярнуўся да валовіча.

— прад’явіце вашы дакументы. грамадзянін.

валовіч пацягнуўся да сваёй рыбацкай сумкі. расшпіліў замок. і ўспомніў, што ў спешцы не браў нічога. дый навошта яму былі дакументы? каму прад’яўляць?

— у мяне іх няма. — сказаў ён.

шараговец, які, стоячы, зазірнуў у раскрытую сумку валовіча, спытаў:

— а чаму там у вас камень?

і паказаў на ружовага колеру, з украпінамі, брукаванец. які валовіч знайшоў раней на храмавым падворку. і адтуль прынёс айцу віталю.

— вы не супраць, калі я яго забяру? а то яшчэ ўжываце тут. у вагоне.

валовіч перадыхнуў. ён змусіў сябе гаварыць спакойна. і па справе.

— гэта яна мне падклала. — ён паказаў на дзяўчыну. — сцягнула яго ў экзар-

сіста. я б не раіў вам браць гэты камень у рукі. бо цалкам, магчыма, туды загнана «бесавіца». калі тая выйшла вось з яе. — ён зноў кіўнуў на канстанцыю. — а можа, і не вышла. можа, іх там дзве, а то і больш.

канстанцыя засмяялася. зрабіла адпаведны выраз на сваім прыгожым твары. кранула міліцыянта за руку.

— ну, вы самі чуеце. і каментарыі не патрэбны. добра, што вы з'явіліся. я б адна з ім не справілася. калі можаце, звяжыцеся па рацыі. няхай вышлюць з лякарні брыгаду. прама да цягніка. тым больш, што мы ўжо амаль у сталіцы.

шараговец пацікавіўся. пакуль сяржант раздумваў над прапановай.

— а чаму яго адразу з брыгадай не скіравалі? хто гэта вас адну прымусіў?

канстанцыя развяла рукамі. і патлумачыла:

— эканамічны крызіс, як кажуць. самі ведаеце. то паліва няма. то яшчэ чаго. вось і вязу. адна.

валовіч сказаў:

— не давайце ёй веры. яна — апантаная. вельмі хітрая. выкрутлівая. і дакументы скрала. і камень.

на што дзяўчына зрабіла каментарый:

— бачыце. у яго абвастрэнне. ён і тут усчаў бойку. а раней — забіў марыка.

сяржант узняў голаў. нібы ганчак.

— калі гэта — раней? і якога марыка?

валовіч толькі фыркнуў. але не надта весела.

— яна трызніць. няхай скажа, што я яшчэ зрабіў падкоп да стакгольма. ха-ха.

сяржант збольшага супакоіў жанчыну ў капялюшыку і пацікавіўся ў канстанцыі:

— вы кажаце пра забойства нейкага марыка? вы былі сведкай забойства?

дзяўчына на прозвішча канстанцыя віж адказала на гэта. пасля хвіліннай паўзы. што прозвішча марыка не ведае і сведкай забойства не была. валовіч ужо з цяжкасцю стрымліваў сябе. і толькі заўважыў:

— а вы праверце па сваіх зводках. і пабачыце. хто з нас хлусіць.

між тым, сяржант выйшаў у тамбур. і выцягнуў рацыю. валовіч убачыў праз шкло, як той гаварыў. але слоў, вядома, разабраць не мог.

напруга ў вагоне пакрысе зменшылася. за акном з'явіліся ўжо аднастайныя будынкі прыгарада. яшчэ праз некалькі хвілін канстанцыя ўсхапілася. са свайго месца. падняўся і валовіч.

— я пакуль у прыбіральню, — патлумачыла міліцыянтам дзяўчына. і выйшла з вагона. валовічу выйсці не дазволілі. міліцыянты.

«хуткая» са спецбрыгадай ужо чакала. на вакзале. нягледзячы на пратэсты, валовіча запіхнулі ў машыну. хапіліся медсястры сарокі лады. але яе нідзе не знайшлі. санітары, а іх было двое, выглядалі небяспечна. скуластыя. з пустымі раўнадушнымі вачыма. пэўна, студэнты з інстытута фізічнай культуры. — вырашыў валовіч. — гледзячы на іх набітыя касцяшкі рук. — падпрацоўваюць такім чынам. ну, разбяромся.

— ну, што, напалеон? — сказаў валовічу адзін з іх. абыякава: — паедзем на адпачынак?

валовіч паціснуў плячыма. бо па розуму трэба было стрымацца. і выцягнуў надалоннік. адзін з санітараў нечакана выхапіў яго. і сунуў сабе ў кішэню.

— вярні мабілу, — як мага ветліва папрасіў валовіч. — я пазваню жонцы.

і ў адказ пачуў:

— пазвоніш з вострава святой алены.

**7**

мы не прадбачым наколькі і ў чым таямніцы нашага свету. — меркаваў валовіч. — бо ўсё, да чаго мы тычымся — плынь. якая сцякае немаведама куды. змазаныя фотаздымкі. на якіх выяўлены цьмяныя сілуэты. а само жыццё неверагодна кароткае. і яго прайм-тайм скарочвае агульны тэрмін. яшчэ ў два разы. працэс можа паскарацца. бо, цалкам верагодна, што ў чалавецтве запушчаны механізм. генетычнага і сацыяльнага выроду. і душы людзей трымцяць пад нябачнымі ўдарамі лёсу. і ламаюцца ў адначас. хто кіне выклік гэтаму пагрозліваму наступу? адказу няма. мы нават не можам сфармуляваць праблему. ніхто. і айцец віталь таксама.

лекар быў даволі малады. быкаваты на выгляд. лысіна не псавала яго знешнасці. вочы хаваліся за акулярамі. у тонкай залатой аправе. масіўны залаты ланцужок абрамляў моцную шыю. ён моўчкі выслухаў валовіча. зрэдку кідаючы ў яго бок раўнадушны позірк. на просьбу адпусціць неадкладна — нічога не паабяцаў. нешта пісаў на лісце паперы. абмінуў і другую просьбу. патэлефанаваць дадому. абнадзеіў, што неўзабаве ўсё высветліцца. а вызваліць пакуль не мае права. бо міліцыянты аформілі паказанні жанчын. што вы — справакавалі бойку. паводзілі сябе неадэкватна. ну, і ўсё іншае.

— разбяромся, — паабяцаў лекар. даволі крывадушна.

пасля чаго знаёмы санітар адвёў валовіча ў палату. якая ўяўляла сабой асобны бокс. з закратаванымі вокнамі.

валовічу паказалі ложак у нішы. праверылі кішэні. на прадмет чаго-небудзь вострага. паведамілі, што неўзабаве пераапрануць у бальнічнае. але ён сказаў, што такога рабіць не варта. бо неўзабаве, можа, нават сёння, мусіць адсюль пайсці. але гэтую яго выказаную думку пакінулі без увагі.

бокс нагадваў малпачнік. хворыя таўкліся ўзад-уперад. без бачных патрэб. хоць тут існавала і своеасаблівая іерархія. як у тых жа малпаў, — адзначыў пра сябе валовіч. сядзеў за калодай карт і мясцовы аўтарытэт. распісаны сінім тату. у атачэнні некалькіх. яшчэ маладых асоб. таксама «распісаных». астатнія хворыя пужліва ціснуліся ад іх падалей. да сцен. праз паўгадзіны ад іх аддзяліліся двое. і з намерам падышлі да валовіча. у іх вачах чыталася хітрасць і жорсткасць. яму міжволі зноў успомніліся дзве малпы. з кніжкі «абстрагаванне ў жывёл». якія заманьвалі птушанят, а потым збівалі іх дротам. пра што чытала ўслых канстанцыя віж. у цягніку. валовіч пачаў успамінаць прозвішча медсястры. дакументы якой выкрала канстанцыя. і прад’явіла міліцыянтам. каб спытаць у тутэйшых. ці працуе ў гэтай клініцы тая медсястра. але яму не далі. «распісаныя» патрабавалі пазычыць ім яго вопратку. каб пры нагодзе схадзіць у горад. валовіч выслухаў і адмовіў. пастрашыўшы колькі хвілін, яны пасунуліся на яго з кулакамі. валовіч не стаў чакаць. а напаў на іх даволі рашуча. біў нагамі. што ён добра ўмеў рабіць. і што было для «распісаных» нечаканасцю. непажаданай. бо ён паклаў на падлогу абодвух. астатнія тры палезлі таксама. але на шум выклікалі санітараў. пакуль яны дайшлі да нішы, валовіч паклаў яшчэ аднаго. насуперак упэўненасці, што санітары пачнуць над ім паглум. але санітары (а гэта былі ўсё тыя ж самыя знаёмыя) пацікавіліся. дзе ён навучыўся лаў-кікам. і ці не даводзілася яму «стаяць у клетцы». валовіч адказаў ім. што навучыўся ў арміі. а на пытанне — дзе і кім служыў — паведаміў. што — «пры штабе». гумар яго быў ацэнены. — быць табе ў гэтай хаце старэйшым, — сказалі яны. — галоўным напалеонам.

валовіч падумаў. і прапанаваў вярнуць мабілу.

і яму прынеслі яго надалоннік. ужо амаль разраджаны. валовіч здолеў пазваніць жонцы ані. і сказаць, што крыху затрымаецца. але неўзабаве вернецца. а потым — заказчыку. і па-хуткаму расказаў. што адбылося. і, вядома, пра канстанцыю.

— я ж вам казаў! каб сцерагліся! — закрычаў той у слухаўку, — я папярэджваў!

але тут надалоннік разрадзіўся. тым не менш, валовіч быў задаволены і гэтым, няхай сціплым, вынікам. ён зноў вярнуўся да сваіх пытанняў. па-першае, даведацца пра медсястру. па-другое, знайсці канстанцыю. але на яго пытанне пра медсястру проста не адказалі. дакладней, праігнаравалі. а каб знайсці былую падапечную, трэба было выбрацца адсюль.

між тым, сутонела. валовіч палез у кішэні. і раптам знайшоў там складзеную ўдвая паперчыну. і ўспомніў, што на ёй прозвішча «бесавіцы». якое абяцаў і напісаў яму айцец віталь. валовіч разгарнуў лісток. і прачытаў:

— «сарока лада».

і пасля роздуму прыгадаў раптам радкі са скандынаўскага эпасу:

— не давярай
ні дзевы словам
ні жонцы гаворкам —
на коле
іх злеплена сэрца
каварства ў грудзях іх.

і, прааналізаваўшы, зразумеў. што імя, якога так дабіваўся айцец віталь, было ні імем «бесавіцы». а імем з дакументаў. скрадзеных раней канстанцыяй. у лякарні. тая падманула і святара. значыць, меркаваў валовіч, выгнання не адбылося. а гэта, магчыма, можа ўскосна сведчыць і пра тое, што, бадай, аніякіх д’ябальскіх сутнасцей не існуе. а прабіваецца ў наш свет раз-пораз звычайны збой. у праграме. але і пра гэта мы наўрад ці даведаемся. бо можам і далей толькі гадаць. не атрымліваючы аніякіх доказаў.

мы нават не ведаем. у чым сапраўдны сэнс суадносін знакамітага трохкутніка: адам — ева — змей. ці можна тады залічыць і еву ў апантаную д’ябальскай сутнасцю? бо са свяшчэннага пісання не зусім ясна — з кім менавіта. і дэ-факта — таямніча размаўляў адам у садзе? можа ўжо тады ён цьмяна прадчуваў жахлівыя наступствы будучых сексуальных рэвалюцый. нашэсця садамітаў. сусветных метафізічных мутацый. а можа, пра ўсё гэта яго і папярэджваў творца?

ноччу валовіч амаль не спаў. раніцай запатрабаваў адвесці яго да лекара. адмовіўся ад ежы. але просьбу яго пакінулі без увагі. дзверы на ўваход і на выхад былі без ручак. як ён заўважыў, медыкусы іх адчынялі маючы кожны свой ключ. прайшоў дзень. і яшчэ адна ноч. адзін са знаёмых санітараў даўно змяніўся. той, хто яго замяніў, быў даволі нягеглы. і валовіч задумаў уцёкі. чакаў зручнага моманту. які, урэшце, і наступіў. нягеглы санітар зайшоў у бокс. па нейкіх сваіх справах. валовіч паклікаў яго:

— хадзіце сюды! ёсць пытанне!

той падышоў усутыч. і схіліў да валовіча, які сядзеў на ложку, незадаволены твар. гэта быў, на выгляд, вясковы мужычок. яшчэ малады. які аддаў перавагу працы ў калгасе. на карысць лякарні. валовіч кульнуў яго долу. запіхнуў у рот ручнік. другім звязаў ногі. трэці паслужліва перадалі яму «распісаныя». якія па-звычцы гулялі ў карты. але з такой нагоды, адразу кінулі. валовіч звязаў санітару і рукі. папярэдне сцягнуўшы з таго халат. і каўпак. за ім з жахам назіралі. валовіч апрануў халат, насунуў каўпак. і знайшоў у кішэні ключ ад дзвярэй. пасля чаго ўпэўнена выйшаў

вонкі. спусціўся па лесвіцы. і апынуўся на падворку. дзе бадзяліся хворыя з іншых карпусоў. прабягалі медсёстры. ніхто не звяртаў на яго ўвагі. і валовіч скіраваў да брамы. якая была расчынена. за ёй зняў з сябе халат і каўпак. усё кінуў у кусты. і рушыў да аўтобуснага прыпынку.

нейкі час ён стаяў. у чаканні аўтобуса. а потым стома ўзяла сваё. і ён сеў на лаўку. купка жанчын побач абмяркоўвала нешта сваё. «ду-ду-ду-бу-бу-бу», — аднастайна гудзелі іх галасы. валовіч заплюшчыў вочы. слабы ветрык ціха абвяваў яму твар.

— бон жур, таварыш напалеон!

жорсткая рука лягла яму на плячо. трое санітараў атачылі яго. з усіх бакоў. насцярожана пазіралі. адзін — з тых самых старых знаёмых. з набітымі касцяшкамі рук. — пэўна, займаецца ўсходнімі адзінаборствамі». — падумаў валовіч

— і вам таго ж, — адказаў ён.

санітары злосна пераззірнуліся. акрамя студэнта-адзінаборцы. той па-змоўніцку ўсміхнуўся валовічу. і весела прапанаваў:

— пайшлі, таварыш напалеон. у хату!

**8**

прайшлі суткі. а потым яшчэ адны. пасля чаго валовіча нечакана павялі у кабінет лекара. той на гэты раз быў без халата. у лёгкадумнай тэнісцы. лысіна яго набыла меднае адценне. — пэўна, ад сонца, — вяла падумаў валовіч. лекар нечакана працягнуў яму руку. і прапанаваў сесці.

— сядайце! мяне завуць васіль сцяпанавіч. — сказаў ён. кіўнуўшы на крэсла. і працягнуў: — ну вы і напракудзілі. у маім аддзяленні ўпершыню такое. праўда, і я тут не так ужо і даўно...

валовіч перапыніў ягоны маналог:

— вы абяцалі разабрацца, — заўважыў ён. — і павінны зразумець, што я ў вас — выпадкова. а ў мяне — сям'я.

лекар згодна кіўнуў:

— вядома. у нас тут усе — выпадкова. і я — таксама. ха-ха. але ж, бліжэй да цела. мы не запамятавалі пра вас. анягож. каб я быў стары. і непаваротлівы, то пакінуў бы ўсё, як ёсць. каб з часам само рассмакталася. толькі я не забыўся. «прабіў» вашую асобу з усіх бакоў.

і нечакана прапанаваў:

— вы, можа, згадзіцеся папрацаваць у нас? у вас вышэйшая адукацыя. жывяце ў правінцыі. там працы не маеце. а тут асядзеце ў сталіцы. вырашым справу з жыллём. адразу. залічым вас старэйшым над санітарамі. заўхозам. як перспектыва? што, не чакалі кулю? людзей, ведаеце, не хапае. а хворых — самі бачыце. эшалонамі вязуць.

валовіч вытрымаў паўзу. і адказаў:

— варта «параіцца», як кажуць, з падушкай. і з жонкай. а ўвогуле — нечакана.

на што лекар згодна заківаў. — вядома, — гаварыў ён, — варта параіцца. абдумаць прапанову з усіх бакоў. з налёту такія справы не вырашаюцца. папрацуеце па кантракце. гады два-тры. можна і на адзін спачатку. а там — вольнаму воля. хіба знойдзецца што лепшае.

— дык я магу ехаць? дамоў?

лекар на гэта памяркоўна ўсміхнуўся:

— не панікуйце, — сказаў ён валовічу. — усё будзе ў тэму. вы хутка вернецеся дамоў. сёння. я вам нават на білет пазычу. грошай пры сабе ў вас цяпер — нуль? — хіба не так? але ж, пайшлі.

і ён узняўся з-за стала. аказаўся высокім. моцнага целаскладу. — пэўна, займаецца сабой. можа, бодыбілдынгам ці яшчэ чым, — падумаў валовіч. і таксама падняўся з крэсла.

яны спусціліся па лесвіцы. і выйшлі са «свайго» корпуса. ніхто іх не суправаджаў. валовіч крыху супакоіўся. прайшлі па бетонных дарожках. якія падмяталі некалькі хворых. пасля чаго проста сцежкамі. але таксама пратаптанымі. ішлі не вельмі доўга. пакуль урэшце не апынуліся перад чатырохпавярховым будынкам. цагляныя сцены якога былі брудна-шэрага колеру. вокны — у кратах. дзверы — таксама закратаваныя. лекар націснуў кнопку на дзвярах. ім адчыніў дзяжурны. валовіч занепакоіўся.

— вам што — мала майго слова? — спытаў лекар. заўважыўшы яго стан. — дык больш у мяне гарантый няма.

пасля чаго яны падняліся наверх. валовіч пралічыў. што паверх апошні. ішлі па калідоры. ім адчынялі. з-за дзвярэй часам даносіліся бязладныя крыкі. лекар з валовічам прайшлі далей. і завярнулі ў нішу. тут таксама чуліся галасы. дужая маладая медсястра кіўнула лекару.

— а гэта хто, сцяпанавіч? — спытала яна. паказаўшы на валовіча.

на што лекар адказаў:

— ён са мной. — і дадаў дзелавіта: — сямнаццатую адшпунтуй.

і медсястра правяла іх. за некалькі крокаў. і адчыніла дзверы. у сямнаццатую палату. лекар шырокай покіўкай запрасіў валовіча. але той адмовіўся.

— вы — першым, — сказаў ён. — а я — лепш тут пачакаю.

лекар усміхнуўся. і пацiснуў плячыма. і яны ўвайшлі. валовіч убачыў цесны пакойчык. які больш нагадваў турэмную камеру. такія звычайна паказваюць у дэтэктыўных стужках. ракавіна. кран. ложак. на якім спінай да іх прыгадвалася чыясьці постаць. на гукі адчыненых дзвярэй постаць ускінулася з ложка.

дзяўчына на прозвішча канстанцыя віж стаяла перад імі. бальнічны халат і заблытаныя валасы амаль не сапсавалі яе знешняга выгляду.

— андруш, гэта ты? ці мне прыснілася?

валовіч быў здзіўлены. але адразу «злавіў» і падтрымаў яе блазнаваты тон.

— не, не прыснілася, — сказаў ён. — толькі цяпер я — напалеон. дзякуючы табе.

канстанцыя захоплена пляснула ў далоні.

— брава! брава! дык і цябе ўсё-такі ўпакавалі ў «дурку».

але ў іх гутарку ўмяшаўся лекар.

— значыць, гэта тая самая жанчына. з якой вы разам ехалі ў цягніку? — спытаў ён у валовіча.

— не адмаўляю, — пагадзіўся той.

лекар задаволена хмыкнуў:

— што і трэба было даказаць. а цяпер — вернемся да нашых спраў. можаце развітацца з вашай знаёмай.

канстанцыя занервавалася. слёзы раптам выступілі на яе вачах.

— андруш, — запыталася яна. — а мы яшчэ з'ездзім з табой. да айца віталя? выганяць чорціка? — і дадала. ужо з адчаем:

— мы пабачымся? даруй за ўсё, калі здолееш.

на што валовіч, ужо ў дзвярах, паабяцаў:

— вядома, з'ездзім. і выганім. аднаго ж мы выгналі. ты толькі не сумуй.

назад ішлі моўчкі. зноў падняліся ў кабінет. дзе лекар адразу пачаў тлумачыць яму сэнс апошніх падзей.

— справа ў тым, — гаварыў ён, — што экзарцызм, на яго думку, своеасаблівыя прымхі. а калі ёсць у гэтым які эфект, то хуткаплынны. і нязначны. урэшце, вы самі ўпэўніліся. калі вазілі сваю падапечную да святара. хіба не так? многія вераць у тое, што ў чалавеку можа пасяліцца д'ябал. і сеансы выгнання шырока практыкуюцца. наносячы вялікую шкоду людзям. у якіх ужо і без гэтага расхістаная псіхіка. у старажытны час вашую падапечную аб'явілі б ведзьмай. і спалілі б на вогнішчы. а, між тым, карані псіхапатыі — у нас саміх. фізічныя недахопы. складанасці ў сям'і, гвалт. з вашай дзяўчынай, дарэчы, не ўсё проста. бо ў дзяцінстве яна была згвалтавана. жорстка. некалькімі мяшанцамі. псіхічная траўма дае рэцыдывы. і, верагодна, будзе даваць і далей. і запытаўся:

— мяне цікавіць, як яна паводзіла сябе ў дарозе. гэта важна, бо мне трэба адпісваць паперу следакам. тры дні таму яна забіла чалавека. адзін малады «ўдалец» пасадзіў яе ў машыну. прыняў за прастытутку. а можа, і не. сынок гандляра-армяніна. з багатых. захацеў аральнага сексу. а ў бардачку ляжала адвёртка. чым яна імгненна і скарысталася. трапіла ў сцёгнавую артэрыю. у такіх выпадках да лятальнага зыходу максімум дзве хвіліны. следакоў цікавіць, ці быў такі факт. альбо спроба? яна ж ужо праходзіла тут псіхатэрапію раней. адна справа — адлекавацца тут, у нас. а іншая — трапіць на зону.

валовіч уважліва выслухаў.

— мне б не хацелася, — урэшце сказаў ён, — каб дзяўчына пайшла па зоне. там яна не выжыве. а тут усё-такі ёсць надзея. хіба не бывае выпадкаў. калі вылечваюцца самыя невылечныя хваробы? хіба не можа яна, канстанцыя, сама пазбавіцца ад свайго д'ябла?

лекар падумаў і пагадзіўся.

— з нашай дапамогай. псіхастэнік можа аддзяліць свае некаторыя заганныя пачуцці. ад сваёй асобы. яны становяцца для яго чужымі. свядомасць расчапляецца. ад яе аддзяляюцца псіхічныя элементы. якія аб'ядноўваюцца. і пачынаюць жыць сваім жыццём. узнікае другое — я — з ім мы і змагаемся.

і валовіч нечакана для сябе папрасіў у канцы іх гутаркі:

— калі гэта магчыма, перавядзіце яе ў агульную палату. мяркую, там ёй будзе лепш.

## 9

цягнік адыходзіў. валовіч паспеў заняць месца ля акна. кінуў пад ногі сумку. і глядзеў, як растае, сплываючы, мегаполіс. усё ніжэй становяцца будынкі. іх увогуле меншае. дрэў — наадварот. большае з кожным кіламетрам. потым глядзеў, як на сонца набегла хмара. і пралілася кароткім, моцным дажджом. пасля чаго зноў наступіла спёка.

калі чалавек ідзе прама — яго шлях крывы, — меркаваў валовіч. — але ж і ў рабстве можна быць свабодным. варта толькі не зазіраць занадта ў сябе. бо менавіта там — пекла. а яно засмоктвае. хіба канстанцыю віж не прымусілі. бесперапынна зазіраць у сябе? але, ці менавіта д'ябал увайшоў у яе. у працэсе гэтага самасузіран-

ня? — раздумваў далей валовіч. бо хрэстаматыйныя спасылкі на святое пісанне. выказаныя айцом віталем. не бяссрэчныя. д'яблы, выгнаныя з апантанага, гавораць там, папрасіліся пасяліцца ў свінняў. але навошта? ведалі ж яны, што свінні кінуцца ў мора? так. бо кожны з іх ведае больш, чым мы ўсе разам. але свядомасць без свайго носьбіта — немагчымая. як і камп'ютар без працэсара. дык, калі ў д'ябла ўжо ёсць свой носьбіт свядомасці, то навошта яму мяняць яго на чалавечы. тым больш, на свіны? пэўна, справа ў розуме чалавека. дакладней, у яго здольнасці абстрагаваць. жывёлы не абстрагуюць. толькі псіхіка чалавека трымціць і хістаецца. і не вытрымлівае націску сіл жыцця.

у вагоне пачалося звыклае варушэнне. пацягнуліся адзін за адным убогія. і тыя, хто імітаваў пад іх. адны шлі моўчкі. іншыя прасілі грошай жаласнымі галасамі. некаторыя з іх дэманстравалі калецтвы. таропка прабег мітуслівы гандляр. кніжкамі па дыятоніцы і сайенталогіі. за ім праз вагон прайшоў прадавец газет. у асноўным — з анекдотамі. альбо красвордамі. загікалі, загарлалі маладыя тупалобцы. уключыўшы магнітафон. адзін з іх пачаў танчыць. імітуючы вядомага дурапляса. вокны былі звыкла зачынены.

валовіч пацягнуўся адчыніць акно. але і цяпер яно аказалася заблакіраваным. неўзабаве нехта пачаў размаўляць на поўны голас. гутарка разгаралася. — а чё вам не нравітца? чё не хапае? а мне дык хапае, — чуў валовіч звыклае. пачаліся крыкі, шум, — успомніў ён раптам платонаўскае выказванне, — спараджае ў ёлупа ўяўленне аб моцы.

дзверы ў пачатку вагона між тым з'ехалі на бок. і ў праёме з'явіліся дзве знаёмыя постаці. музыкаў з гармонікам, бубнам і скрыняй для грошай. па-ранейшаму дурнаватыя іх твары выяўлялі пустату. адзін адразу затрос бубнам. званочкі зазвінелі. другі расцягнуў гармонік. і валовіч пачуў ранейшае. не ўдумваючыся ў сэнс і словы:

— тирлитирлитирлили, тюрлирлениайлюли…

урэшце, людзі і павінны быць такімі. — падумаў ён. — нездарма ж ясперс лічыў нармальнымі асобамі напаўдэбілаў. але ж мае рацыю і айцец віталь. які сцвярджае адпаведна святому пісанню. што надыдзе час, калі ўсе ператворацца ў вар'ятаў. і таго адзінага, які не звар'яцеў, тыя вар'яты і аб'явяць шаленцам.

пад грукат колаў валовіч раптам задрамаў. прыхінуўшыся галавой да сцяны над сядзеннем. у кароткім і неспакойным сваім сне яму чамусьці здалася канстанцыя. ён вёў яе за сабой. на рыбацкай лёсцы. па пустых вагонах цягніка. які рухаўся кудысьці ў неакрэсленую далечыню. адчуваючы да дзяўчыны нязвыклае і пранізлівае пачуццё пяшчоты.

ачуняў валовіч ад таго, што яго трэслі кантралёры. і падумаў пра сябе. што даўно няголены. у памятай вопратцы. ён нагадвае ім звычайнага бадзягу. якія ў любую пару года вандруюць па цягніках. шукаючы ў іх часовы прытулак.

валовіч прад'явіў кантралёрам білет. і тыя пайшлі далей. за акном плыў зялёны колер лесу. палян, пароcлых пырнікам. дзьмухаўцамі. і канюшынай. кустоўямі акацыі і іргі.

нага ў яго зашэрхла. валовіч перамяніў позу. і ўпёрся ступнёй у сумку. на падлозе. адчуўшы жорсткую паверхню брукаванца. таго самага, што ўпарта супраўваджаў яго. ад карэлічаў. і падумаў, што як вернецца, то адразу кіне камень у якое балота.

Эмануіл ЮФЭ

*Да 125-годдзя са дня нараджэння*

# НЕВЯДОМЫ ЗМІЦЕР ЖЫЛУНОВІЧ

***Пра жыццё і дзейнасць гэтага чалавека напісаны сотні газетных і часопісных артыкулаў, дзве кнігі, у тым ліку і дакументальная аповесць. На першы погляд здаецца, што мы ведаем пра яго ўсё. Але гэта толькі здаецца.***

***Некаторыя старонкі жыцця і дзейнасці Зміцера Жылуновіча — Цішкі Гартнага — нават сёння застаюцца невядомымі ці малавядомымі. Раскрыць іх нам дапамогуць беларускія і расійскія архівы, успаміны знаёмцаў, а таксама інтэрв'ю аўтара гэтых радкоў з былымі саратнікамі пісьменніка і дачкой Галінай.***

## ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ

Дзіўна, але ў шэрагу даволі аўтарытэтных афіцыйных выданняў пра Жылуновіча дапушчаны памылкі і пададзены недакладныя біяграфічныя звесткі.

Так, на старонцы 382 трэцяга тома «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (ЭГБ) (Мінск, 1996) адзначаецца, што яго бацькі былі беззямельнымі сялянамі. У іншых афіцыйных выданнях сцвярджаецца, што Зміцер Жылуновіч быў сынам рабочага. У сапраўднасці яго бацька Хведар Жылуновіч спачатку быў беззямельным селянінам, пасля стаў чорнарабочым, а потым працаваў гарбаром.

У гэтым жа выданні на старонках 382—383 падкрэсліваецца, што ў 1904 годзе Зміцер Жылуновіч уступіў у Капыльскую раённую арганізацыю Паўночна-Заходняга камітэта. Быў членам бюро камітэта, кіраўніком культурна-асветнага аддзела. Але з 1832 года Капыль быў прыватнаўладальніцкім мястэчкам князя Вітгенштэйна і адносіўся да Слуцкага павета, і толькі з ліпеня 1924 года стаў раённым цэнтрам. У 1903 годзе ў гэтым мястэчку была створана група, а ў 1905 годзе — арганізацыя РСДРП. Таму 16-гадовы Зміцер у 1904 годзе ўступіў у групу РСДРП, а не ў Капыльскую раённую арганізацыю. І толькі праз два гады стаў членам партыйнага камітэта сацыял-дэмакратычнай арганізацыі, адказным за культурна-асветніцкую работу сярод моладзі.

У 1990 годзе ў Мінску ў выдавецтве «Университетское» пад грыфам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі пад рэдакцыяй яго дырэктара — доктара гістарычных навук, прафесара Р. П. Платонава выйшла кніга «Страницы истории Компартии Белоруссии: суждения, аргументы, факты». На старонцы 338 гэтага выдання сцвярджаецца, што ў 1923 годзе Змітраку Хведаравічу Жылуновічу было прысвоена званне народнага пісьменніка БССР.

У гэтым сказе дапушчаны дзве памылкі.

Па-першае, справа ў тым, што ў 1923-м, калі пралетарскі пісьменнік, член ЦВК БССР Цішка Гартны ўрачыста адзначаў 15-годдзе сваёй творчай дзейнасці, калегія Народнага камісарыята асветы Беларусі прапанавала «даць вядомаму беларускаму песьняру і палітычнаму дзеячу Зьмітруку Жылуновічу» званне народнага паэта (а не народнага пісьменніка. — **Э. І.**). Беларусі.

Па-другое, у тым жа 1923 годзе пленум ЦК Кампартыі Беларусі прыняў пастанову аб прысваенні З. Х. Жылуновічу звання народнага паэта Беларусі, аднак па невысветленых абставінах гэта пастанова не была выканана. Даследчыкі называюць розныя прычыны, у тым ліку і шумнае пісьменніцкае застолле ў сувязі з 15-годдзем творчай дзейнасці Цішкі Гартнага. Гаворка ідзе пра банкет, які арганізавала кіраўніцтва Інбелкульта ў Саўнаркамаўскай сталоўцы.

У 2002 годзе ў Мінску выйшла велізарная манаграфія (688 старонак) беларускага вучонага-філосафа і гісторыка, кандыдата філасофскіх навук Т. С. Процькі «Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917—1941 гг.)». На старонцы 658 гэтай кнігі ў кароткай біяграфічнай даведцы «Жилунович Дмитрий Федорович» напісана: «В октябре 1936 г. арестован… В апреле 1936 г. в больнице покончил жизнь самоубийством. Реабилитирован в 1954 г.».

У кожным сказе тут ёсць памылкі. У першым — адна, у другім — адна ці нават дзве, у трэцім — адна, але траістая.

Па-першае, Жылуновіч быў арыштаваны не ў кастрычніку, а ў лістападзе 1936 года. Адны крыніцы адзначаюць, што гэта адбылося 15 лістапада, а другія — 16 лістапада.

Па-другое, Зміцера Хведаравіча не стала 11 красавіка 1937 года, а не ў красавіку 1936 года (тут, хутчэй за ўсё, дапушчана памылка друку. — **Э. І.**). Што датычыць прычыны яго смерці, то існуюць дзве версіі.

Першая — афіцыйная: Жылуновіч памёр ад гангрэны лёгкіх. Другую можна сфармуляваць наступным чынам: ёсць звесткі, што ён пакончыў жыццё самагубствам.

Цяпер наконт рэабілітацыі. Яна як быццам прайшла тры этапы.

16 кастрычніка (а не 15 кастрычніка, як падае ЭГБ. — **Э. І.**) 1955 года крымінальная справа па абвінавачванні Жылуновіча пастановай Пракуратуры БССР была спынена з-за недаказаннасці складу злачынства. 10 верасня 1987 года Зміцер Хведаравіч быў поўнасцю рэабілітаваны, у 1988 годзе адноўлены (пасмяротна) у КПСС. У рашэнні Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК КПБ гаварылася: «Узнавіць Жылуновіча Дзмітрыя Фёдаравіча членам КПСС з кастрычніка 1988 г. (пасмяротна)».

## ЯК З БЕЛАРУССЮ?

Бадай, нікому з беларускіх рэвалюцыянераў і будучых пісьменнікаў не прыйшлося так шмат вандраваць у пошуках працы ў 1909—1913 гады. Працуючы гарбаром, ён бываў у многіх гарадах Беларусі, Украіны, Латвіі і Літвы. Мінск, Бабруйск, Смаргонь, Магілёў, Палтава, Вількамір, Рыга…

Большасць даследчыкаў жыцця і дзейнасці Жылуновіча замоўчваюць той факт, што, жывучы з 1913 года ў Пецярбургу і працуючы фрэзероўшчыкам завода «Вулкан», будучы членам культурна-асветнай суполкі «Веды», «Адукацыя», міжраённай арганізацыі меншавікоў, якая існавала пры заводзе «Святлана», Зміцер Хведаравіч пастаянна падтрымліваў сувязь з рабочымі-беларусамі Пуцілаўскага, Балтыйскага і іншых заводаў сталіцы Расійскай імперыі.

Амаль нічога не гаворыцца пра актыўны ўдзел Жылуновіча ў Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года. Між іншым, адзін з лідараў Беларускай сацыялістычнай грамады, ён разам з рабочымі петраградскіх заводаў атакаваў праабражэнскія казармы, прымаў удзел у захопе гаража на Вялікай Пасадскай, дапамагаў лавіць пераапранутых паліцэйскіх на Неўскім праспекце.

У большасці выданняў замоўчваецца той факт, што ў сакавіку 1917 года сход беларусаў, якія жылі ў Петраградзе, выбраў Жылуновіча дэпутатам Петраградскага савета.

У артыкуле ЭГБ, на жаль, не ўказваецца, што ў кастрычніку 1917 года па ініцыятыве Жылуновіча адбыўся раскол Беларускай сацыялістычнай грамады. Левая яе частка стала супрацоўнічаць з бальшавікамі, а пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі перайшла на пазіцыі Савецкай улады.

14 лістапада 1918 года Прэсненскі раённы камітэт зацвердзіў Маскоўскую беларускую секцыю РКП(б). Бюро, якое ўзначаліў Жылуновіч, унесла ажыўленне ў дзейнасць Беларускага нацыянальнага камітэта, створанага яшчэ ў сакавіку 1917 года. Секцыя ўзяла на сябе функцыю аб’яднання беларускіх арганізацый, што ўзніклі на тэрыторыі Расіі і Беларусі. Хутка Беларуская камуністычная секцыя была створана ў Мінску. Друкаваным органам Белнацкама і секцый стала першая савецкая газета на беларускай мове «Дзянніца» пад рэдакцыяй Жылуновіча.

Між тым канфлікт паміж беларускімі камуністычнымі секцыямі і кіраўніцтвам Заходняй вобласці РСФСР і Паўночна-Заходняга абкама РКП(б) (у асобе Мяснікова і Кнорына) абвастраўся. 19 лістапада 1918 года «Дзянніца» апублікавала артыкул пад назвай «Як жа з Беларуссю?». Акрамя абвінавачванняў «камісара па нацыянальным справам»

(гаворка ідзе пра Сталіна. — **Э. І.**) і «таварышаў з Заходняй Камуны» (Мяснікова, Кнорына, Калмановіча) у пагардлівых адносінах да самавызначэння Беларусі, у артыкуле ўзнімалася пытанне пра неадкладнасць выпрацоўкі праекта яе нацыянальна-дзяржаўнага ўладкавання. Аўтар матэрыялу Жылуновіч патрабаваў «рашуча паставіць пытанне аб лёсе Беларусі».

Праз восем дён, 27 лістапада, Маскоўскі камітэт беларускіх секцый РКП(б) па ініцыятыве Зміцера Хведаравіча выказаўся на пасяджэнні за абвяшчэнне беларускай савецкай дзяржаўнасці. Пра сваю пазіцыю дэлегацыя ў складзе Д. Чарнушэвіча, В. Дылы і І. Няцецкага праінфармавала Сталіна, які прыняў іх у сярэдзіне снежня 1918 года.

Праз дзесяць гадоў у адным са сваіх артыкулаў Жылуновіч успамінаў: «Паведамленне пра гэту гутарку, зробленае на агульным сходзе маскоўскай секцыі 15 снежня тт. Дылам, Чарнушэвічам і Няцэцкім, зрабіла вялікае ўражанне на ўсіх яго ўдзельнікаў. Можна было бачыць, што праца камітэту секцыі па скліканню з'езду беларускіх секцый зусім не ўхіляецца ад агульнай палітыкі партыі па нацыянальным пытанні» [1, с. 82].

21—23 снежня 1918 года ў Маскве адбылася канферэнцыя беларускіх камуністычных секцый, якая прыняла наступнае рашэнне: «Усе гэтыя паказальныя факты (меліся на ўвазе выказванні нарады сялянскіх дэпутатаў Мінскай губерніі за самавызначэнне беларускага і літоўскага народаў і падтрымка гэтай ініцыятывы Мінскім губернскім рэвалюцыйным камітэтам, які лічыў, што ўмовы барацьбы за Савецкую ўладу патрабуюць абвяшчэння нацыянальнай дзяржавы ў той форме, якая была прапанавана ў верасні 1918 года Белнацкамам на III з'ездзе Саветаў Заходняй вобласці. — **Э. І.**) уладна вымагаюць стварэння, у шчыльнейшым кантакце з вялікаю Расійскаю сацыялістычнаю федэрацыйнаю рэспублікай, моцнага беларуска-сялянскага ўраду, выяўніка беларускай беднаты» [1, с. 90].

Канферэнцыя выбрала Цэнтральнае бюро беларускіх секцый у складзе З. Жылуновіча (старшыня), А. Чарвякова, Ф. Балбекі, І. Няцэцкага, М. Дракона, В. Дылы.

У дзень закрыцця канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б) Зміцер Хведаравіч з боллю даведаўся, што УЦВК прыняў пастанову «Аб абласных аб'яднаннях». Паводле яго па хадайніцтве Паўночна-Заходняга абкама партыі і Аблвыканкамзаха, падтрыманым НКУС РСФСР, Заходняя вобласць як тэрытарыяльна-адміністрацыйная адзінка РСФСР была зацверджана ў складзе Смаленскай, Магілёўскай, Віцебскай, Мінскай і Гродзенскай абласцей. Дадзенае рашэнне, зразумела, не магло задаволіць кіраўнікоў Белнацкама і беларускіх секцый РКП(б). Яны настойліва выступалі за стварэнне незалежнай Беларускай Савецкай Рэспублікі.

Думка аб прававым статусе Беларусі ў Крамлі змянілася літаральна за адзін дзень. Рашэнне ў ЦК РКП(б) пра абвяшчэнне Беларускай рэспублікі было прынята 24 снежня 1918 года. На жаль, тэкст дакумента ЦК РКП(б) з рашэннем пра стварэнне беларускага ўрада да сённяшняга часу не знойдзены.

Гэта рашэнне стала вядома Белнацкаму 25 снежня 1918 года. Менавіта ў той жа дзень Сталін запрасіў да сябе Жылуновіча і іншых адказных работнікаў і «ўзняў пытанне аб дзяржаўным уладкаванні Беларусі». Гэта быў адказ Белнацкаму на артыкул «Як жа з Беларуссю?» у газеце «Дзянніца».

29 снежня 1918 года Сталін тэлеграфаў Мяснікову ў Смаленск:

«Сегодня выезжают в Смоленск белорусы. Везут с собой Манифест. Просьба ЦК партии и Ленина принять их как младших братьев...»[2, л. 4].

Кіраўнікі Белнацкама і беларускіх секцый РКП(б) змаглі выехаць з Масквы ў Смаленск не 29 снежня, а на дзень пазней. Яны везлі праект Маніфеста і пісьмо Сталіна. У апошнім, хутчэй за ўсё, змяшчаўся персанальны спіс будучага ўрада ССРБ. Нягледзячы на тое, што быў узгоднены яго колькасны і персанальны склад, па прыездзе ў Смаленск у Жылуновіча і яго групы пачаліся спрэчкі.

Справа ў тым, што Зміцер Хведаравіч лічыў, што Цэнтральнае бюро КП(б)Б, як і ўрад, павінна быць створана на парытэтных пачатках. І ў гэтым ён не меў рацыі. У выніку ў склад ЦБ з 15 членаў бюро было выбрана толькі два прадстаўнікі беларускіх камуністычных секцый — З. Х. Жылуновіч і І. В. Лагун.

## 19 лістапада 1918 года «Дзянніца» апублікавала артыкул пад назвай «Як жа з Беларуссю?». Аўтар матэрыялу Жылуновіч патрабаваў «рашуча паставіць пытанне аб лёсе Беларусі»

Сталін нагадаў, што «ўрад будзе знаходзіцца ў прамой сувязі з ЦК і падпарадкоўвацца яму». Цікава, што Сталін і Мяснікоў ужывалі тэрмін «падпарадкаванне». Быццам бы ЦК РКП(б) і ЦБ Кампартыі Беларусі з'яўляліся вышэйшымі органамі дзяржаўнай улады.

Можна меркаваць, што Жылуновіч, лічачы, што ўшчымлены правы беларускіх секцый у ЦБ КПБ, у якасці «кампенсацыі» настойваў на неўключэнні ў склад урада трох камісараў: па ваенных справах (А. Мяснікоў), па забяспячэнні (М. Калмановіч), старшыні Савета народнай гаспадаркі (Р. Пікеля). Усе былі прадстаўнікамі абласнога цэнтра.

Атрымаўшы паведамленне са Смаленска пра сітуацыю, Сталін адправіў тэлеграму Мяснікову: «Предложения Жилуновича о невключении 3-х членов нахожу дезорганизаторскими и в корне противоречащими решениям партий. Никаких особых решений группы Жилуновича не может быть. Список членов — всего 17 — является окончательным. Я требую от Жилуновича, его группы, категорического ответа на вопрос, подчиняются ли они беспрекословно решению ЦК партии. Жду срочного ответа. По поручению ЦК партии — Сталин» [2. л. 23].

У архіве захоўваецца яшчэ адна тэлеграма наркамнаца — адрасаваная Жылуновічу. Сталін настойвае на тэрміновым апублікаванні Маніфеста пра абвяшчэнне Беларускай рэспублікі. Іншыя спрэчныя пытанні можна было вырашыць і потым.

Самае цікавае было ў тым, што Зміцер Хведаравіч, зацверджаны старшынёй першага беларускага савецкага ўрада на экстраным пасяджэнні Белнацкама ў Маскве, прыехаў разам з дванаццаццю сваімі саратнікамі ў Смаленск толькі 31 снежня, і на канферэнцыю, якая была абвешчана І з'ездам КП(б)Б, спазніўся! Але гэта не мела значэння: Масква не любіла, каб ёй пярэчылі.

### ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР

Стварэнне першага савецкага ўрада Беларусі ў самым канцы 1918 года і абвяшчэнне Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь 1 студзеня 1919-га. Гэтыя падзеі непарыўна звязаны з імем Жылуновіча.

Амаль чвэрць стагоддзя таму, 24 чэрвеня 1988 года, у Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ адбылося пасяджэнне «круглага стала», арганізаванае каардынацыйным камітэтам па праблемах гісторыі БССР і Кампартыі Беларусі. На ім абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з утварэннем БССР, з роляй, якую адыгралі ў гэтым працэсе Паўночна-Заходні абласны камітэт і беларускія нацыянальныя секцыі пры ЦК партыі.

На пасяджэнні выступіў загадчык аддзела Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс. Ён сказаў: «Я хачу ўвесці ва ўжытак такі цікавы матэрыял, як успаміны Язэпа Дылы, які быў у першым беларускім савецкім урадзе наркамам працы (для сустрэчы з ім Адам Мальдзіс спецыяльна ездзіў у Саратаў, дзе жыў Я. Дыла. — **Э. І.**). Ён расказваў пра ўзаемаадносіны паміж Гартным і Мяснíковым, якія былі вельмі складанымі. Дайшло да таго, што па загадзе Мяснікова Жылуновіч і Дыла былі арыштаваны. Жылуновіч знайшоў спосаб адправіць тэлеграму Леніну».

Мала каму вядома, што па ініцыятыве і пад старшынствам «першага беларускага савецкага прэм'ер-міністра» Зміцера Жылуновіча на пасяджэнні гэтага ўрада 27 студзеня 1919 года былі прыняты чатыры важныя пастановы [3. л. 13—14].

Згодна з першай зацверджана рашэнне заснаваць пры Камісарыяце замежных спраў аддзел па зборы матэрыялаў пра бясчынствы, канфіскацыі і ўсялякія беззаконні, прычыненыя нямецкімі акупацыйнымі ўладамі.

Вынікам другой пастановы стала адпраўка ў галодную Маскву прадметаў харчавання. Трэцяя прынцыповая пастанова: «Даручыць Камісарыяту замежных спраў хадайнічаць перад Цэнтрам РСФСР (так у тэксце. — **Э. І.**) аб звароце Беларускай рэспубліцы ўсёй эвакуіраванай маёмасці».

Пасля даклада члена ўрада па Камісарыяту народнай адукацыі пра забарону ва ўстановах і школах Беларусі вывешваць адлюстраванне рэлігійнага культу, урад пастанавіў: «Падцверзіць дэкрэт аб недапушчэнні адлюстраванняў рэлігійнага культу ва ўстановах і школах».

### ІНБЕЛКУЛЬТ

У публікацыях пра Жылуновіча амаль нічога не прысвечана яго дзейнасці ў Інстытуце беларускай культуры (акрамя ўспаміну, што ён быў членам Прэзідыума Інбелкульта). Тэма «З. Х. Жылуновіч і Інстытут беларускай культуры» яшчэ чакае свайго даследчыка. Між тым, уся гісторыя Інбелкульта, пачынаючы са стадыі падрыхтоўкі адкрыцця і да пераўтварэння ў Беларускую Акадэмію навук, звязана з імем гэтага чалавека.

У студзені 1921 года рэспубліканскі друк паведамляў, што 23 студзеня ў памяшканні Камісарыята асветы адбыўся збор беларусаў — працаўнікоў асветы і культуры. На збор сышлося каля сямідзесяці чалавек. Мэтай збору было адчыненне Інстытута беларускай культуры.

Для далейшай распрацоўкі плана работ па заснаванні ІБК выбрана ў ліку сямі чалавек: тт. Некрашэвіча, Купалы, Бялькевіча, Жылуновіча і Бадуновай і двух кандыдатаў: Родзевіча і Дземідовіча [4].

У лютым 1921-га пытанне пра стварэнне інстытута, які б займаўся вывучэннем беларускай культуры, абмяркоўвалася на 2-й сесіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта ССРБ. Была створа камісія па выпрацоўцы статута Інстытута беларускай культуры пад кіраўніцтвам З. Х. Жылуновіча. Праект статута надаваў Інбелкульту характар навукова-даследчай і грамадска-культурнай установы.

Праз чатыры месяцы — 29 мая 1921 года — адбыўся сход Калегіі навукова-літаратурнага аддзела Народнага камісарыята асветы БССР, на якім прысутнічалі З. Жылуновіч, С. Некрашэвіч, Я. Луцэвіч. К. Міцкевіч і Я. Дыла. Старшынёй сходу быў Жылуновіч, а пісарам — Дыла. Сход прыняў наступную пастанову: «Выходзячы з таго, што Інбелкульт, паскольні ён будзе пабудаваны пры Дзярж[аўным] універсітэце — рассадніку чыста расейскай культуры, ні ў якім выпадку не будзе беларускай інстытуцыяй і прытым чыста акадэмічнай арганізацыяй, тады як маладой беларускай культуры патрэбен Інбелкульт як творчая ініцыятыўная лабараторыя беларускай культуры, — прызнаць, што Інбелкульт павінен быць адчынены як найхутчэй і ніяк ні пры універсітэце, а як самастойная пры Наркамасвеце інстытуцыя, злучаючая ўсе творчыя белар. навук. літарат. і мастацкія сілы.

Лічыць патрэбным канчаткова рэдагаваць статут Інбелкульта з тым, што ён павінен на тым быць паданым на зацверджанне дзяржаўных інстанцый» [5, л. 82—84 адв.].

Праз некалькі дзён, 1 чэрвеня, пад старшынствам Жылуновіча прайшоў сход Навукова-літаратурнай калегіі пры Народным Камісарыяце асветы БССР, які пастанавіў: «Падцвердзіць папярэднюю пастанову аб Інстытуце белар. культуры, распрацаваць уставу і падаць яе на зацвярджэнне Камасветы. Канстатуючы непарадкі ў перахове культурных вартасцяў Беларусі, н[авукова]-літаратурны аддзел пастанавіў звярнуцца да Камасветы і прасіць аддаць гэтую справу пад загад і дбанне нав.-літ. аддзела,. каб захаваць ад знішчэння музеі, архівы і іншыя культурныя вартасці» [5, л. 90—90 адв.].

Як вядома, ІБК быў заснаваны 30 студзеня 1922 года. Не пазней 8 сакавіка таго ж года Статут Інстытута беларускай культуры быў надрукаваны. У ім адзначалася, што Інбелкульт ёсць найвышэйшая культурна-навуковая ўстанова ў Беларусі і што ён мае сваім заданнем «навукова-даследчую працу ў межах этнаграфіі, мовазнаўства, літаратуры, мастацтва, гісторыі і прыродазнаўства Беларусі, а таксама агульнае кіраванне ўсімі навуковымі інстытуцыямі, якія працуюць на глебе Беларусі» [6, л. 94].

26 сакавіка 1924 года агульны сход Інбелкульта пастанавіў стварыць сем новых секцый, у тым ліку этнаграфіі і геаграфіі (М. Азбукін), гісторыка-археалагічную (В. Друшчыц), сацыяльна-эканамічную (Е. Успенскі і З. Жылуновіч). [7, л. 16].

31 студзеня 1925 года, праз месяц пасля рашэння сакратарыята ЦК Кампартыі

Беларусі зацвердзіць Жылуновіча членам Прэзідыума ІБК, на агульным сходзе Інбелкульта па прапанове намесніка наркама асветы рэспублікі А. В. Баліцкага ён выбраны на гэту ганаровую пасаду [10, л. 1—2].

На агульным сходзе членаў Інстытута беларускай культуры Жылуновіч выбіраецца членам рэдакцыйнай калегіі ІБК і членам камісіі па выданні твораў Леніна і марксісцкіх твораў.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца цікавы дакумент. Гэта пратакол распарадчага пасяджэння Савета Народных Камісараў БССР ад 5 чэрвеня 1925 года. Прывядзём фрагмент:

«[…] Слушали: 25. Об отпуске средств на высылку в Западную Европу книг по белорусской культуре.

Постановили: 25. Заслушав доклад председателя Инбелкульта тов. Игнатовского об отправке за границу книг по белорусской культуре, признать целесообразным в целях ознакомления Западной Европы с белорусской культурой признать целесообразным командировать за границу в Германию и на Парижскую художественную выставку для налаживания связи с немецкими и французскими пролетарскими писателями членов Инбелкульта и белорусских поэтов тт. Жилуновича, Луцевича и Кудзелько» [11, л. 24—26].

Нягледзячы на выключную занятасць Зміцера Хведаравіча на вышэйшых дзяржаўных пасадах, яго дзейнасць у Інбелкульце была шматграннай і садзейнічала развіццю беларускай навукі і культуры. Пра гэта, у прыватнасці, сведчаць яго шматлікія публікацыі ў рэспубліканскім друку. Толькі за адно дзесяцігоддзе (1918—1928 гады) Жылуновічам было напісана звыш 300 артыкулаў на розныя тэмы.

У размове з аўтарам гэтых радкоў беларуская даследчыца, а потым загадчык беларускага аддзела Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна Ю. В. Бібіла, якая асабіста ведала амаль усіх беларускіх пісьменнікаў, адзначыла, што Цішка Гартны быў самым эрудзіраваным з іх, асабліва ў галіне гісторыі Беларусі. Яна таксама дадала, што не ўяўляе сабе гісторыі Інбелкульта без дзейнасці Зміцера Жылуновіча.

## З МЭТАЙ ВЫДАННЯ БЕЛАРУСКІХ ПАДРУЧНІКАЎ І ЛІТАРАТУРЫ

У энцыклапедычных і даведачных выданнях нашай краіны, на вялікі жаль, замоўчваецца ўклад Жылуновіча ў ажыццяўленне палітыкі беларусізацыі, не раскрыта яго барацьба з ворагамі беларусізацыі, якія займалі высокія пасады ў кіраўніцтве БССР таго часу.

Яшчэ да ўтварэння ССРБ, з ліпеня да жніўня 1918 года па ініцыятыве Белнацкама ў Маскве працаваў Беларускі народны ўніверсітэт, заняткі якога наведвалі 57 чалавек, пераважна школьныя настаўнікі Беларусі. Яны праслухалі лекцыі па беларускай гісторыі, літаратуры, мове, эканоміцы, геаграфіі і іншых дысцыплінах. Частка лекцый была выдадзена ў 1920 годзе ў Маскве пад назвай «Курс беларусазнаўства». Сярод лектараў былі расійскі гісторык У. І. Пічэта, расійскі і беларускі мовазнавец П. А. Растаргуеў, беларускі пісьменнік, загадчык выдавецкага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята З. Х. Жылуновіч.

Пра такі тып беларусаў як Жылуновіч добра сказаў Язэп Лёсік на пахаванні намесніка наркама замежных спраў Беларусі А. Бурбіса: «Яны былі не толькі пісьменнікамі, паэтамі, не толькі вучонымі і грамадскімі дзеячамі, не толькі рэвалюцыянерамі-сацыялістамі і камуністамі, а былі яшчэ і беларусамі. Яны неслі на плячах свой падвойны крыж і гэтым другім крыжам была іх беларуская справа, нацыянальнае адраджэнне» [12, с. 70].

У фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь захоўваецца пратакол нарады Наркамасветы ССРБ па пытанні пра ўзмацненне працы па выданні беларускіх кніг ад 9 лютага 1921 года, на якой прысутнічалі намеснік наркама асветы Беларусі т. Фрумкіна, загадчык Беларускага дзяржвыдата т. Эдэльман, загадчык літаратурна-выдавецкага аддзела Наркамасветы т. Некрашэвіч. У пастанове гэтай нарады ёсць такія радкі: «…принимая во внимание, что слабый и до конца расстроенный типографский аппарат, находящийся в Минске, может исполнить только незначительную часть требований, которые согласно постановлению ЦИК Белоруссии предлагают-

ся и белорусским изданиям, обратиться в Центральное управление Госиздата с просьбой организовать в кратчайший срок заграничное издание белорусских и еврейских книг. Для проведения названного постановления командировать в Москву членов коллегии Белорусского госиздата тт. Жилуновича (ва ўсіх публікацыях пра гэту асобу не называецца пасада. — **Э. І.**), Эдельмана и зав. лит.-изд. отделом Наркомпроса Белоруссии т. Некрашевича» [13, л. 20].

У сакавіку 1922 года ён накіроўваўся ў Берлін з мэтай выдання беларускіх падручнікаў і літаратуры.

## ДАЛІКАТНАЕ ДАРУЧЭННЕ

Мала каму вядома, што восенню 1925 года ў разгар працэса палітыкі беларусізацыі, Жылуновічу прыйшлося выканаць даручэнне ЦК Кампартыі Беларусі і асабіста першага сакратара ЦК Аляксандра Крыніцкага.

Яшчэ 11 жніўня 1925 года ЦК КП(б)Б зацвердзіў план паездкі З. Жылуновіча і М. Чарота ў Прагу, дзе знаходзілася кіраўніцтва так званай Беларускай Народнай Рэспублікі. ЦК Кампартыі Беларусі прыняў пастанову, у якой лічыў мэтазгодным скліканне старшынёй Рады народных міністраў БНР А. Цвікевічам у Берліне беларускай канферэнцы пры сямі абавязковых умовах. Адной з іх з’яўлялася папярэдняе прызнанне Мінска як адзінага культурнага і палітычнага цэнтра, на які павінен арыентавацца беларускі рух Польшчы, Літвы, Латвіі і іншых краін. Акрамя таго, кіраўніцтва БНР павінна было адмовіцца ад арыентацы на Лігу Нацый і перад канферэнцыяй павінна была адбыцца «перадача паўнамоцтваў БНР Ураду БССР у форме дэкларацыі». Пасля прыняцця гэтых умоў групай А. Цвікевіча меркавалася фінансаваць будучую канферэнцыю.

У кастрычніку 1925 года ў Прагу для работы сярод беларускай эміграцыі выехалі З. Жылуновіч, М. Чарот і Янка Купала.

Другая Усебеларуская палітычная канферэнцыя або Берлінская канферэнцыя 1925 года адбылася 12—16 кастрычніка 1925 года. У Берлін для прыняцця «мандатаў» спецыяльна прыехалі Жылуновіч — як прадстаўнік кіраўніцтва БССР, і намеснік паўнамоцнага прадстаўніка СССР у Польшчы А. Ульянаў. Менавіта на Берлінскай канферэнцыі 15 кастрычніка 1925 года адбылося прызнанне БССР беларускай нацыянальнай дзяржавай. Праўда, большасць кіраўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі пайшла на роспуск БНР і прызнанне БССР, а меншасць заставалася за мяжой і працягвала праводзіць ранейшую лінію.

**На вялікі жаль, замоўчваецца ўклад Жылуновіча ў ажыццяўленне палітыкі беларусізацыі, не раскрыта яго барацьба з ворагамі беларусізацыі, якія займалі высокія пасады ў кіраўніцтве БССР таго часу**

30 ліпеня 1926 года на закрытым пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б быў зацверджаны склад Літаратурнай камісіі на чале з У. М. Ігнатоўскім. У склад камісіі ўвайшлі А. Ф. Адамовіч (намеснік старшыні), Б. Э. Аршанскі, Б. А. Вансоўскі, З. Х. Жылуновіч (пра гэта нічога не гаворыцца ў публікацыях пра яго. — **Э. І.**), М. Чарот (Кудзелька М. С.), М. А. Акулік, М. П. Абрамчук, М. Я. Зарэцкі, А. В. Баліцкі, В. А. Сербента [14, л. 59].

У пастанове Літаратурнай камісіі пра тэзісы да пытання пра ўтварэнне літаратурна-мастацкага аб’яднання «Узвышша» адзначаецца:

«Лірыка адраджаністаў выражае і выяўляе: …г) настроі нацыянальна і сацыяльна ўсвядомленага рамесніцтва. Ц. Гартны выражае іх праз выяўленне адмоўнага ў стане работніка-рамесніка. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Ц. Гартны пераходзіць да выяўлення і ўсхвалення агульнага, станоўчага рэвалюцыі і выяўленне “трэсак на хвалях” яе» [15, л. 18—22].

7 снежня 1928 года газета «Звязда» апублікавала артыкул сакратара ЦК КП(б)Б І. А. Васілевіча «Аб нацыянал-дэмакратызме ў культурным будаўніцтве». У гэтым артыкуле Зміцер Хведаравіч Жылуновіч стаў адным з галоўных аб’ектаў крытыкі. Прывядзём тры сказы.

«На старонках друку і ў паасобных выступленнях рад таварышаў (Жылуновіч, Зарэцкі і Глыбоцкі) высоўваюць наступнае асноўнае, на чым, па іх думцы, павінна «развівацца» беларуская нацыянальная культура ў БССР».

«Іншымі словамі, па думцы гэтых таварышаў, сёння беларуская культура павінна развівацца па нашаніўскім перыядзе».

«Яны Кастрычніцкую рэвалюцыю разглядаюць як адзін з этапаў барацьбы за вызваленне беларускага народа, пачаты ў эпоху Скарыны, Багушэвіча і да іх падобных...»

16 студзеня 1931 года Жылуновіч пастановай ЦКК КП(б)Б быў выключаны з партыі, а 15(16) лістапада ноччу арыштаваны органамі НКУС БССР.

## МІНУС І ЛІЧБА 12

У пачатку 1970-х гадоў мне давялося сустрэцца з дачкой Зміцера Хведаравіча Галінай — вучоным-лексікографам. У той час яна працавала навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства АН БССР, а я быў аспірантам Інстытута гісторыі АН БССР і пісаў кандыдацкую дысертацыю пра акадэміка АН СССР і АН БССР У. І. Пічэту. Трэба было расшыфраваць адзін групавы фотаздымак супрацоўнікаў Інбелкульта, і мне параілі звярнуцца па дапамогу да Галіны Змітраўны Жылуновіч. Памятаю, калі яна ўзяла ў рукі гэты фотаздымак, то рукі яе задрыжалі. Яна сказала: «Я не буду расшыфроўваць гэту фатаграфію. І наогул, я нічога не ведаю пра Інбелкульт».

Я зразумеў, што яна шмат перажыла як дачка «ворага народа», і загаварыў на іншую тэму: «Чым займаецца цяпер Інстытут мовазнаўства АН БССР?» Яна трохі ажывілася.

Пасля гэтай размовы я папрасіў Галіну Змітраўну расказаць пра абставіны арышту і пра тое, як яны з маці і братам Алегам жылі падчас знаходжання бацькі ў турме і пасля яго смерці. Праз паўзу яна пачала расказваць.

«Вельмі цяжка пра ўсё гэта ўспамінаць. Мне ўдалося даведацца, што бацьку жорстка катавалі чацвёра сутак падрад. Нездарма мне потым казалі, што ён звар'яцеў і быў пераведзены з Мінскай турмы ў Магілёўскую псіхіятрычную лячэбніцу.

Было вельмі жахліва і страшна. Суседзі і знаёмыя баяліся адчыніць нам дзверы. Праз нейкі час пасля арышту бацькі нас таксама забралі.

Адзін са следчых, які вёў справу бацькі, прапанаваў нам пакінуць Мінск, а яшчэ лепш — з'ехаць з Беларусі. Хутка мне і маці ў пашпартах праставілі штамп са злавесным знакам «мінус». І лічбу 12. Гэта азначала, што нам забараняецца жыць у 12 самых буйных гарадах СССР. Калі мы паказвалі свае пашпарты ў аддзеле кадраў, то кадравікі моршчыліся і не жадалі браць нават на такую працу, дзе плацілі грашы.

Мне вельмі не хочацца ўспамінаць усе цяжкасці, якія нам давялося перажыць.

Мне сёння сумна ўспамінаць пра брата Алега, які загінуў у 1942 годзе, абараняючы горад Ленінград. У яго быў вельмі дрэнны зрок, і ваенкамат выдаў яму «белы» білет, і ён мог эвакуіравацца. Спачатку Алег працаваў санітарам у шпіталі. А потым пайшоў на фронт».

### ЛІТАРАТУРА

1. Жылуновіч З. Беларускія секцыі РКП і стварэнне Беларускай савецкай Рэспублікі / З. Жылуновіч // Полымя. — 1928. — № 1.

2. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей — НА РБ). Ф. 60. Воп. 1. Спр. 337.

3. НА РБ. Ф. 809. Воп. 1. Спр. 6.

4. Савецкая Беларусь — 1921 — 25 студзеня.

5. НА РБ. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 107.

6. Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі. Ф. А-2307. Воп. 3. Спр. 153.

7. НА РБ. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 535.

8. НА РБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 1285.

9. Тамсама. Воп. 21. Спр. 23.

10. Цэнтральны навуковы архіў Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Ф. 67. Воп. 1. Спр. 12.

11. НА РБ. Ф. 7. Воп. 1. Спр. 183.

12. Каўка А. Перад усім — адданасць Беларусі / А. Каўка // Беларускі гістарычны часопіс. — 1993. — № 4.

13. НА РБ. Ф. 6. Воп. 1. Спр. 29.

14. НА РБ. Ф. 4п. Воп. 3. Спр. 18.

15. Тамсама. Воп. 21. Спр. 72.

Ірына КЛІМКОВІЧ

# БОНА

***Бона Сфорца д'Арагона. Прыгожая жонка, руплівая маці і злая свякруха. А кім насамрэч была гэтая таямнічая італьянка? Давайце паспрабуем разгадаць яе вобраз на падставе некаторых легенд, паданняў і гістарычных звестак.***



*Бона Сфорца, праца Леанарда да Вінчы.*

## КАРАЛЕВАМІ НЕ НАРАДЖАЮЦЦА

Дзень яе нараджэння — 2 лютага 1494 года. Бацькі — міланскі герцаг Джавані-Галеаца Сфорца і ўнучка неапалітанскага караля Фердынанда І д'Арагона Ізабэла. Багацце і ўлада з самай калыскі вызначылі лёс дзяўчынкі. Яе адукацыя была ўсебаковай і вытанчанай. Сярод першых настаўнікаў — Хрызастома Калона, паэт школы Петраркі. Ён выкладаў ёй гісторыю, тэалогію, латынь, права, геаграфію, прыродазнаўства, філасофію і матэматыку. З іншымі настаўнікамі Бона займалася музыкай і танцамі. Развіццю спрыяла і свецкае жыццё — тэатральныя прадстаўленні, гульні, маскарады. Яшчэ дзяўчынкай Бона пазаёмілася з самім Леанарда да Вінчы — падчас яго працы над славутай «Таемнай вячэрай». Любіла ўпрыгожванні, вартасць якіх палягала не толькі на каштоўных камянях, але і на тым, што былі яны праўдзівымі творамі мастацтва. Але больш за ўсё маладой асобе падабалася ездзіць вярхом на кані і паляваць.

Ішоў час, Боне споўнілася 23 гады, варта было дбаць пра замужжа, па мерках XVI стагоддзя яна «заседзелася ў дзеўках». Тым не менш дзяўчына, якая на думку многіх суайчыннікаў вылучалася не толькі розумам, але і прыгажосцю, не спяшалася, прыдзірліва выбірала сярод вартых прэтэндэнтаў на сваю руку найгаднейшага. Яна цаніла сябе дастаткова высока і патрабавала ад лёсу не менш, чым караля.

І лёс даў ёй такі шанц! Яе жаніх, кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт І быў больш чым удвая старэйшы за Бону. Яго, саракавасьмігадовага, у кастрычніку 1515 года спасцігла гора — ён згубіў каханую жонку Барбару Заполію, якая пакінула пасля сябе толькі дзвюх дачок. Дзяржаўныя традыцыі патрабавалі ад няўцешнага ўдаўца сына-спадчынніка. Для паўторнага шлюбу прыдворныя прапанавалі манарху мноства прэтэндэнтак. Сярод іх былі прынцэса Элеанора Габсбург, каралева Джавана IV Арагонская, удовая мазавецкая княгіня Ганна, якая паходзіла з магнацкага роду Радзівілаў. Усе яны былі высакароднымі і гожымі, за кожнай стаяла магутная магнацкая групоўка. Кароль не спяшаўся, доўга абмяркоўваў з прыдворнымі варыянты будучага шлюбу. Спыніўся на Боне са Сфорцаў. У красавіку 1517 года прадстаўнікі нявесты Хрызастома Калона і Зыгмунд Герберштэйн прывезлі ў Вільню яе партрэт: так Жыгамонт І упершыню пабачыў сваю будучую жонку.

Як сведчаць хронікі, маладая Бона на партрэце была падобна да анёла. Тым не менш, жаніх усумніўся ў шчырасці мастака. Лёс другой жонкі манарха вырашыў маленькі зялёны пантофлік герцагіні, прад'яўлены сватамі жаніху. Выбар быў зроблены.

Нягледзячы на гэта, упершыню Жыгімонт і Бона пабачыліся толькі праз чатыры



*Каралева Бона.*
*Партрэт мастака школы Кранаха.*

месяцы пасля афіцыйнага шлюбу. Спачатку за нявестай для манарха з Польшчы выправілася пасольства. Пры гэтым сам Жыгімонт застаўся дома. Афіцыйны шлюб адбыўся 6 снежня 1517 года ў горадзе Бары ў Італіі, на дзень Святога Мікалая, патрона гэтага горада. Караля замяніў адзін з прыдворных, Станіслаў Астрарог: падчас шлюбнай цырымоніі ён сядзеў побач з нявестай. Кожны раз, калі рытуал вымагаў пацалунка, Астрарог цалаваў свае пальцы і дакранаўся імі да маладой. Так захоўваліся і шлюбны рытуал, і цнота нявесты.

Бона была ў бязмерна каштоўнай сукні, абшытай залатымі бляшкамі.

Пад канец снежня яна ў суправаджэнні трохсот італьянцаў рушыла ў Польшчу, а 11 красавіка 1518 года перасякла мяжу сваёй новай Бацькаўшчыны. Праз нейкі час кароль і вялікі князь нарэшце сустрэў сваю законную жонку непадалёк ад Кракава на полі, засланым пурпуровым сукном перад чырвоным намётам. Бона пацалавала яго ў руку, а ён прытуліў яе галаву да грудзей. Стралялі гарматы, а шматлікія прыдворныя коннай калонай рушылі да Вавеля. 18 красавіка 1518 года ў зале, абабітай залацістай матэрыяй, адбылася шлюбная бяседа і каранацыя Боны. Жыгімонту быў 51 год, новай жонцы — 24. Праз год у Боны нарадзілася дачка. Жыгімонт быў вельмі расчараваны. Але неўзабаве каралева зноў зацяжырала, і 1 жніўня 1520 года доўгачаканы каралевіч пабачыў свет. Пры хрышчэнні ён атрымаў родавае імя Жыгімонт і амбіцыйнае Аўгуст.

## ПРАДБАЧЛІВАЯ МАЦІ І МУДРАЯ ПРАВІЦЕЛЬНІЦА

У вачах суайчыннікаў новая каралева была «не першай маладосці». Аднак падданыя сведчылі, што яна вызначалася прыгажосцю. Паэты параўноўвалі яе з багінямі ды німфамі, і гэта не было толькі ліслівасцю. Невысокая, з роўнымі белымі зубамі, яна мела светлыя валасы, а вейкі і бровы — зусім цёмныя. «Рукі, прыгажэй за якія знайсці немагчыма, ды па-анёльску цудоўныя вочы» — так пісаў Астрарог з Бары ў Кракаў. Была вельмі зграбная і выдатна танчыла. З гадамі Бона папаўнела. На партрэтах пастарэлай манархіні нельга ўгледзець былых слядоў прыгажосці, апроч вялікіх, выразных вачэй.

Нягледзячы на прывабнасць, італьянку не вельмі любілі на новай радзіме. У літаратуры можна сустрэць такую характарыстыку каралевы: «Жыгімонт Стары быў жанаты на жахлівай жанчыне — Боне Сфорца, якая сваімі інтрыгамі і непамернымі тратамі з казны паскорыла ягоную смерць». А як жа было папраўдзе? Вядома, што не толькі сваёй прыгажосцю славілася новая каралева. Найважнейшай вартасцю дачкі Сфорцаў было разуменне палітыкі, якое спалучалася з нерастрачанай энергіяй і амбіцыямі. Бона вызначалася моцнай воляй і ўменнем прымаць грунтоўныя рашэнні. Дзякуючы гэтаму яна ўмацоўвала каралеўскую ўладу, абмяжоўвала ўплыў магнатаў і аб'ядноўвала вакол сябе прагрэсіўных адукаваных людзей. Да таго ж яна прыклала шмат намаганняў, каб замацаваць Літву і Польшчу за сваім сынам. І гэта ў яе атрымалася.

Жыгімонту Аўгусту было ўсяго два гады, калі каралева-маці дамаглася пацверджання законных правоў сына на Вялікае Княства Літоўскае. Дзеля гэтага яна заручылася падтрымкай буйных магнатаў Юрыя Радзівіла і Альбрэхта Гаштольда. У

выніку на вялікакняжацкі пасад Жыгімонт Аўгуст узышоў 18 кастрычніка 1529 года. Дзевяцігадовы хлопчык атрымаў меч і шапку вялікага князя і заняў месца паміж маці і бацькам у троннай зале віленскага замка. За ўсю гісторыю вялікіх літоўскіх князёў ён стаў самым юным. Праз год стараннямі маці яго абралі каралём Польшчы. Менавіта тады Жыгімонт I і атрымаў мянушку-прыдомак Стары.

Апроч старэйшай дачкі Ізабэлы, каралева нарадзіла яшчэ трох — Соф'ю, Ганну і Кацярыну. Перадусім Бона была цудоўнай маці, клапатлівай, мудрай і прадбачлівай. Каб яе дзяржава і яна сама мелі вагу ў тагачаснай Еўропе і ўплывалі на палітыку, яна зладзіла сваім дочкам дынастычныя шлюбы: Ізабэла стала каралевай Вугоршчыны, Кацярына — каралевай Швецыі, Соф'я — вялікай герцагіняй Браўншвейг-Вольфенбютэльскай, Ганна ўзяла шлюб з князем Сяміграддзя (Трансільваніі) Стэфанам Баторыем, які ў 1576 годзе стаў каралём Рэчы Паспалітай.

Што тычыцца Жыгімонта Старога, ён сваю маладую жонку ўпадабаў адразу пасля шлюбнай бяседы. Перш за ўсё яна прывабіла яго прыгажосцю, а з цягам часу займела над ім уладу. Нягледзячы на мудрасць, лаяльнасць, справядлівасць і сумленнасць, з гадамі стары кароль траціў энергію і ўсё часцей дазваляў італьянцы ўплываць на свае палітычныя рашэнні. Некаторыя прыдворныя так і казалі: «Каралева да таго апанавала караля, што без яе волі нічога не робіцца». Аднак гэта не азначала, што Бона цалкам падпарадкавала сабе Жыгімонта. Па-першае, ён заўсёды лічыўся з думкамі сваіх саноўнікаў і сенатараў, па-другое, некаторыя яго палітычныя погляды адрозніваліся ад поглядаў каралевы. Шмат хто з гісторыкаў мяркуе, што перадапошні Ягелон на польскім і вялікакняскім троне быў энергічным і ўплывовым дзяржаўным дзеячам.

## КАРАЛЕВА І ВЯЛІКАЯ КНЯГІНЯ

У даведачнай літаратуры можна прачытаць, што «Бона Сфорца — польская каралева». Але Жыгімонт I з'яўляўся для жыхароў Вялікага Княства вялікім князем Літоўскім. Натуральна, што і Бона са Сфорцаў для тагачасных беларусаў была вялікай княгіняй Літоўскай. Якая ж яе роля ў развіцці беларускіх зямель? Вядома, што каралева жыла пераважна ў Вільні і добра авалодала старабеларускай мовай. Дзякуючы яе падтрымцы, у 1529 годзе быў выдадзены Першы Статут ВКЛ, шмат будавалася школ, храмаў, шпіталяў, многія гарады і мястэчкі атрымалі магдэбургскае права. Па яе загадзе была праведзена рэформа ў сельскай гаспадарцы — уведзена валочная памера. Адначасова з гэтым Бона правяла ў сваіх уладаннях адміністрацыйную рэформу, падзяліўшы землі на войтаўствы. У другой палове 1530-х гадоў Бона стала галоўнай кіраўніцай мытаў ВКЛ: такім чынам яна дала пачатак памежнай службе ў Беларусі. У непраходных беларускіх пушчах паўставалі паселішчы, эканомамі якіх каралева прызначала дробную шляхту. Яна пабудавала канал у ваколіцах Пінска і мост праз Буг. Да нашых дзён у Кобрыне захаваўся канал Боны — самае старое гідратэхнічнае збудаванне Беларусі.

Яшчэ адной сферай, куды каралева ўклала свае намаганні, было вінаградарства. На Гарадзеншчыне, Давыд-Гарадокскіх, Клецкіх і Пінскіх землях вырошчвалі вінаград для вінаробства.

У сваіх уладаннях Бона развярнула кіпучую дзейнасць. Калі яна прыехала на раку Ясельда, ёй так спадабалася мясцовасць, што яна вырашыла пабудаваць на беразе ракі сваю рэзідэнцыю. Так у Моталі быў узведзены шыкоўны каралеўскі палац, руіны якога яшчэ ў пачатку XX стагоддзя выглядалі даволі-такі салідна. Дарэчы, дзякуючы Боне, у беларускай мове з'явілася само слова «палац» ад італьянскага рэнесанснага «palazzo». А сярод мясцовых жыхароў дагэтуль распаўсюджаны прозвішчы накшталт Палто, Кузюр, Базан — гэта нашчадкі італьянцаў, якія ў XVI стагоддзі былі перасялены на Палессе і неслі службу ў палацы. Сёння галоўную вуліцу сучаснага Мотыля назвалі ў гонар вялікай княгіні Літоўскай — Палац каралевы Боны.

Бона Сфорца значна паспрыяла і развіццю аднаго з самых вядомых беларускіх гарадоў — Гродна. Па яе загадзе тут забрукавалі вуліцы і гандлёвую плошчу, горад атрымаў водаправод і дзве гарадскія пячаткі: урада-

вую і асобна гандлёвую (для лавы). Плюс да гэтага ў горадзе з'явіўся знакаміты гарадскі ратушны гадзіннік, для ягонага нагляду і абслугоўвання ў 1541 годзе Бона загадала ўзяць на службу спецыяльнага майстра. І вось ужо пяць стагоддзяў цудоўны механізм не толькі спраўна адлічвае час, але і з'яўляецца сімвалам горада.

Нягледзячы на тое, што польскія, беларускія і ўкраінскія гістарычныя хронікі не надта ўхвальна азываліся пра каралеву, менавіта гэтыя землі абавязаны ёй незвычайным культурным і гаспадарчым уздымам. Сфорца прыўнесла італьянскую раскошу ў літоўскі княжы і польскі каралеўскі двары, змяніўшы некаторыя грубыя норавы мясцовай шляхты. Яна істотна абмежавала абжорства і п'янства на афіцыйных прыёмах, скараціла час, адведзены на застольныя бяседы. Новая каралева прывезла з сабой шматлікую світу італьянскіх майстроў і кухараў. На сталах кракаўскіх і віленскіх магнатаў з'явіліся салата і памідоры, памяранцы і цытрына, інжыр і алiўкі, разынкі і міндаль. Яна ж завяла звычай есці відэльцам. Гэтая навіна спачатку была пашырана ў арыстакратычных колах, а пасля стала папулярнай у дамах сярэдняй шляхты і мяшчан. Бона прынесла на нашы землі моду на ўтрыманне пакаёвых птушак: пры ёй у каралеўскіх палацах упершыню загучалі галасы папугаяў.

Але культурны ўнёсак значна большы. Дзякуючы Боне Еўропа пачула «Песню пра зубра». Менавіта пры яе падтрымцы знакамітая паэма Міколы Гусоўскага была выдадзена ў 1523 годзе ў Кракаве. Удзячны паэт прысвяціў некалькі радкоў у прадмове і сваёй каралеве: «Мне добра вядома, найсвятлейшая пані, якога вялікага шчасця ты зычыш гэтаму каралеўству і як шмат разважаеш і дбаеш аб паляпшэнні ягонага становішча…»

**У вачах суайчыннікаў новая каралева была «не першай маладосці». Аднак падданыя сведчылі, што яна вызначалася прыгажосцю**

## ЛЕГЕНДЫ І РЭЧАІСНАСЦЬ

Што б ні казалі афіцыйныя дакументы і хронікі, але кіраўнік дзяржавы, калі ён сапраўды харызматычны, застаецца на стагоддзі ў легендах і паданнях. Пра гэту жанчыну у нас захавалася паданняў і легенд больш, чым пра якую іншую манаршую асобу. Наш народ добра ведаў і любіў сваю каралеву, а з цягам часу яна зрабілася нават міфалагізаванай асобай. Паколькі Бона была чужаземкай, то ў народным уяўленні яе постаць часам атачалі падкрэсленай таямнічасцю. Таму ў некаторых паданнях яна фігуруе ў якасці чараўніцы. З іменем Боны звязана шмат гісторый пра аб'екты сакральнага і гістарычнага ландшафту, асабліва ў тых рэгіёнах, дзе размяшчаліся яе ўладанні. А іх было шмат: Жыгімонт Стары шчодра адорваў землямі сваю каханую жонку.

Адной з самых незвычайных легенд, якія перадаюць містычны характар адносін нашых продкаў да таямнічай чужаземнай каралевы, стала легенда пра замак у Мядзелі. Вядома, што ён быў пабудаваны ў XV стагоддзі на месцы старажытнага гарадзішча і з'яўляўся адным з найбуйнейшых каменных замкаў ВКЛ, створаным для абароны ад экспансіі крыжаносцаў. Ягоны меншы аналаг можна пабачыць у Троках — сённяшнім Тракаі. Вядома таксама, што гэтыя мясціны ў XVI стагоддзі разам з возерам падарыў Боне яе муж. На жаль, пасля шматлікіх войнаў ад замка амаль нічога не засталося, хіба толькі напаўразбураныя падмуркі і фрагменты магутных валоў.

Легенда апавядае, быццам сучасны Мядзел некалі атачалі тры высокія і моцныя палацы-замкі, якія стаялі на асобных выспах. Назва ў кожнага замка была свая: Мядзел, Мястра і Нарач. У нашы дні гэтыя выспы тутэйшыя жыхары называюць не інакш, як Замак. Заснаванне палацаў-замкаў у народзе прыпісваюць каралеве Боне. Нават сцвярджаюць, што ў адным з іх яна пастаянна жыла. Называлася тое месца Мястра. Дык вось, пра каралеву людзі казалі, быццам яна вядзьмарка і ведае ўсё, што робіцца ў свеце, нават дзе і якія скарбы схаваны. Хаця ніколі не выязджала са свайго замка. Шмат добрага і карыснага зрабіла каралева для сваіх падданых: лекавала іх ад розных хвароб, заварож-

вала тутэйшыя мясціны ад змей і нават шмат разоў ратавала ад нашэсця ворагаў. Ішлі гады, а людзі ўсё ніяк не маглі разгадаць, адкуль у Боны такія здольнасці. І вось адзін выпадак раскрыў таямніцу. У вёску, якая знаходзілася непадалёк ад замка Боны, прывезлі паміраць хлопчыка-пастушка — яго ўкусіла гадзюка. Маці хлопчыка так галасіла, што каралева пачула яе ў сваім замку і паслала слуг даведацца, у чым справа. Калі слугі сказалі, што ў вёсцы ад укусу змяі памірае хлопчык, Бона здзівілася: па яе перакананні змей у акрузе быць не павінна. Не звяртаючы ўвагі на слуг, каралева пачала нервова хадзіць па пакоі. Потым раптоўна нахілілася і выцягнула з-пад агромністага ложка невялікі куфар з інкрустацыяй. Прысутныя слугі са здзіўленнем пабачылі, як каралева дастала адтуль драўляную фігурку ідала, у вачніцах якога гарэлі каштоўныя камяні. «Як такое магло здарыцца?» — запытала Бона ў ідала. Ідал загаварыў з ёй чалавечым голасам і пацвердзіў, што такога і сапраўды не можа быць, бо шмат гадоў таму яны абодва наклалі закляцце ад змей на ўсю мясцовасць. Відаць, хлопчык патрапіў у чужыя мясціны і цяпер, каб выратаваць яму жыццё, яго трэба тэрмінова даставіць у замак. Калі сяляне прынеслі пастушка, ён быў ужо нежывы. Каралева ў адзіноце доўга чаравала над ім. А людзі, стаіўшы дыханне, чакалі вынікаў, ніхто з іх не верыў, што мёртвага можна ажывіць. Таму моцна здзівіліся, калі пачулі крык ажыўшага хлопчыка, які клікаў сваю маці. Кабета доўга дзякавала каралеве за сына, а тая наказала ім жыць толькі ў сваім краі і ніколі яго не пакідаць.

Далей легенда распавядае, што Бона яшчэ доўга жыла ў сваім грозным і непрыступным замку, які ахоўвалі бясстрашныя каралеўскія ваяры. З усіх бакоў палац атачала вада, а з берагам ён злучаўся мостам, які на ноч падымаўся, а днём апускаўся ў ваду, і таму староннія не маглі яго ўбачыць. Некалькі разоў ворагі бралі замак у аблогу, аднак захапіць ніяк не маглі. Неўзабаве распачалася вайна са шведамі, іх войскі падышлі да выспаў і ніяк не маглі ўцяміць, як дабрацца да замка. Ворагу дапамог выпадак. На вачах у разгубленых чужынцаў нейкая прыблудная карова пайшла па падводных мастках наўпрост да выспы. Тады за ёю



*Жыгімонт Аўгуст і Барбара з Радзівілаў. Ян Матэйка.*

кінуліся і ворагі. Пасля працяглага і бязлітаснага бою замак быў узяты, але каралева ўратавалася. Разам са слугамі яна ўцякла па падземным ходзе, выкапаным пад возерам. Ужо на беразе яна загадала слугам ісці наперад, а сама падышла да бліжэйшага калодзежа і кінула туды свайго драўлянага ідала. Пры гэтым яна прамовіла: «Ой, мядзел, ты мой мядзел, расстаемся мы з табою назаўсёды. Даруй, калі што не так зрабіла…» Больш Бону ў гэтых мясцінах ніхто не бачыў. А ад таго мядзела — кавалка па-майстэрску апрацаванага дрэва — пайшла назва паселішча — Мядзел. Цікава, што гэтае слова мае балцкае паходжанне і створана ад асновы medis — дрэва, а ў перакладзе азначае «лясны, драўляны».

З імем каралевы Боны звязваюць і замак Белы Ковель у Смалянах на Аршаншчыне. Замак быў пабудаваны толькі ў першай пало-



*Гара Боны ў Крамянцы. Малюнак Напалеона Орды.*

ве XVII стагоддзя і разбураны ў часы Паўночнай вайны. Але мясцовыя людзі з задавальненнем расказваюць пра таямнічыя падземныя хады, па якіх Бона ездзіла на тройцы коней. Існуе і такая легенда. Сцвярджаюць, быццам цёмнымі восеньскімі надвячоркамі, калі туман ад ракі Дзярноўкі пакрывае ўсё навокал, і толькі галоўка вежы вытыркаецца над белай дымкай, аднекуль з-пад зямлі чуецца музыка. А ў акенцах вежы ў прывідным ледзь заўважным святле з'яўляецца сілуэт жанчыны. Гэта нібыта і ёсць каралева Бона.

Амаль кожны рагачоўскі жыхар распавядзе вам пра замак каралевы Боны, які больш чым пяць стагоддзяў узвышаўся ў гістарычным цэнтры Рагачова — на Замкавай Гары. У 1535 годзе падчас вайны з Масковіяй замак быў цалкам спалены. На ягоным месцы Бона пабудавала новы, прыгажэйшы і больш умацаваны. Кажуць, што дзеля гэтага яна запрасіла італьянскіх майстроў са сваёй радзімы. Паводле легенды, у дачку каралевы закахаўся чарнігаўскі князь. Ганарлівая ж італьянка шукала для сваёй дачкі больш уплывовага прэтэндэнта, таму схавала дачку ў Рагачоўскім замку. Дзень і ноч сцераглі дзяўчыну слугі каралевы. І князь вырашыў выкрасці яе. Дзеля гэтага ён пракапаў падземны ход аж да самай Замкавай Гары. Вось толькі выкраў князь сваю каханую ці не — ніхто не ведае. Канец легенды згублены. Цяпер ад замка нічога не засталося, ягоныя рэшткі былі канчаткова разбураны падчас Другой сусветнай вайны. Па некаторых звестках, у рагачоўскім замку знаходзілася калекцыя партрэтаў вялікіх князёў літоўскіх і каралёў польскіх.

Часам легенда мае пад сабою больш-менш сапраўдны грунт. Да прыкладу, на Піншчыне ёсць такі сакральны ландшафтны аб'ект, як Скамарохава Гара. Паводле падання, тут праязджала каралева Бона і сустрэла скамароха, які вёў мядзведзя. Коні спудзіліся, панеслі карэту, не разбіраючы дарогі, пакуль тая зусім не развалілася. Каралева цудам засталася жывой. Па загадзе каралевы скамароха з мядзведзем жывымі закапалі на гары. Таму ўзгорак і атрымаў сваю назву. Насамрэч, у жніўні 1527 года нягледзячы на тое, што Бона была цяжарнай, яна прыняла ўдзел у ловах, бо вельмі любіла паляванні. Справа адбывалася ў польскіх Непаламіцах, куды з Літвы прывезлі вялізнага мядзведзя. Звер спачатку паводзіў сябе ціха, але потым раз'юшыўся, задраў шмат сабак ды ўрэшце кінуўся на людзей і атакаваў каралеву. Тая рэзка павярнула каня, ён спатыкнуўся і скінуў яе з сядла. Пасля гэтага выпадку Бона заўчасна нарадзіла сына, ахрышчанага Войцех Ольбрахт. Хлопчык памёр у той жа дзень, а Бона пасля доўга хварэла і болей не цяжарыла. Было ёй тады 33 гады, а Жыгімонту Старому — 60.

## КАРАЛЕВА І ЖУДАСНЫЯ ГІСТОРЫІ

Нягледзячы на ўсё тое добрае, што рабіла каралева Бона для дзяржавы, яе не вельмі любілі на новай радзіме. Яна імкнулася перанесці на нашы, украінскія і польскія землі італьянскую мадэль кіравання дзяржавай. У дадатак да ўсяго, у звычку ўвайшоў выкуп магнацкіх уладанняў і раздача пасад

і земляў асабліва набліжаным. А каранацыя малога Жыгімонта Аўгуста пры жывым бацьку выклікала абурэнне і настроіла супраць Боны амаль усю кіруючую эліту дзяржавы. І хаця, дзякуючы сваім талентам і багаццю, Боне ўдалося арганізаваць у сойме групу падтрымкі, ёй на новай бацькаўшчыне жылося няпроста.

Каб скіраваць народ і дробную шляхту супраць каралевы, зламыснікі пачалі распаўсюджваць неверагодныя чуткі пра яе. Асабліва жахлівыя гісторыі распавядалі пра Бону чамусьці ва Украіне. Як вядома, у тыя часы яе землі ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Так, ва ўкраінскім Крамянцы, што на Цярнопальшчыне, захаваўся шэраг падобных паданняў. Горад Крамянец разам з навакольнымі землямі і замкам быў падараваны Жыгімонтам Старым сваёй жонцы ў 1536 годзе. Ім яна валодала дваццаць гадоў аж да самага свайго вяртання на радзіму. І хаця, каралева амаль не бывала тут, гара, дзе і цяпер знаходзяцца велічныя руіны замка, дагэтуль носіць яе імя — Гара Боны.

Дык вось асабліва папулярнымі тут сталі байкі пра непамерную крыважэрнасць каралевы. Распавядалі, што даведаўшыся пра цудадзейныя якасці крыві цнатлівых дзяўчат, якая быццам дазваляе доўга заставацца маладой і прыгожай, Бона купалася ў крыві маладых сялянак. Каб здабыць каштоўную кроў, дзяўчат забівалі: выкідалі праз акно замкавай вежы на кола з шыпамі. Казалі, што такім чынам каралева загубіла 300 цнатлівак. І гэта яшчэ не ўсё. Другое паданне кажа, што мост, які злучае замак з супрацьлеглай гарой, быў зроблены Бонай з чалавечай скуры тых самых маладых дзяўчат. А з валасоў пакутніц каралева зрабіла парэнчы маста.

Такія жахлівыя гісторыі паспрыялі іншым чуткам, паводле якіх, каралева была звязана з нячыстай сілай. А замацаваліся такія падазрэнні пасля аднаго выпадку, калі падчас паездкі вакол Крамянца экіпаж каралевы зваліўся з вантавага моста. Здавалася, што выжыць пасля такога падзення немагчыма, тым не менш, каралева засталася жывая і здаровая. Кажуць, што яна была адзінай, хто выратаваўся.

Цікава, што падобныя жудасныя аповеды існавалі на Вугоршчыне і былі прысвечаны мясцовай графіне Лізе Баторы, сваячніцы будучага караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя. І што самае жахлівае, гэтыя аповеды не былі беспадстаўнымі. Графіня-вампірка сапраўды брала ванны, напоўненыя крывёю цнатлівых дзяўчат. Колькасць яе ахвяр складала сотні. Розгалас пра вампірку Лізу Баторы настолькі ўражваў людзей, што разыходзіўся далёка за межы яе радзімы. Натуральна, што такімі чуткамі і скарысталіся ворагі Боны. І трэба сказаць, паспяхова, нават сёння турыстам Крамянца распавядаюць гэтыя жахалкі.

Апроч крывавых баек вам у Крамянцы распавядуць яшчэ адну брудную гісторыю пра Бону, якая была папулярная ў часы яе кіравання сярод мясцовай шляхты. Нібыта кожную ноч маладая каралева ладзіла оргіі ў сваім крамянецкім замку з удзелам некалькіх дзясяткаў прыгожых ахоўнікаў. Сярод іх, кажуць, былі пераважна палякі, шатландцы і немцы. Чуткі пра гэта дайшлі да Жыгімонта Старога, для даследвання ён прызначыў спецыяльную камісію ў Крамянец. Факты пацвердзіліся, правяраючыя склалі нават спіс каханкаў, і кароль загадаў пакараць смерцю ўсіх палюбоўнікаў каралевы. Але Бона вымаліла ў мужа памілаванне для трох найбольш адданых ёй ахоўнікаў. Па спісе гэта былі трэці, дзявяты і дваццаць сёмы афіцэры. Сёння некаторыя бяруцца сцвярджаць, што менавіта пасля гэтага выпадку зрабілася папулярным у народзе падымаць тост за жанчын у такой паслядоўнасці.

Гэтая гісторыя бярэ свой пачатак, хутчэй за ўсё, з італьянскага мінулага Боны. Вядома, што на яе радзіме ў Італіі мараль-

**Сфорца прыўнесла італьянскую раскошу ў літоўскі княжы і польскі каралеўскі двары, змяніўшы некаторыя грубыя норавы мясцовай шляхты. Яна істотна абмежавала абжорства і п’янства на афіцыйных прыёмах, скараціла час, адведзены на застольныя бяседы**



*Надгробак Боны ў базіліцы Святога Мікалая ў Бары.*

ныя прынцыпы і грамадскія паводзіны розніліся ад тагачасных ліцвінскіх, польскіх і ўкраінскіх. Паводзіны італьянскіх жанчын у сярэднявеччы былі больш вольнымі. Многія з іх нават у шлюбе не хавалі сваіх захапленняў другімі мужчынамі і часта мянялі каханкаў. Некаторыя гісторыкі пішуць, што маладую Бону яшчэ яе маці вучыла, нібыта, трэба спачатку пазнаць мужчыну, каб потым паспяхова ім кіраваць. Магчыма, будучы ўжо каралевай, яе дачка ў нечым і скарысталася яе парадамі, а гістарычныя факты пра гэта нічога не кажуць.

Тым не менш, дзякуючы Боне нашы жанчыны змаглі адкрыць шыю і нават насіць дэкальтэ. Вядома, што дагэтуль яны як англійскія пурытанкі насілі глухія і закрытыя да самага падбароддзя сукенкі. Затое ў другім выпадку каралева так і не змагла пераламіць адну з устойлівых традыцый нашага жаночага адзення. У Італіі на той час панавала мода на адкрытыя валасы, якія збіраліся ў пазалочаную сетку. Гэты звычай Бона спрабавала распаўсюдзіць і ў сваім каралеўстве. Аднак да такога наватарства тут аднесліся вельмі непрыхільна. Таму што ў шляхецкім асяроддзі існаваў непарушны звычай — цалкам хаваць свае валасы пад галаўным уборам. З часам каралева і сама была вымушана падпарадкавацца старадаўняму звычаю. Доказам гэтага з'яўляецца яе партрэт у сталыя гады, дзе мы бачым Бону з пакрытай галавой.

## СВАРКА З СЫНАМ І АД'ЕЗД У ІТАЛІЮ

Адна з самых растыражаваных крымінальных показак беларуска-польскай гісторыі — нібыта каралева Бона атруціла сваю нявестку, другую жонку Жыгімонта Аўгуста, каралеву Барабару з Радзівілаў. Вядома, што каралева-маці была катэгарычна супраць таго, каб аўдавелая пасля першага шлюбу са Станіславам Гаштольдам Барбара пабралася другі раз з яе сынам і авалодала манаршым тронам. Прычын было шмат, але самая галоўная — Барбара была бяздзетнай. А сапраўдная каралева, на думку многіх палітыкаў таго часу, у тым ліку і Боны, павінна абавязкова нарадзіць спадкаемца, іначай настане канец кіруючай дынастыі. Калі глядзець на гэта з боку карысці для дзяржавы, гэта цалкам цвярозая і правільная палітыка. Але Жыгімонт Аўгуст быў так закаханы ў сваю «Басеньку», што нічога не хацеў чуць пра дынастычныя шлюбы. І нягледзячы на тое, што і Жыгімонт Стары, і большасць магнатаў краіны былі супраць ягонага саюзу з Барбарай з Радзівілаў, у 1548 годзе, амаль адразу пасля смерці бацькі, Жыгімонт Аўгуст афіцыйна прадставіў двару сваю абранніцу, з якой да гэтага таемна пабраўся шлюбам. Гэта раззлавала не толькі каралеву-маці, але і ўсю шляхту. Паміж сынам і маці пачалася «халодная вайна». Тым не менш ужо ў снежні 1550 года адбылася каранацыя Барбары. Але падчас гэтай урачыстасці маладая каралева і вялікая княгіня была ўжо смяротна хворая, а ў хуткім часе і ўвогуле пачала згараць як свечка. Усе намаганні лекараў вярнуць яе да жыцця былі безвыніковымі. Малады кароль падазраваў, што да смерці жонкі магла мець дачыненне ягоная маці, бо пры двары быў натоўп лекараў і аптэкараў старой каралевы, якіх яна навезла з Італіі. А гэта краіна ў тыя часы славілася гучнымі гісторыямі пра атручванні. І хаця ў выпад-

ку са смерцю Барбары доказаў атручвання ніхто не атрымаў, вышэйшая знаць Літвы і Польшчы ў гэтым не сумнявалася.

Пасля смерці і пахавання Барбары Бона, як ні намагалася, так і не змагла не тое што вярнуць любоў сына, а нават наладзіць з ім адносіны. Яна і надалей па-свойму любіла яго, і з ахвотаю засталася б у сваім каралеўстве, калі б толькі Жыгімонт Аўгуст змяніўся да яе. Ды гэтага не настала. Тады манархіня пачала збірацца назад — на сваю старую радзіму. Сын прыстрашыў карамі ўсім тым, хто стане дапамагаць Боне з'ехаць. Загад той абвесцілі на Варшаўскім рынку. Абураная маці пісала: «Ейны гвалт праз таго, каго ў жываце насіла, ад яго цярпела, і які, калі мае што добрае, дык ад яе мае. А ад яе жыццё, ад яе і каралеўская сталіца, за гэта ўсё… ён трымае яе ў няволі». Толькі пасля ўмяшальніцтва дачкі Ізабэлы, якая звярнулася да брата, загад быў адменены.

І вось у лютым 1556 года Бона Сфорца выехала з Варшавы. Каралеўскі абоз суправаджалі закаваныя ў латы венгерскія гусары. Яны ахоўвалі не толькі жыццё Боны, але і 24 вазы са срэбрам, золатам і каштоўнасцямі. У дадатак вазы былі нагружаны мэбляй, дыванамі, фарфорам і начыннем, забраным з палацаў, якімі некалі валодала каралева. Багацце, якое за гады свайго праўлення нажыла Бона, было велізарным.

Дарэчы пра багацце каралевы Боны дагэтуль ходзяць легенды. Паводле адной з іх, запісанай у тым жа Крамянцы, перад ад'ездам у Італію Бона са сваім абозам, нагружаным каштоўнасцямі з замкаў Беларусі і Украіны, заехала ў крамянецкі замак. І там надзейна схавала скарб у глыбокім калодзежы на самай вяршыні Замкавай Гары. Легенда сцвярджае, што незлічонае багацце каралевы па сённяшні дзень хаваецца ў руінах замка, а душа Боны не можа супакоіцца і час ад часу лунае над гарой, ахоўвае багацце. Тым не менш скарб можна здабыць. Дастанецца ён самаму смеламу і адважнаму маладзёну, які ў велікодную ноч паднімецца на Замкавую Гару і сустрэне там каралеву. Калі юнак адважыцца пяшчотным пацалункам выманіць у Боны ключ, яму адчыняцца дзверы скарбніцы. Каралева асабіста правядзе адважнага хлопца да сваіх багаццяў і дазволіць дакрануцца да іх. Колькі ён паспее ўзяць срэбра і золата, пакуль будуць біць велікодныя званы, тое і дастанецца яму. Але з апошнім бомам звона дзверы ў скарбніцу зачыняцца і, калі юнак не зможа спыніцца, то назаўсёды застанецца ў падзямеллі ахоўваць разам з каралевай яе скарбы. Кажуць, што шмат хлопцаў спрабавалі завалодаць таямнічым скарбам, але пасля таго, як яны падымаліся на гару, іх больш ніхто і ніколі не бачыў…

## ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ

Насамрэч грошы Бона ўсёж-такі паспяхова прывезла ў Італію, але… пазычыла іх іспанскаму каралю Філіпу II з манаршага дому Габсбургаў. Кажуць, там было амаль паўмільёна дукатаў, і кожная манета ўтрымлівала каля 3,5 грамаў золата. Сума фантастычная па тых часах. Гэта і стала фатальнай памылкай каралевы. Не жадаючы аддаваць пазыку, Філіп II загадаў атруціць Бону. Прысуд здзейсніў асабісты лекар Боны Ян Антоніа, падкуплены іспанскім каралём.

Яна памерла ў 63-гадовым узросце ў поўнай адзіноце і была пахавана даволі сціпла. Любімы сын, дзеля якога маці згубіла давер і павагу ў магнатэрыі і шляхты, так і не дараваў ёй нават пасля смерці. Ён не прыехаў на пахаванне. Цела каралевы спачатку паклалі ў замкавую капліцу, і яно ледзьве не згарэла, калі труна ўспыхнула ад полымя свечак. Тады дачка Боны Ганна Ягелонка, жонка Сяміградскага князя Стэфана Баторыя, заказала для маці багатае надмагілле, якое да нашых дзён захавалася ў базіліцы Святога Мікалая ў Бары. Каб замацаваць памяць пра сваю вялікую маці, Ганна Ягелонка загадала надаць быламу ўладанню Боны — Пружанам — магдэбургскія прывілеі і статус горада, герб якога вельмі нагадвае міланскі радавы герб Сфорцаў.

Так скончылася жыццё адной з самых незвычайных і загадкавых жанчын у гісторыі: каханай жонкі-прыгажуні, цудоўнай і клапатлівай маці, нядобразычлівай свякрухі, мудрага дзяржаўнага дзеяча і паспяховай рэфарматаркі. І як кажуць старажытныя, multi sunt vocati, pauci vero electi — шмат пакліканых, але мала абраных.

Васіль ШУР

# БЫЛА ТАКАЯ ВЁСКА




*Пасля падвядзення вынікаў экспедыцыі ў Стадолічах. Злева направа В. Шур, акадэмік М. І. Талстой, прарэктар Мазырскага педуніверсітэта В. А. Купрэенка, выкладчык Мазырскага педінстытута П. А. Яворскі. 1974 год.*

***Беларускі вучоны Мікалай Улашчык некалі падрыхтаваў вялікі нарыс* «Была такая вёска», *дзе прасачыў гісторыю роднай Віцькаўшчыны, што недалёка ад Мінска, каля Самахвалавіч, у 1883—1917 гадах. Такога падрабязнага эсэ, цікавага не толькі гісторыкам, этнографам, лінгвістам і краяведам, але і больш шырокаму колу, у нашай нацыянальнай літаратуры да апошняга часу не было.***

У пачатку 80-х гадоў XX стагоддзя пра вартасць і неабходнасць такіх кніг Мікалай Улашчык пісаў у лісце, адрасаваным Алесю Адамовічу: «Маё ўражанне, пэўна, перавялічана, але, здаецца, што нават карыстаючыся толькі апублікаванымі матэрыяламі, можна напісаць хаця б кароткую гісторыю кожнай вёскі. Між іншым, у прадмове да сваёй кнігі я выказаў неабходнасць сабраць як мага больш звестак і напісаць гісторыю тых вёсак, спіс якіх знаходзіцца ў *Хатыні.* Гэта зусім неабходна. І я нават не разумею, чаму за гэта ніхто (ніякая ўстанова) не ўзяўся да апошняга часу. Страшны канец вядомы, але ж людзі жылі ў гэтых вёсках сотні гадоў…»

Вельмі лагічна і правільна, што вывучэнне беларускай літаратуры ў 6-м класе пачынаецца з кнігі Уладзіміра Ліпскага *«Я: праўдзівы аповед пра твой і мой радавод».* І, як слушна заўважыў Алесь Бельскі, аналізуючы вельмі неабходную ў наш час кнігу Анатоля Статкевіча-Чабаганава *«Я — сын Ваш: Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба «Кассеша». Карафа-Корбуты герба «Корчак»* — Мінск : Роднае слова, 2011, важна, што ў аснову пабудовы названага курса пакладзены ўніверсальны прынцып уладкавання свету: я — мой род — народ — радзіма — чалавецтва... Гэта аксіёма: агульнае лепш засвойваецца праз канкрэтнае. На прыкладах апісання мясцовых назваў, этнаграфічных замалёвак побыту сваіх землякоў, іх стасункаў з суседнімі паселішчамі найлепшым чынам можна прапагандаваць лепшыя ўзоры і набыткі матэрыяльнай і духоўнай культуры, выхоўваць павагу да Радзімы.

Наступныя радкі пра маю «малую радзіму» напісаны на падставе ўласных уражанняў, а таксама інфармацыі, атрыманай з самых розных навуковых і іншых крыніц.

* * *

Сяло Стадо́лічы (Стодо́лічы, Стадо́лішчэ, *Stodolicze,* 1622, Спадолгі, Сподолги, Spadolgi, 1821) толькі мн., Р.-аў, вёска (у народзе часцей сяло), вядома з 16 снежня 1551 года як паселішча Убарцкай воласці Мазырскага павета. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў скарзе шляхціцаў *Солтана, Багдана і Івана Сцяцкевічаў на віленскага біскупа князя Паўла Гальшанскага: «...люди его костельные волости Убортское стодоличане и липляне отнимают людем их велавским остров»* (1551 год). У «Акце камісіі Варшаўскага сейма аб размежаванні паветаў Оўруцкага (да Польшчы) і Мазырскага (да Літвы) ад 19 студзеня 1622 года» зафіксавана шэсць значных айконімаў Убарцкай воласці — *Лельчыцы, Мілашавічы, Картынічы, Ліпляны, Стадолічы і Буйнавічы, «...вёскі некаторыя той Убарацкай воласці Віленскага біскупства зыходзяцца з землямі Камянецкай воласці, г.зн. сяло Карценічы, сяло Ліпляны, сяло Стадолічы і сяло Буйнавічы, зайшлі нам ў левы бок па ўладанні некаторых абывацеляў Кіеўскага ваяводства, тады мы тымі ўбарцкімі вёскамі і землямі просеку памежную праводзілі аж да сяла Стадоліч, адмяжоўваючы ўсю Убарцкую воласць да Вялікага Кн. Літоўскага, а Каменшчыну з усімі вёскамі і землямі — да Кіеўскага ваяводства».* Бакі спрачаліся за высечку пушчы і бортнага дрэва, за паляванне, за выдзіранне пчол і іншыя вялікія і розныя крыўды. Вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст загадаў накіраваць на спрэчны востраў камісараў і з некаторых слушных прычын пастанавіў пакінуць пакуль яго *«стодоличанам и липлянам».* На той перыяд (XVI стагоддзе) Убарацкая воласць была маёмасцю віленскіх біскупаў. Польскі гісторык Аляксандр Яблонскі пра гэту частку Мазырскага Палесся пісаў: «Віленскія біскупы валодалі ў старой Кіеўшчыне воласцю вялікай Убарацкай. Складалі яе разлеглы абшар па абодва бакі ракі Убарць, прытоку Прыпяці, які цягнецца ад оўруцкай мяжы проста на поўнач да Петрыкава, дзе знаходзіліся паселішчы: Лельчыцы (галоўнае з іх — з “дваром”), *Ліпляны, Стадолічы, Буйнавічы* і іншыя. Калі тая воласць віленскаму біскупству дадзеная — невядома; можа (1412), пры Вітаўце яшчэ... Паколькі тады той павет складаў інтэгральную частку Кіеўшчыны, воласць тая хінулася больш да Кіева, хоць паводле уніі 1569 года Мазыр заставаўся “аддзелены” на карысць Літвы.., толькі ў 1622 годзе вырашана камісіяй, якая вызначыла межы паміж паветамі: *Оўруцкім* (Кароны) і *Мазырскім* (Літва)». Больш падрабязна апісана гэта спрэчнае пытанне ў пастанове Варшаўскага вольнага сейма ад 1620 года, якім была створана камісія для размежавання паветаў Оўруцкага (да Польшчы) і Мазырскага (да Літвы): 13 снежня наступнага года камісары сабраліся ў Оўручы і запатрабавалі да сябе тых абывацеляў, *«якія б належалі з уладаннямі сваімі да таго размежавання»,* з правамі, прывілеямі, распараджэннямі і іншымі дакументамі на свае ўладанні, *«да якой бы дзяржавы і павета належаць мелі».* Потым яны праехалі ўздоўж мяжы і на падставе прад'яўленых абывацелямі дакументаў у студзені 1622 года нарэшце склалі акт межавання, у адпаведнасці з якім Убарцкая воласць з Кіеўскага ваяводства адышла да Вялікага Княства Літоўскага. Такім чынам, сяло *Стадолічы* на той перыяд станаўлення Беларусі як дзяржавы было вызначальным пры фарміраванні яе дзяржаўнай мяжы. Відаць, гэтыя звесткі, узятыя з гістарычных дакументаў, хронік і летапісаў, былі ўлічаны вядомым беларускім гісторыкам і этнографам Доўнар-Запольскім, калі ўзнікла неабходнасць размежавання этнаграфічных межаў рассялення беларусаў. Як справядліва адзначана даследчыкамі навуковай спадчыны вучонага, *«калі б Доўнар-Запольскі не зрабіў у навуцы нічога, апрача ўдакладнення этнаграфічных межаў Беларусі, яго імя і тады назаўсёды захавалася б у нашай гісторыі».* Менавіта дзякуючы яго намаганням, калі ўзнікла патрэба ўдакладніць размежаванне Беларусі і Украіны, была выкарыстана спецыялістамі карта-схема, падрыхтаваная Доўнар-Запольскім, пры складанні якой ён кваліфікавана выкарыстаў свае гістарычныя і фальклорна-лінгвістычныя матэрыялы, а таксама звесткі, узятыя з лінгвістычных прац З. Даленгі-Хадакоўскага і Я. Карскага.

Пра ўзнікненне айконіма *Стадолічы* ёсць некалькі народных этымалогій. У адной сцвярджаецца, што сяло спачатку мела назву *Стодымічы:* паселішча належала тураўскаму князю, які накіраваў у яго сваю дружыну, каб збіраць падаткі з кожнага двара, з кож-

нага дыма. Калі зімовай раніцай людзі князя пад'ехалі да паселішча, то над курнымі хатамі ўгору ўздымалася сто дымоў, адсюль і першая назва — *Стодымічы.* У пазнейшы час першая назва трансфармавалася ў *Стадолічы.* Змена айконіма *Стодымічы* на *Стадолічы* быццам бы адбылася таму, што з цягам часу падаткі ў двор князя пачалі збіраць не ад колькасці дымоў над сялом, а ад долей (збожжа, мёду, мяса, пушніны і іншага), якія меў (атрымліваў) са сваіх уладанняў кожны гаспадар. Зборшчык падаткаў у гэтым паселішчы княжацкаму двару ад сялян *сто долей лічыў.* Адсюль нібыта — *Стадолічы.* Гэта выразныя ўзоры наіўных этымалогій, якіх у нашым народзе засведчана вялікае мноства. Яны лёгка абвяргаюцца, напрыклад, першая з названых: выходзіць, што паселішча атрымала назву толькі тады, калі ў ім стала сто дымоў (сто сядзіб). А калі ў тагачасных Стадолічах было 90—99 дымоў, то, выходзіць, у паселішча не было і назвы?! Але трэба адзначыць, што ў *Стадолічах* ста дымоў не было нават у 1775 годзе. Як сведчаць матэрыялы «Кнігі тарыфнай Мазырскага земскага суда» ў 1775 годзе быў складзены тарыф дымоў у Мазырскім павеце, у якім паведамлялася, што духоўнае ўладанне Віленскага біскупства *Убарць* складалася з 10 вёсак агульнай колькасцю 345 дымоў: *Баравое* — 20, *Буйнавічы* — 65, *Дуброва* — 43, *Злодзін* — 23, *Картынічы* — 23, *Лельчыцы* — 50, *Ліпляны* — 22, *Мілашавічы* — 32, *Сыманічы* — 26, *Стадолічы* — 41 дым. Ёсць яшчэ меркаванне, што сяло ўзнікла на месцы былых *стадол* — вялікіх хлявоў, што размяшчаліся паблізу торнай дарогі з Пінска і Турава на Кіеў. Апошняя легенда, відаць, блізкая да сапраўднасці, бо на Беларусі ёсць некалькі паселішчаў у Глыбоцкім, Бялыніцкім, Полацкім, Шчучынскім, Ашмянскім і іншых раёнах, назвы якіх *(Стадола, Стадолішча, Стадольніца, Стадольнікі, Стадаляны)* утвораны, на думку вучоных, ад слова стадола, якое цяпер архаізавалася, а ў старажытнасці мела некалькі значэнняў: пастаялы двор, канюшня, навес, астрог. Такім чынам, айконім *Стадолічы* ўтвораны ад агульнага назоўніка стадола пры дапамозе фарманта *-ычы (-ічы),* вядомага ў многіх славянскіх мовах. Ён універсальны і вельмі прадуктыўны: ужываўся ў этнаніміі ўсіх славянскіх моў, калі такія множналікавыя айконімы выкарыстоўваліся як назвы рода-племянных калектываў, патомкаў па імені іх продкаў, месцаў калектыўных пасяленняў, аб'ектаў калектыўнай прыналежнасці (параўн.: *Клімавічы, Багрымавічы, Раўбічы, Ждановічы, Сялюцічы, Капцэвічы*). Так, В. Ніканаў у артыкуле «Дзве хвалі ў тапаніміі Палесся» пра фармат -ічы адзначаў: «Калі б не было іншых доказаў яго старажытнасці, бясспрэчны аргумент — сама яго анамастычная ўніверсальнасць: *-ічы* вядомы ўсім ў этнаніміі *(люцічы, крывічы, вяцічы, дрыгавічы),* і ў антрапаніміі (старажытнарускае Ольгавічы — нашчадкі князя Алега Святаславіча), і ў тапаніміі (яшчэ да 947 года — *Лаўрэнцьеўскі* летапіс упамінае сяло *Ольжычы* каля вусця Дзясны, якім валодала княгіня Вольга». Гэты даследчык на падставе падлікаў і сістэматызацыі тапонімаў па іх фармантах у межах украінскага і беларускага Палесся ўстанавіў, што фарманты *-ічы, -овічы* на Мазыршчыне і Житоміршчыне складаюць 27,6 % ад усіх вядомых у даследаваным арэале. Асноўных тапанімічных масіваў на *-ічы* два. На Балканах яны сканцэнтраваны ў Босніі і часткова ў Сербіі, а на ўсходнеславянскай тэрыторыі — у Беларусі і ўкраінскім Палессі. Вядомы яны і на паўночным захадзе Расіі (Пскоўшчына). Басейн Прыпяці — паўднёвы фланг масавага, суцэльнага пашырэння айконімаў на *-ічы.* Асабліва высокая прадуктыўнасць такіх фармантаў ва ўтварэнні вясковых пасяленняў і меней — ва ўтварэнні «гарадскіх»: *Баранавічы, Калінкавічы, Жыткавічы.*

Агульны назоўнік стадола ў розных гаворках Беларусі, як прасачыў І. Яшкін, абазначае: 1. Язычніцкае мольбішча, храм; 2. Хлеў для коней (Чашніцкі раён); хлеў на заезным двары (Крычаўскі раён); павець, халодны будынак (Слаўгарадскі раён) і іншае. Мікратапонімы і тапонімы, утвораныя ад апелятыва *стадола,* вядомы ў самых розных рэгіёнах Беларусі: *Стадолак* — лес каля вёскі Стары Востраў (Клічаўскі раён), урочышча *Стадолішча* каля вёскі Свяцілавічы (Баранавіцкі раён), вёскі *Стадолішча, Стадольніца, Стадола, Стадаляны, Застадолле* ў Шумілінскім, Гарадоцкім, Талачынскім, Полацкім і іншых раёнах. У Статуце Вялікага Княства Літоўскага (1588 год) засведчаны наступны тэкст з ужываннем лексемы стадола: «Теж уставуем и приказуем, абы жадин чоловек в том панстве

нашом Великом князстве Литовском не смел новых мыт вымышляти ани на дорогах, ни на мостех, ани на греблях, ани на реках, ани на перевозех, ани в торгах, ани на местечках и стодолах або корчмах, на гостинцах, в именьях своих, кромя которыя бывали з стародавна уставлены, або мели бы на то листы продков наших або наши». У слоўніку Г. А. Івановай «Микротопонимия Мозырского Полесья» адзначаецца, што Стадолічы як паселішча спачатку, на думку мясцовых людзей, было заснавана ва ўрочышчы *Селіцка (Селіцкая)* як месца першапачатковага пасялення адной з трох родавых абшчын, што далі пачатак сучаснаму сялу *Стадолічы. Стадолічамі* маглі называць у той час і групу людзей, што жылі і працавалі пры *стадоле.* Валянціна Лемцюгова ўсебакова прааналізавала тапонімы на *-ічы*, выкарыстаўшы багаты беларускі анамастычны матэрыял з пісьмовых помнікаў і разнастайных анамастычных слоўнікаў. Гэтая даследчыца выявіла, што ў старабеларускіх пісьмовых помніках назвы на *-ічы* згадваюцца з XV стагоддзя, але гэта не азначае, што паселішчы ўзніклі менавіта ў гэты перыяд. Масавая рэгістрацыя такіх сельскіх паселішчаў распачалася ў XVI стагоддзі. Нягледзячы на тое, што крэўнародавая абшчына ў той час знаходзілася ў глыбокім распадзе, частка беларусаў трымалася старых традыцый. Пісьмовыя помнікі паведамляюць пра пасёлкі-дворышчы, у якіх жывуць родзічы-саўладальнікі па зямлі...

Айконім *Стадолічы* ў розных варыянтах і спалучэннях замацаваўся ў назвах суседніх паселішчаў: вёска *Альховая* спачатку (1800 год) мела назву *Стадоліцкая Рудня,* у канцы XIX стагоддзя блізка ад сяла існаваў фальварак *Стадолічы* Буйнавіцкай воласці, якім валодаў тытулярны саветнік Мітрафан Болатаў, суседняя вёска *Пабедная* ў 1848 годзе мела назву *Буда Стадоліцкая* (іншыя яе назвы *Стары Фальварак, Сіверсаў, Елізавецін*). У дарэвалюцыйныя часы, як сведчаць гістарычныя матэрыялы, недалёка ад сяла *Стадолічы* існаваў маёнтак *Стадолічы.* Захавалася карта-план, на якой пазначаны сяльцо і фальварак *Стадолічы* памешчыцы Ізабэлы Маркварт (1895 год). Маёнтак на поўначы межаваў з землямі часткі сяла *Буйнавіч* і хутара *Несцераўка* (гэта паселішча знікла), на ўсходзе з землямі маёнткаў *Валаўск і Кармы* (сучасныя



*Жанчыны са Стадоліч за працай.*
*Канец 30-х гадоў.*

вёскі Ельскага раёна), на поўдні з *Оўруцкім* паветам Валынскай губерні, а таксама з землямі вёскі *Сярэдняя Рудня*, на захадзе з землямі маёнтка *Лельчыцы* — уладанне графаў Тышкевічаў. На плане паказаны сяльцо *Стадолічы* і фальварак *Стадолічы*: *«пры пасялковай дарозе, пры балоце Жэрдзін»,* сумежны з вёскай *Стадолічы,* ён належаў вялікаму князю Андрэю Уладзіміравічу Раманаву. За 5 км на паўночны ўсход ад сяла ёсць кормапрадпрыемства *«Стадолічы»* (1986 год), пераўтворанае ў міжгас тае самае назвы. Апрача названых айконімаў, вакол Стадоліч вядомы невялікія вёскі, што некалі ўзніклі на стадоліцкіх землях: *Грабяні, Ручное, Заброддзе, Вязавая, Жмурня* (сучасная назва *Жмурнае*), а таксама архаізаваныя мікратапонімы — былыя назвы зніклых хутароў: *Ясянёвы, Прыстань, Пенькавата, Балота Курган* (сучасная назва *Курганскае Балота*), *Каля Святога Балота, Раінкі, Сошнікі, На Голях* (сучасная назва *Голя, На Голя*), *Осіповічы, Каўдоўба, Пуховая Бель, Дзельнае* (сучасная назва *Перадзельнае*), *Гурбы, Сухая Парасля, Ізмайлаво Болото, Ліпнікі, Перасечанэ, Песочнэ, Пудсолаўе, Роскопана гора, Рэдзька, Сеструмля, Сеструмске болото, Токі, Юрыцка доліна.* У слоўніку Г. А. Івановай засведчаны шматлікія мікратапонімы з ваколіц Стадоліч, да



*Нарыхтоўка грыбоў і ягад для сельпо. Канец 30-х гадоў.*

некаторых прыведзены тлумачэнні, этымалагічныя каментарыі. У ліку іх: *Сімоновы покосы, Сімоновэ болото, Сеўрукоў остроў, Серэднее, Селіцка, Сахалін, Рожаніца, Пудліпка, Пуджукоўе, Побуч, Плехоў, Плехоўская бель, Парцізанскі остроў, Дземідоў млін.* Пра некаторыя з названых мікратапонімаў вядомы цікавыя ўспаміны старажылаў, напрыклад, паляўнічыя сведчаць, што апошні мядзведзь у стадоліцкіх пушчах быў забіты ў пачатку 30-х гадоў XX стагоддзя ў *Паджукоўі* ў вялікім яловым лесе.

Вядома таксама, што малазямельныя польскія сяляне (па другой версіі — апалячаныя, акаталічаныя ўкраінцы з Львоўшчыны. — **В. Ш.**) з прозвішчамі Хамутоўскі, Неўмяржыцкі, Зелязінскі, Цалка, Бароўскі, Рагажынскі, Таргонскі і іншымі за бясцэнак у канцы XIX стагоддзя купілі ў мясцовых памешчыкаў, што валодалі вёскамі *Буйнавічы, Стадолічы* ў Мазырскім павеце, надзвычай бедныя пясчаныя землі і заснавалі такія вёскі, як *Вусаў, Лохніца, Жмурнае, Заброддзе, Убарцкая Рудня, Зарубанае* і іншыя, што ў сучасным Лельчыцкім раёне.

Пра ўзнікненне суседняй са *Стадолічамі* невялікай вёскі *Заброддзе* вядома наступнае: у канцы XIX стагоддзя з Заходняй Украіны перасяліліся некалькі бедных сем'яў з прозвішчамі *Хамутоўскі, Бароўскі, Неўмяржыцкі, Ліпскі* і без дазволу мясцовых сялян пачалі будаваць сабе жыллё (хаты, хлявы, калодзежы) ва ўрочышчы *Падкружжа* (мясц. *Пудкруж'е*). *Стадалюкам* гэта не спадабалася, бо вакол была іхняя зямля, побач былі іх пакосы, выпасы, палянкі, дзе яны сеялі збожжа. Яны, узяўшы вілы, сякеры, калы, прагналі прышэльцаў, і тыя перасяліліся на ўсход ва ўрочышча За брод, а прымірэнне наступіла таму, што сярод палякаў, як яны сябе называлі, было два кавалі, якія паабяцалі майстраваць усім мясцовым сялянам косы, вілы, сякеры і іншыя прылады. Новае паселішча атрымала назву *Заброддзе.* Дарэчы тут адзначыць, што яшчэ В. Маракуеў у сваіх падарожных запісах «Полесье и поле-

шукі. Из путевых заметок» (Одесса, 1897 год), адзначаў высокую вартасць працы каваля сярод палешукоў. *«В Полесье нет кузнецов не евреев. Чтобы сделать подкову или какой-либо гвоздь, он должен ехать к жиду-кузнецу за пятьдесят и более вёрст».* Першая архаізаваная назва гэтага паселішча — *Лабачоўка* — ад назвы невялікай рачулкі, што выцякае з балота *Жэрдзін*, але потым замацавалася назва *Заброддзе*, што ўказвала на месца знаходжання гэтага хутара — *«за бродам»* адносна дамінуючага і старажытнага сяла *Стадолічы*.

Між іншым, бедныя пясчаныя і забалочаныя землі Мазыршчыны не раз агулам прадаваліся памешчыкамі, рознага роду купцамі, гандлярамі. Нават класічны сюжэт пра выдуманых Гогалем Чычыкава, Сабакевіча, Наздрова, Плюшкіна, Каробачку з сусветна вядомых «Мёртвых душ», як прасочана даследчыкамі яго творчасці, быў запазычаны з фактаў і рэалій Мазыршчыны, што засведчаны там у сярэдзіне XIX стагоддзя. Як пацвярджаюць пошукі літаратуразнаўцаў і краязнаўцаў (С. Букчын, М. Капач, М. Сузько), Гогаль, прачытаўшы газету *«Санкт-Петербургские ведомости»*, № 66 за 1848 год, быў уражаны судовым працэсам над памешчыкамі і чыноўнікамі Мазырскага павета, якія бязмерна нажываліся за кошт продажу і спекуляцыі зямлёю, падтасоўваючы і фабрыкуючы зямельныя планы і статыстычныя звесткі пра наяўнасць існуючых і неіснуючых зямельных уладанняў. Газета была афіцыйным урадавым органам, дзе друкаваліся замежная і ўнутраная хроніка, розныя камерцыйныя звесткі. Гэты нумар, відаць, прыцягнуў увагу пісьменніка. У газеце паведамлялася, што абвінавачваліся вядомыя па тых часах на Мазырскім Палессі землеўладальнікі Артур і Аляксандр Фурсы, Леў Красінскі, Аляксандр Наркускі, Іван і Восіп Рудзіеўскія, службовыя асобы: адстаўны калежскі рэгістратар Мікалай Чыж, надворны саветнік Семянкевіч, тытулярны саветнік Хаецкі, мазырскі прадвадзіцель дваранства Лянкевіч, уездныя землямеры Матушкевіч і Задольскі. На думку пісьменніка С. В. Букчына, гэта была публікацыя пра суд у Бабруйску: «Высочайшая конформированная сентенция военного суда над помещиками Минской губернии Мозырского уезда за злоупотребление и неправильные действия при составлении в 1845 году планов и статистических описаний незаселенных земель, отданных в долги по питейным откупам и другим подрядам с казною».

Як сведчылі матэрыялы суда, былі выяўлены ў вялікай колькасці прыпіскі неіснуючых зямельных надзелаў у маёнтках *Скароднае, Буйнавічы, Лельчыцы, Стадолічы, Баравое, Карма* і іншых. У гэтай масавай і арыгінальнай па тым часе аферы ўдзельнічалі самыя знакамітыя ў павеце памешчыкі і чыноўнікі. Імператар Мікалай І зацвердзіў прысуд 26 ліпеня 1848 года. Маюцца дакументы, якія сведчаць, што была накладзена забарона на ўсе маёнткі і капіталы, якія належалі былому мазырскаму прадвадзіцелю дваранства калежскаму рэгістратару Ігнацію Лянкевічу і іншым. Рашэннем суда названыя вышэй памешчыкі былі пазбаўлены чыноў і пасаджаны ў Бабруйскую крэпасць. Пазбавіўся пасады нават Мінскі губернатар.

Такім чынам пад пяром Мікалая Гогаля прадпрымальніцкія захады «дзеячаў» павятовых маштабаў былі ўвасоблены і па-мастацку апісаны ва ўчынках вядомых персанажаў «Мёртвых душ».

Некаторыя адметнасці з гісторыі фальклору, укладу жыцця жыхароў Стадоліч у мінулыя часы засведчаны ў «Хроніцы Убарцкага Палесся». Так, у гэтай кнізе прыводзяцца фрагменты з нарыса В. Маракуева «Полесье и полешуки. Из путевых заметок», які зімой 1874—1875 гадоў зрабіў падарожжа па так званым *Глухім Палессі* і падрабязна апісаў свае ўражанні пра мясцовыя паселішчы, непраходныя балоты, лясы, адметнасці мясцовых жыхароў — *стадалюкоў.* В. Маракуеў пісаў: *«Найлепшымі пчалярамі на ўсім Мазырскім Палессі лічацца жыхары сяла Стадоліч; яны, апрача таго, паміж сваімі суседзямі праславіліся строгасцю і чысцінёй нораваў; сяло іх — адзінае месца на ўсім Палессі, дзе няма шынка і ліхвяра ці гандляра-жыда. Паблізу ад сяла стаіць яловы гай, таму мёд адрозніваецца асабліва добрым смакам».* Гэтае выказванне пранікнута павагаю да маіх землякоў, яго варта было б засведчыць на самым відным месцы ў сучасных *Стадолічах,* бо многае, чым паселішча адрознівалася нават ад сваіх суседзяў, на жаль, страчана. Як напамін пра былы традыцыйны занятак палешукоў у *Стадолічах,* у лясных гушчарах можна і ў наш час убачыць на дрэвах вуллі-кало-

ды. Гэта — *борці,* якія захаваліся толькі на Мазырскім Палессі, *бортніцтва* — найстаражытны занятак усходніх славян, на іншых тэрыторыях даўно забыты. Цяпер пераважна ў музеях можна ўбачыць борці і прылады бортнага промыслу. Тут можна адзначыць, што мёд у мінулыя часы, (калі не было цукру) быў асноўным прадуктам, з якога людзі атрымлівалі глюкозу, без якой арганізм існаваць не можа. В. Маракуеў пісаў, што па ўсім Палессі на высокіх дрэвах можна сустрэць вуллі, нярэдка вулей ці два разам замацаваны паміж двума суседнімі дрэвамі. Тутэйшы селянін лічыць грэхам лавіць раі: «Пчала — Божае стварэнне, вольнае, грэх прымушаць яе», — гаворыць ён. Таму тут нідзе няма пчальнікаў; пчала зусім дзікая і будзе трымацца, напрыклад, у садзе. Пчалярства здаўна складала тут значны промысел: воск вывозіўся па Дняпры ў Грэцыю... Месцам кармлення пчолам служаць шматлікія паляны, пакрытыя верасам. Верас цвіце з 1-га жніўня да 15-га верасня; у гэты час мільёны пчол выдаюць гук, кружачыся над верасам і збіраючы яго пылок. Самым жудасным злачынствам паводле народнага разумення, лічыцца выкраданне мёду з вулля. Даўней жа, як гаворыць паданне, такое злачынства вяло да страшэннага пакарання: выкрадальніку вырэзвалі пупавіну і прыбівалі яе цвікам да сасны, на якой стаяў вуллей. Злодзея ганялі вакол сасны да тае пары, пакуль ён з дзікім, істэрычным рогатам не падаў мёртвы.

Між іншым, назву бліжэйшай ад *Стадоліч* рэчкі *Убарць* некаторыя даследчыкі звязваюць з тым, што па яе берагах некалі на дрэвах было шмат вулляў-борцяў, у якія пчолы збіралі мёд. Гэтым мясцовасць адрознівалася ад іншых земляў Палесся. Тыя, хто плыў ракою, бачыў гэтыя вуллі, называючы яе (раку) *«У борцяў».* Пазней назва трансфарміравалася ў вядомы многім гідронім *Убарць*. Гэтая назва замацавалася як адміністрацыйная адзінка ў ВКЛ — *Убарацкая воласць*, якая ў той час была адной з самых вялікіх і багатых у княстве. Пра гэтую частку Мазыршчыны можна прачытаць у гістарычных дакументах: *«...найбольш захаваныя дзесьці ў змроку пушчаў і топкіх палескіх балотаў, далёка ўбаку ад агнёў новапаўсталага бурлівага жыцця маёнткі цераз гэта ўяўлялі сабой мноства паселішчаў, найбольшыя крыніцы даходаў скарбу і затым пэўны довад самай эфектыўнай гаспадаркі. Вышэйшы ў гэтых адносінах узор уяўляла, здаецца, найглыбей закінутая ў барах і дрыгве воласць Убарцкая».* Ёсць яшчэ некалькі этымалогій гідроніма Убарць. Так, польскі лінгвіст К. Машыньскі аспрэчваў прапанаванае паходжанне гэтага гідроніма ад старажытнаславянскіх апелятываў *борць* — дупло, *уборць* — калода, прыгатаваная для медазбору. В. Жучкевіч лічыў, што назва Убарць роднасная тэрмінам *«у борок», «прыбор»* — мясцовасць ля бароў.

Самыя частыя ў *Стадолічах* прозвішчы *Жогла, Шур, Калеснік, Крупнік, Маркевіч, Малец, Белька.* Пра гэта, напрыклад, сведчаць матэрыялы кнігі «Памяць. Лельчыцкі раён», дзе прыводзяцца спісы групы самаабароны, створанай ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны: у спісе 15 прозвішчаў — *Жогла Ціт, Жогла Фёдар, Жогла Васіль, Шур Міхаіл, Шур Стахей, Крупнік Даніла, Крупнік Міхаіл...*

У «Хроніцы Убарцкага Палесся» прыводзяцца найбольш частыя імёны суседняга са *Стадолічамі* маёнтка *Лельчыцы,* як мы мяркуем, адрозненні ў імёнах жыхароў *Стадоліч* і тагачасных *Лельчыц* будуць нязначныя: «150 мужчын на той перыяд (1847 год) мелі 72 імені, з якіх найбольш пашыраныя былі *Рыгор, Іван, Хведар,* далей *Аляксандр, Андрэй, Дзмітрый, Кузьма, Пётр,* рэдкаўжывальнымі — *Агей, Акула, Амяльян, Гілярый, Карп, Нічыпар, Парфен, Яўмен, Яўстрат*; 144 жанчыны мелі 51 імя, з якіх найболей распаўсюджанымі былі *Марыя, Аўдоцця (Аўдзюха), Ганна,* далей — *Кацярына, Параска, Прося, Матруна, Агафія, Настаха, Таццяна, Ульяна,* сярод рэдкіх сустракаліся імёны *Вася, Домна, Марта, Палашка, Паўліна, Сынклета, Тэкля, Хвеся, Хвядора*». У «Хроніцы...» таксама паведамляецца, што сяляне Убарцкай воласці мелі «амаль цалкам праваслаўныя імёны, колькасць якіх складае больш за сто. Найчасцей хлопчыкаў называлі імёнамі *Сямён, Сцяпан, Іван, Хведар, Аляксей,* а таксама *Нічыпар, Трахім, Карп, Хама, Гаўрыла* і іншымі паўзабытымі цяпер імёнамі...». Прозвішчы стадалюкоў засведчаны і ў мясцовым фальклоры:

Шур, Колеснік і Жагло
Засновалі Стодолічы-село,
А фамілії не такі —
Ето нашы прымакі.

***Заканчэнне будзе***

Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

# ДЗЁННІКАВЫЯ НАТАТКІ*

**1987 год**

**1 лістапада, нядзеля**

А лістападу ўжо няма чаго рабіць — кастрычнік зрабіў за яго ўсю справу. І праляцеў хутка, як адзін дзень. Марозік не адпускае ўжо больш як тыдзень, зямлю скавала. Няўжо ляжа зіма?

Сёння быў капусны дзень — шынкавалі маладым, дзве сярэдняй велічыні каструлі (адна выварка) недзе на кг 60 ці болей. З 11 да 15 гадзін управіліся як мае быць. Галя з Крыстынай ездзілі да Толі і Галі на Захад-3, прыехалі недзе ў 20 гадзін. А ў 16 прыехаў да нас Панас Палітыка, якраз на абед. Абед прайшоў добра, у спрыяльнай, сяброўскай атмасферы. У Панаса з сабой меліся крычаўскія прысмакі, якія смачнейшыя за мінскія далікатэсы.

Пасля абеду доўга гутарылі. У Панаса шмат сюжэтаў, у яго іх невычэрпнае мора, і яму неабходна сядзець і пісаць. Але не так гэта проста. Яго начальнік увесь час скардзіцца, што Панас нічога не робіць, і яму, начальніку, вельмі цяжка — даводзіцца рабіць чужую працу.

**2 лістапада, панядзелак**

Пленум, які намячаўся на сёння, перанеслі на трэцяе. Званіла зранку Данута, пыталася, што там здарылася — ці ехаць, ці не? Яна сказала, што паедзе.

Зноў чытаў Макоўскага. Ідзе добра, а як будзе далей — пабачым.

Правёў Палітыку, ён пайшоў у выдавецтва па сваіх справах.

Затым пайшоў на працу. Пазваніла Дайнекава жонка і спытала, дзе наш нумар з пачаткам «Дзяцей Арбата», бо нехта згубіў 4-ы нумар, які яны ўзялі ў Чыгрынава, таму ўзнік цэлы вір непаразуменняў — як і што яму адказаць? Урэшце вырашылі, што трэба зняць копію з пачатку «Дзяцей Арбата», а наш нумар вярнуць Чыгрынаву, бо ён можа раззлавацца.

Заходзіў Зайцаў, пагаварылі пра яго аповесць, прысвечаную перыяду паўстання Кастуся Каліноўскага.

Заходзіў Мартыненка, пагаварылі пра яго невялікае апавяданне, якое падобна трохі да гумарэскі, трохі да фельетона. Але аснова здаровая, калі ён папрацуе яшчэ трохі, то нешта атрымаецца.

Нам прыслаў з Ялты віншаванне са святамі Мікола Аўрамчык, віншуе ўсіх, у канцы паведамляе, што напісаў новую аповесць «Палон», якую хоча надрукаваць у «Маладосці». Малайчына, Аўрамчык, дарма часу не траціць. Стала вядома, што пленум пераносіцца на заўтра, у той жа самы час.

Хто чуў, абмяркоўвалі выступленне Гарбачова на святочным пасяджэнні ў сувязі з 70-й гадавінай Кастрычніка. Усе згаджаюцца з тым, што Гарбачоў дае вельмі правільную ацэнку дзейнасці ўсіх нашых лідараў — пачынаючы з Троцкага і канчаючы Брэжневым.

**3 лістапада, аўторак**

Устаў рана, сабраўся і паехаў на пленум. Учора трохі падрыхтаваўся да выступлення: пакапаўся ў сваіх шпаргалках, выбраў некалькі цытат, напісаў пяць старонак тэксту, нешта такое, што патрэбна для нашага моманту.

Хоць пленум і быў фактычна святочны, але атрымаўся рабочы, прадукцыйны, баявы, звернуты больш на недахопы, чым на дасяг-

* Працяг. Пачатак у № 1—6 за 2008 г., № 7, 8, 9, 10 г. г.

ненні. Выступленні з самага пачатку былі цікавыя — уступнае слова Гілевіча, у якім вельмі добра акрэслены ўсе нашы задачы і нашы праблемы, вельмі крытычная ацэнка нашых дасягненняў, адсталасць нашай гістарычнай навукі і інш; далей — даклад Васіля Зуёнка, таксама вельмі грунтоўна і аб'ектыўна. Затым пачаліся выступленні — Лужаніна, Някляева, Вярцінскага, Г. Коласа, Алеся Бяляцкага, прэзідэнта аб'яднання літаратурнай моладзі, якая цяпер налічвае шмат людзей.

Затым выступленне Дайнекі — цікавае, вострае, разумнае; маё ўласнае, не ведаю якое; Конана — таксама цікавае з-за цытат нашых ворагаў, якія аб'яўлялі ворагамі сумленных людзей.

Федасеенка пачаў з разважанняў, пачаў правільна, а пасля скрывіў лінію — распавёў пра свае крыўды.

Выступіў яшчэ Родчанка, Слуцак. Заключнае слова зрабіў Зуёнак. Пасля ў выглядзе даведкі Сідарэвіч добра ўрэзаў па Саўку Паўлаву, сказаў, што Савелію трэба пакінуць сваё месца працы. Увогуле, пленум прайшоў няблага.

Пасля з Данутай зайшлі да Іры Крэнь, пасядзелі пару гадзін.

**4 лістапада, серада**

На працы было, як заўсёды, шмат званкоў, заходзілі аўтары.

Званіў Салавей, пытаўся пра сваю аповесць. Якраз яе дачытаў, на рабоце ідзе марудна. Ламан званіў з Віцебска, пытаўся пра сваю «Купалінку». Запланавалі ў пяты нумар.

Быў Дубінка, ён ужо крыўдуе на нас даўно, што мы яго неяк закінулі і не друкуем, хоць у нас ляжаць дзве яго аповесці.

Заходзіў Павел Саковіч, узяў на дапрацоўку сваю аповесць — у асноўным каб скараціць.

Быў званок ад Жалязоўскага пра заўтрашнюю паездку ў Оршу на адкрыццё вуліцы імя Уладзіміра Караткевіча. Ад нас паедзе яшчэ Ждановіч, мо Янка Сіпакоў (ён яшчэ не паправіўся пасля хваробы), мо яшчэ Дайнека. Сёння ён выказваўся за тое, што паедзе, а потым, пачуўшы, хто едзе, адмовіўся. Але заўтра збор у 8 раніцы ля Дома літаратара. Мо і набярэцца шмат людзей, пабачым. Заўтра ў СП святочны вечар, прысвечаны 70-ці годдзю Кастрычніка.

Заходзіла Ларыса Кунько, узяла 5-ы нумар «Нашага сучасніка» з раманам «Дзеці Арбата». Расказвала, што ўжо год чакае, калі яе перасяляць. Лецка нібыта згадзіўся пераязджаць на Магілёўскую шашу, дом стаіць пры чыгунцы. Гігевіч таксама сёння гаварыў пра кватэры, што нешта дадуць пад Новы год — мо хоць чатыры кватэры. Значыць, будзе нейкі зрух. Мая заява ўжо дайшла да некаторых, Бутэвіч гаварыў пра яе з Гігевічам. Пабачым, што з гэтага выйдзе.

Сёння гаварылі пра пасляслоўе да рамана Генрыха Далідовіча, якое зрабіў Сташкевіч, філосаф, які б'е нацыяналістаў. Трохі паспрачаліся з галоўным. Ён не бачыць нічога кепскага ў тым, што такое пасляслоўе ёсць. Сыйшліся на тым, што выкраслілі два вялікія абзацы. Але Генрых робіць сабе гэтым пасляслоўем кепскую паслугу.

**5 лістапада, чацвер**

Дзень прайшоў пад знакам Караткевіча Уладзіміра. Яшчэ ўчора настройваў сябе на хвалю еднасці з ім, пранікаўся пачуццямі, якія ён заўсёды выклікаў у маёй душы. У мяне неяк побач была ў душы, у свядомасці вялікая радасць за яго і ў той жа час не пакідала трывога — ён мне бачыўся як чалавек, які ідзе па тонкім лёдзе. І горш за ўсё тое, што яму нельга дапамагчы. Гэтую дарогу ён сам сабе выбраў, яе ўсвядоміў, па ёй ідзе. І ён ведае, чым усё можа скончыцца, але ідзе, бо інакш нельга — трэба толькі так. Ён быў упэўнены ў сваёй праўдзе і таму быў непахісны.

У 8 гадзін ля Дома літаратара сабралася група: Казько, Ждановіч, Анатоль Верабей, Купава, Жалязоўскі, Янушкевіч Язэп. Пачакалі Сіпакова і Панізніка, яшчэ Тарасава, але іх не аказалася, і ў 8.30 рушылі з Мінска. Даехалі без прыгод, шафёр быў талковы хлопец, з «Ісдачы», бо ў нас пры Доме літаратара не аказалася машыны.

У 12 былі ў Оршы. На вуліцы Касманаўтаў у невялікім доміку жывуць сваякі Караткевіча, некалі жылі тут яго бацькі і яны, дзеці, але ўжо дарослыя. Тут і сёння спыні-

лася сястра Караткевіча Наталля Сямёнаўна і яе муж Іван Мікалаевіч Кучкоўскі. Тут нас пагрэлі чаем, былі тут ужо і віцябляне — артысты Ламан, Лабанок і Мархель на чале з рэжысёрам Мазынскім.

Роўна ў 13 гадзін пайшлі на ўрачыстасць адкрыцця мемарыяльнай дошкі і перайменавання вуліцы Касманаўтаў на імя Уладзіміра Караткевіча.

Вяла ўсю ўрачыстасць Лілія Змітраўна, настаўніца, што год таму адкрывала мемарыяльны пакой Уладзіміра Караткевіча ў школе № 3, дзе вучыўся Караткевіч.

Выступіў прадстаўнік гарсавета (прозвішча не запомніў), прачытаў па-руску па паперцы біяграфічныя звесткі пра Караткевіча, пасля выступалі Казько, я, Верабей, Купава, Янушкевіч, Мазынскі, Мархель, Ламан, некалькі вучняў. Сапсаваўся мікрафон на выступленні малой школьніцы, якая чытала верш Караткевіча. Выступала Наталля Сямёнаўна, сястра Уладзіміра Караткевіча. Гаварыла Лілія Змітраўна.

Кожнаму школьнікі давалі па гваздзіку.

Здаецца, усё было добра і цёпла, хоць школьнікі паспелі прамерзнуць, бо іх прывялі на месца адкрыцця на паўгадзіны раней. Іграў аркестр, быў спынены вулічны рух, было шмат народу.

Пасля мы пайшлі яшчэ ў школу, на чай, глядзелі мастацкую самадзейнасць, наведалі мемарыяльны пакой.

Пасля яшчэ раз пайшлі да Барабашаў, ужо на вуліцу імя Уладзіміра Караткевіча, нас запрасілі за стол — багаты, з выпіўкай і добрай закуссю. Было сказана шмат добрых і шчырых слоў пра Уладзіміра Караткевіча, пра яго творчасць, пра яго значэнне для нас.

Заўсёды, калі дакранаюся да ўсяго, што звязана з імем Караткевіча, перажываю вялікі боль, нібы ў мяне адкрываецца рана, якая ўжо загаілася. Але, аказваецца, яна не зажывае. І ніколі не зажыве. Боль вялікай страты ніколі не забудзецца. І чым далей мы ідзём ад таго часу, калі мы ведалі Уладзіміра Караткевіча жывога, тым больш усведамляем, хто быў для нас гэты нястомны барацьбіт і каго мы ў яго асобе страцілі. У яго было шмат ворагаў, асабліва сярод сталіністаў і вялікадзяржаўных дзержымордаў, якія не хацелі ведаць і слухаць пра тое, што была некалі нейкая там Беларусь-Літва, што яна мела і мае сваю багатую гісторыю, сваіх дзеячаў, гістарычных асоб, сваю культуру і літаратуру.

Вось гэтыя дзержыморды і ставілі яму палкі ў колы, усяк стараліся збіць яго з дарогі, сапсаваць настрой, ачарніць яго ў вачах абывацеля — што ён п’яніца, што ён хуліган, што не ведае, чаго сам хоча, што не ўмее пісаць пра сучаснасць і таму піша пра гісторыю.

**8 лістапада, нядзеля**

Увесь дзень прайшоў марна, але часам і гэта патрэбна, хоць нейкі адпачынак. Фактычна нічога не рабіў, прагледзеў газеты, пачытаў Макоўскага, асноўны час аддаў пошце — напісаў пару дзясяткаў паштовак і лістоў, я звычайна адкладваю да апошняга дня. Яны мала што даюць, але неяк даймае сумленне: калі табе прыслалі, то і ты павінен адказаць.

Учора я званіў шмат каму сам, а сёння мне пазваніла Ліна Блінова, пагаварылі з ёю некалькі хвілін. Расказвала пра сітуацыю ў педінстытуце, у іх цяпер увялі беларускую мову на ўсіх факультэтах, і яна цяпер чытае лекцыі нават на пятым курсе біяфака. Здзіўляюцца: а навошта нам гэта? Давядзецца пераконваць, зацікаўліваць і г. д.

**9 лістапада, панядзелак**

Заходзіў Юркевіч, абяцаў прынесці яшчэ адно апавяданне (прынёс адно дапрацаванае). Заходзіў Шайдаў з Оршы, але так, праведаць, ці пачаў я яго рэдагаваць. Трохі пагаварылі.

Званіў Рубанаў, прапанаваў адзін рукапіс на рэцэнзію, але я адмовіўся, ужо даўно даў сабе слова не рэцэнзаваць рукапісаў, бо мне некалі яшчэ дырэктар Матузаў не давяраў такой важнае справы. То не трэба і цяпер, абыдуся без лёгкага заробку.

Званіў Марозаў Зм., падганяе страшэнна, каб я яго прачытаў, каб звесці праўкі ў адзін экзэмпляр для выдавецтва. Такую форму браць за горла выкарыстоўвае не адзін ён, малады, ужываюць і старэйшыя. І такіх набіраецца з дзясятак.

**Успамінае Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

***П'есы я пачала пісаць у 18 гадоў, у часы студэнцтва, на лекцыях. У гэтым узросце многія аднакурснікі спрабавалі сябе ў літаратуры, але звычайна гэта былі вершы, апавяданні, аповесці. А я раптам вырашыла, што мая справа — драматургія. Лёгка, незвычайна лёгка, нібыта іх нехта дыктаваў зверху, ішлі дыялогі. І зусім не прыходзілі ў галаву апісанні прыроды, акалічнасцей, бытавых дробязей. Усе мае п'есы — а іх за сваю маладосць я напісала дзесяць — сталіся на гістарычныя тэмы. У студэнцкія гады мы шмат чыталі твораў сусветнай літаратуры, маглі параўнаць мову, характэрную для розных эпох і краін. І стылізацыя мовы «пад эпоху» ў мяне таксама адразу «пайшла». Першыя п'есы я па звычцы паказвала ўніверсітэцкім выкладчыкам, але хутка зразумела, что большасць з іх — вузкія спецыялісты. Яны могуць выказаць свае ўражанні, але не патлумачыць, чаго не хапае ці чаго там у пераборы ў творы пачаткоўца. Давялося бегаць па Мінску, хапаць за рукавы прафесійных літаратараў. Наіўна лічыла, што гэтак знайду добразычлівага і цярплівага «настаўніка» ў пісьменніцкім асяроддзі. Але натыкалася толькі на людзей, якія мнагаслоўна хвалілі мае драматычныя творы (не крытыкаваў ніхто!) і гэтак жа мнагаслоўна тлумачылі, што іх нідзе надрукаваць нельга. Ва ўсялякім разе, пакуль я — малады аўтар. Не паложана, «наверсе» не зразумеюць. Вось калі споўніцца хаця б трыццаць! Я перагледжу свае маладзёжныя творы, падпраўлю і тады…***

***Але маладому аўтару патрэбна прызнанне менавіта пакуль ён малады, і гэтага, здаецца, у тыя часы ніхто не разумеў. Добра, што мы ўжо прайшлі тады па сусветнай літаратуры раман Джэка Лондана «Марцін Ідэн», і я магла «прымераць» сітуацыю на сябе, каб сказаць: «Ну добра, я і сапраўды пачакаю. А пасля, калі мяне ў трыццаць ці сорак гадоў усё ж такі прызнаюць, паўсюль буду казаць, што вось гэты "выдатны твор" быў напісаны дзевятнаццацігадовым альбо дваццацігадовым аўтарам і з гэтых часоў ніяк не мяняўся!»***

Званіў Какорыч, пытаўся пра лёс сваіх апавяданняў. У яго сабралася падборка з трох апавяданняў, і неблагія, асабліва адно пра выпадак з міліцыяй.

Узяў у Грачанікава ўкраінскую «Літгазету», трэба пачытаць выступленне Алеся Ганчара ў Ленінградзе на Усесаюзнай творчай канферэнцыі 1 верасня 1987 года, дзе ён закрануў шмат надзённых праблем... Вечарам пачытаў. Вельмі праблемна і доказна.

**11 лістапада, серада**

Зранку пайшоў на дзяжурства, было некалькі званкоў — ад Палубяткі з Мастоў, яшчэ нехта пытаўся Ждановіча, Дайнеку. Пасля зайшлі па дарозе Фомчанка і Левановіч. Землякі, абодва зацікаўленыя — у аднаго апавяданне, у другога — раман. Абодва пыталіся, калі, што і як. Хадзіў па «Літгазету», але прамахнуўся, не купіў. А газета як быццам цікавая, паглядзеў пасля нашу, рэдакцыйную.

Перабраў на сваім стале стос папак, адабраў аўтараў пяць — каго ўжо трэба прачытаць тэрмінова, бо заляжаліся: Лапцік, Казлоў, Суслаў, Цвірка, Масляніцына. Яшчэ трэба падрыхтаваць Мрыя і Кавалёва ў першы нумар. Мрый надрукаваны па старой арфаграфіі, трэба «амаладжваць». А на добры лад варта было б вярнуцца да старой, бо яна правільная, адпавядае нормам нашай мовы. Але рана ці позна мы да гэтага пытання вернемся.

Была лятучка, але я ў тры гадзіны пайшоў. Зайшоў у Саюз журналістаў да Бабровіча, ён даў пачытаць мне адзін ліст. Цікавы, мо і з'явіцца ў друку. Я яго не падпісаў, пабаяўся звязвацца з несумленнымі людзьмі. У мяне ворагаў і так хапае, і ўсе яны моцныя.

Потым пешкі пайшоў у Дом кнігі, заходзіў да Барадуліна, яго не застаў. Спытаўся, калі карэктура. Яны не ведаюць, а год канчаецца. Кажуць, мо варта схадзіць да Андраюка, каб падварушыў? Я тут жа зазірнуў, ён паабяцаў пацікавіцца, чаму так доўга няма карэктуры.

Бачыў Шупеньку, аддаў яму першы нумар з «Дзецьмі Арбата». Казаў, што дырэктар нешта супраць яго ўжо мае, стаў прыціскаць. Ці не з-за Адамовіча? Вельмі верагодна.

**12 лістапада, чацвер**

Зранку падрыхтаваў Кавалёва С., два апавяданні, прачытаў Мрыя чатыры апавяданні — цікавыя, кожнае з нечым сваім, адметным. Ёсць тое, што потым знікла ў нашай прозе — самакрытычнасць, высмейванне ўсяго адсталага і цёмнага, што ў нас было, якое мы пасля сталі хаваць ад людзей у літаратуры, а ў жыцці яно было і яшчэ вунь колькі будзе. А мы прыйшлі да самазахвальвання, да ідэалізацыі чалавека — і ён паверыў у гэта і заганарыўся.

На працы было неяк ціха — мала званкоў і аўтараў. Званіў Янец, пытаўся пра сваю трылогію, званіў Падневіч, пытаўся пра сваю драматургію, Паравік пыталася пра апавяданні.

Бачыў Сцяпана-Сцепаненку, казаў, што зойдзе забраць апавяданне, якое засталося ад падборкі (зняў Далідовіч — ён, калі дзе што сацыяльнае, то зніме абавязкова, гэта ў яго ў крыві — ці ад страху).

Падрыхтаваў спіс прозы, якая прайшла праз «Маладосць» і закранае інтэрнацыянальную і патрыятычную, гістарычную тэмы. За тры гады набіраецца цэлая старонка. Гэта да таго, што будуць слухаць у аддзеле культуры недзе праз месяц.

Хадзіў у стол заказаў, узяў заказ на 6 руб. Быў у Міклашэўскага. Бачыў Зуёнка, Пятро Ліпай завербаваў мяне ў паездку на сустрэчу з Плешчаніцкім домам-інтэрнатам, гэта збірае групу Галя Каржанеўская. Паедзем прыблізна ў аўторак.

Міклашэўскі сказаў, што ёсць ліст у высокія сферы пра тое, што тут у нас, у Беларусі, існуе група пісьменнікаў-нацыяналістаў, якая праводзіць падрыўную работу ў рэспубліцы, што ў ёй сякія-такія, і мо нават ёсць рэзюмэ, што з імі трэба зрабіць, як гэта было пяцьдзясят год назад. Так што людзям дай толькі волю, яны дагаворацца і дапішуцца.

Яшчэ адзін чалавек казаў, што Савелій ляжыць у лечкамісіі пад кропельніцай, нешта з ім здарылася. Відаць, усё ж глыбока перажываў свае нечаканасці, калі ўзяло за сэрца.

Сёння засядала кватэрная камісія, але не ведаю, што яна там вырашыла. Нешта мне ніхто не пазваніў.

***Так і раблю, некаторым з «добразычліўцаў», якім было надта клопатна дваццаць гадоў таму дапамагчы маладой і здольнай студэнтцы, сорамна становіцца.***

***Аднак, гутарка тут не пра п’есу «Вяртанне», героем якой з'яўляецца беларускі паэт першай паловы XX стагоддзя Гальяш Леўчык. Гэты твор я, маладая, напісала па заказе — рэжысёр Слонімскага народнага драматычнага тэатра папрасіў, а пасля спалохаўся ставіць, бо там было надта многа герояў з ліку рэпрэсіраваных беларускіх інтэлігентаў. Пісалася цяжка, бо ў тыя часы яшчэ не былі ў шырокім доступе архівы, з якіх можна было б даведацца, што ж сапраўды адбывалася на Беларусі ў 20—30-я гады. І нават не ўсе факты біяграфіі герояў тых часоў былі вядомы. А людзі дасведчаныя неахвотна дзяліліся праўдай. Мне вось, напрыклад, тады параілі звярнуцца да аднаго слонімскага літаратара, які ведаў Гальяша Леўчыка. Але ён накіды п’есы прачытаў і наадрэз адмовіўся гутарыць: можа, калі і сам напішу штось! Цяпер і сапраўды піша. Артыкулы ў газеты. І з аднаго такога артыкула я даведалася пра акалічнасці асабістага жыцця Леўчыка, якія насамрэч і больш драматычныя, і цікавейшыя, чым я напрыдумвала. Чаму б дзяўчынцы, якая напісала пра каханне Леўчыка да абстрактнай гераіні, не сказаць, што, маўляў, насамрэч герой безадказна кахаў Зоську Верас, ажаніўся з іншай, пазнаёміўшыся з ёю па перапісцы, цяжка перажываў смерць жонкі ад рук фашыстаў, якія знайшлі, што яна дапамагае падпольшчыкам! Дык не: мой і толькі мой Леўчык! Нікому не аддам! З такім стаўленнем да людзей, якія спрабавалі сцвердзіцца ў літаратуры дваццаць гадоў таму, мы маем цяпер не больш двух дзясяткаў саракагадовых прафесійных пісьменнікаў па ўсёй Беларусі. Здаецца, сёння штосьці зрушылася, і на моладзь пачалі звяртаць увагу, дапамагаць дзейсна, сапраўды расціць таленты. Можа, з пакалення тых, каму цяпер дваццаць, мы атрымаем больш рэалізаваных аўтараў?***

**15 лістапада, нядзеля**

Дзень прайшоў бяздарна. Трохі пачытаў газеты, трохі парэдагаваў Граўцова. Сюжэт ён вяжа, з мовай бяда па-ранейшаму, гэта назаўсёды. Няўважлівы да слова страшэнна, нават вычытаць матэрыял не можа.

Нечакана пазваніў адзін хлопец, сказаў прыязджай — і я паехаў, бо даўно з ім не сустракаліся. Пасядзелі, выпілі па чарцы. Ён расказаў цікавы факт пра дзяды, якія былі 1 лістапада ў скверы ля Янкі Купалы. Што як быццам хлопцы з ДБ не зацікаўлены ў тым, каб быў вялікі шум вакол такіх падзей і прымаюць усе меры, каб не было ніякіх эксцэсаў. А я думаў, што наадварот — яны знарок падліваюць масла ў полымя.

Пагаварылі яшчэ пра Ельцына — што гэта фігура цікавая і яна ўвойдзе ў нашу гісторыю, мо нават зацямніць некаторых іншых. Цікава, што ніхто не загаварыў пра тое, што было два гады раней, пры Грышыне. Як згаварыліся, ніхто яго не назваў, не пахваліў, не зганіў, не параўнаў стыляў, не сказаў, што дасталося Ельцыну ў спадчыну. Ну і дыпламаты ўсе сталі, як на падбор! Шкада, што Ельцын толькі адзін. Вось каб іх была сотня на Маскву, то мо і навялі б парадак такі, як трэба.

**16 лістапада, панядзелак**

Хоць і збіраўся яшчэ адкладваць рэдагаванне Карпекі, але нікуды не дзенешся — сёння пачаў. Пачатак заўсёды цяжкі, пакуль уцягнешся, пакуль разварушышся — а потым ужо ідзе. Як той казаў, вочы баяцца, а рукі возьмуцца і зробяць.

Учора атрымаў два лісты, але паклаў іх у кішэню і забыўся. Адзін ад Дануты Бічэль, а другі з бюро абмену жылплошчы, што на Астроўскага, 14. Сам не ведаю, што там мне скажуць, і чаму менавіта туды трэба звярнуцца. Няўжо гэта водгалас таго ліста, які я паслаў Сакалову тыдні тры назад?

На працы быў шум і мітусня. Сёння зводзілі карэктуру, прыйшоў Далідовіч, у пасляслоўі да рамана Сташкевіча зрабіў устаўку там, дзе крытыкаваліся старыя празаічныя рэчы на гісторыка-рэвалюцыйную тэму. Быў шумны Тармола, лаяўся з Дайнекам, чаму не далі яму кватэры, нібы ён самы горшы паэт і найлепш за ўсіх забяспечаны жыллём — мае 17 кв. м на чатыры душы! Лаяў таксама саюзнае начальства і гразіў дабрацца да яго. Хацелася яму сказаць: Рамане, што ты тут нам пра ўсё гэта гаворыш? Ты гавары тым, што вышэй, ад якіх усё залежыць. А што мы? Мы самі такія ж просьбіты, як ты. Вось яны: я, Янішчыц, Сіпакоў, Гігевіч. За выключэннем аднаго Дайнекі.

Быў Адамчык, абяцаў прынесці п’есу. Дзівіўся з нашых запасаў — калі мы іх рэалізуем?

**17 лістапада, аўторак**

Сабраўшы ўсе пашпарты і метрыкі, ордэры, хадзіў у Бюро па падліку і размеркаванні жылля, Астроўскага, 14, побач з абменным. Інспектар Гарбар Яўген Мікалаевіч, малады хлопец, прагледзеў усе мае дакументы, запісаў, што яму трэба, распытаў сёе-тое, каб лепш высветліць для сябе ўсю праблему і сказаў, што ён пытанне не рашае, а толькі высвятляе ўсе «за» і «супраць» і падае матэрыял вышэй. Аптымізму ў маёй справе ён не выказаў, сказаў, што надзеі мала, адзінае — гэта маё права на 20 кв. м як члена Саюза СП. Але гэта ўсё толькі фармальна, а практычна гэтыя 20 застаюцца покуль што на паперы.

З Астроўскай заехаў у Дом літаратара, зайшоў да Ліпая, ён гаварыў з Лагойскам пра транспарт. Сказалі, што высветліцца праз якую гадзіну. З гэтым я паехаў дамоў. А праз гадзіну пазваніў Ліпай і сказаў, што паездка ў Плешчаніцы пераносіцца, бо транспарту не знайшлі.

На працы было шмат званкоў і размоў. Званіла Пасынкава, гаварылі пра яе раман ці аповесць, пра сувязі яе з Клецкам, дзе яна ў вайну была ў дзетдоме.

**18 лістапада, серада**

Пакуль сёе ды тое, то трэба ехаць у горад па «Літгазету». Гэты раз купіў хутка, у тым кіёску, дзе ўжо даўно не купляў, бо ўсё там ішло налева, па заказе, а выпадковым пакупнікам не прадавалі. За гэта на прадаўцоў скардзяцца, і яны часам робяцца мяккімі.

Пасля з’ездзіў яшчэ ў Дом літаратара, але Вільтоўскага не было на месцы, паехаў у камандзіроўку ў Маскву, прыедзе ў канцы

тыдня. Затое бачыў Гаршкова, але ён мне нічога не сказаў, значыць, мне нічога не свеціць, і дарэмна ўчора Гігевіч гаварыў мне зайсці да начальства. Не люблю я браць людзей за горла, хай рашаюць самі.

На працу зайшоў Сёмуха, прынёс слова да апавядання Караткевіча, потым расказаў мне, як яны цяпер жывуць дома, калі ён развёўся з жонкаю, а дзеці захацелі быць з ім, а не з ёю, і як яна цяпер стала па-дурному сябе паводзіць і гэтым самым яшчэ больш сапсавала рэпутацыю перад дзецьмі.

Далідовіч сабраў нас, каб планаваць першы нумар. З прозы пайшлі толькі Сачанка і Караткевіч, зляцеў Кавалёў. У кожным аддзеле што-небудзь зляцела.

Вечарам чытаў Кулакоўскага, трэба аддаць Янку Брылю, каб ён напісаў невялікую прадмоўку да аповесці.

**19 лістапада, чацвер**

Чытаў аповесць Кулакоўскага. Чытаецца добра, цікава. Ён у сваёй творчай манеры, з'ездліва-сатырычна, хоць і рэалістычны таксама.

Сёння Брылю так і не пазваніў, адцягваецца на пасля.

На працы сёння было ціха, усе пайшлі на прэзідыум, там разглядаліся рэдакцыйныя планы.

Заходзіў Макоўскі, пагаварылі пра яго аповесць. Ён узяў яе на невялікую дапрацоўку.

Званіў Ліпай, гаварылі пра паездку ў Горкі на нейкую навуковую сесію. Дамовіліся, што я паеду ў чацвер, на чытанні па мове. Званіў Асташонак, гаварылі пра яго аповесць. Ён яе дапрацаваў, улічыўшы ўсе мае патрабаванні, ці амаль усе. Але другая частка засталася ў форме ліста героя да сябра, і тады была слабейшая за першую. Пабачым, як стала пасля дапрацоўкі.

**20 лістапада, пятніца**

Дачытаў аповесць Кулакоўскага «Першы нумар». Рэч цікавая, але з дзівацтвамі, не люблю я такіх незавершаных твораў: думай што хочаш. А мне хочацца, каб аўтар сказаў катэгарычна — так ці гэтак. Гэта нешта падобнае да таго, як чалавек будуе дом, а даху не зробіць або коміна не выведзе наверх. Форма патрабуе зместу, а змест формы.

На працы сёння было шумна — пасля ўчарашняга зацішку.

Зноў быў шумны Раман Тармола, гаварыў з Дайнекам, пасля званіў Гаршкову, лаяўся з ім, патрабаваў адрас новай кватэры, недзе там ва Уруччы, ад якой усе адмаўляюцца, а яму, Тармолу, не даюць, бо ён не стане адмаўляцца.

Заходзіў Булацкі, пытаўся пра свой матэрыял, які ў Гаўрона. Якраз быў Гаўрон, пагаварылі добра. Булацкі ўспомніў пра маё выступленне ў іх на кафедры, казаў, што водгукі былі добрыя — толькі ці праўда?

Заходзіў Граўцоў, прынёс яшчэ адно апавяданне да ўсіх, што ў нас ляжаць.

Званіў Дзялендзік, прасіў, каб я перадаў яго п'есу Грачанікаву для чытання. Я перадаў, перадаў і аповесць Кулакоўскага. Званіў Брылю, але сказалі, што ён паехаў у Польшчу на некалькі дзён.

Званіў Арлоў, прасіў, каб я яго аповесць перадаў у Дом літаратара, ён у нядзелю будзе праязджаць праз Мінск і забярэ, а мне пакіне кнігу Янеца «Крушні», якую ён браў чытаць.

Званіла Масляніцына, пыталася пра сваю п'есу. У нас ляжыць мо ўжо дзесяць п'ес, гэта на пяць гадоў друкавання.

Яшчэ быў Капыловіч, гуляў трохі ў шахматы з Дайнекам. Да яго прыехалі нейкія землякі, і невядома, дзе іх падзець.

Па дарозе дадому купіў № 11 «Маладосці», трэба будзе пачытаць анкету. Шмат цікавага ў Сачанкі, асабліва пра крытыкаў.

**21 лістапада, субота**

Сёння маладзік, мо зменіцца надвор'е. Відаць, пойдзе на холад, сёння нуль градусаў, ішоў сняжок, а вакол Беларусі ўжо бярэцца мароз, нават на Украіне.

Днём хадзіў на пошту, забраў бандэроль з Ленінграда, ад Футэраў (дачка Дзеркача, пісьменніка-сатырыка), зайшоў у магазін, купіў хлеба і малака. Галя ездзіла па боты, якія заказала ўжо даўно, забрала апошнія грошы. Купіла мне «ЛіМ». Прачытаў гутарку Сачанкі з Марціновічам, вельмі цікавую на мой погляд. Яна папулярная, але вельмі патрэбная сёння нашаму чытачу. Ёсць пера-

клічна з адказамі на анкету «Маладосці», якую сёння я чытаў таксама. Нешта мы ўсе разам сказалі патрэбнае сённяшняму чытачу, нешта сказалі пачаткоўцу, абавязкова ён знойдзе сабе нешта карыснае. А не знойдзе — то значыць сляпы і глухі.

Чытаў-рэдагаваў Карпеку, трохі сёння разварушыўся, стала ісці хутчэй. У яго часта двайныя старонкі, падклееныя, то калі адрэдагуеш 20, то гэта ўжо будзе 30 ці болей. Мо я і паспею ўкласціся ў графік, хоць увесь час падганяюць маладыя. Той жа Зайцаў чакае — не дачакаецца, пакуль я яго скончу чытаць.

Ды і яшчэ якая дзясятка, а то і больш аўтараў. Некаторыя рукапісы ляжаць ужо даўно, а рукі да іх ніяк не даходзяць. Каб я мог здаць апавяданні на рукі Гігевічу, у мяне быў бы зусім іншы парадак, а так цякучка мяне заядае, кожны дзень прыходзяць аўтары малога жанру, іх трэба чытаць, вяртаць, зноў чытаць — бясконцы колаўрот. І гэтай справы Гігевічу я не магу даручыць, ён можа даць агульную характарыстыку рэчы, а прыватнасці не паправіць і часам не ўбачыць, асабліва ў пытаннях мовы. Яму не стае філалагічнай адукацыі.

**24 лістапада, аўторак**

На працы было няшмат народу, усе пайшлі на партсход, застаўся я на два кабінеты. Аўтары заходзілі і званілі.

Быў Анатоль Жук, прынёс новае апавяданне, з таго часу, як ён надрукаваўся, я яго і не бачыў. Дзіўны чалавек, артыст!

Кантылёў таксама прынёс новыя апавяданні пасля таго, як мы яго першы раз надрукавалі. Гэты дзякаваў мне і нават запрашаў на каву, за што таксама яму падзякаваў і сказаў, каб прыносіў новыя творы, што ён і зрабіў.

Званіў Праўдзін, пытаўся, ці прачытаў яго новыя апавяданні. Пытаўся, ці можна яшчэ прынесці адно.

Званіў недзе з Буды Казлоў, якога гэтым летам надрукавалі. Прыслаў падборку, але я яшчэ не прачытаў.

Быў Нічыпаровіч, узяў на дапрацоўку сваю «Энергію» пасля заўваг Далідовіча.

Званіў Грахоўскі наконт фота Мрыя, казаў, што яму прыслалі вялікую сямейную фатаграфію і на ёй Мрый-Шашалевіч-старэйшы. Так што будзем мець фота.

Шукаў сёння рукапісы Граўцова, Ланеўскага, рассыпаліся рукапісы з «падвала» стала, ледзь разабраўся. Абарвалася палічка, не вытрымаў адзін штыр. Шмат «цяжкіх» рукапісаў, сырых.

**25 лістапада, серада**

Учора на партсходзе перавыбіралі парторга, Гігевіч здаў свой жэзл Пашкову Гену. Мо больш будзе чытаць, а то ўжо адбіўся ад рук. Казаў, што як скінуў гару з плеч.

Гаварылі, што сход быў нейкі дробязны — была грызня і сварка — шмат кепскага нагаварылі Гілевічу, фактычна з-за Васілеўскай, якую ён узяў пад абарону і гэтым шмат сабе напсаваў, бо яна быццам не той чалавек, якога трэба абараняць.

Заходзіў Ланеўскі, гаварылі пра яго гістарычныя навелы, мо і выберам некалькі штук. Ён казаў, што напісаў вялікі нарыс пра Машэрава, пра яго партызанскі перыяд. У суаўтары далі Кейзарава.

Званіў Галіцкі, пагаварылі пра яго апавяданне. Мо трэба падціснуць, бо ў яго расцягнута. Казаў, што ў «Юнацтве» выдае сваю першую кніжку на шэсць аркушаў.

Заходзіў Зубараў, доўга гаварыў са Ждановічам пра нейкія фота для кнігі пра Горкага і Багдановіча Адама.

Прачытаў апавяданне Какорыча пра сына здрадніка. Як быццам неблагое, трэба толькі менш гаварыць ад першай асобы, будзе лепш успрымацца — як аб'ектыўны малюнак.

Вечарам скончыў чытаць Варановіча, другое апавяданне. Але надта блізкае да першага, як частка. Гэта ўжо кепска.

**26 лістапада, чацвер**

Трохі чытаю сваю карэктуру, «Німфу». Мясціны ёсць, здаецца, такія, што карысныя будуць для моладзі — у сэнсе павучыцца жыць, выбіраць сабе пару, як сябе паводзіць і г. д. Асабліва для маладых дзяўчат, каб яны не ляцелі, як тыя матылі, на начны агеньчык, які здалёк такі вабны, а зблізку — адразу апякае крылы.

На працы адразу пачалася рэдкалегія, былі з членаў Юрэвіч, Зуёнак, Тарасюк, Макаль, ад ЦК камсамола Ждановіч, прыгожы мала-

ды хлопец, добра гаворыць па-беларуску. Абмеркавалі план, пагаварылі пра вынікі гэтага года, прагаласавалі за лаўрэатаў года. Ад прозы — Шалкевіча, ад паэзіі — аднаго з Дэбішаў, па крытыцы — Тарасюк Любу, а па публіцыстыцы — Станкевіча з Барысава.

Пасля пабыў з гадзіну на рабоце — і зноў трэба ехаць у Дом літаратара, засядаць на праўленні Літфонда. Перад гэтым прыняў Граўцова, адчытаў яго за мову, ён, відаць, трохі пакрыўдзіўся, але хай ведае, што ў літаратуру з такім бедным багажом лепш не ісці.

**27 лістапада, пятніца**

Зранку рэдагаваў Карпеку, нешта я яго закінуў, а час падганяе. Трэба хутчэй канчаць, а то ён там, недзе ў «Маладой гвардыі», вылеціць з плана на нейкі там год. А тут вельмі не разгонішся, трэба здаваць ужо другі нумар. Здаў Кулакоўскага, аднёс у «Вожык» на перадрук Мрыя, бо Ларыса Кунько хворая, не ўзялася перадрукаваць, у яе там кватэрная праблема.

На працы беганіна. Здаў Гігевічу свае два апавяданні на другі нумар: «Ля старых курганоў» і «Самасуд» (раней называлася «Дарога туды і назад»). Абодва былі мне вернуты — адно з «Маладосці», другое — з «Полымя». Не ведаю, як цяпер іх ацэняць і ці прапусцяць.

Гаварылі з Далідовічам наконт Варановічавых апавяданняў, што адно, вялікае, добрае («Жывая душа»), а другое, яно ляжала ў нас даўно — слабаватае і нейкае як бы падобнае да вялікага. Таму рашылі яго не даваць.

Заходзіў Калкоўскі, прынёс новае апавяданне, на 17 старонак. Сказаў яму, што, на жаль, ён не прайшоў у гэтым годзе. Як ні дзіўна, успрыняў ён такую навіну даволі мужна, ва ўсякім разе, не пакрыўдзіўся, як некаторыя маладыя.

Званіў Савоська, пытаўся, ці прачытаў яго аповесць Далідовіч. Чамусьці пытаў, як я ацаніў аповесць Паўлікавай, якую ён бачыў у мяне. Я сказаў, што вярнуў, бо страшэнна слабая — як па сюжэце, так і па мове.

Быў сёння прафсход, выбіралі новую каманду на наступны год. Усё прайшло хутка і весела.

Заходзіў у «Звязду», занёс Жалязоўскай артыкул Міклашэўскага, мо ім і падыдзе, пабачым. Хоць вялікаваты, ажно дваццаць старонак. Цікава, што ў нас яго не захацелі друкаваць — як Янка, так і ўсё начальства. Не хочуць заядацца з Сідарэвічам.

Вечарам рэдагаваў Карпеку. Ён мне званіў. Заўтра занясу яму частку — на перадрук.

**30 лістапада, панядзелак**

Зранку трохі рэдагаваў Карпеку, а потым пачаў чытаць п'есу студэнткі журфака Масляніцынай «Вяртанне». П'еса, здаецца, будзе цікавай. Галоўная фігура — Гальяш Леўчык, вакол яго Федароўскі, Іван Луцкевіч, яшчэ некалькі выдуманых асоб. Дзея адбываецца ў Варшаве, дзе Леўчык жыў з 1904 года, дзе і загінуў, здаецца, расстраляны немцамі, хоць раней казалі, што загінуў падчас бамбёжкі. Але хто вельмі Варшаву бамбіў у 1942 годзе?

На працы было неяк ціха, усе пайшлі на секцыю прозы, я адмовіўся, абрыдлі пасяджэнні. Была яшчэ Янішчыц, заходзіў філосаф Белы, шукаў Сіпакова.

Я насіў апавяданне Варановіча тэхрэду Яніне, яна яго забракавала па тэхнічных прычынах — трэба перадрукоўваць. Узялася перадрукаваць Ларыса Кунько, хоць і няма здароўя. 4-га ў яе будзе суд, райсавет высяляе іх з кватэры. Узамен нічога добрага не дае, а высяляць — высяляе.

Заходзіў Праўдзін, прынёс яшчэ адно апавяданне. Ужо два новыя, пабачым.

Яшчэ забягаў Сцяпан, забраў адно сваё апавяданне, якое не прайшло.

Пасля працы ездзіў у горад. Купіў білет на аўтобус у Клецак на 4.12. У суботу будзе нейкая сустрэча з аматарамі кніг. Не ведаю, хто яшчэ паедзе са мною.

Вечарам дачытаў п'есу, здаецца, рэч добрая. Мо толькі канцоўка, але гэта дробязь. І мова добрая, і напаўненне вобразаў, і пазіцыя аўтара — усё імпануе. Леўчык у канцы гаворыць: «Калі ты страціў усё, але ў цябе засталася Радзіма, значыць няма чаго наракаць на лёс. Радзіма, калі яна ёсць у чалавека, папоўніць усе яго страты». Мудрыя, вельмі патрыятычныя словы.

*Працяг у наступным нумары*

Мікола КАНДРАТАЎ

# УЗДЫМ І ПАДЗЕННЕ АНАТОЛЯ СЫСА



*Анатоль Сыс.*

Восьмым па ліку знакам Задыяка з’яўляецца Скарпіён (♏). Арол, які выходзіць з панцыра на свабоду, — яго сімвалічны вобраз. Вырвацца з панцыра азначае пераадолець страх і ўсе тыя перашкоды і небяспекі, што ўтойваюцца ў самім сабе.

Яскравым прадстаўніком знака быў наш сучаснік, паэт Анатоль Сыс, народжаны 26 кастрычніка 1959 года ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна Гомельшчыны. У яго касмаграму трапілі амаль усе моцныя па кармічным статусе планеты: Сонца (☉), Марс (♂), Нептун (♆) і Меркурый (☿). Першыя тры знаходзяцца ў злучэнні і ўтвараюць канфігурацыю ***планетнае ядро***, патэнцыял якога ў суме + 21 бал. А ўсе планеты разам у касмаграме Анатоля даюць + 52 балы, што ўвогуле здараецца рэдка.

Планеты ядра сведчаць пра магчымасць паэтычнага дара. Марс дае праявы актыўнасці, смеласці і пасіянарнасці. Нептун адказвае за вышэйшую гармонію. Сонца — творчы дух — галоўная планета паэтаў і музыкаў. Планеты гэтыя ў разглядаемай касмаграме сплаўляюцца ў нешта новае: іх функцыі яднаюцца і шматкроць узмацняюцца. У знак Скарпіёна трапіў таксама Меркурый, які сімвалізуе слова, веды, мову і адказвае за пісьмо. Выходзіць, Анатоль Сыс не мог не стаць паэтам: ён ім нарадзіўся. Да таго ж Месяц (☽), які сімвалізуе душу, эмоцыі і пачуцці, знаходзіцца ў самым творчым знаку — Льва (♌), у злучэнні з планетай Уран (♅), што дае арыгінальнасць і наватарства. Апошнія абставіны абумовілі энергетыку і арыгінальную вобразнасць паэтычнай творчасці Анатоля. Заўважым таксама, што Меркурый мае ў Скарпіёне ***эзатэрычную экзальтацыю***. Гэта патэнцыйная магчымасць атрымаць касмічную інфармацыю — сапраўдныя веды.

Знаходжанне планеты Юпітэр (♃) у Стральцы (♐) — месцы свайго *прыстанку* — давала Анатолю вялікі аўтарытэт. Юпітэр і Нептун у касмаграме паэта самыя моцныя — абедзве маюць каралеўскі кармічны статус, адпаведна + 7 і + 12 балаў. А планета Сатурн (♄), што сімвалізуе мэтанакіраванасць і прафесіяналізм, таксама трапіла ў месца ўласнага *прыстанку* — знак Казярога (♑), пад якім, дарэчы, знаходзіцца наша краіна.

Усё вышэйназванае паспрыяла даволі хуткаму прызнанню — і ў чытачоў, і ў літаратуразнаўцаў. Анатоля Сыса яшчэ пры жыцці залічылі да класікаў беларускай літаратуры. Аднак Бог няроўна дзеліць. Згодна Авесце, чалавек прыходзіць у гэты нялёгкі свет для самаўдасканалення — каб пераадолець уласныя памылкі, перамагчы ліха ў сабе. Таму кожнаму з нас да станоўчага патэнцыялу даецца і цяжар адмоўнага — рысы, якія неабходна выправіць.

У выпадку з Анатолем Сысам трэба адзначыць, па-першае, што ў *планетным ядры* ў Скарпіёне Марс набліжаны да Сонца. Такое яго становішча называецца ***спаленым*** і праяўляецца адмоўнымі

функцыямі: грубасцю, залішняй самаўпэўненасцю, здольнасцю да дурной ініцыятывы. Анатолю Сысу трэба было ўвесь час прагнуць творчых праяў — пераводзіць сваю адмоўную актыўнасць у энергію радкоў.

Па-другое, Нептун у Скарпіёне і Месяц у Льве ў гараскопе Сыса памяняліся месцамі сваіх *падзенняў* — такое іх становішча называюць у астралогіі ***антырэцэпцыяй***. Апошняя ўтварае з названых планет замкнутую сістэму — планеты душаць і прыгнятаюць адна адну. Антырэцэпцыя прымушае чалавека займацца праблемамі, якія забіраюць сілы і не даюць вынікаў. У нашым выпадку Месяц, сімвал душэўных перажыванняў і эмоцый, быў завязаны на Нептун, адказны за вышэйшую гармонію, але разам з тым і за ілюзіі. Пакуль Анатоль Сыс ішоў шляхам удасканальвання паэтычнага майстэрства — па Сонцу ў злучэнні з Нептунам, — гэта кампенсавала праяву вышэйназванай антырэцэпцыі. Як толькі пачалі надарацца творчыя збоі і застой, сталі з'яўляцца душэўныя перажыванні (па ☽), якія паэт спрабаваў патапіць у алкаголі: гэта давала яму ілюзію гармоніі (па ♆). Такой праяве спрыяла кола прыхільнікаў і знаёмцаў па знаку Блізнят (♊), дзе ў касмаграме Сыса знаходзіцца самотны Чорны Месяц (⚸) — сімвал ліха і падману. Знаходжанне апошняга ў *каралеўскім градусе* вымагала ад паэта пазбягаць сумнеўнага сяброўства, быць асцярожным у выбары прыяцельскіх кантактаў і кантраляваць свае словы.

Асабліва абвастрылася праява названай антырэцэпцыі пасля таго, як Анатоль Сыс сышоў на пенсію з-за хворага страўніка (☽), пакінуўшы службу, якую сімвалізуе знак Панны (♍). Справа ў тым, што вырашэнне праблем знака Скарпіёна ў паэта павінна было адбывацца ў першую чаргу праз знак Панны — там знаходзіцца планета Плутон (♇), галоўны кіраўнік Скарпіёна. Сыс жа пераключыўся на месцазнаходжанне другога ягонага кіраўніка — *спалены* Сонцам Марс у Скарпіёне. Гэта паспрыяла гардыні і скандальным паводзінам геніяльнага аўтара. Скарпіён кусае свой хвост. З Марса, дамінанты *планетнага ядра*, пачалася праява адмоўнай энергіі апошняга, а планета Сонца, самая слабая ў гэтай канфігурацыі,



*Касмаграма Анатоля Сыса.*

прывяла да спынення творчага росту, распылення творчага патэнцыялу.

У Анатоля Сыса быў ратавальны шлях — рухацца па знаку Рыб (♓), у якім знаходзіўся самотны Белы Месяц (⯝), сімвал ісціны і наш анёл-ахоўнік. Праява па знаку Рыб абумоўлівала глыбокую веру ў Бога, і гэта магло б стаць жывільнай крыніцай для паэта. Сапраўдная вера дапамагла б праявіць ***эзатэрычны прытулак*** Нептуна ў знаку Скарпіёна як вышэйшую гармонію. На вялікі жаль, паэт не змог скарыстацца гэтай магчымасцю.

І ўсё ж Анатоль Сыс дасягнуў значнага ў паэзіі, упісаўшы сваё імя ў гісторыю беларускай літаратуры. *Грехи прощают за стихи. Грехи большие — за стихи большие.* Сведчаннем таго, што Анатоль Сыс здзейсніў у сваім жыцці больш светлага, чым адмоўнага, з'яўляецца факт, што паэт памёр 4 траўня 2005 года, пражыўшы 45 поўных гадоў, кратных ліку 9 — цыклу Чорнага Месяца. А, значыць, яго пазбавілі жыцця цёмныя, а не светлыя сілы. Зразумела, што Сыс як паэт быў «запраграмаваны» на значна большае. Тым не менш, як пісаў пра Анатоля Сыса вядомы літаратуразнаўца і крытык Іван Штэйнер, маналог ягоны ўнікальны, «ён па сутнасці падвёў вынікі развіцця беларускай паэзіі ў XX стагоддзі і прадвызначыў шляхі яе эвалюцыі ў трэцім тысячагоддзі».

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## СТАЎБЦОЎСКІ РАЁН

**Вёска Марозавічы** Рубяжэвіцкага сельсавета

**Сабалеўскага Вітольда** (н. 7.4.1961), паэта, журналіста, радзіма. Скончыў Рубяжэвіцкую СШ (1978), факультэт журналістыкі БДУ (1983). Працаваў у стаўбцоўскай раённай газеце «Прамень», уздзенскай раённай газеце «Чырвоная зорка» (з 2001 г. — рэдактар). Аўтар кніг паэзіі «Чабаровая паляна» (1994), «Абранніца» (1997), «Пра бабу Маню, дзеда Васіля і іншых» (2003). З 1981 г. з'яўляецца кіраўніком раённага літаратурнага аб'яднання «Нёманец».

**Вёска Мархачоўшчына** Навасвержанскага сельсавета

Бацька паэта **Сыракомлі Уладзіслава** (сапр. Кандратовіч Людвік), ураджэнца в. *Смольгава* Любанскага р-на, арандаваў тут зямлю з 1834 г. на працягу 6 гадоў. Тут у 1834—1840 гг. прайшло дзяцінства паэта. У 1834 г. яму было 11 гадоў. Два гады жыў стала, потым наездамі і падчас вакацый, калі вучыўся ў павятовай школе ў Нясвіжы, а пазней у Навагрудскай гімназіі. У 1837 г. Людвік вярнуўся сюды з Навагрудка і памагаў бацькам па гаспадарцы. У 1840 г. Кандратовічы перабраліся адсюль у Залуча. У Мархачоўшчыне Сыракомля многа чытаў, спрабаваў рыфмаваць.

Маці **Лучыны Янкі** Антаніна Неслухоўская арандавала той самы маёнтак, што і Кандратовічы, у князёў Радзівілаў з 1863 г. Янка бываў тут, калі вучыўся ў Пецярбургу.

**Вёска Мікалаеўшчына,** цэнтр сельсавета

**Мікалаеўшчынская сярэдняя школа імя Якуба Коласа**. Новы будынак школы ўзведзены намаганнямі Якуба Коласа ў 1947 г. Імя прысвоена ў 1948 г. Каля школы ў 1972 г. устаноўлены помнік Якубу Коласу (скульптар А. Глебаў). У школе ёсць музейны пакой пісьменніка. У 1974 г. на будынку школы устаноўлены барэльефны партрэт Коласа (аўтар С. Вакар).

У 1950 г. арганізаваны калгас «Радзіма Якуба Коласа».

Мікалаеўшчына разам з суседняй Смольняй з'яўляецца цэнтрам Коласаўскага заказніка, у які ўключаны *Дубы*, леснічоўкі *Ласток* і *Альбуць*. Заказнік створаны ў 1972 г.

**Адама Мікалая** (н. 8.1.1978), паэта, радзіма. Да 1992 г. жыў з бацькамі ў Казахстане. У 1995 г. скончыў Мікалаеўшчынскую СШ. Вучыўся на філалагічным факультэце БДУ. Скончыў аддзяленне кінадраматургіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў (2005). Працаваў акцёрам, рэжысёрам, адказным сакратаром часопіса «Акно». Аўтар зборніка вершаў «Калыханка для каханай» (2001), аповесці «Насця», раманаў «Не вер, не бойся, не прасі», «Дзень добры, хата» і інш.

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г., № 1—11 за 2011 г., № 3, 4, 5, 6, 7, 8, 10 за 2012 г.

**Белага Сымона** (26.7.1929—18.10.2005), пісьменніка, радзіма. Скончыў Мінскі інстытут замежных моў. Працаваў настаўнікам англійскай мовы ў Радашковіцкай сярэдняй школе. Аўтар кніг «На бацькоўскай зямлі» (1993), «Нам засталася спадчына» (1999) і інш.

**Галіны Антося** (сапр. Міцкевіч Міхал; 13.7.1897—25.10.1991), пісьменніка, публіцыста, перакладчыка, педагога, радзіма. Брат Я. Коласа. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1917). Жыў на хутары Смольня і займаўся сельскай гаспадаркай. У час нямецкай акупацыі працаваў інспектарам школ. У 1944 г. выехаў на Захад — спачатку ў Чэхаславакію, потым у Заходнюю Германію. Жыў у лагеры для перамешчаных асоб, працаваў інспектарам пачатковых беларускіх школ, якія дзейнічалі ў лагерах. Выдаў каля дзясятка чытанак. У 1950 г. пераехаў у Нью-Ёрк, дзе працаваў настаўнікам, вартаўніком цвінтара. У 1970—1981 гг. — рэдактар часопіса «Голас царквы». Літаратурную дзейнасць пачаў у 1917 г. кніжкай «Як Мікіта бараніў сваіх» (у суаўт. з Я. Лёсікам). У 1960-я г. пераклаў з царкоўнаславянскай на беларускую мову тэксты малітваў, богаслужэнняў, Евангелля.

**Дземідовіча Дзмітрыя** (н. 24.3.1947), паэта, радзіма. Скончыў Мікалаеўшчынскую СШ (1964), энергетычны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Працаваў на энергетычных аб'ектах СССР. Аўтар кніг паэзіі «Грані лёсу» (на рускай мове, 2005), «Прызнанне» (2007), «Вялікая гульня» (на рускай мове, 2007), «Падвойнае замыканне» (на рускай мове, 2007).

**Дземідовіча Паўла** (10.7.1871—7.3.1931), этнографа, фалькларыста, краязнаўца і педагога, радзіма. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1890), Віленскі настаўніцкі інстытут (1897). З 1890 г. настаўнічаў на Міншчыне і Навагрудчыне, з 1915 г. — у Віцебску. З 1908 г. — член-супрацоўнік аддзела этнаграфіі Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім універсітэце. З 1919 г. — у Мінску, арганізатар і загадчык 13 беларускай школы (з верасня 1919 рэарганізавана ў Мінскую беларускую гімназію). У 1920—1921 гг. — інстурктар і загадчык школьнага аддзела Наркамасветы БССР. З 1921 г. выкладчык і загадчык аддзялення Мінскага інстытута народнай адукацыі, выкладчык у школах Мінска. З 1925 г. — член этнаграфічнай секцыі Інбелкульта. Збіраў беларускія паданні, легенды і гутаркі. Аўтар асобных этнаграфічных і краязнаўчых артыкулаў у перыядычным друку.

**Камароўскага Алеся** (н. 1.3.1947), пісьменніка, радзіма. Скончыў БДУ (1970). Працаваў у Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна, Літаратурным музеі Я. Коласа, Рэспубліканскім праўленні аматараў кнігі, на Беларускім тэлебачанні, Рэспубліканскім радыёцэнтры, у часопісе «Маладосць», выдавецтве «Юнацтва», часопісе «Вясёлка». Друкуецца з 1961 г. Аўтар кніг «Пачатак» (1975), «Зямля маіх надзей» (1988), «Валошкі памяці» (2002), «Азбука жыцця» (2009); аповесцей для дзяцей «Адкрытая тайна» (1979), «Заварожаны меч» (1989), «Пенальці» (2000).

**Коласа Якуба** Літаратурнага музея філіял. Адкрыты ў 1967 г.

У 1892—1894 гг. (па іншых звестках — у 1893—1895) Якуб Колас вучыўся ў Мікалаеўшчынскай пачатковай школе, у настаўніка М. Корзуна. Да гэтага ж часу адносяцца яго першыя літаратурныя спробы. У той час, калі ў школе вучыўся Я. Колас, яна мела 4 аддзяленні па 10—15 чалавек у кожным. Школьны будынак быў цесны і непрывабны. Пісьменнік успамінаў: «Мне здаецца, што самы хітры на выдумкі штукар не прыдумаў бы болей злоснага пасмяхання над народнай асветай, як пастроіць гэту школу. Шыльда на ёй ўся аблезла... Шыбы ў вокнах выбіты, паколаты. Бярвенні пагнілі, праз сцены можна кулак усунуць. Ганак згніў, два слупы струхнелі. Дах увагнуўся, аброс сівым мохам. А як глянеш у сярэдзіну дык яж шкура шорхне. У падлозе няма ніводнай цэлай дошкі... Печ пакалолася, раз'ехалася, як рэзгіны...»

Колас не раз бываў у Мікалаеўшчыне і пазней: 9—10 ліпеня 1906 г. удзельнічаў у рабоце нелегальнага настаўніцкага з'езда; жыў тут у родных у 1908 г. — наведваў сялянскія

сходы, пісаў апавяданні, вершы, карэспандэнцыі ў «Нашу ніву». З 1915 да 1940 г. ён не быў у вёсцы, якая знаходзілася пад Польшчай. У канцы лютага 1940 г. сяляне вёскі вылучылі паэта кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. Вясной 1940 г. арганізаваў дапамогу пагарэльцам вёскі. Наведаў Мікалаеўшчыну ў 1947, 1949, 1954, 30 красавіка 1956 г. Па ініцыятыве Коласа ў вёсцы быў узведзены новы будынак школы.

Бальніца ў Мікалаеўшчыне была збудавана пасля хадайніцтва дэпутата Вярхоўнага Савета БССР Канстанціна Міцкевіча перад Міністэрствам аховы здароўя БССР. Агароджа на могілках зроблена пасля звароту Я. Коласа ў Савет Міністраў БССР.

Тут, на могілках Церабяжа, пахаваны бацька і маці Я. Коласа, дзядзька Антось, брат Юзік.

**Лёсіка Язэпа** (6.11.1883—1.4.1940), празаіка, публіцыста, мовазнаўца, літаратуразнаўца, палітычнага дзеяча, радзіма. Акадэмік АН БССР (1928). Дзядзька Якуба Коласа. Вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі (1898—1899), скончыў Ноўгарад-Северскае гарадское вучылішча (1902). Працаваў выкладчыкам Бабруйскай сельскагаспадарчай школы, настаўнічаў у мястэчку Грамяч Ноўгарад-Северскага павета Чарнігаўскай губерні. За ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях 1905 г. арыштаваны (у 1907 г. уцёк з турмы). У 1911 г. арыштаваны паўторна. Пакаранне адбываў у Кірэнску і Бадайбо Іркуцкай губерні, дзе пасябраваў з Алесем Гаруном. Падтрымліваў сувязь з газетай «Наша ніва». З ссылкі вярнуўся пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Стаў адным з лідараў Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ). Увайшоў у Беларускі нацыянальны камітэт, рэдагаваў яго газету «Вольная Беларусь» (1917—1918). Уваходзіў у Вялікую беларускую раду. Удзельнік Усебеларускага з'езда 1917 г. У час германскай і польскай акупацый працаваў у Мінску. Уваходзіў у раду БНР, Народны сакратарыят Беларусі, адзін з ініцыятараў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Пасля расколу БСГ адзін з кіраўнікоў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. У чэрвені 1918 г. узначаліў Раду БНР. У 1919 і 1920 гг. супрацоўнічаў з газетамі «Звон» і «Беларусь» (апошнюю некаторы час рэдагаваў). Пасля расколу Рады БНР (13.12.1919) стаў старшынёй Найвышэйшай рады БНР. Пасля грамадзянскай вайны адышоў ад палітычнай дзейнасці. З 1921 г. выкладаў у БДУ, Белпедтэхнікуме. У 1922 г. выбраны правадзейным членам Інстытута беларускай культуры, у 1928-м — акадэмікам АН БССР. Удзельнічаў у рабоце Тэрміналагічнай камісіі (з пач. 1930 г. яе старшыня), быў дырэктарам Інстытута навуковай мовы. Выдадзены ім у 1922 г. падручнік «Практычная граматыка беларускай мовы» названы ў прэсе «контррэвалюцыйны», і ў лістападзе 1922 г. Лёсік быў арыштаваны. Але хутка быў вызвалены. У 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі». У 1931 г. сасланы ў Камышын Саратаўскай вобласці. Жыў у г. Нікалаеўскі, дзе выкладаў у педтэхнікуме. У 1934 г. амнісціраваны без права вяртання ў Мінск. З 1935 г. жыў на Браншчыне, з 1937 г. працаваў у педтэхнікуме г. Аткарск Саратаўскай вобласці. У чэрвені 1938 г. зноў арыштаваны, у 1940 г. асуджаны на 5 гадоў лагераў за «антысавецкую агітацыю». Паводле афіцыйнай версіі, памёр у саратаўскай турме ад сухотаў. Рэабілітаваны ў 1958 і ў 1988 гг. Аўтар апавяданняў, публіцыстычных, навуковых твораў.

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары***



# Бярозка

№ 11/2012(1014)











**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**



**● Верасок**

# Восеньскі вальс

* * *

Восень — гэта чароўная, прыгожая і вельмі натхняльная пара года. Нават калі ідуць дажджы і дзьмуць вятры, яна зачароўвае сваёй прыгажосцю. Маладзенькія дрэўцы ад лёгкага подыху ветрыку гушкаюць сваімі галінкамі, нібы жывыя. А вялікія дрэвы ад моцнага ветру пачынаюць рыпець так, быццам хочуць штосьці сказаць, на нешта паскардзіцца.

Кожны чалавек, які пабывае восенню ў лесе, не зможа не заўважыць рознакаляровага дывана пад нагамі. Такую прыгажосць нельга перадаць словамі, гэта можна толькі намаляваць. А ў цішыню і загадкавасць лесу варта ўважліва ўслухацца.

Я люблю бываць у восеньскім лесе. Заўсёды з цікавасцю назіраю, як усё заціхае, замірае і рыхтуецца да зімовага сну. Нібыта і не было шуму, гоману, спеву птушак, шэпту лісточкаў. Чары восені моцна прыцягваюць. Але надыдзе зіма, і яе чары перамогуць. Так будзе заўжды.

***Настасся ЕРАШ, 13 гадоў, Мінск***



*Фота Рагнеда Малахоўскага.*

* * *

Канец кастрычніка. На схуднелых чорных дрэвах дзе-нідзе можна ўбачыць маленькі жоўты ліхтарык яшчэ не апалага ліста. Альбо некалькі. Чырвонае лісце ўжо даўно абсыпалася, а пра зялёнае прырода ўжо і не памятае. Шэрае пахмурнае неба гатова хоць кожны дзень плакаць халоднымі слязамі дажджу. Сонца амаль не бывае, паўсюль толькі хмары, хмары, хмары…

Амаль кожную раніцу на зямлю кладзецца малочна-белы туман з халаднавата-шэрым адценнем.

На зямлі калюжыны. Гразь.

Надвор’е супярэчыць само сабе: адным ранкам — туман, другім — марозныя іголкі на дахах і пажоўклай траве, тонкая скарынка лёду на вадзе.

Ночы, як ні дзіўна, ясныя і зорныя. Халодныя. Хаця за дзень нават скарынка лёду растае. Цікава: сонца няма, цяпла таксама няма... Як ёй гэта ўдаецца?

Нейкае ўсё панурае. Ды хутка прыйдзе лістапад з першым снегам, які, канешне ж, растане. Затое наступны снег ужо можа застацца на ўсю зіму. Але бывае і так, што першы снег, які выпаў у лістападзе, будзе ляжаць да сакавіка. Зямля адпачне.

***Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,***
***13 гадоў, Дворнасельск,***
***Мёрскі раён***



*Фота Рагнеда Малахоўскага.*

* * *

Восень. Апошнія сонечныя промні на захадзе шчымліва грэюць сваёй цеплынёй маю спіну. Вецер пяшчотна гуляе з валасамі, прасейвае праз іх вераснёвую прахалоду... Самотна ўсведамляць, што лета скончылася, і згасаюць успаміны пра яго, як апошні вугалёк кастра.

Восень. Якая нудная вуліца, дзе зусім нядаўна быў дзіцячы смех! Як балюча глядзець на гэты развітальны вераснёвы вальс. У душы абыякавасць і пустэча...

І на хвілінку прыходзіць думка — няўжо гэта канец?.. Але не, гэта ўсяго толькі восень... Шэрае неба ўкрыта ватным пледам. Нуда, якая працінае душу ледзяным дажджом, не пакідае ні на імгненне. Хочацца гучна галасіць ці проста заплюшчыць вочы, каб не бачыць восені. Са смуткам упадзе кляновы ліст на маю гарачую далонь і... памрэ.

У такую слоту хочацца проста сесці і чагосьці чакаць, а мінорны настрой не дазволіць нават усміхнуцца. Але як на змену чорнаму прыходзіць белае, так і на змену восені прыйдзе зіма...

Гэта Жыццё...

***Анастасія БЕЛАРУСАВА,***
***16 гадоў, Барысаў***

# Ох, ужо гэтая моладзь!..



***Бывае, ідзеш па вуліцы і чуеш ад якой-небудзь жанчыны, бабулі ці проста ад незнаёмага табе чалавека не вельмі добрае выказванне пра моладзь. Штонебудзь накшталт: «Толькі і ведаюць, што ў камп'ютары сядзець!» або «Зусім старэйшых не паважаюць!»***

## Меркаванне дарослых

А ўвогуле... хто ёсць сучасная моладзь? Гэта мы! І памылка ў тым, што ўсіх хлопцаў і дзяўчат (як добрых, так і дрэнных) прыводзяць да адной роўніцы. Вядома, не ўсе дарослыя людзі думаюць дрэнна пра моладзь. Але ўсё ж, калі чуеш крытыку, неяк не зусім прыемна становіцца на душы. І вось я вырашыла высветліць, што ж сапраўды людзі старэйшага пакалення думаюць пра нас — моладзь.

### Жанчына гадоў 45—47

— Нашу моладзь адрознівае хамства. Юнакі, напрыклад, часта выкарыстоўваюць нецэнзурную лексіку, ну, а дзяўчат не рэдка можна сустрэць з цыгарэтай.

Гэта быў мой першы апытаны чалавек. І, калі шчыра, тое, з якім негатывам гэтая жанчына распавядала мне пра жудасную, на яе думку, моладзь, проста палохала! Але гэта мяне не спыніла, і я працягнула апытанне.

### Мужчына гадоў 38—40

— Цяпер, мне здаецца, у маладых людзей больш свабоды выбару. Але не заўсёды іх выбар правільны. А наогул, мне падабаецца сучаснае маладое пакаленне. Бо ў іх шмат ініцыятывы і жаданняў.

### Бабуля гадоў 60—65

— Розная моладзь бывае. Адны, напрыклад, сціплыя і вельмі мілыя хлопцы. Іншыя зусім без комплексаў і сораму: могуць дазволіць сабе выйсці на

вуліцу нават без ніжняй бялізны, што я нядаўна магла назіраць. Вось якую параду я магу даць нашаму маладому пакаленню: імкнецеся да дабра і любові — і, паверце, яны заўсёды будуць у вашым жыцці!

## Меркаванне моладзі

А што ж скажа сама моладзь?

### Двое закаханых гадоў 15—17

— Мы ўсе хочам незалежнасці, добрага жыцця! Праўда, часам нашыя жаданні засланяюць нам свет вакол.

### Хлопчык гадоў 13—15

— Цяпер, мне здаецца, амаль усе захапляюцца спортам. Асабліва гэта тычыцца нас, сучаснага пакалення: мы проста не можам сядзець на адным месцы!

### Дзяўчынка гадоў 16

— Вельмі многія з нас маюць дрэнныя звычкі: курыць, піць спіртныя напоі, весці нездаровы лад жыцця, ужываць нецэнзурныя словы. І гэта, на мой погляд, проста жахліва!

## А тыя, хто з моладзю штодзень?

Меркаванне навакольных людзей, безумоўна, важна, але яно не такое справядлівае, як меркаванне тых, хто сутыкаецца з прадстаўнікамі моладзі штодзень.

### Інспектар па справах непаўналетніх Ленінскага РУУС г. Мінска

— Мне па родзе сваёй дзейнасці даводзіцца сутыкацца з не зусім паслухмянымі (у дачыненні да закона) прадстаўнікамі моладзі. Нехта разаб'е акно ў школе, паб'ецца, нешта ўкрадзе ў краме і г. д. За кошт гэтых злачынстваў, на мой погляд, яны спрабуюць самасцвердзіцца. Давесці, што яны нешта могуць, прыцягнуць да сябе ўвагу аднагодкаў ці бацькоў. Праўда, я б не сказаў, што некаторыя дзеці абдзелены





ўвагай, проста яны трапляюць у нядобрую кампанію. Маладым цяпер трэба быць больш патрабавальнымі ў дачыненні да саміх сябе і ў той жа час заставацца самімі сабой, дамагацца сапраўдных мэт. А якіх — яны павінны вырашыць самі.

**Настаўнік грамадазнаўства**

— Моладзь цяпер адукаваная і вядзе актыўны лад жыцця (ці хаця б імкнецца). Мне сучасная моладзь вельмі падабаецца! Заўсёды знойдуцца тэмы, пра якія можна з імі пагаварыць. Да таго ж яна вельмі разняволеная, што, на мой погляд, больш плюс, чым мінус.

**Мадэльер Магілівец Ларыса Андрэеўна**

— Па родзе сваёй дзейнасці мне давялося пабачыць нямала молодзі. Пра сучасных прадстаўнікоў магу сказаць, што ёсць вельмі добрыя хлопцы і дзяўчаты, яны і культурныя, і акуратныя (у сваіх словах і выразах), і здольныя на мноства добрых спраў. Такая моладзь адразу зараджае сваёй энергетыкай. Але ёсць і тыя, з якімі не тое што непрыемна працаваць, але нават і падыходзіць да іх не хочацца. Я ўжо пераканалася, што ўсё залежыць ад сям'і. Калі дома мама ці бацька абмяркоўвае суседзяў, калег і іншых людзей, то я не здзіўлюся, што і дзіця можа пераняць гэтую рысу.

**Дзіцячы псіхолаг Міхневіч Марына Аляксандраўна**

— Некаторыя людзі дзеляць моладзь на дзве катэгорыі: дрэнныя і добрыя. Гэта не зусім правільна, бо ўсё залежыць ад асяроддзя, у якое патрапіла дзіця. Падлетак убірае ў сябе ўсю інфармацыю, як губка. Патрапіўшы ў дрэнную кампанію, ён, сам таго не заўважаючы, становіцца падобным да акаляючых яго людзей. Калі ж браць моладзь як асобную сацыяльную групу, то я магу сказаць, што яна вельмі мэтанакіраваная, але даволі эгаістычная.

Спадзяюся, што маё апытанне падштурхне вас, моладзь, да пэўных думак. А ад сябе хачу пажадаць: больш вам пазітыву і яркіх эмоцый.

***Алена БІРУКОВА,***
***16 гадоў, Мінск***

# Каханне не шукаюць



Што такое каханне? Каханне — гэта калі ў жываце лётаюць матылі, калі дзеліш усё на дваіх: гора і радасць. Калі клапоцішся пра блізкага, трымаеш яго руку і разумееш, што шчаслівейшых за вас дваіх няма нікога на свеце. Каханне — гэта калі ён знаходзіцца па тым баку экрана, а ты чуеш, як стукае яго сэрца. Галоўнае ў каханні — узаемнасць. Але гаварыць пра каханне не патрэбна, яго можна толькі адчуць.

Многія спрабуюць знайсці каханне. Але навошта? Калі ты яго чакаеш, шукаеш, калі вельмі жадаеш каб яно з'явілася — яно не прыходзіць. Каханне — гэта такое выдатнае і загадкавае пачуццё, якое прыходзіць раптоўна.

Людзі часта хочуць здавацца лепшымі, чым ёсць на самай справе. І пакуль чалавек па-сапраўднаму не пакахае іншага чалавека, ён не можа цалкам адкрыць сваю душу, паказаць які ён без маскі.

Ёсць такія людзі, якія думаюць, што яны нікому не цікавыя. Яны замкнёныя ў сабе, рэдка выходзяць на вуліцу і не могуць знаходзіцца ў коле рэальных сяброў, а, седзячы ў сацыяльнай сетцы, жаляцца, што самотныя. Я лічу, што няма людзей, якія не падабаюцца нікому, хоць камусьці, але вы падабаецеся. А каб прыцягнуць увагу іншага чалавека, каб спадабацца яму, трэба проста ўсміхнуцца. Бо, як спявалася ў песенцы «Ад усмешкі стане ўсім святлей». Навошта хадзіць хмурнай хмаркай, калі можна стаць ясным сонейкам?

Бывае такое, што прыходзіцца вельмі доўга чакаць, каб знайсці СВАЙГО каханага чалавечка. Але не трэба спяшацца і растрачваць сваё каханне і нервы на тых, хто гэтага не варты. Значыць яшчэ не час. Магчыма, праз месяц-два вы будзеце шпацыраваць па якім-небудзь парку, і ў вас выпадкова ўпадзе на дол папка з паперамі, а хто-небудзь падыдзе да вас і дапаможа іх сабраць. А зазірнуўшы ў вочы гэтаму чалавеку, вы зразумееце, што вось ён — той, каго так чакалі.

*Анастасія БЕЛАРУСАВА,*
*16 гадоў, Барысаў*

# Сацыяльная сетка



На працягу ўсяго навучальнага года два гэтыя чалавекі не абмяняліся ніводным словам. Хаця і сядзелі за адной партай.

Агульнага рэальнага жыцця не існавала, затое было віртуальнае. У аднаго з іх другі быў там, у сацыяльнай сетцы, у радку братоў, у другога першы — у лепшых сябрах.

Але аднойчы адзін з тых, хто сядзіць за партай, усміхнуўся: прыйшло паведамленне ад яго сябра. У сетцы яны размаўлялі на розныя тэмы, кідалі адзін аднаму трэкі з цікавай музыкай. Жартавалі. Але тут юнакі былі паглыбленыя ў тэлефоны: яны былі «у сеці», дзе было весела і цікава разам, дзе можна гуляць, жартаваць і весяліцца адно з адным.

На вуліцы — вясна. А яны сядзелі за адной партай. Маўчалі. І з выгляду былі зусім абыякавыя. Адзін устаў, пайшоў. Другі — нават вокам не міргнуў.

У гэтым жыцці яны не сябравалі. У гэтым жыцці яны нават не былі знаёмыя і не жадалі знаёміцца. У гэтым жыцці ім нават не патрэбна была дапамога. Бо ўсё было там, у сетцы.

Аднойчы, выпадкова, хлопцы ўбачыліся на вуліцы. Адзін з іх сядзеў на лавачцы ў парку. Другі праходзіў міма, слухаў музыку, нешта заклапочана (як і першы) глядзеў або шукаў у мабільным. Але тут, зусім не чакана, у хлопца развязаўся матузок чаравіка, і ён быў вымушаны сесці на лавачку, каб яго завязаць. Тым часам першага зацікавіла гучная музыка ў навушніках.

Той, у каго развязаўся матузок, ужо гатовы быў загаварыць з тым, што сядзеў на лавачцы і ветліва яму ўсміхаўся! Ды раптоўна, у адзін і той жа момант, у абодвух зазвінелі тэлефоны і погляды іх разышліся. Першы застаўся на лавачцы, зноўку знікнуўшы ў тэлефоне. Другі ж устаў і пайшоў сваёй дарогай, не менш зацікаўлены сваёй цацкай, а менавіта тым, што яна дазваляла, — выхад у інтэрнэт.

Больш юнакі ніколі не бачылі адзін аднаго, не сустракаліся выпадкова. Сувязі тут, у гэтым рэальным свеце, не было. Затое яна была там, дзе яны былі ўвесь час, дзе яны былі лепшымі сябрамі.

Сувязь была ў іншай, выдуманай рэальнасці.

***Аліса ШЭРЭР, 17 гадоў, Рэчыца***

# Дзікі Крым

***Адпачываюць у Крыме па-рознаму. Мы выбралі дзікі і першародны Крым без усялякіх зручнасцей. На гары Меганом, што пад Судаком, жывуць у намётах, купаюцца голымі. Сувеніры не прадаюцца ды бабулі з піражкамі па пляжы не шпацыруюць. А каб трапіць у бліжэйшую краму па садавіну, паўгадзіны па гарах выкрочвай!***

## Раніца вольнага вандроўніка

Дзіўнае і дарослае першага верасня! Колісь, першага верасня была школьная ўрачыстасць. Потым — пачатак практыкі ў газеце альбо на тэлебачанні. Цяпер жа, выбітнага першага верасня, мы з сяброўкай паехалі аўтастопам у напрамку да мора. А яшчэ ўчора я рэдагавала чарговы тэкст у рэдакцыі...

Увечары ставім намёт у лесе ля трасы і з асалодай прымаем гарызантальны стан. Затым будзе празрыстая і ясная раніца вольнага вандроўніка: у нас няма бетонных сцен! Прачнуліся — зямля, дрэвы, неба! У лесе напачатку верасня жалуды і павуцінне. Ужо не лета, але ж і не восень. Праз яшчэ зялёны беларускі верасень мы едзем на мора!

## Спеласць крымскага памідора



Сланечнікі! Счарнелае поле саспелых сланечнікаў! Украінскі верасень... Паўднёвая Украіна, са жвавым гандлем усяго свайго багацця на ўзбочынах — футра, рыба, мёд, кавуны — падаецца нам куды больш абжытай, чым Рэспубліка Крым.

— Пазнавальна праехацца стопам не толькі па крымскім узбярэжжы! — паведамляе мая сяброўка Іра.

Мы імчым па неабжытых крымскіх стэпах. І пачынаюцца такія загадкавыя паўднёвыя геаграфічныя назвы — Херсон, Джанкой...

Мора ўбачылі ў Кактэбелі — увечары трэцяга дня нашага падарожжа. Наш кіроўца, што развозіў водарныя палачкі з пахам ядлоўца, просіць пагуляць тут з паўгадзінкі, каб потым

працягнуць з ім шлях да патрэбнага нам Меганома. Мы прызвычаіліся давяраць людзям у аўтастопе — з лёгкасцю пакідаем пляцакі ў машыне. Людны Кактэбель, з паўсюдным гандлем, мы адчуваем папсовым і нядужа цікавым. Багемная мясціна славутага Максіміліяна Валошына ператварылася ў штосьці вельмі звычайнае.

Але ж памідоры, набытыя на рынку, нас прыемна ўразілі: яны аказаліся неверагоднымі, зусім не па-беларуску саспелымі! Карацей, мы на поўдні!

## Месца сілы

Адзін мясцовы нам распавёў, што Меганом, гара паміж Феадосіяй і Судаком, — месца сілы, дзе падзараджаюцца і экстрасэнсы, і НЛА. Мы, зрэшты, не да канца паверылі, паўяўлялі НЛА, пасмяяліся, але штосьці было ў гэтых словах. Тое, што месца сілы, — цалкам нават можа быць!

Людзі жывуць у глыбіні гары: пройдзеш паўгадзіны-пяцьдзясят хвілін з пляцаком па гарах? Ды і яшчэ харчы з сабой цягні, бо там зусім-зусім без цывілізацыі! Калі ўсё ж пройдзеш, дык будзеш узнагароджаны. Гэтае месца вельмі адрозніваецца ад стандартнага люднага пляжа з кафэшкамі, музыкай, шумам і гандлем. Гара Меганом — гэта цуд дзікага, сапраўднага, першароднага Крыма, у які здолеў арганічна ўпісацца чалавек. У любы час сутак незнаёмцы тут вітаюцца адно з адным: «Добрай раніцы!» І спаткаць чалавека, што глядзіць на цябе і ўсміхаецца, проста так, без усялякага плана наладзіць сяброўства, — звычайная справа.

Дзікая, медытатыўна-сонечная крымская прырода расслабляе — і мы зліваемся з ёй. Дажджоў тут няма, што стварае асаблівую ўтульнасць: нашая дамоўка не адзіны намёт, палова рэчаў захоўваецца ў засені пад каменем. Радуемся сонцу, бо яно вітамін D выпрацоўвае! І не забудзем, як вожыкі ўначы пужалі, тупалі, а мы не зразумелі, што вожыкі... І не забудзем, як дэльфінаў уважліва ў марской далечыні выглядвалі.

## Паўднёвая лёгкасць прыморскага мястэчка

Праз дзень мы ладзілі падарожжа: выпраўляліся ў Судак па садавіну. Шляхам праз горы, з усімі яго фізічнымі цяжкасцямі, але і з неапісальнай прыгажосцю быцця. Трапляючы ў бухту Капсэль, крочылі праз цывілізаваны пляж, які атмасферай сваёй выразна адрозніваўся ад нашых дзікіх мясцін.

Судак «зачапіў» нас сваёй паўднёвай лёгкасцю, арэхавымі дрэвамі, ветлівымі прадаўцамі на рынку, самабытнымі крымскімі прысмакамі.

Жывучы ўдалечыні ад цывілізацыі, рэкламы і стракатага гандлю, мы шмат гутарылі пра тое, чым усхваляваны інтэлектуалы сучаснасці. Чалавек, баючыся быць нікім, шукае сваё шчасце ў бясконцым спажыванні! Мудрэц жа набывае толькі тое, што сапраўды патрэбна, мудрэц не становіцца інфантыльным наркаманам.

## Беспрытульныя крымскія вятры



А ў сярэдзіне верасня падзьмулі беспрытульныя, марскія вятры. Па начах яны «гуляліся» з нашым намётам — і нам было неспакойна, не паспаць. Мы з'язджалі аўтастопам з Рэспублікі Крым — ліставыя паўднёвыя лясы, бязлюдныя неабжытыя стэпы і бязлітасны вецер. Незразумелы ён — Крым. Прадае ўлетку сваё сонца, мора і вінаград, а па-за сезонам тут туга. Рэспубліка без уласнай дыхтоўнай культуры, без цэльнай нацыянальнасці. Сёння тут пражывае 58,5 % рускіх, 24,3 % украінцаў і 12,1 % крымскіх татар. І зусім крыху беларусаў, армян, яўрэяў, палякаў, малдаван, азербайджанцаў, узбекаў, карэйцаў, грэкаў, немцаў, чувашоў, цыган, балгар, грузін і марыйцаў.

## І ці было?..

Ад Гомеля і да самага Мінска нас давозіць доўгавалосы дзядзька-бізнесмен. Іншамарка лёгка адольвае кіламетры праз падзабытыя намі беларускія лясы, у якіх стала больш зжаўцелага, восеньскага лісця. Такія мяккія сядзенні з замяняльніка скуры і Вячаслаў Бутусаў на вялікай гучнасці:

«...И что над нами — километры воды,
И что над нами бьют хвостами киты...»

А потым з пярэдняга сядзення сяброўка перасаджваецца да мяне на задняе: «Два тыдні былі разам, а цяпер вось трэба будзе развітацца!» Гэта было захапляльна: разам класціся спаць, палапатаўшы перад сном, разам — цэлымі днямі! За гэты час я нібыта вывучыла наноў, уважліва «перачытала» сваю сяброўку Іру.

Але... вось і ўсё! Мінскае метро... Пасля кіеўскага — велізарнага — яно падаецца ўтульным і прыемным. Дзіўна з вялікім пляцаком зноў трапіць у родны цьмяны ліфт. Ці было гэтае мора, мужна адоленыя аўтастопам тысячы кіламетраў і горна-марскі крымскі вецер? Я дазваляю сабе быць разгубленай, мне здаецца, што мае кішэні — пустыя і нават зусім няма пра што напісаць... І што жыццё — невытлумачальны жарт альбо сон.

І толькі... фотаапарат са здымкамі!

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ,***
***фота аўтара***

● **Кніжная паліца**

# Касмічны баявік ад беларускага пісьменніка




***Жывеш... і раптам адучуваеш, што не хапае ў паўсядзённасці чагосьці незвычайнага, фантастычнага, таямнічага! Пачынаеш марыць пра неверагодныя прыгоды, глядзець на зоркі ўначы ды чакаць містычных падзей. А трапіць у іншы свет даволі проста. Варта ўсяго толькі разгарнуць цікавую фантастычную кнігу!***

Прапаную вашай увазе «Сад замкнёных гор» Сержа Мінскевіча — цудоўную кнігу з калекцыі беларускай фантастыкі. У кнігарнях яна з'явілася не так даўно — у 2011 годзе. А ўвайшлі ў яе выбраныя творы аўтара: раман з дзвюх частак — квазі-фэнтэзі «Сад замкнёных гор» і касмічнае фэнтэзі «Забаўкі для малодшых», аповесць «Гіперновы рабінзон» і некалькі невялікіх апавяданняў.

Першая частка рамана пад назвай «Сад замкнёных гор» — гэта своеасаблівы трохмерны баявік ад першай асобы з элементамі аркады (жанр камп'ютарных гульняў з прымітыўным гульнявым працэсам) і квэста (камп'ютарная гульня, што патрабуе ад іграка вырашэння разумовых задач для руху па сюжэце). У творы супрацьпастаўлены асоба і закрытая прастора, прысутнічае абмежаванне ў жаданнях і дзеяннях. Галоўны герой з даволі нязвыклым для нас імем Даляшорзах Ін-Ёрм шукае Шлях, які дапаможа вывесці яго народ з цесных змрочных сутарэнняў на паверхню планеты. Туды, дзе, па легендзе, ёсць умовы для добрага жыцця. Дзе людзі зноў даведаюцца, што такое «неба», «аблокі», «далягляд». Дзе можна будзе адчуць вільготную глебу і пабачыць сонца. Прайшоўшы праз фізічныя і душэўныя выпрабаванні на другім узроўні планеты (планета складаецца з трох узроўняў — долу, сярэдняга і паверхні), Даляшорзах усё-ткі трапляе ў месца, якое шукаў, — у Сад. А Сад — гэта аазіс на дне вялікага кратара, вакол якога горы, а за імі — жалезна-каменная пустэльня. І што ж рабіць далей? «Дзіўнае, няўрымслівае жыццё чалавека. За адным пройдзеным Шляхам заўсёды паўстае наступны», — думаў ён, гледзячы на Млечны шлях, і адчуваў, што шукаць дапамогі трэба на зорах. Аднак не так ужо і проста, як высветлілася, жыць у Садзе, бо Сад можа ўтрымліваць толькі аднаго чалавека. Калі ж туды трапляе другі, паўстаюць пытанні. Хто застанецца жывым, а каго чакае смерць? І як жа людзі змогуць адрадзіць жыццё ў вялізнай каменнай пустэльні?

Другая частка рамана — «Забаўкі для малодшых» — баявік ад трэцяй асобы. У ёй, у адрозненне ад першай, супрацьпастаўлены асоба і бязмежжа,

присутнічае неабмежаванасць у жаданнях і дзеяннях. Прайшло прыкладна два дзесяцігоддзі з моманту, як Даляшорзах трапіў у «замкнёны сад», і яго сын Фрайценбрагт на сваім касмічным караблі спазнае прастору Сусвету. Нечакана на яго касмічны човен нападае сігом — чалавек зроблены з сінтэзаваных штучных матэрыялаў, яго яшчэ называюць кібаргам. Ён можа вольна лунаць у космасе і развіваць хуткасць большую за касмічны карабель. Даведаўшыся, што сустрэў свайго біялагічнага продка — чалавека, сігом вырашае падараваць Фрайціна (скарочанае імя галоўнага героя) Самай Прыгожай і Магутнай кібаргшы ў Сусвеце, каб папоўніць яе «звярынец» з людзей. З дапамогай Сінтэзатара Ідэй у маладога касманаўта атрымліваецца вызваліцца ад сігомаў, аднак яго касмічны човен разбіты і патрабуе неадкладнай пасадкі. Так Фрайценбрагт трапляе на пятую планету, дзе ў дзікароў-абарыгенаў ідзе бесперапынная жорсткая барацьба за ўладу. Спачатку яго ўспрымаюць як Бога, але, развянчаўшы сваю неўсемагутнасць, ён вымушаны змагацца не толькі за сваё жыццё, але і жыццё новага сябра з той планеты. Тым часам узнаўляецца шматгадовая вайна ў космасе паміж сігомамі і яго іншымі ўладарамі з нагоды парушэння правіл, якія дыктуюцца Кантролем Жаданняў. Галоўны герой павінен зрабіць не адзін цяжкі выбар і сцярпець розныя пакуты, каб дамагчыся справядлівасці і дапамагчы не толькі сабе, але і многім іншым.



*Серж Мінскевіч.*
*Фота Рагнеда Малахоўскага.*

Твор пабудаваны на змяшэнні жанраў з выкарыстаннем інтэртэкстуальнасці — уласцівасці тэксту ўтрымліваць у сабе спасылкі на іншыя тэксты, напрыклад, з выкарыстаннем цытат, алюзійнасці — стылістычных фігурах, якія змяшчаюць ідавочнае ўказанне або выразны намёк на нейкі літаратурны, гістарычны, міфалагічны ці палітычны факт; парадыйнасці — камічнага эфекту па матывах ужо вядомага твора. Мае характэрныя для фэнтэзі рысы: выдуманы свет са старжытнымі звычыямі і герояў, якія сутыкаюцца са звышнатуральнымі з'явамі і істотамі. Цікавая сюжэтная лінія не дазваляе засумаваць падчас чытання, а філасофская пазіцыя аўтара, на якой грунтуецца твор, прымушае чытача задумацца над, здавалася б нам, простымі жыццёвымі пытаннямі.

Ну, а аповесць «Гіперновы рабінзон» па-новаму раскрывае вядомую з часоў Даніэля Дэфо тэму выжывання ў бязлюдным месцы. У ёй аўтар заклікае людзей пазбавіцца сваёй душэўнай нянавісці і злосці — і такім чынам ачысціць душу. А што да невялікіх апавяданняў напрыканцы кнігі, дык яны схіляюцца да навел навуковай фантастыкі з даволі нечаканымі развязкамі.

Карацей, усім аматарам фантастыкі абавязкова прачытаць гэтую кнігу!

***Ганна ШЫБУТ***

# Жыццё пад стандарт



*Фота Рагнеда Малахоўскага.*

Ці заўважалі вы, што часам мы паводзім сябе неасэнсавана? Нешта робім, вырашаем, думаем або гаворым пад уплывам агульнага, але не свайго меркавання. Чужыя думкі настолькі ўплываюць на нас, што часам ужо не ўспрымаем нешта новае і непадобнае, а проста пачынаем крытыкаваць яго і выкрэсліваць са свайго жыцця. Напрыклад, возьмем любога прадстаўніка субкультуры (гот, эма, панк). Я амаль упэўнена, што першая рэакцыя, якая ўзнікла ў многіх з нас, — неразуменне, неадабрэнне. І вельмі добра, калі толькі ў думках, а не на словах. Бо некаторыя з нас сваю незадаволенасць пэўнай субкультурай ярка дэманструюць у размовах. І нават ствараюць альбо ўступаюць у такую суполку сацыяльнай сеткі, дзе любы жадаючы можа аблаяць «злодзея». Людзям даспадобы ганьбіць не толькі прадстаўнікоў субкультур, але ж і іншых неардынарных асоб, якія не дагадзілі камусьці. А навошта? І ці ёсць у гэтым нейкі сэнс? Адкуль мы ведаем, што, напрыклад, панк — няправільны?

Часта намі кіруюць стэрэатыпы! На чалавека, які заўсёды робіць хатняе заданне, апранае (у школу!) школьную форму, вешаюцца скептычныя ярлыкі — «батанік», «зубрылка». Чалавек, які слухае музыку вядомага поп-выканаўцы (але якая не падабаецца большасці), павінен хаваць свае музычныя густы або вучыцца не зважаць на кпіны.

Але чаму гэтыя стэрэатыпы так уплываюць на нас? Чаму мы паддаемся і не задумваемся над імі? Можа, таму, што яны, стэрэатыпы, родам з нашага дзяцінства? У дзяцінстве бацькі запіхвалі іх у нас, пагражаючы чыімсьці неадабрэннем — настаўнікаў, суседзяў, сваякоў. І вось цяпер мы — ужо не дзеці, а падлеткі! — жывём з гэтымі бліскуча засвоенымі стэрэатыпамі.

У школе, дома, на вуліцы — усюды існуе свой стандарт. У адным месцы мы паводзім сябе такім чынам, а ў іншым апранаем адрозную маску — у залежнасці ад таго, куды ідзём. А калі раптам забылі яе апрануць і паказалі свой сапраўдны твар, то... ужо вылучыліся з натоўпу! І ён перастаў нас разумець і пазнаваць.

Хутка мы зусім згубім сябе (калі ўжо не цяпер!). І паступова ператворымся ў шэрую масу. А варта толькі быць шчырым з людзьмі. І галоўнае — з самім сабой.

***Алена БІРУКОВА, 16 гадоў, Мінск***

***Усе мы любім музыку! І вось аднойчы разумееш, што гэты від мастацтва становіцца нечым большым, чым простае «слухаць любімы спеў у вольную часіну».***

***Як высвятляецца, сярод аўтараў і чытачоў «Бярозкі» не так ужо і мала тых, для каго музыка — гэта сапраўды штосьці значнае!***

***Калі гэта і цябе тычыцца ды маеш натхненне выказацца на нашых старонках, лістуй, дзяліся сваёй гісторыяй!***

# Музыка кахання

Для некаторых музыка — гэта заспакаенне, для іншых — лекаванне. Неверагодна, але музыка можа ствараць цуды. Як, напрыклад, гэта здарылася з дзяўчынай, якая навучыла мяне граць на гітары.

Жэня. Яна скончыла музычнае вучылішча імя Гнесіных, затым пераехала з Расіі ў Беларусь. Паступіла ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры. Сваім талентам яна вырашыла падзяліцца з іншымі: стала даваць урокі ігры на гітары ў Палацы культуры Мінскага трактарнага завода. Гэтая маленькая, далікатная светлавалосая дзяўчына з блакітнымі вачыма дапамагла мне паверыць ў сябе. За год Жэня навучыла мяне таму, чаму вучыла іншых тры гады. У мяне заўсёды былі непаслухмяныя пальцы, я з цяжкасцю трымала ў руках ручку: яны разгіналіся і часта пацелі. Але, дзякуючы Яўгеніі, мне ўдалося справіцца з гэтай праблемай.

Жэня неяк сказала: «Ведаеш, калі табе будзе вельмі дрэнна, цяжка, дык вазьмі ў рукі гітару і... бі, бі, бі па струнах!!! Да таго часу, пакуль не адчуеш боль, і спявай, спявай, спявай не спыняючыся, усё, што хочаш. І тады, вось убачыш, твой боль, які ў сэрцы, сціхне...» Тады я не зразумела сэнс сказанага, але цяпер, узгадваючы гэтыя словы, ведаю, што яна мела на ўвазе.




На жаль, нам з Жэняй наканавана было расстацца: яна з'ехала ў Маскву. І толькі потым я даведалася гісторыю, якая адбылася з ёй.

З дзяцінства Яўгенія (як высветлілася, яе сапраўднае імя Таццяна) была прыкавана да ложка. Хвароба не адпускала яе. Лекары і родныя ўжо страцілі надзею на тое, што яна калі-небудзь зможа хадзіць.



У той час на эстрадзе з'явіўся спявак Яўген Белавусаў — малады хлопец з дзіўным голасам. І менавіта гэты голас змог абудзіць Жэню. Пачуўшы яго песню, дзяўчына заплакала, раптам адкінула коўдру, спусціла абедзве нагі на падлогу і ўстала. Так! Яна змагла пайсці! І гэта было чараўніцтвам!

Дзяўчына пазнаёмілася з Яўгенам, змяніла праз любоў і павагу да яго сваё імя — Таццяна — на іншае. Так яна стала Яўгеніяй Рэзнік. Але Яўген загінуў, пакінуўшы ў сэрцы дзяўчыны глыбокую рану.

Быў перыяд, калі ў маім жыцці ўсё было вельмі складана і заблытана. Жыццё страціла сэнс. Не хацелася нічога...

Я ўспомніла словы Яўгеніі. Узяла ў рукі гітару і стала іграць.

Я пішу песні пра тое, што адчуваю. Музыка ратуе мяне. Яна дае мне сілу, веру, надзею... Яна лекуе раны, супакойвае стомленае чаканнем сэрца. І хочацца сказаць дзякуй!

«Пакуль ёсць вера ў сябе і ў поспех, надзея на лепшае, верныя і добрыя сябры, мара, любоў у тваім сэрцы... Можна плыць па рацэ і не тануць, ісці праз вогнішча і не гарэць», — сказала калісьці Таццяна Снегіна.

*Кацярына БЯДУЛІНА,*
*фота аўтара*

# Дівоснае — побач




*Даследаванне вады з ракі Друць.*

У многіх гарадах ёсць свая рака. Рака майго роднага Талачына — маляўнічая Друць, якая нават калісьці была суднаходнай. Вядома, з тых часоў памеры Друці змяніліся, але і цяпер гэта выдатны, незвычайны куток прыроды. Мяркую, што мала хто, праходзячы паўз яе, задумваецца, дзе бярэ яна свой пачатак і ці разнастайная тут фаўна. Вучні 11 «А» класа сярэдняй талачынскай школы № 2 разам з кіраўніком праекта Аленай Рыбінай (у рамках акцыі «Робім дабро на ўсёй зямлі») вырашылі правесці даследаванне Друці: праверыць, ці чыстая вада ў ёй. А можа, ёсць небяспека для насельнікаў ракі ў далейшым?

Назіранні пачалі з вытокаў рачулкі — каля вёскі Новае Сяло. Змаглі ўбачыць белых лебедзяў, буслоў, шэрую чаплю, занесеную ў Чырвоную Кнігу Рэспублікі Беларусь. Затым працягнулі назіранні ўжо на тэрыторыі Талачына. У некаторых месцах добра праглядвалася дно, так што Друць — чыстая! У рыбакоў даведаліся, што ў рэчцы жывуць: шчупак, лінь, падлешчык, акунь, карась, плотка, чырвонапёрка, ялец. Кажуць, што можа пашчасціць убачыць нават балотную чарапаху!

Каля Друцка рака стала прыкметна звужацца. І новых відаў жывёл тут заўважана не было. У кожным з месцаў назірання браліся пробы вады, каб у далейшым вызначыць, наколькі яна чыстая. Вада аказалася празрыстай і незабруджанай! Шкодны метал у ёй знайшлі ўсяго толькі напачатку ракі.

Удзельнікі праекта спадзяюцца, што сваёй справай хоць крыху прыцягнулі ўвагу грамадства, каб людзі памяталі пра родную прыроду і былі ўважлівыя да яе. Бо хочацца ж захаваць гэты скарб — раку Друць — для будучых пакаленняў!

***Святлана СМЫК, 16 гадоў, Талачын,***
***фота аўтара***



*Кацярына Ваданосава.*

# Музыка з глыбіні душы

Дзеля чаго мы слухаем музыку? Вядома, у кожнага будзе свой адказ на гэтае пытанне. Хтосьці жадае патанчыць пад драйвовыя рытмы, хтосьці хоча расслабіцца з дапамогай спакойнай мелодыі пасля напружанага дня, а хтосьці проста ўключае песні на сваім мабільным ці плэеры, каб паказаць астатнім, што ён «у тэме» і мае нейкія музычныя густы. Аднак на гэтым роля музыкі ў жыцці чалавека не заканчваецца. Спевы могуць выхоўваць, развіваць досвед, вучыць і выклікаць зацікаўленасць мінулым, гісторыяй. Кажуць, што народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні. Музыка, якая захоўваецца стагоддзямі, яднае людзей і, нягледзячы на хуткія тэмпы тэхнічнага прагрэсу і развіцця цывілізацыі, захоўвае глыбока ў душах людзей містычную сувязь з продкамі, іх густамі, звычаямі, традыцыямі. Магчыма таму цяпер і расце папулярнасць такіх гуртоў, як «Стары Ольса», «Троіца», «Ліцвіны», Alta Mente і іншых, якія граюць народную беларускую музыку розных эпох, а таксама еўрапейскія папулярныя мелодыі эпохі Сярэднявечча і Рэнесанса.

Вельмі доўга Сярэднявечча вывучалася як «Цёмныя часы». Гэтаму ў вялікай ступені спрыялі пратэстанцкія гісторыкі. Але сёння матэрыял сур'ёзна пераглядаецца, і нярэдка ў гэтай галіне дасягаюцца новыя цікавыя вынікі. Напрыклад, вакалістка гурта Alta Mente Кацярына Ваданосава, якая вучылася на кафедры гісторыі і рэлігіязнаўства гістарычнага факультэта БДПУ імя Максіма Танка, лічыць: «На мой погляд, Сярэднявечча было самым "чалавечым" часам, у якім чалавек жыў нібыта з аголенай душой. Гэта часта бачна ў музыцы: народнай, жанглёрскай, трубадурскай, царкоўнай. Гэта музыка вельмі цікавая, яна не падобна да сучаснай і адначасова нібыта ўнесена ў падкорак нашага мозга. Я жыву гэтай эпохай, вельмі супрярэчлівай: бруднай і ўзнёслай, цёмнай і светлай, вычварнай і рамантычнай адначасова».

Часам нашыя захапленні нараджаюць у душы жаданне падзяліцца сваёй радасцю з іншымі і падарыць ім частку сваёй зацікаўленасці. Так адбылося і з Кацярынай. У 2007 годзе, падчас навучання на 4-м курсе, яна загарэлася жаданнем стварыць гурт, знайшла сярод сваіх знаёмых гітарыста і віяланчэліста, прывяла да сябе на кватэру, «пасадзіла за парты» і яны пачалі развучваць песню «Дзікае паляванне». На сёння, гурт складаецца з шасці музыкантаў. Гэта Сяргей Бурак — гітара-сола, Андрэй Тамкевіч — віяланчэль, Вольга Куваева — дарбука, Хрысціна Скрыган — цымбалы, Уладзімір Волкаў — баян

і, канешне ж, Кацярына Ваданосава — вакал, а таксама гітара, флейта, акарына і варган. Аднак, на жаль, склад гурта не пастаянны. Людзі, якія прыходзяць у гурт, не могуць затрымацца назаўжды. Хтосьці з'язджае ў іншы горад, камусьці трэба зарабляць на жыццё і з гэтай нагоды няма часу на музыку, нехта разумее, што не можа знайсці сябе ў гэтым стылёвым накірунку. Аўтар большасці тэкстаў і музыкі — Кацярына. Вершы на беларускай мове — яе, акрамя «Ногі» Уладзіміра Караткевіча і перакладу з рускай мовы верша «Падымі мяне ў неба» Ірыны Лой. Яшчэ гурт выконвае балканскія песні — баснійскія, сербскія, македонскія і албанскія. Напрыклад, себрская народная «Ой ружице румена», баснійская народная «U Stambolu na Bosforu».

Гурт Alta Mente не прытрымліваецца нейкага канкрэтна акрэсленага стыля ў сваёй музыцы. Хтосьці скажа, што гэта фольк-рок, нехта назаве музыку арт-рокам. «У маёй музыцы не так ужо і многа сярэднявечнага, па праўдзе. Значна больш народнага. І рокавага. А вершы — гэта гераічны пасыл, уласцівы нават не самому Сярэднявеччу, а яго вобразу, створанаму рамантыкамі XIX стагоддзя,» — кажа Кацярына. — «Што тычыцца назвы, Alta Mente — гэта лацінскі выраз, які ў перакладзе азначае «ў глыбіні душы». Усю сваю музыку ўдзельнікі гурта стараюцца выносіць з глыбінь сваіх сэрцаў, адтуль, дзе мы заўсёды застаемся праўдзівымі і вернымі сабе».

Так як гурт яшчэ даволі малады (усяго 5 гадоў выступае на публіцы), сродкаў на запіс дыска музыканты пакуль што не маюць, але пачалі працаваць над студыйнымі запісамі песень у добрай якасці. Пачуць іх можна ў сацыяльнай сетцы «Укантакце» або ў жывым выкананні на канцэртах. Свае выступленні музыкі ладзяць на кватэрніках, у музеях, у кавярнях і клубах. Таксама спяваюць на вулічных канцэртах, ездзяць у некаторыя гарады і вёскі Беларусі, у Польшчу і Расію. Людзі, якія аднойчы пабачылі і пачулі Alta Mente, уражаныя душэўнасцю выканання і прыгажосцю Кацярыны, абавязкова захочуць яшчэ раз «акунуцца» ў гэтую музыку, якая «чапляе» то экспрэсіяй, то ўзнёслай стрыманасцю, альбо раматызмам і адначасова філасофскай глыбінёй.

Тэкст песні «Дзікае паляванне» (аўтар Кацярына Ваданосава):

Чую аднекуль, нібы здалёк
Доўгі самотны покліч!
Гэта трубіць старажытны рог,
Гараць знічкі згаслых вогнішч.

Восеньскі вецер зашуміць,
Зноў ажыве паданне,
І над балотамі праляціць
Дзікае паляванне!

Не пакідаючы слядоў,
Чорныя коні скачуць,
Коні без цугляў і без падкоў,
Ценяў іх не ўбачыць,

А вершнікаў твары схаваны ўначы,
Яны — маўклівыя здані,
Ззяюць смяротным святлом мячы
Дзікага палявання.

Наперадзе постаць мінулых дзён —
Кароль у залатой кароне,
Не зможа ніколі спыніцца ён
У адвечнай сваёй пагоні.

Месяц між хмар і лапы ялін,
Багна пад капытамі,
Сівая легенда глухіх мясцін —
Дзікае паляванне.

Белай намёткай туман ляжыць
Над рэкамі і палямі,
Змрочнай маўклівай чаргой ляціць
Дзікае паляванне.

Вялікага Княства ваяры
За далягляд імкнуцца,
Каб захавалася на зямлі
Легенда аб Беларусі.

*Ганна ШЫБУТ*

***Льготная падпіска для ўстаноў***
***Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі***
***Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731;***
***падпісная цана на 1 месяц — 27720 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 13800 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 35080 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592.***
***Цана на 1 месяц — 9700 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 06.11.2012. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,62. Тыраж 2401 экз. Заказ 3340. Кошт нумара ў розніцу 12700 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**